# Пятрусь Броўка

**ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ**





МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# Пятрусь Броўка

ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ

2

ВЕРШЫ
ПАЭМЫ

1941—1953



Рэдактар тома
М. І. МІШЧАНЧУК

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
Т. С. ГОЛУБ, С. В. ЗАБРОДСКАЙ,
Л. У. ХРЫШЧАНОВІЧ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## ДРЫЖЫЦЕ, ПАДЛЮГІ-ФАШЫСТЫ!

Ірвуцца снарады на полі
Над п'янай фашысцкай ардою,
І танкі ў імклівым разгоне
Ад ворага чысцяць шлях.
Узнятая мужнаю воляй,
Палітая нашай крывёю,
Не будзеш ніколі ў палоне,
Любімая наша зямля!
Мы вынесем боль маўкліва,
А банды загінуць прымусім,
Наш сонечны край прамяністы
Не знішчыць раз'юшаным псам!
Для нас наліваюцца нівы
І спеюць сады Беларусі,—
Дрыжыце, падлюгі-фашысты,
Мы вас пахаваем там!
Хоць трэсніце, гады, са злосці,
Вы смерці сваёй прычакалі:
Узняўся магутнаю сілай
Савецкі тытан-чалавек!
Ён скрышыць вам чорныя косці,
Пажарамі косці папаліць,
Гарматамі выб'е магілы,
Зямлёю засыпле навек.

## ПАРТЫЗАН БУМАЖКОЎ

Свой атрад паміж лясоў
Вёў таварыш Бумажкоў.
Гнеў народны запалаў,
Партызаніць іх паслаў.
Сотня храбрых, як адзін,
Кожны з іх адданы сын.
Партызанам баявым
Смерць не страшная зусім,
Бо яны ад чужаніц
Выйшлі край свой бараніць.
Вось ідуць яны ў глушы,
Помста пеніцца ў душы,
Раптам чуюць, дзесь гудуць —
Танкі ворага ідуць.
Акружыўшы ў лесе шлях,
Лёг атрад па двух баках.
Гул мацней, бліжэй ідзе,
Вось і банда ўжо брыдзе,
Танкі скрыгаюць, равуць,
Быццам гадзіны, паўзуць.
Даў наказ, без лішніх слоў,
Партызанам Бумажкоў:
— Так змагацца, так знішчаць,
Каб магілу тут ім даць.—
І паслаў тады атрад
На падлюг гасцінцаў шмат.
— Ты чаго па хлеб наш прэш,
На, падлюга, кулю з'еш!
— Ты забраць наш хочаш сад,
Паспытай жа, гад, гранат!
— Кроў піць хочаш, воўчы сын,
На бутэльку, пі бензін! —
Біў атрад сабак удала,
Білі кулі і штыкі,
Васемнаццаць танкаў пала,
Засталіся касцякі.
Неслі ворагі нам здзек,
Леглі ворагі навек.
І далей паміж лясоў
Вёў атрад свой Бумажкоў.

## МАЦІ

Ты ходзіш, маці, сцежкамі вайны,
І з вуснаў рвуцца ворагам праклёны.
З братамі прыйдзем мы, твае сыны,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Рабуе гвалтаўнік апошняе з двара,
Цябе давесці хоча ён да скону,
Ды грознай помсты блізіцца пара,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Крывёй звяроў напоўнім берагі,
Касцямі катаў высцелем загоны;
Ударым мы — парвуцца ланцугі,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Не раз мы зносілі насланую бяду,
Не раз знішчалі мы драпежнікаў шалёных;
Змяце зямля і гэтую брыду,—
І выйдзе Беларусь з палону!

## ПІСЬМО ЗЕМЛЯКАМ

Я ведаю,— высахнуць слёзы,
Прагоніць чужынцаў народ:
У гневе бары над Бярозай,
І помстаю грукае лёд.

Вы з помстаю выйшлі,— вас многа,
З-пад пушчаў, з-пад хмурых лясоў.
Мы знаем: для нас — перамога,
А гібель — для вырадкаў-псоў.

Дык біце з гаёў і палянаў,
Расплаты наблізіўся час.
Мы з вамі, браты-партызаны!
Страчайце, ідзём мы да вас!

Мы з вамі па зброі адзіны
І разам выходзім на бой,
У родную нашу хаціну
Збяромся адною сям'ёй.

Бандытаў загінуць прымусім,
Прыйшла ім няслаўная смерць.
І будуць сады Беларусі
Ізноўку на волі квітнець.

## ПАСТУХ

На ўсю акружку дзед Панас
З даўнога быў вядом,
І ганарыўся ім калгас
Як лепшым пастухом.

З вясны да восені глухой
Ён знаў адзіны шлях —
Вадзіў вялізны статак свой
Па пушчах і лугах.

Хадзіў гаямі, між сасён,
Пад шум духмяных траў,
На берасцянцы часта ён
Хвалу жыццю спяваў.

Ды вось праклятых ліхадзей
Напаў на родны дом,—
Прарэзаў ясны летні дзень
Вайны знішчальны гром.

На вёску родную крумкач
Накінуўся з хмурын...
І першы крык, і першы плач
Пранёсся ад хацін.

Навокал чырванела кроў,
Запалымнеў калгас.
Сваіх падпаскаў, двух хлапцоў,
Пазваў тады Панас.

— Дабро даверыў нам народ,
А злыдзень мкне забраць.
Ганіце статак вы на ўсход,
Каб ворагу не даць!

Бывайце ж вы, мае сябры! —
І вось ад тых часін,
Як развіталіся яны,
Застаўся дзед адзін.

З тае пары сярод бароў,
Паміж ялін густых
Хаваў ён некалькі кароў
Калгаснікаў сваіх.

І сосны чулі ад яго,
Як скардзіўся не раз:
— Ой, да чаго, ой, да чаго
Дажыў стары Панас!

На сэрцы гора і журба,
Перад вачамі жах.
А берасцяная труба
Галосіць па лясах.

І нездарма журыўся дзед:
Быў час яго цяжкі —
Прыйшлі, натрапіўшы на след,
І ў лес рабаўнікі.

Як сталі статак забіраць,
Ускрыкнуў ён: «Звяры!»
Пачалі гады катаваць,
Пакуль не змоўк стары.

Калі ж у мораку начным
Ачнуўся позна ён,
Труба валялася пры ім —
Прыяцелька здавён.

Яе рукамі ён схапіў
І ў гушчу чорных хмар
Зазыўна, мужна затрубіў
На ўвесь лясны абшар:

— Не будзеш ты, зямля мая,
Пад ботам сатаны!
Сюды, адважная сям'я,
Сюды, мае сыны!

Я павяду вас,— мне не страх
Фашыста ў твар сустрэць,—
Па ўсіх пуцінах і шляхах
Мы панясём ім смерць!

## ПОМСТА

За родны сэрцу край, за ўсе пакуты нашы,
За здзек, за кроў, за смерць —
Разлічымся цяпер.
Кавалі помсту мы, глыбока боль схаваўшы,
Расплата надышла,— падбіты дзікі звер.

Бягуць рабаўнікі, фашысцкія салдаты.
Сляды гвалтаўнікоў — пажараў чорны дым,
Плач матак і сірот над спаленаю хатай,
Драпежнікаў разгул. Давайце помсціць ім!

Бягуць яны назад ардою палахлівай,
Пагібель абмінуць спрабуюць усяляк.
Разбітыя шляхі, здратаваныя нівы
Завуць да помсты нас. Давайце біць сабак!

Зямлі для іх магіл даволі ў нас, не шкода,
Спарадкуем усіх і можам прытаптаць.
Счарнелыя сады, атручаныя воды
Завуць да помсты нас.
Давайце псоў страляць!

Сягоння кліч адзін: «Радзіма, я клянуся
Адпомсціць за народ, за боль пякучых ран!»
Азёры горкіх слёз, пакуты Беларусі
Завуць да помсты нас.
Ты чуеш, партызан?

## ДАХАТЫ

На Беларусі, між бароў,
У змрочнай хаце дзень і ноч
Чакае маці трох сыноў,
І смутак не сыходзіць з воч.

Чакае маці. Безліч дум
Ёй не даюць спакою, сна:
Ці грукне лёд, ці лесу шум —
Бяжыць старая да акна...

Быў чэрвень. Першы дзень вайны.
Над вёскай бомбы загулі,
І з роднай хаты тры сыны,
Тры камсамольцы ў бой пайшлі.

Пайшлі на бой за родны край:
Старэйшы сеў на грозны танк,
А двух малодшых цёмны гай
Прыняў як храбрых партызан.

Вайна заўсёды боль нясе,
Цяжкі ў братоў, суровы пуць...
Чакай жа, маці, хоць не ўсе,
Але хлапцы твае прыйдуць.

Ты чуеш, родная, парой
Марозны небасхіл гудзе,—
То сын адважны і герой
Машыну грозную вядзе.

Ні загароджы, ні равы
Не могуць сіл яго стрымаць,
Ён біў фашыстаў ля Масквы,—
Цябе спяшаецца абняць.

Ты чуеш, маці, як гудуць
Бары ў зімовы позні час?

Уважлівай, спакойнай будзь,
Паслухай сэрцам іхні сказ.

І каб магла ты зразумець
Гамонку сосен і ялін,—
Пачула б ты, што мужна смерць
За Беларусь прыняў твой сын,

Што пахаваў яго атрад
Як друга лепшага свайго,
Што помсціць кляўся родны брат
І ўсе таварышы яго.

І спраўдзяць. Будзе ведаць свет
Аб справе слаўных змагароў,
Што разлічыліся як след
За боль тваю і сына кроў.

Не плач жа, маці, ты ўначы,
Хай маткі катаў слёзы льюць,
Браты, насустрач ідучы,
Ўжо хутка рукі пададуць.

Навек прагнаўшы чужаніц,
Дахаты прыйдуць, дзе ўзраслі,
І вы пад звон азёр, крыніц
Па вольнай пойдзеце зямлі.

## ПА ДАРОЗЕ МІНСК — МАСКВА

Не спіцца старому ўначы,
Балюча на сэрцы і горна,
Сцямнела даўно на двары,
Ды сон не схіліў галавы.
Ён выйшаў... Гамоняць бары,
І неба марознае зорна
Над шляхам, што простай струной
Ад Мінска ляжыць да Масквы.

Прынеслі ўспаміны яму
Маўклівыя, снежныя далі:
Калісьці па гэтых мясцінах,
Прарэзаўшы пушчы, лясы,
Машыны ішлі чарадой,
Над голлямі песні ўзляталі
І ніклі далёка між хвой,
Дзе душна цвілі верасы.

Цяпер анямела усё,
Ніхто не спяе, не зайграе,
Здаецца, што дрэвы на шлях
Прыпалі ад чорных нягод,
Дзе часам з нязвыклай брахнёй
Прамчыцца чужацкая зграя
Ды танкі ўначы прагудуць,
Ашчэрыўшы зубы на ўсход.

Яны агалілі нашчэнт
І ў морак ахуталі сёлы,
Над краем прыйшлі панаваць
Расстрэлы, пакуты, турма...
Не зміры́цца з гэтым ніяк
Стары палясоўшчык Мікола,
Ён крыўду збірае ў душы,—
Больш месца для крыўды няма!

Няздарма вастрыў ён пілу,
Зубцы правяраючы строга:

Хай помста выходзіць з грудзей,
Што доўга таемна жыла,—
Са стогнам красуня сасна
Упоперак легла дарогі,
І з дубам вячыстым ў цішы
Ізноўку гамоніць піла...

А дзесьці ля роднай Масквы,
Набраўшы гасцінцаў нямала,
Машына ўзнялася ўгару,
Пачаўшы імклівы палёт.
Плыве самалёт над зямлёй,
Прыбітай драпежнай навалай,
І з тысячай мараў і дум
На дол пазлядае пілот.

Кірункам на Захад ідзе,
Пад крыллем заранкі Усходу,
А вобразы любых мясцін
Да болю глыбока жывуць.
Скрозь моладасць, сэрца яго
Пралегла яна назаўсёды...
Ён вырас ля гэтай дарогі,
Што з Мінска ідзе на Маскву.

Над зыбкай калыскаю там
Спявалі смалістыя сосны,
Гамонка, якую пазнаў
Ад звонкіх лясных ручаёў:
Там бацькава хата ў гаі,
Дзяцінства прыгожыя вёсны,
Дзяўчына, з якою хадзіў
Паміж цёмнашумных дуброў.

Ён мужна машыну вядзе,
З якой парадніўся на славу,
Хвіліна — і ўбачыць ён кут,
Скуль выйшаў яшчэ юнаком...

. . . . . . . . . . . .

Світае. Знямела піла,
Змоўк голас у лесе танклявы,
Наладзіў завалу стары
І выцер чало рукавом.

І чутна выразна яму,
Што недзе за хвоямі блізка
Ліхая навала брыдзе
З далёкай, чужой стараны:
Трывожачы ціш гушчароў,
Са скрогатам злосным і піскам
Варожыя танкі паўзуць
З няўтольнаю прагай вайны.

Адбегся, схаваўся ў кустах
І сочыць за ходам паганых:
Вось першы урэзаўся, змоўк...
Другі... а затым — бранявік...
Адзіная з'ява тады
Здзівіла яго нечакана —
То выбухаў жудасны гром
Змяшаў там і бразгат і крык.

Шукае прычыну стары,
Адкуль дапамогу ён стрэціў.
Ён глянуў — плыве самалёт,
Аж неба зайграла ярчэй,
Бо ён над сабой угары
Чырвоную зорку прыкмеціў —
Празрыстая пала сляза
На снег з задуменных вачэй.

Ён доўга ўглядаецца ўслед,
Слязу выцірае на твары
І шле прывітанне туды,
Дзе неба канчаецца край:
— Ты — сын мой любімы, сынок,
Ці сябра яго, ці таварыш,—
Хутчэй жа ізноўку сюды
Праведаць мяне прылятай!

# НЯЗЛОЎНЫ

Акупантам апантаным
Сумна,— апусцілі нос.
Слава храбрых партызанаў
Разлягае гулка, скрозь
Па гаях, па цёмным лесе,
Па чаротах і трысці
Бродзяць карнікі, эсэсы,
А атрада не знайсці!
— Памарозіць іх зімою,—
Разважалі.
Ды дарма:
I зіма ўжо, а спакою
Ні хвіліначчкі няма.
Толькі вёску абрабуюць,
Сядуць жэрці, скажуць: «Гут»,—
У часіну найлюбую
Стралянiна тут як тут!
Не паспеюць афіцэры
Пахавацца у куткі,—
Ад галоў іх і талерак
Застаюцца чарапкі.
Выб'юць навалач благую,
Едзе правіць новы кат:
— Не, паверыць не магу я,
Каб нязлоўным быў атрад.—
Абяцае многа марак
I з пляча свайго мундзір.
...Усміхаецца ў гушчары
Партызанскі камандзір.
Чуе добра, што вясною
Будзе болей іх крышыць,
Бо ніякаю цаною
Не купіць людской душы.
Хай жа злеюць і шукаюць —
Дарма скручана пятля:
Партызанам пасабляе
Сэрцу родная зямля.

## БУДЗЕМ СЕЯЦЬ, БЕЛАРУСЫ!

Хутка вызваляцца гоні
З-пад уціску, з-пад прымусу,
Будзем сеяць, беларусы,
На ўсход сонца чыстым зернем...
Смерць на захад мы павернем!

Мы вясну сваю спаткаем,—
Дождж праменны зацярусіць...
Будзем сеяць, беларусы!
Прыйдзе рунь да нас з расою,
А на захад — смерць з касою.

Зацвітуць ля новай хаты
Зноўку яблыні і грушы.
Будзем сеяць, беларусы!
Закуваюць нам зязюлі,
Пахаваюць катаў кулі.

Стане поле каласіцца,
Ляжа шоўкавым абрусам,
Будзем сеяць, беларусы!
Закрасуе буйна збожжа.
Нас ніхто скарыць не зможа!

## ТРЫ БРАТЫ

Над полем мятлюгаю вецер загойкаў,
Тры родных браты узняліся на бойку.

Суровая сцежка да роднае хаты,
Ды моцна трымаюць браты аўтаматы.

Трывожнаю цішшу, марознаю ноччу
Дапытліва ўдаль прыглядаюцца вочы.

Калі пакідалі краіну з баямі,—
Пажоўклае лісце плыло над шляхамі.

Сюды па завеях з іх кожны імкнуўся,
І зноўку пад імі зямля Беларусі.

А поблізу недзе, за зграяй чужынцаў,
Знаёмыя вёскі, дарогі, гасцінцы...

Імкнецца іх трое наперад заўзята:
— Праб'ёмся дадому!
— Праб'ёмся дахаты!

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Нам цяжкая пара,
Час трывожны, нягожы,—
Гора, болю ў грудзях,
Помсты гнеўнае шмат.
Ходзіць сэрца тваё
Па-над Нёманам, Сожам,
Плачуць вочы
Над попелам спаленых хат.
Бачыш — маці брыдзе
З абяздоленым сынам,
Загарнуўшы дзіця
Ў абгарэлы прыпол;
Ля разбітых дарог,
Спахмурнеўшы, рабіны
Сыплюць слёзы крыві
На здратаваны дол.
Колькі ты ні ідзеш —
Сустракаеш пажары,
Віснуць здані кругом
Нежывых камінoў,
І з-пад шыбеніц скрозь
Пасінелыя твары
Нерухома глядзяць
На віхуры агнёў.
Толькі чутна —
Гудзе усхвалёваны голас
Па дарогах журботных,
Па самотных шляхах.
Гэта клічаш змагацца
Ты, любімы наш Колас,
І сыны адгукаюцца
Грозна ў барах.
Не, не могуць яны
Перад катам скарыцца —
Край бацькоў ён разбіў,
Апаганіў іх дом,—
Не, краіну сваю

Не дадуць чужаніцам,
Лепш у бойках памруць,
А не будуць з ярмом!
Сёння славяцца там
Партызанскія ночы,
Гінуць злыдні-паганцы,
Чорных спраў махляры.
І дзяўбуць груганы
Іх драпежныя вочы,
І звярыныя косці
Разносяць звяры.
І — ты чуеш, пясняр? —
Стрэнуць волю палеткі,
Зноўку буйна вакол
Загамоняць палі.
Пройдуць нашы дажджы
Ці вясною ці ўлетку
І варожую кроў
Змыюць з твару зямлі.
Прыйдзе ў хату сваю
З сынам мужная маці,
І сады расцвітуць
Ля вясёлых акон.
Будзе горасны час
Нам тады ўспамінацца,
Як страшэнны, крывавы,
Пакутлівы сон.

## РОДНАЕ

Край мой! ты памятны мне
Ранкам сваім прамяністым,
Гоманам шумных гаёў
З першым павевам вясны.
Сінія кубкі азёр,
Звон ручаёў серабрысты
І ў берагах задуменных
Ціхія плыні Дзвіны;

Пушчы, дубровы, гаі,
Над голлем шумлівы вятрыска...
Сцюжу наслала на ўсё
Лютая гэта зіма!
Край мой, дзяцінства маё,
Песень натхнёных калыска,
Нашы дарогі-шляхі!..
Сэрцу спакою няма...

Час вызвалення ідзе,
Сонца пакутных сагрэе,
Сцяг вызвалення плыве —
Гоніць чужынцаў ліхіх.
Коннікі слаўна сякуць,
Грозна грымяць батарэі...
Маці! выходзь сустракаць
Сыноў памужнелых сваіх.

Разам з братамі прайшлі
Шлях яны горкі, суровы,
Разам змагаюцца скрозь
І перамогу куюць.
Рускі, грузін, украінец,
Рознай гаворачы мовай,
Любяць аднолькава ўсе
Маці, радзіму маю.

Маці! сыноў прывітай,
Стол накрывай абрусамі,
Ворагу больш не знішчаць
Нашы палеткі, сады!
Хлебам пшанічным частуй,
Што ад бандытаў схавала.
Дай сваім блізкім папіць
Чыстай крынічнай вады.

Шмат прынялі яны мук
За родныя сэрцу мясціны.
Маці, не страшны ім бой!
Глянь, праз пажарышчаў дым
Нашы героі ідуць
Па сцежках тваіх і пуцінах,
Кожная хвоя ў бары
Нізка схіляецца ім.

## ВЯСНОВАЯ ПЕРАКЛІЧКА

Звоняць рэкі з ручаямі,
Расшумеліся дубровы,
Над палямі, над барамі
Кліч праносіцца вясновы.

Гэты кліч напоўніў грудзі,
Пралятае рэхам мужным:
Хутка бой апошні будзе,
Хопіць сілы. Мы адужым!

На шляху ў паходным строі
Рана-рана,
На світанні,
Чуюць коннікі-героі
Голас родны з-пад Кубані:

— Вы сячыце чужаніцаў,
Прыбівайце капытамі!
Сеем, сеем мы пшаніцу,
Вас сустрэнем пірагамі.

На франтах вясна заграла,
І з зялёным раннім лістам
Да далёкага Урала
Галасы ідуць танкістаў:

— Не знайдуць сабе ратунку
Каты з лютаю гайнёю,
Толькі болей нам дарункаў
Шліце з моцнаю бранёю.

А на Нёмане і Сожы
Кліч прарваў пакуты, здзекі:
— Не даруем,
Пераможам!
Забурляць крывёю рэкі.

Там узняўся несціханы
Гул суровы,
Гул няспынны —
То выходзяць партызаны
Беларусі, Украіны.

І здалёк, з-пад гор, цяснінаў,
Брат адною думай весніць...
Алазанская даліна...
Паміж гор імкнецца песня:

— Ты, магутны наш народзе,
Бі паганцаў,
Бі няшчадна!
Мы сыноў на бой праводзім,
Сад дагледзім вінаградны.

Пройдзе час.
Скарыўшы зграю,
Прывядзе сыноў дарога.
Кубкі ўсім нальём да краю
З клічам гордым:
— Перамога!

## КАЎКАЗ

Каўказ! Ты праменнямі сонца спавіты,
Славуты сваёй прыгажосцю спрадвеку,
Сыны твае — з гордай душою, адкрытай
І чыстай, як снег на вышынях Казбека.

Як срэбра, звініць іх праўдзівае слова,
Іх дружба не ведае межаў, як мора,
Над імі, узняўшы ў аблокі галовы,
Стаяць мудрацамі задумныя горы.

Яны наглядалі, як дзеды і ўнукі
Заўсёды аддана сяброўства віталі,
Як вольна, што стрэлы з напятага лука,
Джыгіцкія песні між іх пралятталі.

Джыгіцкая клятва крывёю з'яднана,
Іх клятва нязломна, што стромыя скалы:
Таварышу — ў ногі дыван саматканы,
А ворагу — лютасць вастрэй ад кінжала.

Чужынца за крыўду знішчаюць з праклёнам
Нямала цяснінаў крывёй чырванелі;
У бойках сягоння Сасунца плямёны,
Сыны Нізамі і сыны Руставелі.

Для іх невядомы ні здрада, ні сполах.
Паслухайце песні чангуры і саза:
Як горды Эльбрус не апусціцца долу,—
Ніколі не ўкленчаць народы Каўказа.

Вы бачыце іх у сталёвай кагорце,
З мячамі у бойцы рашучай сягоння —
За нафту Баку, за расцвіўшае Поці,
За лозы Сухумі і воды Рыёна.

Плывуць крумкачы над пуцінай арлінай,
Але — у бяздонне адна ім дарога,

І з выем шакалаў знікаюць ў цяснінах,
Канаючы ў полымі гневу людскога.

Суровая помста з далін Алагеза,
І грозныя клічы ад сцен Чыятуры:
Не ведае промаху куля чэркеса,
Не тупіцца шабля-маланка хеўсура.

Хоць ворагі блізка прыйшлі да парога,
Не сесці за стол ім у ката адзенні,
Не піць цынандалі з турынага рога,—
Чарнець ім касцямі на голым каменні.

Калі ж мы з апошняга вернемся бою
І сонцам вясны пазалоцяцца далі,
Збяромся усе, што сваёю крывёю,
Праверыўшы, дружбу навек змацавалі.

І ўспомнім за шумнай бяседаю разам,
За чыстым, як снег, крышталёвым абрусам
І дні Сталінграда, і высі Каўказа,
Палі Украіны, лясы Беларусі.

## БАЙЦАМ-БЕЛАРУСАМ

Вам, сябры, раскажу,
І далёкім, і блізкім,
Пра журбу,
Што ніяк не прагнаць з галавы:
Захацелася мне так сягоння да Мінска,—
Ды навошта казаць,
Самі знаеце вы.

На вайне, між атак,
Між цяжкімі баямі
Выпадае на момант
Для спачынку нам час.
Паглядзіш —
Журавы праплываюць ключамі —
Колькі думак яны забіраюць ад нас!

Крыкнуць хочацца ўслед:
— Прашуміце вы крыллем
Над курганнем дзядоў,
Дзе паніклі крыжы;
Там, над тою зямлёй,
Дзе мы з маці хадзілі,
Дзе слядоў нашых век
Не размыюць дажджы.

Ёсць такая ў мяне
Ад маленства прыкмета:
Там хаціна мая,
Дзе бары загудуць;
Нават страціўшы зрок,
Абыду я паўсвета,
А да родных мясцін шлях заўсёды знайду.

Хай у ростані мне
Доўга быць давялося,—
Я дарогі знайду,
Што ў прысадах вярбы,

Той мурог,
Дзе стаяў першы раз у пракосе,
Тыя пушчы, ў якія хадзіў па грыбы.

Я надзею нашу
І ніколі не трачу,
Што пабачу ізноў дарагія куткі:
Той ручай,
Па якім човен плыў мой дзіцячы,
Той пад ліпамі пруд,
Дзе пускалі вянкі.

Мне нішто,
Мне нішто боль душы не заглушыць!
Я хачу аднаго —
Толькі б зноўку прыйсці.
Сын расце у мяне...
Я павінен,
Я мушу
Ўсе ўладанні яму перадаць пры жыцці.

Палачанскае неба,
Што затканае ў зоры,
Неспакойныя хвалі шырокай Дзвіны,
І лясы, і палі,
І гаі, і азёры,
І крыніцы, ў якіх нашы думы відны.

Скарбы матчыных песень,
Сэрцу родныя словы,
Шум вясновых дажджоў
І красу навальніц,
Зіхаценне вясёлак,
Усмешкі зарніц,
Нават птушак усіх
Па гаях і дубровах.

Што ж,
Мы будзем, сябры,
Зноўку ўсім уладарыць.
Сніцца кожнаму з нас
Свой прываблівы сон.
Ёсць у кожнага з нас
Незгасальная мара —

Свой куток,
Свой парог,
Свой пад вокнамі клён.

Цяжка нам у бядзе,
Але мы не заплачам;
Мы за праўду
Насмерць і бязлітасна б'ём.
Шмат ісці нам дарог,
Падаць, зноў узнімацца,
Толькі веру —
Дахаты напэўна прыйдзём.

Перавяжам мы кужалем
Раны на целе,
Стому з твараў
Абмыем расой ледзяной,
На заранках праменных прасушым шынелі,
Па святочнаму кругу
Пройдзем з чаркай адной.

Апарожняць яе
Пехацінцы, танкісты
І стары партызан,
Што вярнуўся ў калгас,
І заграюць вясёла
Дружбакі-цымбалісты
Сказ аб тым,
Як нядоля пакінула нас.

## НАДЗЯ-НАДЗЕЙКА

Плача сірочая ў лесе жалейка...
Сціхла ты,
Змоўкла, наша Надзейка.
Хто ж гэта думаў, як давялося:
Вочы закрыла хмурая восень,
Выцвілі косы,
Шчокі запалі,
Рукі завялі.

— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.—
Болей рукам тваім
Жыта не жаці,
Жыта не жаці,
Снапоў не вязаці.—
Трэцюю ночку вісне дзяўчына
На белай бярозе ля роднай хаціны.
Горачка-гора сэрца скавала,
Што ж ты, бярозанька, не ўратавала?

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Добрыя людзі, жальбу здыміце,
Лепей мяне вы, бярозу, спіліце.
Гэтую дзеўчыну знала я дзіцем...—
Жоўты пясочак.
Зялёны вяночак.
Сінія вочкі,
Што васілёчкі.

Буйныя ветры, лютыя буры...
Ходзіць па лесе хлопец пануры.
— Надзя! Надзейка!..— плача жалейка.
З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Хлопец-юнача, смутныя вочы,
Зрэж мяне, белую, цёмнаю ноччу,—
Цяжка стаяць мне з горам дзявочым.

Помню я смех ваш,
Гулі-гулянкі,
Песні-вяснянкі
Аж да світанку.

Хлопец жалобу носіць па полі.
Ён у бярозы пытаецца з болем:
— Што ж не схавала ты любую голлем?
— Надзя! Надзейка!.. — плача жалейка...

З лісцем пажоўклым горкія слёзы
Падаюць, сыплюцца з белай бярозы:
— Як наляцела цемра-навала,
Змеі напалі, джалілі джалам.
Дымам дыхнулі,— чорнай я стала,
З крыкам і тлумам,
Гвалтам і глумам
Красу загубілі,
Дзяўчыну забілі.

Ходзіць па лесе, пушчах, дубровах
Хлопец разгневаны, хлопец суровы:
— Скора вярнуся
Разам з сябрамі,
Грукнем маланкамі
Ды перунамі,
Выпечам змеяў жалезам калёным,
Неба ачысцім, хмары разгонім,
Дзеўчыну ўславім,
Голле расправім,
Травы абсыплем чыстай слязою,
Чыстай слязою,
Быццам расою.
— Надзя! Надзейка!..— кліча жалейка.

## РАНА

Многа быў я ў баях,
Як узяўся за зброю,
Так здаралася мне —
Думаў, болей не жыць...
Восем ран зажыло,
Я вярнуўся да строю,
Толькі раны адной
Не магу загаіць.

Знаю, сціхнуў бы боль,
Каб напіўся жывіцы
З той крыніцы,
Што смагу таліла не раз,
Каб чабору таго,
Каб тае медуніцы,
Каб паветра з бароў,
Што пад Мінскам у нас.

Сэрца болей нішто
Супакоіць не можа.
Аднаго кожны дзень
Я жадаю ў жыцці:
Каб за сонцам услед
Мне па трупах варожых
Хоць на некалькі крокаў
Наперад прайсці.

## МІНСК

Паміж пажарышчамі знішчаны сад,
Сем трупаў схілілі галовы на голлі...
Мне гэтага здымка,
Што вытварыў кат,
Відаць, пры жыцці не забыцца ніколі!
Разбітыя вуліцы, хаты стаяць,
І хмары над імі
Спусціліся нізка...
Балюча дазнацца, што гэта твая
Любімая вуліца горада Мінска.
Балюча.
Я знаю пакутных сяброў,
На вуліцы гэтай сустрачалі мы радасць;
Як быццам учора я з імі ішоў
І ў майскія дні,
І ў дні лістапада;
А сцягі ўзляталі вышэй галавы,
А гоман і жарты,
А песні няспынна!..
Мне ў памяці горад вясёлы, жывы,
Без бомбаў,
Без ран і без чорных руінаў.
Праходжу над Свіслаччу ціхай масты,
Гляджу, усхвалёваны промнямі ранку,
Як яблыні ў белым на беразе тым
Разбегліся строем на ўсю Серабранку.
Я цвет іх збіраю для новых радкоў,
Каб вершы аздобіць, дзе трэба, да ладу.
Іду між трамвайных званкоў,
Між гудкоў,
Да Ленінскай плошчы,
Да Дома Ураду.
Вось новы будынак,
Яшчэ... і яшчэ...
А вось на вачах устае камяніца.
Мне радасна бачыць, як буйна расце
Штодня беларуская наша сталіца.

Пустыр...
А пабачыш — квартал там узнік,
І горад штораз устае прыгажэйшы;
Там цэглу за цэглай лажыў будаўнік,
І слова за словам
Складалі мы ў вершы.
Я рады.
Я з горадам разам жыву,
Мне ёсць чым хваліцца
І чым захапляцца:
Савецкая вуліца —
Шлях на Маскву,—
Тэатры і клубы, кіно і палацы.
У доме Чырвонае Арміі МХАТ,—
Ён шчыра прыняў ад мінчан запрашэнне...
Стой, памяць!
Было гэта даўна, назад
Гады два мінула з таго ўжо напэўне.
Цяпер жа —
Дарогі па розных франтах,
Шляхі баравыя, і сцежкі на полі,
І здымак, што цяжка трымаць у руках,
І помста, што сэрца сціскае да болю.
Выходзіў я з Мінска,
Калі ён гарэў...
Здавалася, сам ты дашчэнту згараеш.
І чорныя рукі абвугленых дрэў
У твар мне крычалі:
«Нашто пакідаеш?»...
Ішоў я, бяздомны,
Ад бомбаў, ад куль
Праз рэкі, балоты,
Па грэблях і кладках...
Адно, што ў дарогу я вынес адтуль,—
Дык гэта ўспаміны і сынаву картку.
А ўсё засталося:
І пройдзены шлях,
І горад з прасцёртымі ў дыме рукамі,
І ты, засмучоная наша зямля,
Аблітая ў ростані буйна слязамі.
Мы йшлі
І не чулі натруджаных ног,
І неслі журботу з нянавісцю разам,
І там, ля разбітых вайною дарог,

На некалькі год пастарэлі адразу.
Няма мне спакою.
І нават праз сон
Мне помніцца горад у смутку вялікім,
І чорныя плямы аслепшых акон,
І плошчы, распятыя жудасным крыкам...
Ды ведаю,
Веру, што блізка той дзень,
Калі мы збяромся у горадзе нашым,
І там паміж новых узведзеных сцен
Мы кветкі пасадзім на могілках паўшых...

## ПЕРШАМАЙСКІМ РАНКАМ

Ты свяці, свяці нам,
Ясная заранка,
Асвятляй дарогі,
Асвятляй пуціны.
Чую, выйшла маці
Першамайскім ранкам
І заве дадому
Ў родную хаціну.

Да вятроў з мальбою
Стала на дарозе:
— Раскажыце, ветры,
Як жыву я горна,
Звоняць ручаіны,
А на вочах слёзы,
Зелянеюць пожні,
А на сэрцы чорна.

Што ж, мая ты доля,
Гэткая благая,
Што ад горкіх думак
Мне няма спачынку.
Усю ноч салоўкі
Па гаях спяваюць,
Ды няма салоўкі,
Роднае дзяўчынкі.

І глядзіць старая
На пустыя гоні,
Ёй стаяць пад горам
Невыносна цяжка,—
У чужацкім краю
Пад ярмом прыгону
Растапталі песню,
Загубілі краску.

Прагулі гарматы
Недзе за барамі.

Маці, рукі ўзняўшы,
Просіць несціхана:
— Май, удар ты з неба,
Прашумі дажджамі,
Вызвалі з палону,
Змый на целе раны.

Супакойся, маці!
Сёння наша свята,
Нашы б'юць гарматы,
Нашы бліскавіцы.
Не паспелі сёння
Мы прыйсці дахаты,
Ты чакай, мы можам
Кожны дзень з'явіцца.

Мы прыйдзем шляхамі,
Мы прымчым на конях,
Прыляцім суцешыць
На праменных крыллях.
Пачакай!
Мы катаў давядзём
Да скону,
Бо не ўсіх пад сонцам
Груганоў пабілі.

Ты прымі ад сына
Клятвы вернай словы:
— Не даруем болю,
Здзекаў не забудзем.
Чуеш, як гамоняць
Майскія дубровы:
— Хутка разам будзем!
Хутка разам будзем!

## ПАРТЫЗАНСКІ МАРШ

Калі над радзімай пажары шугалі
І неба гуло ад грымот,—
Пад шумнымі соснамі мы прысягалі
Табе, беларускі народ!
За край свой забраны
Ішлі ў партызаны,
Збіраліся дружна на бой!
А гора народа кружыла над намі,
І ў кожнага рана свая.
Палямі, гаямі, лясньмі шляхамі
Праходзіла наша сям'я.
За здзекі, за раны
Сыны-партызаны
Выходзілі ворага біць.
І ў цёмныя ночы, і ў раннія росы
Ад нашых адважных засад
Лятуць пад адкос мерцвякі-паравозы
І трупы фашысцкіх салдат.
Масты узлятаюць,
Машыны знікаюць
Пад смелым агнём партызан.
У нашых паходах сцягі баявыя,
І помста — адзіны наказ.
Мы бачым, як маці, ад гора сівыя,
Выходзяць насустрач да нас.
Не плачце,
матулі,
Мы ўсіх вас атулім
Надзейнаю ласкай сваёй.
Хай многа наперадзе смутку і болю
Не раз нам яшчэ сустракаць,
Біць ворагаў лютых,
Клянёмся,
Ніколі
Не стоміцца наша рука,
Пакуль не заграе
Вясна залатая
Над роднаю нашай зямлёй.

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

На Беларусі
Па вёсках ідуць пагалоскі —
З'явіўся Кастусь Каліноўскі.

Чаму так назвалі хлапца — невядома,
Ці, можа, што ў світцы ён шэрай знаёмай?
Ці, можа, што мае блакітныя вочы?
Ці, можа, што тайна з'яўляецца ўночы,
Што мужны ён з твару,
Што ворагам — кара:
Як прыйдзе, успыхнуць у катаў пажары
І ляжа, пабітая, ўпокат пачвара.

А покуль збяруць акупанты пагоню —
Далёка замчаць Каліноўскага коні...
Хай немцы шукаюць
Ля Гайны ўзбярэжжаў,
А ён каля Нёмна ці дзе ў Белавежы
З хлапцамі-сябрамі
Другую стрэў зграю
Ды меч ад варожай крыві выцірае.

І чуе ён голас народны,
Бацькоўскі:
— Ты, сын мой геройскі,
Кастусь Каліноўскі!
Чаму так назвалі, хто знае прычыну?
Ці, можа, што зваўся ён проста — Каліна?
Ці, можа, што воласам светла-ільняны?
Ці, можа, што ў світцы цяпер саматканай?

На гэта мы скажам
Сябрам па-сяброўску —
Ён сэрцам вялікім
Кастусь Каліноўскі.
Калі ён пачуе, як ворагі скачуць,
Калі ён пачуе сірочыя плачы

Ля рэчкі Бярозы,—
Душу яго слёзы
Запаляць.
І будзь ён пад Бугам, ці далей дзе, можа,
Ён шабляй дастане да самай Бярозы,
Да сэрцаў варожых,
І коцяцца галавы катаў у лозы.

Калі далятаюць кайданныя звоны,—
Ён знае, што родных вядуць да палону,
Дык будзь ён пад Мінскам
Ці ў іншым дзе месцы,—
Ён куляй дагоніць іх варту і ў Брэсце.
Прыходзяць дзяўчаты
Дахаты,
І плачуць яны, і спяваюць.
Той песняй яго праслаўляюць,
Што ёсць Каліноўскі на свеце,
Што ён ратаваў іх ад смерці.

Калі ж ён пабачыць — шугаюць зарніцы,—
Ён знае, што ў вёску прыйшлі чужаніцы,
Дык будзь ён ад вёскі
Далёка, далёка,—
Прымчыцца суровы і смелы, як сокал:
Зазвоніць клінкамі,
Паб'е капытамі,—
І ворагі лягуць на доле касцямі.

А з вёскі да вёскі ідуць пагалоскі:
Жыве ў Беларусі Кастусь Каліноўскі;
Ён сілай магутны, душою агністы,
Нядаўна ў калгасе ён быў трактарыстам,
Вясёлы заўсёды,
Вадзіў карагоды;
Як хмары закрылі і сонца і зоры,
Пайшоў партызаніць да бору...

Нязларма чакае штоночы дзяўчына
Свайго закаханага хлопца Каліну,
Ці чэрвеньскім ранкам,
Ці ночкай ліпнёўскай —
Прыйдзе Каліноўскі.

Дзяўчаты са ўсёй Беларусі пачулі,—
Збіраюць яму васількі на кашулю,
І маці праз доўгія, сумныя вёсны
Ткуць пояс квяцісты герою на кроснах;
Чакаюць крыніцы яго ледзяныя,
Лясы, паўзнімаўшы смыкі смаляныя,
Каб разам з вятрамі наладзіць вяселле,
Ударыць па струнах,
Па хвалях дняпроўскіх,—
Што з вечнаю воляй
Прыйшоў Каліноўскі.

## НЕ ПАВЕРУ СМЕРЦІ

Воблік твой у памяці не сцерці,
Не паверу я ніколі смерці,
Не скасіла смерць
І не забрала,
Ты жывы сягоння, наш Купала!

Мы ляцім у родную краіну
За тваім палётам сакаліным —
На зямлю сваю,
Да ніў і хатак,
Да сясцёр, да засмучоных матак...

Трэці год там з ворагам заўзята
Б'юцца маладыя арляняты,
Б'юцца днём
І б'юцца цёмнай ноччу —
Каршуну выдзёўбываюць вочы...

Цяжка ім часінай выпадала,
Крыллі мяла
Лютая навала,
Ды ніколі ў бойцы не кідала
Песня неўміручага Купалы.

Нападала роспач, а ці змора,—
Высыпалі ў небе словы-зоры,
Асвятлялі сцежкі ў цёмным лесе...
І спявала дзеўчына Алеся.

Не зязюля ў лесе кукавала,—
Гэта песня роднага Купалы
Хлопцаў біцца з ворагам склікала,
Выстаяць,
Не гнуцца ў завірусе
На радзіме нашай Беларусі.

Нам дадому блізка,
Недалёка.

Мы ідзём за постаццю высокай.
Песня-сонца вёрст не падлічала,
Мы з табою вернемся, Купала,
Да Дняпра, да Нёмна,
Да Бярозы;
Хай на тварах не абсохнуць слёзы,
Што душу паранілі ў дарозе.

У тваім расцвіўшым вольна садзе
Між паэм за стол усе пасядзем.
Вецер загайдае дрэвы, травы,
Голас твой пачуецца ласкавы...
Вытрам слёзы,
З воч абмыем слёзы,
Не паверым смерці,
Быць не можа —
Не скасіла смерць і не забрала:
Ты жывы сягоння, наш Купала!

## ТАВАРЫШУ

Перайшлі мы палі,
Абышлі гарады,
Разам зналі баі і хвіліны зацішку,
Не забудзем мы гэтыя, дружа, гады,
Што зраднілі нас
Быццам ад самай калыскі.
Я трывогу тваю зразумеў па вачах:
Яна ў сэрца маё западае глыбока,
Мне вядома, чаму ты не спіш па начах,
А за думкамі следам вандруеш далёка:
Цераз рэкі, масты,
Цераз пушчы, кусты.
Дзе пяшком,
Дзе прамчышся на ўспененых конях.
І здаецца табе —
Над палеткам пустым
Па-самотнаму сёння
Жаўры-птушкі гамоняць.
Не, мой браце, то лёд зазвінеў, растае,
І табе ўжо вядома,
Да болю вядома,
Што не жаўры пяюць,—
Гэта птушкі твае,
Гэта Петрык і Насця гукаюць дадому:
— Татка!.. хаткі няма...
Мы адны...
Цёмна, цёмна ў зямлі,—
Ні дзвярэй, ні аконца...—
Ты іх бачыш,—
На ўскраіне лесу яны,
Як пралескі, з-пад снегу ўзняліся да сонца.
Ты не спіш,
Ты ўстаеш,
Ты да бою гатоў.
Перарэзана сэрца жалобаю вострай.
Ты спяшаеш,

Каб зноўку на многа нітоў
Заснавалі жыццё нашы маці і сёстры,
Каб забыліся дзеці на гора і жах,
Каб прыйшлі на парог,
Зноў табой збудаваны,
Каб ім поясам слуцкім раскінуўся шлях,
Васількамі і промнямі ранку затканы.
Ты вінтоўку бярэш.
Ты ідзеш
У паход.
Ты з баямі знаходзіш на захад дарогу.
І ніякі пілот,
Нават кулі палёт
Абагнаць тваіх думак дахаты
Не могуць.

## МАГІЛА БАЙЦА

На беразе Сожа, ля роднае хаты,—
Курган невысокі —
Магіла салдата.
Бярозавым лісцем магіла заслана,
Ляжыць у магіле баец пахаваны.
І сосны, і травы над рэчкаю чулі,
Як хлопца скасілі
Нямецкія кулі.
Ён біўся геройскі, ды выпала пасці
У першае лета варожай напасці.
Гудзелі на Сожы трывожныя хвалі,
Салдаты магілу сябра засыпалі...
І грудзі прыкрылі яму рутай-мятай,
Каб снілася вечна бацькоўская хата.
Як сына прымала,—
Зямля застагнала.
Паўзлі незлічоныя чорныя сілы,
Салдаты пакінулі з боем магілу.
Нялёгка адходзіць байцам давялося...
На край апусцілася хмурая восень:
Вятры бушавалі,
Шумелі асокі,
Стаяў пад вятрамі курган адзінокі.
Па Сожу журботныя хвалі хадзілі,
Па долі салдацкай яны галасілі,
Таварышы ж воіна
Гэтай парою
Стаялі насмерць пад сталіцай Масквою,
Аднойчы з вячэрняю яснай заранкай
Прыйшла на магілу сястра-партызанка.
Пад шэпат бярозы
Пасеяла слёзы.
Як глянуў на слёзы празрыстыя месяц,
Пайшла партызанка сцяжынкаю ў лесе...
Ізноў засталася магіла панурай,
Мятлюгі кружылі,
Стагналі віхуры,

І вёсны ішлі, ды з вадой ледзяною,
І жоўты пясок не займаўся травою.
Калі ж узыходзілі травы, дык вялі,
Бо чорныя хмары святло закрывалі;
Яліны гудзелі
Маркотна-маркотна,
Стаяла магіла салдата самотнай.
Ды памяць пра друга не можа памерці.
І помнілі друга салдацкія сэрцы:
Запаў ім у душы
Глыбока-глыбока
На беразе Сожа курган невысокі.
І кожны з іх мужна прабіцца імкнуўся
Хутчэй да палоннай зямлі Беларусі.
Чым бліжай там чуліся іхнія крокі,
Тым больш узнімалася сонца высока,
Тым больш ажыўляўся курган адзінокі.
Калі ж ім нарэшце спаткаць давялося
На беразе Сожа
Прыгожую восень,—
Кляновае лісце шляхі залаціла,—
Салдаты прыйшлі да сяброўскай магілы,
Яны пакланіліся,
Скінулі каскі.
Шумелі ля берага хвалі ласкава,
Раслі на кургане зялёныя травы,
Цвілі на кургане чырвоныя краскі,
На іх калыхаліся цёмныя росы,
І кветкі не вялі на раннім марозе...
І воінаў храбрых ўсё гэта здзівіла:
Якая ў зямлі
Незвычайная сіла?
І так не дазналі тым радасным ранкам,
Што выраслі кветкі са слёз партызанкі.

## БАЛАДА
## ПРА ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Імчыцца песня па шляхах
Пра славу казака —
Яму даручаны быў сцяг
Гвардзейскага палка.

Пад сцягам, хілячы чало,
Стаяў казацкі строй,
Як быццам полымя плыло
Над кожнай галавой.

Пад сцягам тым на бой, на смерць
Байцы ішлі не раз,
На сцягу тым — прысяга, чэсць
І мацеры наказ.

На сцягу тым палала кроў,
Блішчалі росы слёз,
Гвардзеец горда ў дні баёў
Яго на захад нёс.

Мяшаўся морак, дым і пыл,
А вораг падаў, бег,
Як быццам чорныя снапы
Лажыліся на снег.

У бітву сцяганосца вёў
Святы народны гнеў.
І сцяг у водблісках агнёў
Сурова палымнеў.

Казак не згледзеў аднаго,—
Абкружан быў калі,
Як цэлай зграяй на яго
Эсэсаўцы пайшлі.

Узняўся крык: — Здавайся, рус!..
Здавайся лепей сам! —

Гвардзеец крыкнуў:
— Лепш памру,
А сцяга вам не здам!

І, прыгарнуўшы сцяг святы,
Сабе ён чысціў шлях.
Званілі коней капыты
Па збітых чарапах.

Ужо зімовы бляск зары
Лажыў канец начы.
Ён бачыў — верныя сябры
Імкнуць дапамагчы.

Але прад ім бліснуў кінжал,
Засадніла ў грудзях,
І хоць закрыла зрок імжа,
У думках рэяў сцяг.

Баец загінуў як герой,
Абняўшы шоўк, ляжаў,
І сцяг, аброшаны крывёй,
Яшчэ ярчэй палаў.

## СПАТКАННЕ

Мне ўсё дорага тут,
Люба, родна, прыгожа —
Гэта поле ў душы,
Гэта неба ў вачах,
І лясы, і кусты,
І трысцё па-над Сожам,
І ў пажарах бяроз
Лістападаўскі шлях.

Як спяшаў я да вас,
Засмучоныя хаты,
Здратаваныя нівы,
Лугі-мурагі!..
Я вярнуўся да вас
Цвёрдым крокам салдата,
Хоць нямала пранёс
За дарогу тугі.

Хіба мог я калі
Хоць на момант забыцца?
Вамі жыў я
І ў сэрцы хацеў зберагчы.
Мне званілі штодня
З-пад Ушачы крыніцы,
Хвалі Нёмна будзілі
Не раз уначы.

Я ўставаў
І ішоў па ваеннай дарозе.
Верыў — дома мне быць,
Дабрыду, дажыву...
Хмары слёзы насілі
З Дняпра і Бярозы
І, як срэбрам,
Абсыпалі мне галаву.

Я спаткаўся з зямлёй,
З другам, братам, сястрою...

Што мне скажаце вы?
Што мне вам расказаць?
Гляньце ў сэрца маё,—
Я прынёс яго з бою,
На агні яго можна
Мячы гартаваць.

Гляньце, вочы мае
Ў сінім полымі болю,—
Не кажыце вы мне
Пра пакуты і жах,
Не кажыце пра гора,
Бо гора даволі,
Больш чым кладзі салдацкай,
Нясу на плячах.

Вось за крыўду і боль
І адпомсціць я мушу.
Гляньце — сёння ў грудзях
Толькі помста адна!
За сябе і за вас,
І за гэтую грушу,
Што з абвугленым голлем
Стаіць ля акна.

Мне ўсё дорага тут —
І ў прысадах дарога,
І задумлівы гай
Над высокай гарой...
Я пайду, кліча Буг!
Знаю я, перамога
Над усёю краінаю
Ўстане зарой.

## РОДНЫ КРАЙ

Беларусь!
Смольны бор,
Над імхамі духмяністы верас,
Вераснёвы прастор,
Што праменнямі сонца звініць.
Беларусь!
Хто любоў да цябе можа змерацъ?
Акіяны не маюць такой глыбіні.

Беларусь!
Родны край!
Ты жывеш! Маці стрэлася з сынам.
Ён спяшаўся ісці.
Многа сцежак прайшоў франтавых.
І чырвона-чырвона
Цвітуць арабіны
Па шляхах, па гаях,
Па шырокіх палетках тваіх.

Беларусь!
Сінь азёр!
Кружыць, кружыць асенняе лісце...
Як ты дорага нам,
Як нішто і ніколі ў жыцці.
Беларусь, дай напіцца
З празрыстай крыніцы,
Бо ісці нам з баямі,
Далёка-далёка ісці.

Беларусь!
Твой мурог,
Можа, з радасці слёзамі росны;
Ты з палону ўстаеш,
Паглядзі, як праходзяць сыны.
І шумяць і завуць
Іх бярозы, яліны і сосны,
Кліча Буг, горды Нёман
І хвалі шырокай Дзвіны.

## СЫНЫ

Пройдзе час, адгрукаюць гарматы,
Змоўкнуць стрэлы,
Знікнуць хмары дыму,
Сабяромся мы да роднай хаты
І спытае ў кожнага радзіма:
— Па якіх шляхах дамоў вярнуўся?
Чым памог ты маці-Беларусі?
На шырокі выйшаўшы гасцінец,
Зніме шапку пыльны пехацінец:
— Я люблю цябе душой гарачай.
Да цябе сляды крывёй азначыў.

На лугі густыя,
На мурогі
Пусціць коннік друга варанога,
Уздыхне, забыўшыся на змору,
Ды гукне ў шырокія прасторы:
— Я скакаў да вас,
Ляцеў стралою,
Чарапы паганцаў пада мною.

І танкіст, прыпаўшы да крыніцы,
Каб вады жывучае напіцца,
Скажа: — Я прарваўся з боем,
Толькі тут я смагу супакою.

Да аблок узняўшыся высока,
Памахае крыллем горда сокал:
— Добра мне пад небам сінім нашым,
Каршуновы хмары разагнаўшы.

І ў мяне спытаюцца, вядома:
— З чым жа ты вярнуўся, сын, дадому? —
Гляну я адкрыта маці ў вочы:
— Я не спаў ні днём, ні цёмнай ноччу,
Сэрцам і душою быў з табою,
Я прыйшоў са срэбнай галавою.

Калі чуў я гоман твой балесны —
Плакала засмучаная песня,
Узнікала над франтамі бура,—
Узлятала песня, як віхура,
І чужынца ў гарадах і сёлах
Навылёт, як штык, яна калола.

Беларусь, радзіма!
Край наш родны!
Чуеш кліч ты, радасны, паходны:
— Хутка будзе знішчана навала!
Нездарма сыноў ты гадавала.

## ДВА КЛЁНЫ

Шумела ў прысадах рабіны дарога,
Праводзіла Насця хлапца дарагога.
Яму, маладому,
Пралегла дарожка
Ад роднае вёскі
Ў чырвонае войска,
Ды білася радасна дзеўчыны сэрца —
Праз год па вясне абяцалі сустрэцца.
На месцы растанку на памяць аб мілым
Два клёны маленькіх яна пасадзіла.
Няхай жа з вяснянкай
Сустрэнуць каханка.
Чакала дзяўчына і лета і восень,
Да пояса выраслі чорныя косы,
Як зоры, іскрыліся вочы-азёры,
Мінулі мятлюгі, завеі над борам,
Гадала дзяўчына, што вернецца скора.
Не ведала Насця
Вялікай напасці.
Ударылі ворагі чэрвеньскім раннем —
Да клёнаў ніхто не прыйшоў на спатканне.
Загрукалі боты чужынцаў на ганку...
Пакінула Насця свой дом партызанкай.
Між елак кашлатых
Жыла з аўтаматам.
Нялёгка было ёй, ды часам украдкам
Глядзела, уздыхнуўшы, на любага картку.
І нават уночы
Сцішалі трывогу
Любімыя вочы
Байца маладога.
Сабе ж загадала, як клёны не звянуць,
Дык стрэнецца з ёю напэўне каханы.
Дарэмна ўзляталі дзявочыя мары,
Яшчэ год прамчаўся над лесам, як хмара.
Адведала клёны.
Ва ўборы зялёным

Шумяць на дарогу...
Няма ж дарагога...
І вецер хаўтурны над сёламі вее...
Ды толькі не траціла Насця надзеі,
Сваім аўтаматам
Касіла праклятых,
Каханаму шлях расчышчала дахаты.
І стала жаданне праўдзівым і дзейсным,
Хоць сталася гэта ў чацвёртую весну.
Да клёнаў забегла аднойчы з паходу
І бачыць,
                    што хіліцца голле да ўсходу,
Глядзіць,
                    углядаецца ўдаль партызанка —
Грымоты ўсё бліжай,
Ярчэюць маланкі...
І раптам прамчалі савецкія танкі.
А следам за імі са сцягам чырвоным
Пайшлі пехацінцы паходнай калонай —
Суровых,
                    запыленых,
Радасных многа...
Няма ж паміж імі байца маладога.
Завяла дзяўчына —
Напэўне, загінуў.
Прыпала самотная нізка да долу.
А клёны гамоняць вясёла-вясёла.
Пытаецца Насця ў зялёнага лісця:
— Ды дзе ж ён, скажыце? —
І раптам пабачыла,
                                        выцершы слёзы,
Імчыцца насустрач ёй коннік прыгожы.
Ён воласам русы,
Бялявыя вусы.
Схапілася раптам здзіўлёная Насця
І ледзь не самлела з вялікага шчасця:
Праводзіла ў войска
Хлапца маладога,
Сустрэла маёра
Яна удалога.
Расціце ж вы, клёны, шуміце ж вы, клёны,
Пад лісцем зялёным сядзець улюбёным,
Бо сіла кахання не ведае смерці,
Час блізкі, ім скора навечна сустрэцца.

## АДЫХОД У ПАРТЫЗАНЫ

Сасновы бор — прасторны дом,
Жыві, дзе сэрцу люба,
На пні, над ціхім ручаём
Сядзіць Андрэй Кашуба.

Бяжыць задумліва ў трысці
Дарожка вадзяная...
— Ну што ж, куды цяпер ісці? —
Ён сам сябе пытае.

Хадзі хоць з ранку да начы
Па выспах ды гушчарах —
Кругом, хоць плач, хоць закрычы,—
Балоты ды імшары.

Ды каб жа хоць душа адна
Натрапіла дзе ў горы.
Звініць сасонка, як струна,
Ды з ёй не пагаворыш.

Каму сказаць, што ледзь жывы,
Што ногі адубелі,
Што трэці дзень як мох сівы
Яму замест пасцелі.

Прасі ратунку, хоць загінь,
Нідзе не чуць нікога...
Непадалёку Мурагі,
Няма ж туды дарогі.

Снуюць паміж пакутных хат
Чужыя там размовы,
Там ходзіць п'яны камендант
Па вуліцах вішнёвых.

Усё чарнее і дрыжыць,
Куды ён зрок ні кіне,—

Ён носіць чорныя крыжы,
Каваныя ў Берліне.

Ідзе, сланяецца кулём,
Нібы напхнуты ватай,
Над ім аколыш з груганом
Пад неба аж узняты.

Сядзяць салдаты па садах
Пад жасміновым цветам...
Андрэю цяжка у грудзях,
Калі прыпомніць гэта.

У Мурагах зялёны клён
Шуміць пры новай хаце,
У Мурагах пакінуў ён
Сваю старую маці.

У Мурагах цвіла зара
Рабінаю над ганкам,
У Мурагах яго сястра
І шчырая каханка.

Няўжо не вернецца туды,
Дзе шлях яго адзіны,
Дзе скрозь ягоныя сляды
Па сцежках і пуцінах.

Дык што ж рабіць у гэты час,
Відаць, прыйшла загуба.
І кроіць сэрца многа раз
Сабе Андрэй Кашуба:

— На фронце твой старэйшы брат,
І меншы там гаруе,
Табе Мікола і Кандрат
Ніколі не даруюць.

І бачыць ён, дзе даль імжыць,
Стаяць з дакорам двое...
— Браты, што ж мусіў я рабіць,
Адзін жа я не воін.

У тую раніцу з расой
Узняўся я з пасцелі
І на лугу быў за касой,
Як чэрці наляцелі.

Адкуль сабралася гайня,
Насыпала на поле,
Вы столькі нават груганяя
Не бачылі ніколі.

А вы мне кажаце здалёк:
— Хто ж маці абароніць?
— Павінен я сваім жыццём
Абараніць сягоння.

Андрэй Кашуба сам не свой,
Туга на сэрца пала,
А на дубу, над галавой,
Зязюля кукавала.

Відаць, камусьці на вяку
Даўгую сцежку значыць,
Як завяла: ку-ку, ку-ку...
Канца не дачакацца.

Андрэй, як здань, сядзіць на пні,
Зязюлю усчувае:
— Ой, не мані ты, не мані
Мне, птушка лесавая.

Дарога лётная твая,
Твайму зайздрошчу лёсу,
А мне тут жыць сярод галля
Адно, што засталося.

Хай прашуміць зялёны гай
Прытулкам адзінокім,
Ляці, зязюля, і кувай
Мне многа раз здалёку.

Андрэй узняўся. Па шчаках
Спаўзла слязіна ціха.
Мяркуе ён пра мужны шлях,
Як знішчыць гора-ліха.

Пакутны боль яго пячэ,
Ды сумаваць не стане...
Яму хацелася яшчэ
Хоць раз на поле глянуць.

Дзе каштаны пад Мурагі
Сышліся, ўзняўшы свечкі,
Дзе, як чырвонцы, лапухі
Рассыпаны пад рэчкай.

Дзе ў срэбным гомане крыніц
Вясёлкавае ранне,
Дзе ліпа лісцямі звініць
Пра першае каханне.

Дзе над садамі, быццам шоўк,
Празрыстыя хмурынкі...
Ён павярнуўся і пайшоў
Праз хмызнякі сцяжынкай.

Пад крокам ліст стары шасціць,
Трашчыць ламачча крохка,
Ды каб вы знялі, як ісці
Дамоў заўсёды лёгка.

Сягоння ж выйдзе з гушчароў,
На кут свой родны гляне.

. . . . . . . . . . .

Сарве паземку, з'есць ды зноў
Ідзе без перастання.

Ды так задумаецца ён,
Забыўшы лёс трывожны,
Гатоў паверыць: гэта сон,
Што ў Мурагі няможна.

Сцяжынка кожная вядзе
Туды, дзе ўсё знаёма,
Па ветру нават, па вадзе
Ён знойдзе шлях дадому.

Усё там пeражыта ім,
Там кожны кусцік зведаў,
Па баразне яшчэ малым
Блукаў за бацькам следам.

Усе палі паабхадзіў
У світцы саматканай,
Усе гаі пeратрубіў
Трубою берасцянай.

А колькі босым раніцой
Прайшоў лугоў з расою,
І нават з кожнай травіной
Пагаварыў касою.

А колькі год жыцця прайшло
На палявых дарогах...
І добра ведае сяло
Яго яшчэ з малога.

Калі ж падрос, ён выбраў сам
Сабе занятак любы —
На ўсю акругу слаўным стаў
Пчаляр Андрэй Кашуба.

Між яблынь, груш малы ставок
На пасецы прынаднай —
Увесь пчаліны гарадок
Яму быў падуладны.

Ён ведаў, дзе красуе луг,
Дзе ліпа расцвітала,
Ён ведаў кожную пчалу,
Што з поля прылятала.

Любіў рамовак ціхі звон,
Як змрок крылом атуліць,
І, як пчала, пад вечар ён
Спяшаў у родны вулей.

За лес хавалася зара,
Спускаўся морак шэры,
Чакалі маці і сястра
Андрэя на вячэру.

Жбаны і місы з малаком,
Бліноў дыміла горка...
І доўга-доўга за сталом
Ішла ў сям'і гаворка.

Як сёлета красуе сад,
Як зацвілі загоны,
Што шлюць Мікола і Кандрат,
Браты, яму паклоны.

Што ўжо з наступнае вясны
Дадому прыйдуць, можа,
Служылі ў арміі яны,
У горадзе над Сожам.

Гаворыць маці і, жбанок
Схіляючы над шклянкай,
Андрэю часам незнарок
Напомніць пра каханку.

Узнікне воблік маладзы,
Знаёмая паходка...
І так было хлапцу тады
Ад усяго салодка.

Так з марамі пра Мурагі
Прайшоў ён шлях паволі...
Ужо канчаўся лес глухі,
Між дрэў свяціла поле.

Ён стаў за бэзавым кустом,
Глядзіць удаль задумна...
Ды як жа, вунь ён, родны дом,
І сцежачка на гумны.

І раптам ледзь не закрычаў,
Забыўшыся на сполах,
Аднекуль вецер даімчаў
Знаёмы вельмі голас.

Хапіўся бегчы. Нацянькі
Ён паімчаў вясёлы...
Калі ж пабачыў ўсіх здалёк,
Упаў, як сноп, да долу.

Глядзіць — узброены атрад,
Нямецкія салдаты.
Гамоніць тоўсты камендант
З Пахілкам Калістратам.

І ў сэрцы болю,
Злосці шмат.
— Ах, Калістрат,
ах, гад ты, гад!

Пахілка, звер, ты люты звер
З сабачаю крывёю,
Ды гэта ж, пэўне, ты цяпер
Ганяешся за мною.

Дык поўзай, поўзай ты слімнём
З сасонкі да сасонкі...
А можа, выйсці, камянём
Пусціць табе ўдагонку.

А што ж пасля, канец на тым
З п'яньковаю пятлёю,
Ды не, не будзе так, каб ты
Смяяўся нада мною.

Андрэй у хмыз глыбей залез,
Да долу прытуліўся,
Пакуль Пахілкі след не счэз
І тупат не спыніўся.

Тады устаў. Над галавой
Кулак узняў з гразьбою:
— Дык што ж наважыў раніцой
Зрабіць я сам з сабою.

Ёсць шлях напэўны, хай даўгі,
Да роднага парогу,
Дык вось хто мне на Мурагі
Спыніў цяпер дарогу.

Чужыя твары, п'яны брэх,
Мышыныя мундзіры,
Чаго хадзіць ім паміж стрэх,
Дзе я радзіўся, вырас?

Хто права даў ім тут таптаць
Мае палі, разлогі? —
Андрэй прыйшоў на сенажаць
Між бору векавога.

Там клятву даў, пакуль жывы,
Адпомсціць чужаніцам...
І да густое муравы
Як сын прыпаў ён ніцам!

## ВАМ СКАЖУЦЬ СОСНЫ

Навала пройдзе. І калі
Ізноў засвеціцца свабода,—
Вам скажуць сосны, як жылі
Мы ў дні вялікай непагоды.
І колькі ў шумных гушчарах
Народных дум было сабрана,
І колькі на сівых імхах
Гарачых слёз парассыпана.
Як мы жылі ў барах густых,
Каб ратавацца ад прымусу,
Як з кожным дрэвам, што з жывым,
Вялі параду беларусы.

## РОДНЫ ГОРАД

Мінск — сталіца роднае краіны,
Адышлі пакутныя часіны,
Да цябе шляхі ўсе і пуціны,
Мы цябе падымем з-пад руінаў.

Многа знёс ты катавання, болю,
Знёс усё, і вораг не падолеў.
Ты, як волат, пастаяў за волю,
Ты нам любы сёння, як ніколі!

Родны горад! Нашае багацце!
Мы хвіліны дарма не патрацім,
Мы сваёй не пашкадуем працы —
Адбудуем светлыя палацы!

На тваіх узгорках і на долах
Адбудуем фабрыкі і школы,
Каб, як толькі занімаўся золак,
Ты ўставаў магутны і вясёлы.

Каб раслі кварталы, як жывыя,
Каб фантаны білі люстраныя,
Каб шумелі паркі маладыя,
Каб звінелі песні агнявыя!

Горад наш! Пражыў ты ліхалецце,
Горад наш! Ты — нашае бяссмерце,
Узрастай на радасць нам і дзецям
І шумі ты славаю па свеце!

Адбудуем горад свой вячысты,
Каб сказалі ўсе нам урачыста,
Як мы мужна ворага пабілі
І красу-сталіцу аднавілі!

## ПЕРАД ВЯСНОЙ

Чэзне вораг, нікне густа...
Добрыя навіны!
Прычакаў Іван Капуста
Радаснай часіны.

Тры сыны яго, салдаты,
Нішчаць набрыдзь злую —
Б'юць за Одэрам гарматы,
Бацька хлопцаў чуе.

Хай жа знаюць, што старому
Шлях праклалі ясны,—
Гоніць з Прусаў ён дадому
Статак свой калгасны.

Ці ідзе ён праз сасоннік,
Ці ідзе палянкай,—
Усё гамоніць і гамоніць
Трубка-берасцянка.

Ці вятры прамчацца з шумам,
Ці снягі цярусяць,—
Адлятаюць яго думы
Аж да Беларусі.

І ўстаюць перад вачамі,
Як жывыя быццам,
Рэкі, пожні з паплавамі,
Чыстыя крыніцы.

І Капусту бор сасновы
Гулка зазывае...
Перад ім ідуць каровы,
Голасна рыкаюць.

Знае ён і тым шчаслівы,—
Край залечыць раны;

Паязды вязуць імкліва
Скарб адваяваны.

Бачыць ён — людзей багата
Па шляхах вандруе...
Сустракаюцца салдаты,
Ветліва жартуюць:

— Многа Гітлер нахапаўся
І кароў і коней...
Ты варочайся, не баўся,
Адаб'ём, пагоніш!

— Добра,—кажа ён,— нічога,
Хоць і стараваты,
Недалёкая дарога,
Што вядзе дахаты.

Стрэну сёння да змяркання
Родную старонку.—
Ён байцам на развітанне
Паіграе звонка

Ды ідзе сабе па свеце,
Ціха разважае:
Недзе ўнукі, недзе дзеці
Малака чакаюць.

Па шляхах ляжыць адлега,
І здаецца быццам,
Што трава пад пульхным снегам
Стала варушыцца.

Чуе ён — з вясной прыгожай,
Залатымі днямі,
З гэтым статкам над Бярозай
Пойдзе мурагамі.

## ДАРОГА САЛДАТА

Дарогай вайсковай,
Пуцінай цяжкою
Прайшоў ён дахаты
Скрозь полымя бою.
Заныла ад болю
Салдацкае сэрца —
Не выпала доля
З каханай сустрэцца.
Ні звонкага саду,
Ні светлай хаціны,
Ні доўгачаканай
Бялявай дзяўчыны.
А толькі вятры
Праімчаліся з плачам,
На вуснах пакінуўшы
Попел гарачы.
Пакляўся наш воін
Тады прад заранкай,
Што прыйдзе дахаты
Ён разам з каханкай.
З той хвілі
І днямі і ночкаю цёмнай
Шукаў ён дзяўчыну
За Бугам і Нёмнам.
Ішоў ён наперад
Са сцягам чырвоным.
Брылі паланянкі
З прыгнёту-палону
І ў дні дажджавыя,
І ў ночы-завеі.
Пытаў ён пакутніц,
Стаіўшы надзею:
— Мо бачылі Настачку
З вёскі Падлесся,
Што шчокі, як ружы,
Што вочы, як месяц?
Пакутніцы ціха

Шапталі з журбою:
— Ніводнай, ніводнай
Не знойдзеш такое.—
І шчыра казалі
Яму на дарогу:
— Спяшайся, наш браце,
Гаруе іх многа.—
І сёння мы бачым,
Як мужнай хадою
Наш воін праходзіць
За Віслай-ракою.
У месцы праклятым
Панурыя хаты...
Ён мусіць адпомсціць
Ім грозна, заўзята
За гора краіны,
За вочы дзяўчыны.
Адзіная сёння
Ў салдата размова —
Ён грукае ў сцены
Берліна сурова
І верыць, нядарма
Свяціла заранка,—
Ён вызваліць хутка
Сваю паланянку.

## ВОЗЬМЕМ СЕЎНІ!..

Устае наш дзень вясенні
З перамогай на заходзе.
Возьмем сеўні,
Возьмем сеўні,
Час на поле нам выходзіць!

Грайце ж вы, вятры-гарністы,
Шмат герояў стрэнуць хаты,
Зернем чыстым,
Зернем чыстым
Загудзіць наш край багата.

Чуем родных, сэрцам чуем —
Хутка вернуцца шляхамі.
Рунь густую,
Рунь густую
Ім рассцелем дыванамі.

## ДАВАЙЦЕ РАМОЎКІ НАЛАДЗІМ

Давайце рамоўкі наладзім,
Каб роілі пчолы вясною,
Каб ліпы ў расквечаным садзе
Шумелі крылатай сям'ёю.

Каб кветак вясновых багацце
Злілося з гамонкай пчалінай,
Каб пахі з усіх сенажацяў
Сышліся да новай хаціны.

І мы, што змагаліся мужна,
Рупліва засеем загоны
Таксама з'яднана і дружна,
Па тым жа адвечным закону.

## ПРАЧНУЎШЫСЯ РАНА...

Прачнуўшыся рана, пайшоў па ваду я
Яшчэ на світанні,
Сустрэў ля крыніцы бярозку малую,
Як некалі раней.

Што сталася з белым бярозавым плаццем?
Мне пала на вока —
Шрапнельны асколак кару пашкумаціў,
Параніў глыбока.

Чакала і ты нас, бярозка, аддана,
Як сэрца дзяўчыны.
Я раны агледзеў, спавіў іх старанна
Чысцюткай хусцінай.

Прайшла, адшумела зямлёй навальніца,
Ты раны залечыш,—
Хай лісце зялёнае шэпча з крыніцай
Пра нашу сустрэчу.

## ВЕСНАВОЕ

Пакрыліся пожні
Зялёнай травою,
Вясна нас вітае
Сваёю красою.

Ідзём за плугамі
Мы, вольныя людзі,
Свабодна
уздыхнуўшы
На поўныя грудзі.

Ад ворагаў лютых
Адбілі багацце.
У кожнай расінцы
Нам свеціцца шчасце.

Не топча палеткі
Захопнік-чужынец,
Для нас расцвітаюць
Сады па краіне.

Мы сеем на полі
Вясновымі днямі
І зноўку будуем
Дамы за дамамі.

І сонца ўзнялося
Над намі высока,—
Ваююць героі
Далёка, далёка...

Ім бліжай і бліжай
Да мэты дарогі —
Апошнія крокі
Да ўсёй перамогі.

І болей ніхто нам
Жыцця не атруціць,

Ніхто не пакрыўдзіць,
Ніхто не засмуціць.

А воінам храбрым
Ёсць песня такая:
Што мы вас дадому,
Дахаты чакаем.

Чакаюць вас дзеці,
І жонкі, і маці,
Чакаюць дубровы
І яблыні ў садзе.

Чакаюць азёры,
Чакаюць крыніцы,
Чакаюць над борам
Вясёлкі-зарніцы.

## НАСТАЧКА

Ноч вясновая каротка.
Спіцца Настачцы салодка.
Вецер ходзіць ля акон,
Сніцца ёй прыгожы сон —
Карагоды ля ракі,
І падружкі, і вянкі,
І сукенкі новыя...
Смачны сны вясновыя!
А пад ранне, ледзь чутно,
Быццам грукнуў хто ў акно,
Задрыжала хатачка...
Разважае Настачка —
То дзятлы ў сасонніку,
То каліна голлейкам,
То каменнем рэчанька...
Не прачнецца дзеўчынка,—
Спіць, не ведае дакукі...
Толькі хтосьці больш пагрукаў,
Ці па небу громамі,
Ці па бруку коламі.
Сон ад ложка адлятае,
Прачынаецца малая,
На акно ўглядаецца:
— Хто такі? — пытаецца.
Раптам як узнімецца
Ды да вокнаў кінецца,
Сэрца ледзь не страціла:
За акном пабачыла
Твар з чырвонай зоркаю,
З роднаю гаворкаю:
— Адкрывай жа хатачку,
Я твой тата, Настачка!
З перамогай, Настачка!

## ЗНАЁМАЯ ДАРОЖКА

Дзе б я ні быў далёка,
У сэрцы ты жыла,
Знаёмая дарожка
Да роднага сяла.

Мне не забыцца ранку
Прыгожаю вясной,—
Хадзілі мы з каханкай
Дарожкай залатой.

Вясна тады спявала,
І шчокі ў нас цвілі,
Мы сонечнай дарожкай,
Здавалася, ішлі.

Калі ж устаў над краем
Ваенны, грозны год,
Дарожкай палявою
Адходзіў я на фронт.

І ў бойцы ці ў спачынку —
У сэрцы ты жыла,
Любімая дарожка
Да роднага сяла.

Сягоння перамога,
Прыйшоў жаданы час!
Знаёмая дарожка
Вядзе дадому нас!

## СЯБРЫ ФРАНТАВЫЯ

Маўчаць кулямёты,
І міны не выюць.
Гарматы сваё адгулі.
Хлапцы баявыя,
Сябры франтавыя,
Мы ўсе з перамогай прыйшлі.

З баямі цяжкімі
Прайсці да Берліна,
Радзіма, паслала ты нас.
Па роднай краіне,
Па любай дзяўчыне
Мы ўсе сумавалі не раз.

Паднімем жа чаркі
Сям'ёю адзінай
За матак, сясцёр і братоў,
За нашу хаціну,
За сэрца-дзяўчыну,
З якімі мы стрэліся зноў.

Дык вып'ем, каб моладасць
Зноўку гуляла,
Каб праўда на свеце жыла,
Каб сонца іграла,
Каханка спявала,
Каб наша радзіма цвіла!

Маўчаць кулямёты,
І міны не выюць.
Гарматы сваё адгулі.
Хлапцы баявыя,
Сябры франтавыя,
Мы ўсе з перамогай прыйшлі.

## МЫ НЕ ЗАБУДЗЕМ ВАС!

У родны край прыйшлі мы зноў,
Дзе радасна жылі.
Сябры, успомнім пра сяброў,
Пра тых, што не прыйшлі.

Іх на дарогах франтавых
Хавалі маладых.
Пад Сталінградам і Масквой
Вятры пяюць аб іх.

Прайшлі яны паміж віхур,—
Берлін варожы паў.
І шумнай хваляй Порт-Артур
Героям чэсць аддаў.

У бітвах палі змагары
За вольны светлы час...
Дык спіце ж, воіны-сябры,
Мы не забудзем вас!

## НАРОДНАМУ ПАСЛАНЦУ

Мы ідзём выбіраць.
Яшчэ раннія вельмі часы.
Хай на вуліцах змрок,
Многа ў сэрцах затое святла —
Сёння свята у нас.
Мы табе аддаём галасы,
Каб іх сіла з табой
І жыла, і расла, і цвіла!
Пра цябе паміж нас
Весці слаўныя здаўна прайшлі.
З намі ў шчасці ты быў
І ў часіны суровых нягод.
Ты радзіўся, узрос,
Гадаваўся на гэтай зямлі,
Лепшым сынам цябе
Называе свабодны народ.
Гэта ты заслужыў.
Ты заўсёды з народам ішоў,
Для яго працаваў
І аддавасць адзначыў крывёй.
Будзеш ты у Крамлі,
У вялікай сям'і пасланцоў
Ад палёў, гарадоў,
Ад магутнай Радзімы усёй.

## ЗВАРОТ МУЗЫКАНТА

Прыйшоў салдат ў свае Падліпкі,
У дом на ўскраіне сяла.
Ён моўчкі зняў са сценкі скрыпку,
І песня ў свет за ім пайшла.

З-пад пальцаў рук яго шурпатых
Ўставаў малюнак не адзін:
То паднімаліся Карпаты,
То мчаў Дунай удалячынь.

То чэзлі ў дыме бітвы каскі,
То сонцам слаўся краявід,
То бегла дзеўчынка па краскі,
То маці плакала наўзрыд.

Прыйшлі к яму суседзі з хатаў
Ды пачалі яго пытаць:
— Скажы, ў якіх майстроў выдатных
Ты навучыўся так іграць?

Салдат зайграў адменным складам,
Аж завіхнуўся смык-пяюн,
Ён адказаў сваім паглядам,
Душою скрыпкі, звонам струн.

— Мяне майстэрству навучылі
Шляхі паходаў франтавых;
Я чуў, як ветры галасілі
Над сном таварышаў маіх.

Падслухаў гоман я нязвычны,
Што плыў дарогамі вайны,
Я чуў, як граў струмень крынічны
Ў салдацкіх кубках бляшаных.

Я чуў — ад ран бары гудзелі,
Падгледзеў ў час начных гадзін,

Як слёзы месяца віселі
На голлі сосен і ялін.

Я чуў, як свет ад шчасця плакаў,
Калі пабачыў вольны сцяг,
Я чуў, як воіну падзяку
Шаптала поле ў каласах.

Я чуў, як птушкі нас віталі
І ясны ўсход, пражыўшы ноч.—
Замоўклі струны.
Ўсе маўчалі.
А ў музыканта слёзы з воч.

# БРАТ І СЯСТРА

З далёкіх паходаў вярнуўся Крушына.
Не стрэўся з дачкою,
Не ўбачыў ён сына,
Бо хлопца схавалі дняпроўскія хвалі,
А дзеўчыну карнікі ў лесе скаралі.
З баямі дарога,
Цяжкая дарога.
Вярнуўся Крушына,
Прыйшоў да парога,
А ў сэрцы жалоба,
А ў сэрцы трывога.
Застаўся Крушына адзін у хаціне.
Каб вечна аб дзецях жылі ўспаміны,
Схадзіў ён да лесу па клён і рабіну,
Прынёс, пасадзіў іх пад ціхай страхою,
Карэнні паліўшы бацькоўскай слязою.
Прыйшоўшы да бацькі з падлеснай даліны,
Расці прыняліся
І клён і рабіна.
Наскочыла восень —
Марозная просінь,
Сады пажаўцелі,
Лісты паляцелі.
Наскочыла восень,
Буй-вецер загушкаў,
Пытаецца бацька
Ў любімай дачушкі:
— Дзяўчынка-рабінка, з уборам чырвоным,
Напэўна, дачушка, сягоння сцюдзёна? —
Да нізкай хаціны
Пад крык жураўліны
Схіліўшы галіны,
Шапнула рабіна:
— Ой, татачка, тата, не жалься багата,
Бо цёпла мне, тата, ля роднае хаты.
Нагрэлася я ля агнёў партызанкай.
Ты глянь, я чырвона і ўвечар і ўранку.—

Па белай дарозе
Прыбеглі марозы,
Мятлюга задзьмула,
Зіма агарнула.
Зіма закавала
Ручайкі ў ільдзіны.
Пытаецца бацька
Ў любімага сына:
— Каторы дзянёчак мароз, як званочак,
Напэўне, замёрз ты, кляночак-сыночак? —
На шэрым світанку,
Прынікшы да ганку,
Пад ветраў гамонку
Клён выказаў звонка:
— Не бойся, мой тата, не страчу я сілы,
Зіма цёплай коўдрай мне ногі накрыла.
Нагрэўся я ў бойках, цяпер не скалею,
Ты ж бачыў увосень, як я палымнею.—
З вялікім разгонам
На крыллях зялёных
З чаромхаю белай
Вясна прыляцела.
Вясна прыляцела
З прыгоршнямі кветак.
Пытаецца бацька
Ды ў двух сваіх дзетак:
— Спяваюць дубровы, зялёныя долы.
Скажыце мне, дзеці, ці ў сэрцы вясёла? —
Расправіўшы вецці,
Сказалі ўдвух дзеці, расцвіўшы на сонцы,
Шапнулі ў аконца:
— Нам добра сягоння, з табою гамонім,
Цябе мы ад спёкі сабою заслонім,
Заслонім лістамі ад дожджу касога,
Ад гора ліхога, ад вока благога,
Хай бачаць, хай знаюць, хай ведаюць людзі:
Мы, дзеці, з табою заўсёды мы будзем!

## РАЗВІТАЛЬНАЕ СЛОВА

Дамоў вас чакалі. І з кожнае хаты
Глядзелі трывожна на шлях, на гасцінец
То маці, то жончыны вочы. Вас звалі
Дзіцячыя твары двума васількамі.
Дамоў не прыйшлі вы. Пад выбухі залпаў
Вы храбрымі палі. Мы вас не забудзем!

Вы храбрымі палі. Мы вас не забудзем.
Вы з намі, пакуль неўгамонныя сэрцы
Не сціхнуць ў нас біцца, пакуль наша сонца
Высока-высока плыве над зямлёю,—
Вы ў шуме сасновым, вы ў звоне крынічным,
Вы ў гомане лісця, вы ў гуле азёрным!

Вы ў гомане лісця, вы ў гуле азёрным,
Як быццам зусім не было ў нас растанку.
Нам помняцца вашы суровыя твары,
Паходныя ранцы і пыл на дарогах,
Высока пад небам чырвоныя сцягі...
Мы помнім, як трубы трубілі трывогу.

Мы помнім, як трубы трубілі трывогу,
Як сэрцы ад болю цвярдзелі, што камень,
А вы, адыходзячы строем за строем,
Усе нагатове трымалі вінтоўкі,
Мы помнім, як кветкі ляцелі на каскі...
А з захаду лезлі крывавыя хмары.

А з захаду лезлі крывавыя хмары.
Маланкай шугалі, гулі перунамі.
Ішлі вы шляхамі і скарб уцякацкі,
Што быў раскіданы, абходзілі з болем.
Між трупаў жанчын і дзяцей на дарозе
У полымя бітвы ішлі вы рашуча.

У полымя бітвы ішлі вы рашуча,
А сэрца не знала ні хвілі спакою,

Бо кожны з нас думаў: а хто там за плугам,
Хто молат падыме, хто стане з касою,
Ці хопіць умельства, ці хопіць ім сілы?
Адно суцішала,— народ наш магутны.

Адно суцішала,— народ наш магутны,
Што дзеці яго не ўпадуць ад адчаю,
Народ іх прыгрэе, народ іх навучыць,
Усюды па цэхах, па полі, па стэпах
Ён стане за працай вялікай сям'ёю.
І вы адчувалі,
што крэпасць за вамі.

І вы адчувалі, што крэпасць за вамі.
Вы ў бітву ўступілі, не знаючы страху.
Ды вас было меней, чым ворагаў зграя,
Балюча было вам назад адыходзіць
І кожнае поле і шлях на расстанні
Слязой палівадь і сваёю крывёю.

Слязой палівадь і сваёю крывёю
Палеткі, дзе жыта, як звон, гаманіла,
Ды кожны хаваў запаветную думку:
«Чакай жа, радзіма саберыцца з сілай,
Мы ворага скрышым, мы ворага знішчым,
Спусціўшы галовы, не прыйдзем дахаты».

«Спусціўшы галовы, не прыйдзем дахаты»,—
Сказалі сабе вы і слова стрымалі.
Браты падаспелі да вас на падмогу,
З'ядналіся разам, патроілі сілы,
Ударылі громам пад роднай Масквою.
Часіна суровай расплаты настала.

Часіна суровай расплаты настала —
Гарматы маланкамі сыпнулі ў неба,
А вы, сваю помсту ў грудзях запаліўшы,
Паўзлі між снягамі, ўзляталі арламі —
Ад роднае нівы, ад бацькавай хаты,
Жыцця не шкадуючы, ворага гналі.

Жыцця не шкадуючы, ворага гналі.
Калі ж ён упарта не сходзіў з дарогі,—
Вы білі таранам яго самалёты,

Вы смерцю сваёй амбразуры сцішалі,
Сабой рвалі танкі, бо ведалі добра:
Нічога няма даражэй за Радзіму.

Нічога няма даражэй за Радзіму,
За тую зямлю, дзе хадзіць навучыўся,
За неба, якое з калыскі пабачыў.
Вы плакалі сэрцам і ў бітву цяжкую
Ішлі без вагання, хоць вы адчувалі,
Што суджана многім дамоў не вярнуцца.

Што суджана многім дамоў не вярнуцца,
Да долу прыпасці і больш не падняцца,
Апошні раз бачыць над пушчамі сонца...
Вы палі, адбіўшы муры Сталінграда,
Палі Украіны, лясы Беларусі,
Вы палі, прыкрыўшы свабоду грудзямі.

Вы палі, прыкрыўшы свабоду грудзямі.
Вам сталі на свеце апошнім прыстаннем
Шырокія рэкі, ручайкі малыя,
Палі ў красаванні, дарогі ў завеях,
Гаі і дубровы, бары векавыя,—
На ўсіх неабсяжных і родных прасторах.

На ўсіх неабсяжных і родных прасторах
Вятры вам спявалі апошнюю песню,
Не свечкі свяцілі ў галовах, а зоры,
На варце стаялі яліны і сосны,
Схілялі галовы дубы векавыя...
І ўсіх вас да сэрца зямля прытуліла.

І ўсіх вас да сэрца зямля прытуліла,
Расою абмыла, прыкрыла лістамі,
Рассыпала краскі на вашых курганах.
А сонейка ўзыдзе і покуль не зойдзе,
А выблісне месяц і покуль не згасне,
Вы з нашых не сходзіце мараў і думак.

Вы з нашых не сходзіце мараў і думак,
Ці выйдзем вясною мы ў поле з сяўнёю,
Ці к рэчцы дзяўчаты ідуць на Купалле,
Ці зберуцца хлопцы пайсці на ігрышча —
Мы чуем ваш поступ і вашу гамонку...
У кожную хвілю заўсёды вы з намі!

У кожную хвілю заўсёды вы з намі!
Вы ў сініх задумных вачах хлапчуковых,
Ва ўсмешцы дзяўчынкі са школьнае парты,
У бронзе на зноў адбудованых плошчах,
У новых гудках параходаў, заводаў —
Ва ўсім, чым жыве наша маці-Радзіма.

Ва ўсім, чым жыве наша маці-Радзіма,
Ёсць вашая думка і вашы жаданні.
Мы ўсе вашы мары як след абаронім,
Сынам вашым, дочкам мы будзем бацькамі,
Мы ў сэрцы хаваем і помнім заўсёды —
Вы смерцю сваёй нам жыццё даравалі.

Вы смерцю сваёй нам жыццё даравалі,
Ваш сцяг узнялі мы угору высока,
Адзін да другога пасталі мы шчыльна,
Каб з думкай пра вас у шляху не спыняцца,
Бо знаем на свеце адну неўміручасць —
Такую, што смерцю жыццё нараджае.

## ПАРК ПЕРАМОГІ

На ўзгорку
Побліз ціхае ракі
Мы пасадзілі стройныя таполі,
Каб срэбрам лісця праслаўлялі волю
Пад сінім небам нашым праз вякі.

Раўнюткімі радамі
Па краях
Мы пасадзілі белыя бярозы,
Няхай шумяць,
Што больш ніколі слёзы
Не заблішчаць у матак на вачах.

А на дарожкі,
На алеі скрозь
Прыйшлі яліны, яблыні і клёны,
Няхай пад іхнім
Гоманам зялёным
Спявае сёння наша маладосць!

## ДЗЕНЬ МОЙ

Дзень мой, ты апаўдні,
І ў прасторах абуджаных —
Толькі мне перайсці,
Колькі мацяю суджана.

Дзе спынюся, калі,
За якою бяседаю,
Ды ніколі аб тым
Мне ніхто не паведае...

Можа, ведала ўсё
Сэрца добрае матчына
Ды прасторы-палі
І бары на Вушаччыне.

Што ж ты зробіш, палі
Многа раз пераворваны,
І не кажуць бары,
Быццам кім загаворваны.

Мабыць, тайна мая
Дзесьці добра прыхована,
Што ж, я столькі прайду,
Колькі мне наканавана.

Я прашу у бароў,
Хоць зусім не па звычаю,—
Год, што ў горы прайшлі,
Мне ў жыццё не залічваць.

Каб, як можна было
Па загаду вясноваму,—
Стаць ізноў юнаком,
Перайсці ўсё па-новаму.

Каб дарога у свет,
Што абрус, была выслана —

Мала ж бачана мной
І нямнога напісана.

Шмат у нас гарадоў,
Шмат яшчэ паўзнімаецца —
Толькі ў кожным пажыць
Мне па году жадаецца.

Чуць бясконца ў палях
Ветраковыя гоманы,
Сотню раз пераплыць
Па Бярозе і Нёману.

Мне б самому пазнаць
Свет пуцінамі рознымі,
Хоць бы раз праплысці
Акіянамі грознымі.

І ў прыгодах цяжкіх
Не сагнуцца, а выстаяць,
Ды вярнуцца дамоў
У сады шумналістыя.

Слухаць гоман галля
Пад спагаднаю просінню,
А пасля і даспець,
Быццам яблыку ўвосені.

Згодзен пасці на дол,
Толькі з тымі умовамі,
Каб як зерню ўзрасці
Зноў з дажджамі вясновымі.

## ДУМЫ ПРА МАСКВУ

Ясна зоры твае прамянеюць,
Поўна дум пра цябе галава.
Кожны з нас цябе маці назваў,
Мабыць, лепей ніхто не сумее,—
Нашых сэрцаў вясна і надзея,
Сонца свету — сталіца Масква!

Ярка, ярка святло тваё свеціць,
Цяжка зоры твае апісаць,
Што, як месяц чырвоны, гарацъ.
Шмат прыгожых ёсць месцаў на свеце,
Шмат цудоўнага можна прыкмеціць,
Толькі з чым мне цябе параўнаць?

Ты, Масква, сэрца любай Айчыны,
Маці нашым усім гарадам,
Як ты дарага, родная, нам —
Беларусу, літоўцу, грузіну,
Латышу, чувашу, армяніну —
Ўсім тваім незлічоным сынам.

У цябе нечуваная сіла,
Поступ дужы, узлёты арла,
Ты з нядолі усіх узняла,
Ты нам вочы да шчасця раскрыла,
Ты да сэрца свайго прытуліла
І ў жыццё нам дарогу дала.

Дык прымі ж ты паклон наш глыбокі,
Што спрадвечных пазбавіла бед,
Ты усіх нас вяла ў барацьбе.
Я падслухаў у сосен высокіх,
У крыніц, у блакітных аблокаў,
Як пяюць яны славу табе!

Ты магутнаю крэпасцю стала,
Калі вораг узнік прад табой,

Ты ўзнялася магутнай сцяной,
Нас адных,— не адных, гэта мала! —
Чалавецтва ты ўсё ратавала
Ад пакутнае смерці цяжкой.

Помню — восень з вялікаю золлю,
Да тваіх падышоўшы варот,
Што удаў, абкружаецца фронт...
Колькі гора было, колькі болю...
Мабыць, мы не забудзем ніколі
Той цяжкі,
акрываўлены год!

Не забыць пра жахлівыя рэчы:
Мерцвякоў адубелых пласты,
Узарваныя хаты, масты,
І ўначы між крыві чалавечай
Падмаскоўя пажары, галечу...
Толькі ў бітве не гнулася ты.

Наш народ у сыноў сваіх верыў,
Бачыў полымя ўзбуджаных воч.
Кожны з іх быў памерці ахвоч,
Каб разбіць і прарвацца наперад,
І бацькі і сыны-піянеры
Працавалі на фронт дзень і ноч.

Узняліся з народа героі,
Сонца нашае помсты ўзышло,
Загудзела ў палях, загуло,
Вораг паў пад сталіцай Масквою.
Толькі сэрца не знала спакою —
Шмат радзімы ў палоне было.

Мы свой кут у слязах пакідалі,
Да цябе нас твой голас пазваў,
Ты усіх нас прыгрэла, Масква!
Мы ў сталіцы жылі, працавалі,
Кожны ведаў, што ў ёй існавалі
Беларусь, Украіна, Літва...

Ты, Масква,
з добрай матчынай ласкай
Паказала кірунак нам свой,

Ты натхніла народы на бой,
Каб разбіць чорны зброд акупанцкі...
Прытуліла наш штаб партызанскі,—
Гаманіў ён з палоннай зямлёй.

Дзякуй, родная, шчырым клапотам!
Мы ўзнімаліся ў тыя часы.
Баявыя раслі галасы —
Праз успышкі маланак, грымоты
Адыходзілі ўноч самалёты,
Везлі зброю ў густыя лясы.

Партызаны віталі іх шчыра,
Самалёт жа, вяшчун іх жывы,
Зноў праз ночы ляцеў да Масквы,
І ў сталіцу, што ў сонечны вырай,
Ён прывозіў з бароў камандзіраў
Атрымаць там загад баявы.

Было радасна з імі спаткацца —
Ноч гамонкі, ні хвілі на сон;
Свой куток быў нам добра відзён,
Скажуць нам, што зрабілася ў хаце,
Ліст дадуць ад любімае маці
Ды звязуць на радзіму паклон.

Шмат ляжала на грудзях цяжару,
Што ў палоне ўскарміўшы нас дом,
І прастор палявы з бальшаком,
І бары, і паляны-імшары...
Колькі раз з неўміручаю марай
Мы над Нёмнам былі і Дняпром.

І былі нашы мары пачуты,
Узмацняўся народ з кожным днём,
Надыходзіў фашыстам разгром.
Сталінград адплаціў за пакуты —
І маскоўскае неба салюты
Асвяцілі праменным святлом.

Моцны, дужы, падобны да грому,
Мы пачулі, Масква, голас твой:
— Беларусь пад чырвонай зарой!
Разам з войскам пайшлі мы дадому,

Што на крыллях ляцелі, вядома,
Ды цяжкім быў растанак з табой.

Цяжка, цяжка было развітацца,
Шмат было па табе ў нас тугі,
Ды чакалі свае берагі,
Ты была нам як родная маці —
Любы нам твае вуліцы, пляцы,
Кожны камень нам твой дарагі!

Мы вярнуліся ў нашы мясціны,
Гарады нашы сталі радзей,
Толькі рук мы не склалі ў нудзе,
Зналі мы, што паднімем з руінаў,
Адбудуем,
услвавім краіну,
Што Масква дапаможа ў бядзе.

І Масква нам пасобіла многа,
З ёю кожны наш дзень устае,
З ёй ўзнімалі мы нівы свае.
І калі па шляхах і дарогах
Прыляцела вясной перамога,
Прыгадалі мы плошчы яе.

Прыгадалі іх гул ўсхваляваны,
Чалавечага мора прыбой,
Сцягі радасці над галавой,
І ў шарэнгах, што шчасцем з'яднаны,
Масквічоў і масквічак адданых,
І агні над Масквою-ракой!

Сёння нашы прасторы — бязмежжа —
Славу роднай сталіцы пяюць.
Моцна зліты вялікі Саюз!
Чулі заклік ад Спаскае вежы
І Памір і лясы Белавежы,
За радзіму ўставалі сваю.

Зноўку дзень нам узняўся шчаслівы —
Пазбыліся нядолі, жуды,
Зноў разводзім свае мы сады
І, працуючы ўпарта, маўкліва,

Засяваем шырокія нівы
Ды будуем свае гарады.

Мы працуем уважліва, дбала,
Каб народ наш ўзнімаўся і рос,
Каб не ведаў галечы і слёз,
Каб у золаце поле шаптала,
Каб увысь узляталі кварталы,
Каб шумелі бары да нябёс!

Будзь жа слаўна на вечныя годы,
Нельга сэрца ў любові стрываць,
Поўна дум пра цябе галава,
Да цябе ўсе хінуцца народы,
Што ад сэрца спяваюць заўсёды:
Слаўся, наша сталіца Масква!

## ПОМНІК

Бор нам сумна хістаў галавой,
Апускаліся нізка аблокі.
На кургане
Пад гонкай сасной
Мы паставілі камень высокі.

Нізка слалі бярозы лісты,
Быццам знала пра нашую страту.
Мы ж пад зоркай
На камені тым
Напісалі журботную дату.

Хай жа знаюць малы і стары
І, праходзячы, схіляцца шчыра,
Што пад ім
Пахаваны сябры,
Партызанскія два камандзіры.

Каб, здаецца, магчыма было,
Сам бы лёг,
А герояў узняў бы —
Камісара Алеся Бусло
І Бакуру — начальніка штаба.

Помняць іх на дарогах вятры
І далёкія сінія зоры,
Налібоцкія
Пушчы-бары,
Палачанскія нашы азёры.

Як не спалі яны па начах,
Вызваляючы край ад прымусу,
Як вадзілі яны
Па шляхах
Нас на бой за зямлю Беларусі.

Праклялі мы бязлітасны лёс
І глыбока былі засмучоны —

Смерць прыйшла ім,
Калі да нябёс
Развінуўся наш промень чырвоны.

Да спаткання, здавалася, міг,
Мы ўжо воклічы братнія чулі.
На апошняй вярсце
Да сваіх
Іх скасіла нямецкая куля.

Пахавалі на роднай зямлі
Двух герояў з вялікай пашанай
І з гвардзейцамі
Разам пайшлі
Побліз іх на заход партызаны.

Змоўклі бітвы. Развеяўся дым.
Адгрымелі часы баявыя.
Мы ля помніка
Моўчкі стаім,
Прыгадаўшы паходы былыя.

Спяць сябры. Іх спакойныя сны
Мы прыкрылі вянкамі густымі.
Мы б хацелі,
Каб чулі яны,
Як смуткуе радзіма над імі!

## НЕ БУРА НАМ СТРЭХІ САРВАЛА

Не бура нам стрэхі сарвала,
Не ветры павыбілі шыбы,—
Чужая, ліхая навала
Разбурыла нашы сялібы.

Шмат катаў насунула з ёю,
Дзе д'яблаў такіх нараджалі?
Ля вогнішчаў смерці людское
Як блазны яны рагаталі.

Якія ваўчыныя спевы
Спявалі ім лютыя маці?
Тут кожнай былінкай і дрэвам
Зямля ім узнесла пракляццe.

Нам выпала праца цяжкая,
Не зналі мы гэткай віхуры,
Ды зноўку мы сцены ўздымаем,
Заклаўшы надзейны падмурак.

Мы сёння свабодныя людзі,
Над намі блакітнае неба,
Але мы таго не забудзем,
Што пільнасць — ёсць наша патрэба.

Што час наш на свеце суровы,—
Ён кінуў прад намі руіны,
І, ставячы сёння будовы,
За кожнай мы сочым хмурынай.

Прасочым, дзе зброя узнята,
Бо ў сэрцы глыбока запала,
Што з нашай сядзібы і хаты
Не бура нам стрэхі сарвала...

## КАБ МНЕ СТАЦЬ...

Каб мне стаць калі сасною
На гары высокай
І зялёнай галавою
Закранаць аблокі,
Падлічаць на небе зоры,
Гаманіць з вятрамі,
Аглядаць кругом прасторы,
Што шумяць жытамі.

Каб мне стаць калі крыніцай
На зялёным доле,
Каб ніхто вады напіцца
Не мінаў ніколі,
Каб прыходзілі, гадалі
Да мяне багата,
Што ў люстэрка, паглядалі
Слаўныя дзяўчаты.

Стаць бы мне зялёнай пожняй,
Дзе б збіралі краскі,
Калі ж гэтага няможна,
Згодзен, калі ласка,
Хоць трысцём ці асакою,
Хоць былінкай стацца...
Толькі б з роднаю зямлёю
Век не разлучацца!

## НАРОДНАЕ ДЗЯКУЙ

Народнае дзякуй Маскве, Ленінграду,
Сібірскім прасторам, вышыням Урала,
Расіі вялікай, сыноў што паслала
Зямлю Беларусі адбіць ад нападу,
Ад смерці прыгоннай,
Ад чорнай навалы.
І ворага збілі суровай атакай.
Расіі вялікай — народнае дзякуй!

Паклон вам, паклон вам, дняпроўскія хвалі,
І Кіева вежы, і ўзгор'і Карпатаў!
Вы ворага гналі з уласнае хаты,
Але вы ў нядолі сястры не кідалі.
Мы біліся з ворагам
Разам, упарта,
Не раз мы знішчалі паганцаў ўсялякіх.
Сястры Украіне — народнае дзякуй!

Вітанне, вітанне Казбеку, Эльбрусу,
Хрыбтам Ала-Тау, Паміру сівому!
Джыгіцкая слава іх добра вядома
У бітве за дом і зямлю беларусаў.
Мы ворага разам вялі
Да разгрому...
Усёй неабсяжнай радзімы ваякам
Мы шлём прывітанне — народнае дзякуй!

## КАМСАМОЛЬЦАМ БЕЛАРУСІ

Вы маці-Радзіме ўсім сэрцам аддані,
Прайшлі гераічны, праслаўлены шлях —
Сябе вы адзначылі працай старанай
І гордым бясстрашшам у грозных баях.

Вы моцныя духам, ваш гарт бальшавіцкі,
Вы разам з бацькамі ішлі, змагары;
Народ не забудзе, як Міша Сільніцкі
Зямлю ад навалы грудзямі прыкрыў.

У дні непагоды ў паходах суровых,
У бітвах юнацкая слава расла;
Народ не забудзе, як Рыма Шаршнёва
За край свой любімы жыццё аддала.

Народ не забудзе ніколі герояў,
Іх спраў неўміручых ў часінах цяжкіх;
Усталі з вас волаты Лаўскага бою
І смерцю сваёй ратавалі жывых.

Калі ж на прасторы прыйшла перамога
І сонечны дзень над краінай ўзышоў,—
Мы бачым вас мужных на новых дарогах,
На ўсіх рыштаваннях вялікіх будоў.

## КАВАЛЬ

У добрым калгасе бліз Нёмна сівога
Я знаў аднаго каваля маладога.
На волас чарнявы,
Высокі, рахманы,
Ды толькі не з гэтага
Меў ён пашану.
Не зоркім паглядам, не постаццю гнуткай
Праславіўся хлопец,—
Праславілі рукі!
Мне нават сказалі ў калгасе аднойчы:
— Ён выкуе месяц, як толькі захоча,
Павесіць паўноччу на белай бярозе,
Каторы сапраўдны — ніяк не адрозніш! —
Не знаю,
Ці праўду казалі мне людзі,
Не знаю,
Няхай жа па-іхняму будзе!
А толькі адно вам сцвярджаю сягоння,
Што ў кузні ён з ранку да вечара звоніць,
Што хлопец прынадны,
Што майстра сапраўдны!
Бывала, ледзь золак засвеціць над хатай,
Прыцягнецца з плугам да кузні араты:
— Ці нельга парадзіць,
Адвал каб наладзіць? —
Як возьме наш хлопец жалеза кавалак
Ды, кінуўшы ў горан, нагрэе удала.
Здаецца, што пройдзе не болей мінуткі,
А стане жалеза, што блін той бялюткі.
А потым у момант
Змайструе, вядома,
Прыб'е адмыслова —
І плуг той гатовы!
Араты на полі баразны ўздымае
І шчодра свайго каваля ўспамінае.
Самому глядзець мне не раз давялося:
Падгоняць пад кузню благія калёсы —

Атосы на гора,
Пакрыўлены шворан,
Разбіты драбіны
Ды колы без шынаў.
Ад гэткіх агледзін не стане вясёла.
А ён толькі моўчкі бярэцца за молат,
Працуе старанна, аж пот з яго льецца,
Пакуль гэты выезд не прыйдзе да месца.
І выйшла такое —
Наклалі раз гною на гэты калёсы,
Вязуць на палетак.
А раптам як згледзяць суседзі:
— Што гэта?
Ці вы так багаты,
Ці проста вар'яты?
На выездзе гэткім
Не сорамна ў сваты! —
Аднойчы спыніўся яздок адмысловы:
Каб як за гадзіну прыладзіць падковы?
Прайшло паўгадзіны,
А можа, і меней,—
Ён іскры красаў па дарозе з камення.
Каваль што ні скажа,
Дык спраўдзіць на слове.
Хвалілі ўсе ўмельства
І спрыт кавалёвы,
Што ён і паважны і ў працы заўзяты,
А болей за ўсіх выхвалялі дзяўчаты.
Падыдуць то з гэтага боку,
То з тога,
А ён, як на злосць,
Не глядзіць ні на кога!
На жарты адбуркнецца ды адвярнецца...
Дзівіліся —
Хіба няма ў яго сэрца?
Адно толькі знае — ўсё звоніць і звоніць...
Гадалі — ніхто ўжо яго не палоніць?
Дарэмна ж,
Па часе —
Такая знайшлася!
Нікому ж дайсці да таго не прыйшлося,
Што гэта малая, бялявая Зося.
Прынесла аднойчы свой серп у дакоры.
Як глянуў каваль ёй у вочы-азёры,—

Увесь разгубіўся
Ды ў іх утапіўся.
Зацвіў, як ніколі,
Ледзь вымавіць здолеў:
— Я серп твой папраўлю, што будзе ён тонак,
Скую ж табе разам, дзяўчынка, пярсцёнак:
Прыложыш да вока —
Пабачыш далёка,
Калі ж загадаеш,
Каханка пазнаеш! —
На гэтым з дзяўчынаю ён развітаўся
Ды цэлую ночку на ложак не клаўся,
Званіў малаточкамі ноч безупынна,
А кажучы праўду, не спала й дзяўчына,
Бо грукала ў такт малаточкам, здаецца,
Дзявочае сэрца.
Калі ж яна ў кузню прыйшла раніцою,
Каваль падышоў к ёй з работай сваёю,
Паднёс ёй пярсцёнак і серп назублёны,
А потым стаяў і глядзеў улюбёны.
Узняўшы пярсцёнак,
Як глянула Зося,
Аж сэрца зайшлося!
Прыгода якая —
Каваль выглядае!
Дзяўчына аб раз не паверыла воку,
Круціла пярсцёнкам у розныя бокі,
Куды ж ні пакруціць,
Нідзе анічога —
Адно толькі бачыць
Яго маладога!
Была гэта справа, жытное як жалі,
Не знаю, папраўдзе, што сталася далей,
Адно толькі знаю — іх бачылі многа,
Бывае, ля кузні, а больш ля жытнога,
Што погляд у дзеўчыны стаў ясназорны,
Што ў працы каваль той зусім бездакорны!

## АПОШНЯЯ ЗЯМЛЯНКА

Вуглы яе дзікай травой параслі,
Па шыю схавалася ў процьму сырую,
Прыжмураным вокам
Глядзіць з-пад зямлі,
Як быццам на свет і на сонца крыўдуе.

Увойдзеш — паветра грудзям не стае,
Няйначай, ўскапана магіла якая.
Прабіліся зерні
З-пад столі яе,
Бо ў цемры таксама сядзець не жадаюць.

А побач узняўся збудаваны дом
З вясёлым паглядам, смалісты, сасновы...
А мы і зямлянку
Цяпер памянём
Зусім не благім, а прыязлівым словам.

Калі нарабіла бяздомных вайна,
Калі мы не зналі, дзе дзецца ад болю,—
Ад зімняе сцюжы
Прыкрыла яна,
Схавала ад восеньскай жорсткае золі.

Мы зналі, хоць часта у нас галава
Балела ад чаду, ад сцюжы-марозу,
Лепш поле сваё
Над сабой адчуваць,
Чым вострыя дахі засценкаў варожых.

І нас не зламалі. Як толькі вясна
Прайшла з перамогай шляхамі краіны,—
Складаць пачалі мы
Бярно да бярна
На вольных палетках сялібы-хаціны.

Над попелам зноўку ўзнялося сяло,
І хаты ласкава завуць аганькамі,

А колькі ўжо клёнаў
Пад вокны прыйшло
І ветла да шыбаў гамоняць лістамі.

Хоць многа пражыта часінаў цяжкіх,
Мы шчасце будуем рукамі сваімі.
Мы выйшлі з зямлянак.
Раскінулі іх,
А толькі вось гэту на памяць пакінем.

Хай будзе на ўскраіне заўжды відна,
Яе мы не хвалім, але і не ганім,
Хай дзецям і ўнукам
Раскажа яна
Пра наша жыццё і пра наша змаганне.

## ШПАК

Рака загудзела,
Запеніў раўчак.
Гляджу —
Заявіўся дахаты і шпак!

Стаміўся ў дарозе,
Ды дзе спачываць?
Адразу
Прытулак пачаў аглядаць.

То жоўтай саломкай,
То лёгкім пяром
За дзень
Уваслаў ён уважліва дом.

Калі ўжо на захадзе
Стала змяркаць,
Ён выйшаў на ганак
Падружку чакаць.

Прыпомніў ён горы
І морскі прыбой,
Але быў усцешаны
Ліпай сваёй.

## МАЦІ

Высока на ўзгорку,
Між сосен і хвой,
Хаціна малая
Стаіць над ракой.

Далёка дарога
З той хаты відна,
Жыве ў ёй
Старэнькая маці адна.

Праз вокны на шлях
Паглядае штодзень,—
А можа, хто едзе,
А можа, хто йдзе!

А потым падыдзе
Ціхом да сцяны —
На картках там
Дочкі яе і сыны.

Каторая — з дзіцем,
Каторы — з сям'ёй,
Каторая — ў школе,
Каторы — герой!

І маці ўздыхае,
Бо помніць яна,
Калі з іх каторы
Хадзіць пачынаў.

Яшчэ прыгадала,
І пала сляза,
Якое хто першае
Слова сказаў.

Былі яны разам
У тыя гады,

Цяпер разышліся,
Каторы куды!

Якому ж раней
Напісаці сынку?
У Кіеў,
У Фрунзе,
У Мінск
Ці Баку?

І выхад у сэрцы
Старая знайшла —
Пісала б адразу,
Каб толькі магла.

Прыйдзе лістаносец
І пісьмы падасць,
Не знае, якое
Раней прачытаць?

Ці з Омска
Ад Галі,
Ці з Фрунзе Фамы,
Ці з Бранска
Ад Валі,
Ці з Мінска Кузьмы?

І выхад у сэрцы
Старая знайшла —
Чытала б адразу,
Каб толькі магла!

Ды ўсіх прыгадаўшы
Дачок і сыноў,
Прыпомніць нямала
Яна гарадоў.

Успомняцца стэпы,
І пушчы, і бор,
І горы,
І моры,
І зорны прастор.

І ўсе гэты месціны
З ёю жывуць...

Бывае,
Што разам
Пасылкі прыйдуць.

Адкрыўшы, старая
Хвалюецца шмат:
Хто выслаў хусціну,
А хто вінаград.

І стане на сэрцы
Тады весялей
За добрыя весці
Ад родных дзяцей.

Да вокнаў падыдзе
Ўсё з думкай адной —
Часцей бы іх бачыць
У хаце сваёй!

## СЫМОНКА

Ён да працы
Прагнасць мае,
Ён і ў песнях самы звонкі,
У каго ні запытаеш,
Хваляць спрытнага Сымонку.

З першых дзён
Вайны-нягоды
Бацькі ў хлопчыка не стала —
Хоць дванаццаць год ад роду,
Гаспадарыць ён удала.

Неяк раз
Прыйшлі з калгаса,
Каб зрабіць падруб хаціне,
Дык, сякеру ўзяўшы, разам
Працаваў між іх хлапчына.

Раз прыйшоў
Дзядок рухавы:
— Дай табе гарод засею.—
Адказаў Сымон ласкава:
— Дзякуй, я і сам умею!

Наш Сымонка
Ветлы з кожным:
Ля старэйшых стане з краю.
Часам вельмі ўжо сур'ёзна
Наш Сымонка разважае.

Падбягуць, бывае,
Дзеці,
Пазавуць на гульні з крыкам.
Ён жа буркне: — Не да гуляў,
У мяне сям'я вялікая!

На лугу
Касцы сышліся
Летняй роснай раніцою,
Бачаць, аж Сымон з'явіўся
Ды з даўжэзнаю касою!

Хлапчука
Там абступілі
Ды сказалі ўважна, шчыра:
— Не, табе тут не па сіле,
Пачакай гадкі з чатыры.

Каб дзіця
Замарнавалі,—
Не такія мы суседзі!
Бацьку ж мы паабяцалі,
Што цябе як след дагледзім.

Мы йшчэ самі
Не паслаблі,
За касой паходзіць кожны.
Вось табе у рукі граблі,
І па сіле гэта можна!

І Сымон
Пайшоў лугамі
Заграбаць у копы сена,
Хоць малы яшчэ гадамі,
А працуе ён адменна.

Як на полі,
Так і ў школе —
Не згультаіць ні гадзіны.
Каб хто лаяў,
Не, ніколі!
Толькі хваляць ўсе хлапчыну.

## АРХІТЭКТАР

Між сумных кварталаў,
Між чорных руінаў
Ён ходзіць і марыць
Па цэлых гадзінах.
Мяркуе, складае
Адно да другога,
Што нават знаёмых
Не бачыць нікога.
Глядзіць, падлічае
У думках натхненна,
І ўсмешкаю свеціцца
Твар задуменны.
За грудамі друзу,
У працы заўзятай
Ён бачыць свой горад
Прыгожы, крылаты.
І ў памяці вострай
Складаюцца планы —
Вялікія плошчы,
Палацы, фантаны
І вуліцы, вуліцы
Ў руху няспынным:
Снуюць аўтабусы,
Мігаюць машыны.
Таполі і ліпы
Стаяць грамадою,
Алеі, алеі
Шумяць над ракою.
А далей,
На ўзвышшы,
Заўважыла вока —
Вялікасны помнік,
Узняты высока...
Ідзе архітэктар,
Задумай багаты,
Ён бачыць свой горад
Прыгожы, крылаты!

## СКАРБ

Балота без краю,
Куп'ё, багавінне...
Драбнюткія сосны
Застыглі ў маркоце...
Сказалі калісьці
Дзяды мне, хлапчыне,
Што ходзяць начамі
Агні на балоце.

Сказалі, што з нетраў,
З глыбокіх акопцаў,
Увысь уздымаецца
Бляск нястрыманы,
Што гэта, няйначай,
Як свецяць чырвонцы,
Што недзе ў бяздонні
Ёсць скарб захаваны.

Падрос я.
Тым скарбам цікавіўся многа.
Не раз я начамі,
Знікаючы з дому,
Сачыў за агнямі
Са дна залатога,—
Мне іх давялося
Пабачыць самому.

І годы мінаді
Услед за гадамі.
Я марыў
Пра тайныя сховы багацця.
І толькі вялікім
Дазнаўся з сябрамі,
Як трэба нам
Скарбу таго дабівацца.

Мы доўга гадалі,
Як багну пасіліць,

Было ў нас пра гэта
Нямала клапотаў,
Мы дружнай сям'ёю
Як след падлічылі
І выйшлі з рыдлёўкамі
Ўсе на балота.

Мы працай упартай
Багацця шукалі,
Ад ранку да вечара
Спіны мы гнулі —
Удоўжкі і ўшыркі
Балота капалі...
І срэбрам бялюткім
Каналы бліснулі.

А потым
Мы выйшлі усе з тапарамі,
Хіліліся нізка
Кусты галавою.
А потым
Прайшліся як след трактарамі,
І гоні пакрыліся
Чорнай раллёю.

Нарэшце
Баронамі скрозь запахалі,
А ўлетку пайшло
Красавацьь, каласіцца...
І мы дамагліся —
Той скарб адшукалі
У золаце чыстым
Паспелай пшаніцы.

## ЧАРАЎНІК

Ёсць у нас
Мікіта Баравік,
Хтось назваў аднойчы:
— Чараўнік!

А пасля на цэлае сяло
Так і загудзела
І пайшло.

А пасля ўжо
Кожны з нас прывык:
— Чараўнік Мікіта,
Чараўнік!

Так і разышлося
На калгас,
Што Мікіту гэта
Ў самы раз!

Як пасее жыта —
Што той лес,
Як пасадзіць бульбу —
Ледзь збярэш!

За гуркамі грады
Не відны,
Як шары, пад сонцам
Качаны.

Як вядома, шчасце
Ходзіць з ім,
Ды хіба ж у гэтым?
А ва ўсім!

Не сказаць,
Што хлопец вельмі хват,

Ды няма адбою
Ад дзяўчат.

Апытай сягоння
Хоць каго,
Толькі і гаворкі
Пра яго.

Вось чаму ўжо
Кожны з нас прывык:
— Чараўнік Мікіта,
Чараўнік!

## ВЯРБА НАД ВАДОЮ

Як бы засмучоная
Весткай якою,
Стаіць задуменна
Вярба над вадою.

Прыгнулася вельмі,
Як тая бабуля.
Здаецца, што й лісце
На голлях паснула.

Не злічыш убораў,
Што ў рэчку апалі,—
Гады праміпулі,
Як чоўны на хвалях.

Чаго ж яна гнецца,
Не знаючы зморы?
— Там сонца, там месяц
І ясныя зоры.

## ЗАПАВЕТНАЕ

Да роднай зямлі
Я навечна прырос
Карэннямі сосен усіх
І бяроз.

Як вецер у буру
Б'е ў вокны і дах,
Так сэрца маё
Неспакойна ў грудзях.

Як ранне вясною
Іскрыцца расой,
Так нівы я ў горы
Абсыпаў слязой.

Як шчасце між бору
Пабачыць мой зрок,—
Здаецца, ўздымаюся
Я да аблок.

Тады заспяваю,
Забыўшы бяду,
І, як па вясёлцы,
Да сонца іду.

## МАЯ АЙЧЫНА

Мая айчына —
Поле, нівы,
Над Нёманам зялёны гай,
Прыгожы Брэст і Мінск шумлівы —
Ўся Беларусь ад краю ў край.

Люблю яе бары, азёры...
Ды як бы іх ні шанаваў,
Калі б не знаў другіх прастораў,—
Напэўна б я засумаваў.

Я палюбіў навечна,
Шчыра
Алтай, Палтаўшчыну і Крым...
Ад Ленінграда да Паміра,
Радзіма, ў сэрцы ты маім!

## КАНДРАТУ КРАПІВЕ

Тваё мы знаем слова
Як зброю змагара,
Паэт і мужны воін,
Цябе вітаць пара.

Ты роднаму народу
Служыў, як толькі мог,
Прайшоў за паўстагоддзе
Нямала ты дарог.

Тваё пяро заўсёды
Навострана было,
Знішчала бруд і цемру
І славіла святло.

Заўсёды ў першых строях
Мы чулі голас твой,
А трэба — і з вінтоўкай
Ты станавіўся ў строй.

Спакойна і сурова
У час цяжкіх гадзін
Ты біўся за Радзіму,
Паэт-грамадзянін.

Ты біўся за Радзіму,
За новы, ясны свет.
Прымі ж, паэт, ад сэрца
Сягоння наш прывет.

І наша пажаданне —
Шчасліва, доўга жыць,
У працы для Радзімы
Заўжды нястомным быць.

## СМЕРЦЬ ГЕРОЯ

Хачу я, каб вечна у сэрцах жылі
Геройскія справы савецкай зямлі.
Бары векавыя, бярозавы шлях,
Праслаўце героя, праслаўце ў вяках!
Дык здымем жа шапкі, браты і сыны,—
Было гэта ў часе Айчыннай вайны:
Бліз Нёмна варожы ішоў эскадрон,
Казаха-разведчыка ўзяў у палон.
Салдатам рашыў афіцэр паказаць,
Што вельмі няцяжка з такім ваяваць.
— Ну, што ты дзічышся! —
крычыць афіцэр.—
Пра ўсё ты мне мусіш давесці цяпер.
Да гор Ала-Тау адсюль не дастаць,
Чаго ж табе гэтай зямлі шкадаваць? —
Узняўшыся горда,
Адкінуўшы страх,
Спакойна чужынцу прамовіў казах:
— Захопіце край вы на Нёмне-рацэ,
А кроў з Ала-Тау майго пацячэ;
Я гэтай зямлёю, як сын, даражу,
Нічога,
Нічога я вам не скажу! —
Ад лютае злосці збялеў афіцэр,
Накінуўся, быццам раз'ятраны звер,
За ослух казаха рашыў пакараць,
Загад даў да дуба яго прывязаць.
А сам уздымаўся над ім каршуном,
А сам пацяшаўся над ім бізуном:
— Я доўга распытваць
Не звык, не люблю,
Не скажаш,
Дык ведай:
Я горай зраблю! —
Стаіўшы нястрыманы боль у вачах,
Спакойна на гэта прамовіў казах:
— Ты ведай, чужынец,

Мне край гэты люб,
Глядзі, прад табою магутнейшы дуб;
Глыбока, глыбока карэнні ўраслі,
Глыбока прырос я да гэтай зямлі!
Я гэтай зямлёю, як сын, даражу,
Нічога,
Нічога табе не скажу! —
І вораг загад свой ізноўку аддаў —
Казаха па грудзі ў зямлю закапаў.
— Што жмурыш вачамі,
Не гневай мяне,
Яшчэ раз пытаю —
Раскажаш ці не? —
Гарачая кроў закіпела ў грудзях,
З пагардай чужынцу прамовіў казах:
— Табе не вярнуцца
Ніколі [illegible] вайны,
І выдзеўбуць вочы табе груганы...
Ну што ж, хай загіну
І я на вайне,
Зямля, мая маці,
Сагрэе мяне!
Я гэтай зямлёю, як сын, даражу,
Нічога,
Нічога табе не скажу!

* * *

І ўсё. Хай дaскажа вам бор над ракой,
Як мужна загінуў разведчык-герой!

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ,
## ХЛОПЦЫ!

Дзень добры, хлопцы!
Прыемна ранкам
За новай працай сустрэцца з вамі!
Шугаюць пілы,
Гудуць фуганкі,
Гамоняць дахі пад малаткамі.

З-пад гэбляў стружкі
Ўвесь дол заслалі,
Відаць, што ў працы вы ўсе заўзяты,
Відаць, сякеры
Да рук прысталі
Не горш, чым стрэльбы і аўтаматы.

І, як заўсёды,
Умела, шпарка
Майстрамі справы вы сталі, хлопцы!
Давай прысядзем,
Згарнём цыгаркі,
Цыгаркай неба мы не закопцім.

І вось гамонка
Ідзе між намі.
Дымок у кольцах, дымок віецца...
Пасталі хаты
Удоўж радамі,
Як бы паслухаць прыйшлі, здаецца.

А з новых вокнаў
Нібы гукалі
За новы столік хлапцоў вясёлых.
Дык вось дзе радасць,
што здабывалі,—
Свой дом і ў жыцце узгоркі й долы.

Бывайце ж, хлопцы!
Я вам жадаю
Багацця й славы у кожнай хаце;
Хай музыканты
Вяселлі граюць,
А вам — расці ды пашырацца.

## МАЛАДЗІКОМ

Я месяц пабачыў,
Сябры, мне паверце,—
Ён белы, як сыр той
На сіняй талерцы.

Заўважыў я ўночы
Сцяжынкі, што ў цене,
І хлопца з дзяўчынай
У срэбным адзенні.

Гляджу я, як дружна
Ідуць між таполяў,
І падаюць кроплі
Малочныя з голля.

Ад месяца-хціўца
Ім некуды дзецца:
Падыдуць да рэчкі —
І там ён смяецца.

Падыдуць да жыта —
І тое гамоніць:
Бялюткімі струнамі
Месяцу звоніць.

Падыдуць да яблынь —
Ды што за навіна!
Не яблыкі — зоры
Вісяць на галінах.

Над голлямі птушкі
Мільгнулі крыламі,
І зніклі за борам
Яны светлякамі.

Прыселі каханкі
У згодзе, у ласцы,
Аблітыя срэбрам,
Як быццам у казцы.

## ДЗЕЎЧЫНА З ПАЛЕССЯ

Я хачу паведаць
Пра людзей адданых,
Хай аб працы іхняй
Песня устае —
Дзеўчыну па вёсцы
Проста звалі Ганнай,
Ганначкай часамі
Клікалі яе.

Цэлы дзень у руху,
З самага світанку.
У яе заўсёды
Тысячы клапот;
Падрыўніцу Ганну,
Ганку-партызанку,
Дзеўчыну з Палесся,
Палюбіў народ.

Невяліка ростам,
Ды вяліка сіла,—
Колькі пад адхонам
Цягнікоў ляжаць...
А як з лесу выйшла,
Аўтамат змяніла,
Зноў за серп і ў поле
Выйшла жыта жаць.

І яе, папраўдзе,
Вабяць карагоды,
Ну, куды ж падзецца,
Гэта ж маладосць!
Ды сказалі Ганцы:
— Будзеш паляводам.
Адказала Ганка,
Як заўсёды: — Ёсць!

Ды пайшла на поле,
Дзень за днём арала,

Бараной зубчастай
Нішчыла быллё,
І камені ў крушні
На раллі збірала,
І глыжэўе біла,
Каб мякчэй было.

А калі пшаніцай
Забуялі долы
І пачуўся Ганцы
Гоман іх жывы,—
Дбайна даглядала,
Тры разы палола,
Аб асот калола
Рукі да крыві.

Помніць Ганка,
Помніць
Ледзяныя росы,
Як туман уранні
Слаўся паміж траў,
Як хадзіла золкам
Па узмежках босай;
Можа, толькі жаўра
Разам і ўставаў.

Колькі хвалявання,
Колькі дзён нягожых,
Колькі дум трывожных
Наганялі жах:
Білі навальніцы —
Набягалі слёзы,
А сушыла сонца —
Сохла і ў грудзях.

Толькі ўсё мінула.
Колас сакавіты
Сонца абсыпала
Промнямі святла;
Буйнае, густое
Зарадзіла жыта,
І такая слава
Па сялу пайшла:

Ганка-партызанка
Верная народу,
Спрытна з аўтаматам,
Спрытна й працаваць.
Будзе Ганцы,
Будзе,
Будзе нагарода;
Добрая дзяўчына,
Нечага казаць.

## ЛЕНІНГРАДСКІ ТРАМВАЙ

Паглядаю на трамвай сустрэчны
І сябра штурхаю,—
Пачакай:
Па Савецкай,
З надпісам сардэчным,
Ленінградскі рухае трамвай.

Ён бяжыць з вясёлымі
Званкамі,
Афарбоўкай свежай
Зіхаціць
І вакол шырокімі вачамі
На ўвесь Мінск
Уважліва глядзіць.

Я гасцю такому
Вельмі рады,
Як жывому, хочацца сказаць:
— Ты пражыў
І перамог блакаду,
І з'явіўся нам
Дапамагаць.

Дзякуй, дружа!
З Неўскага ці ўзмор'я
Ты вазіў герояў-грамадзян,
Пахадзі ж па Мінску:
Добры горад,
Я б сказаў папросту —
Партызан.

Сумны шлях
Пакуль па каляінах,
Але йдуць прыгожыя часы:
Бачыш ты,
Як сёння між руінаў
Голавы ўздымаюць карпусы.

Ты ж вазі,
Няхай працуюць людзі,
Мінску працы
На будоўлі шмат;
Хай заўсёды ў прыклад
Яму будзе
Мужны, гераічны Ленінград.

## БРАНЯВІК

Адышла, адгрукала навала,
Ленінград, ты здужаў ў барацьбе!
Бранявік з Фінляндскага вакзала,
Мы стаім з пашанай ля цябе.

Мы не чулі ленінскай прамовы,
Бо яшчэ замала мелі год,
Толькі чулі, як прабілі словы
Бронь старога свету навылёт.

Тут гады суровыя прамчалі,
Білі з неба, білі і з гармат.
Бранявік, ты з адмысловай сталі,—
Выстаяў сурова, як салдат.

Ты й цяпер заўжды гатовы к бою
І стаіш, як быццам начыку...
Мы і сёння бачым над табою
Ленінскую ўзнятую руку.

## ДОМ У ПАРОНІНЕ

Бліз Татраў, што плечы
Да неба ўздымаюць,
Гамоніць з каменнямі
Белы Дунаец.
Там слухае здаўна
Дунайца размовы
На беразе стромым
Дом ціхі, сасновы.
Ён славен навечна,
Той дом над ракою,
Са ўзорам гаральскім
Пад самай страхою.
Не выглядам славен,
Не ўбраннем багатым,—
Ён ленінскай славай
Над светам узняты.
Бо Ленін тут марыў
Пра рускія далі,
І думы вышэй
Ад Карпат узляталі.
Адсюль кіраваў ён
Патокам бурлівым,
Адсюль ён да Піцера йшоў,
Да Разліва.
Адсюль паглядаў ён
На сонца са ўсходу,
Адсюль заклікаў ён
Узняцца народы.
І выйшлі народы
Праз бітвы, паўстанні
Са сцягам ягоным
У яснае ранне.
Дык слаўся ж навекі
У думках і ў словах,
Над Белым Дунайцам
Дом ціхі, сасновы!

## ЛЯ МАЎЗАЛЕЯ

Строгі мармур, літары жывыя,
Што агнямі, свецяцца яны!..
Тут стаяць на варце вартавыя
І яліны ў срэбры ля сцяны.

Спаскай вежы стрэлак ход няспынны;
Ледзь устала ранняя зара,
Мы ў адной і нескончонай плыні
Да свайго прыйшлі правадыра.

Мы жывём усе адным жаданнем,
Хоць на сотнях размаўляем моў;
Хто з-пад Мінска, хто з-пад Ерэвана,
Хто з Паміра дальняга прыйшоў.

Мы маўчым, праходзячы радамі,
Толькі кожны думку захаваў:
Родны Ленін, мы ідзём шляхамі,
Па якіх ісці ты наказаў!

## ПЛЫТАГОН

Ільдзіны зрушыла вясна,
Ручайкамі цячэ —
Плячо ў плячо ляжыць сасна
На Прыпяці-рацэ.

Далёкі гэтым соснам шлях
З паводкаю прайсці...
Стаяць з баграмі у руках
Вясёлыя хлапцы.

Па рэках поўных, веснавых
Ім дні і ночы плыць,
Але чаго малодшы з іх
На бераг так глядзіць?

Відаць, таму, ўдалечыні
Заўважыў ён адзін —
Дзяўчыну
Ў хустцы, што ў агні,
Паміж густых галін.

І ўсхваляваны плытагон
Глядзіць на шумны гай.
Плыты адходзяць.
Шэпча ён:
— Чакай мяне, бывай!

З плытамі рушылі сябры,
А з імі,
З двух бакоў,
Плылі хаціны, і бары,
І нівы між гаёў.

Каб глянуў ўночы хто здалёк,
Здзівіла б ціш,
Спакой...

Здавалася, што аганёк
Плыве адзін ракой.

Як бы ў туманы загарнуў
Прасторы ціхі сон.
Здаецца так,
Не знае ж сну
Дасціпны плытагон.

Стаіць на варце
Пры багры,
Клапот дарогай шмат —
То завароты, то віры,
То раптам бурны спад.

Бывае, ўсходзіцца рака
І загрыміць, як гром,—
Пастануць сосны старчмака,
Гудуць, што ў буралом.

Хлапцам хапае страхаты,
Ды вынікі адны,—
Звязаўшы буйныя плыты,
Далей плывуць яны.

І зноўку тлее курадым
Над ціхаю вадой,
І зноўку ўспомніць малады
Дзяўчыну паміж хвой.

Ды хутка стрэча.
Стэп відзён,
Патрэбен ён і там —
Прывёз дарунак плытагон
Дняпроўскім берагам.

І вось пад гоманы гудкоў
Ім давялося стаць,
Як бы здалёку хто прывёў
Магутнейшую раць.

Загаманіў фабрычны двор
З ялінай і сасной,

Здалося, поўніўся прастор
Пахучаю смалой.

Нібы лясы паміж стэпоў
Шумелі да нябёс...
А плытагон?
А ён дамоў
Гасцінец любай вёз!

## ЧАТЫРЫ ШЛЯХІ

Стаяла, драмала пад звон ручая,
Махамі абросшая, вёска мая.
А з вёскі,
Дзе ліплі страха да страхі,
Ляжалі чатыры пахмурых шляхі:

Ля возера,
Бору,
Праз рэчку
І гаць,—
Каторы з іх лепшы, не мог я сказаць.

А толькі, як помню сябе я малым,
Хадзіць давялося мне больш баравым.

Да голля,
Што золкам вецер гайдаў,
Трубу берасцяную я уздымаў.

Займалася рэха вышэй галавы:
То бор адгукаўся, як быццам жывы.

Ды вечарам познім,
За статкам кароў,
Варочаўся часта я ў слёзах дамоў.

Стаяў мне нязменна
Заўсёды ў вачах
Ля возера чорны, нахмураны шлях.

Пайшоў гэтым шляхам
Мой бацька-салдат,
Пайшоў, не вярнуўся дадому назад.

Нямала прыносілі ў вёску тугі
З далёкага свету чатыры шляхі.

Нямала адгрукала
Чорных гадзін,
Ды шлях не забыць мне ніколі адзін —

За рэчкай;
Ён нам падабаўся усім,
На ўсход ён кірункам пралёг векавым.
Я помню, як коннік прымчаўся па ім.

Было гэта ўвосень.
За ім на ўвесь шлях
Гарэў, развяваўся праменісты сцяг.

А шляхам на захад,
Што звалі мы — гаць,
Прыйшлося панам і падпанкам ўцякаць.

З далёкае вёскі,
Па вольных палях,
Усіх нас да шчасця павёў кожны шлях.

Адходзілі мы і вярталіся ў дом —
Адзін трактарыстам,
Другі кавалём,
А хто аграномам, а хто лесніком.

І я, перайшоўшы
Паўсотні дарог,
Паэтам вярнуўся на родны парог.
Да сонца ўзнялася пад звон ручая
Калгасная, новая вёска мая.

Мінула ў нас многа гадоў залатых,
Тады ўзгадавалі дзяцей мы сваіх.

Ды выпалі годы
Пакутаў цяжкіх —
Чужынцы напалі.
Прагналі мы іх,

Касцямі на захад загацілі гаць;
Той шлях партызанскім мы сталі ўсе зваць.

І зноўку
Чатыры шляхі за сялом
Заліты Кастрычніцкім яркім святлом,—

Гамоняць прысадамі
З году у год,
Вядуць ў інстытуты,
Вядуць на завод
Адзіным кірункам, струменем жывым
Да самага сэрца Радзімы — Масквы.

## КАЛГАСНЫ МЕЛЬНІК

Ёсць у нас такія людзі,
Да якіх заўжды
Пашана.
Камандзір разведкі Горны
Слаўны быў між партызанаў.

Ад Барысава да Оршы
Ў кожнай вёсцы,
Кожнай хаце
Паважалі камандзіра
Ад старога да дзіцяці.

Біў ён ворагаў няшчадна
Колькі моцы,
Колькі сілы,
Ды нямецкая блакада
Камандзіра падкасіла.

На Берлін франты ўзняліся,
І яго хлапцы,
Вядома.
Цяжка ў гэткую часіну
Без нагі застацца дома.

Ды жыццё не знае спыну:
Зноў зайграла сонца
Ясна.
Як жа так, сядзець без працы?..
Стаў ён мельнікам калгасным.

Шчыра скажам, справу гэту
Недалюбліваў,
Крывіўся...
А пасля ўсё далей,
Болей —
Проста ў млын свой улюбіўся.

Тры гады
Бесперастанку
Меле збожжа залатое.
Любяць мельніка сяляне —
Партызанскага героя.

Ён ад млына не адходзіць,
Там і днюе,
І начуе...
Вось глядзіць ён каля става,
Як вада прад ім бушуе,
Пеніць,
Падае з разгону,
Колы круціць спрытна, гонка...
З-пад вады мігаюць спіцы,
Што жыццяя яго старонкі.

Так у марах
І развагах
Ён стаяў бы доўга, мусіць...
Зарыпелі недзе колы,
Мельнік наш устрапянуўся.

Паглядзеў —
Ідуць падводы, што на свята,
З ураджаем.
Ён на ганак узыходзіць
І ўрачыста запрашае.
А пасля
Дае загады,
Разам з ласкай і дакорам:
— Партызан таварыш Корбут,
Падавай хутчэй на гору!

Камісар разведкі Бокуць,
Ты сягоння
Першым будзеш.
Гэй, таварыш Калымага,
Ля каша чаго марудзіш?
Ды змяніў усе загады,
Як заўважыў маладзіцу:
— Санітарцы,
Цёці Дашы, без чаргі змалоць пшаніцу!

Да яго сябры падходзяць,
Што хадзілі з ім
З баямі.
Мельнік цэлы дзень вясёлы,
Размаўляе ён з сябрамі,

Як жывуць цяпер калгасы,
Як жылося
Ў партызанах...
Ім жа ў лад гамоняць жорны
Несупынна,
Несціхана.

## КЛАДАЎШЧЫК

Кладаўшчык у нас паважны,
Сам сабе цану ён знае.
— Хто ў калгасе самы важны? —
Ён не раз другіх пытае.

Пажартуюць у народзе:
— Бачыш, гэткі ганарысты! —
Сапраўды,
У свіран ходзіць
Ён заўсёды урачыста.

Моўчкі засавы праверыць
Ды, забразгаўшы
Ключамі,
Любіць ён шырока дзверы
Раскрываць перад вазамі.

Потым буркне важна слова,
Пры ўваходзе
Стаўшы з краю:
— Ну, нясіце, толькі ўмова,
Што благога не прымаю!

Людзі ўзносяць мех за мехам,
У засекі
Насыпаюць...
Кладаўшчык, займеўшы ўцеху,
Толькі вусы раздзьмухае.

Ён глядзіць і, як ніколі,
Задаволены сягоння,
Што ў засеках,
Як і ў полі,
Ніва з ніваю гамоніць.

Калі хто якой парою
Запытаецца зазвычай:

— З хлебам як? —
А ён на тое:
— Калі хочаш, дык пазычым!

Ці ля свірна, ці ля хаты
Любіць ён
Павыхваляцца:
— Не цурайцеся, дзяўчаты,
У мяне ж усё багацце!

## СПЕЎ НОВЫХ ДЗЁН

Лясы і палеткі, гаі і азёры,
Зямля нашых продкаў, дзядоў і бацькоў!
Ты многа зазнала
І ліха, і гора,
Ды бачу цябе я прыгожаю зноў.

Набралася ты жыватворчае моцы,
Заводы і фабрыкі скрозь загулі.
Як сэрцу прыемна,
Як радуе вочы,
Што з Мінска машыны ідуць на палі.

Нямала сягоння яшчэ ў нас клапотаў,
Наперадзе ўпартае працы гады,
Ды толькі мы знаем —
Не стане балотаў,
А будуць там нівы і будуць сады.

Не тая краіна мая ўжо,
Не тая,
Інакшая постаць і сіла ў яе,
На ўсіх асамблеях
Яна засядае
І моцна свой голас за мір падае.

Абсыпаў нас шчодра праменнем са ўсходу,
Як волат магутны, Савецкі Саюз:
Ёсць партыя наша,
Ёсць дружба народаў!
Шчаслівая з імі мая Беларусь.

## КІВАЧ

Не маю я сіл захаплення стрываць!
Цудоўны малюнак —
Суровы Ківач.

З гранітных адхонаў
Імкліва на дол
Злятае,
Як быццам з-пад неба сакол.

Нялёгка дарогу яму адшукаць,
І ломяцца крыллі,
І пер'і звіняць...

Ён б'ецца між скалаў
З відна
Да відна;
Над ім нахілілася моўчкі сасна,

Як быццам ёй хочацца
Вынайсці лад —
Аб чым тут гамоніць,
Гудзіць вадаспад?..

## КАРЭЛЬСКІ ШЛЯХ

Шлях карэльскі.
Валуны, як горы,
І дрымотны, нескапчоны лес...

Між ялін, абходзячы азёры,
Ты на поўнач сінюю вядзеш.

Да цябе,
Развесіўшы галіны,
Шмат бяроз сышлося паглядзець —
У высланне некалі Калінін
Па табе ішоў на Павянец.

Ці на гору ўскочыш ты з разбегу,
Ці на дол
Спускаешся ізноў —
З Ладагі да самае Анегі
Чутны перамовы малаткоў.

А па рэчках начамі і днямі,
Паміж хвой
І хмызнякоў густых,
Як палкі праходзяць за палкамі,
Доўгія сасновыя плыты.

Плыць і плыць ім ў зыбкіх хвалях мілі,
Ты ж бяжыш
Пад гоманы сасны,
Покуль не прыпынішся на хвілю
Падзівіцца ўвысь на каміны.

## ПЕТРАЗАВОДСК

Анега-возера дыміцца,
Стары-стары пятроўскі сад,
Карэла-фінская сталіца,
Савецкай поўначы краса.

Здалёку бор пяшчотай туліць
І навявае казкі-сны...
Між светлых плошчаў,
Новых вуліц
Сляды даўнейшага відны.

Калі Анегі сіняй воды
Кране
Усходняя зара,
Чутны дзяржавінскія оды
І крокі мужнага Пятра.

Ды з тых часоў змяніўся горад,
Ён уздымаўся
З году ў год —
Расправіў плечы, быццам волат,
Пад неба самае завод.

А колькі вуліц там прыгожых,
Праспекта добрага
Шырэй;
Відна карэльская бяроза
Ў аправе вокнаў і дзвярэй.

Усюды ў гомане рабочым
Сталіца шырыцца яшчэ,
Яна ад раніцы
Да ночы
Пад гукі кантэле расце.

## РАСІЯ

Дзе слова мне знайсці такое,
Каб прывітаць ад глыбіні —
Расія — сэрца агнявое,
Прастор нябачнай шырыні.

Расія — волатава сіла,
Пагляд крыштальнага святла —
Усіх з'яднала, прытуліла,
З сабой ў дарогу павяла.

Прыгрэла ласкай неўмiручай,
Абараніла колькі раз
І словам Пушкіна пявучым
З дзяцінства ўскалыхала нас.

Ты асвятліла ясна далі,
Расія, родная Масква!
Мы сцяг, што Ленін ўзняў, віталі,
Ён заўжды ў нашых галавах.

Яго мы адстаялі з боем
З табой у франтавыя дні,
Расія — сэрца агнявое,
Прастор нябачнай шырыні.

Прыйшлі мы ўсе, з падзякай кожны,
Ад Нёмна, Сожа і Дняпра;
Наш край з табой непераможны,
Ты з ім як маці і сястра!

## НА ПАЛЕССІ ГОМАН, ГОМАН...

Разгудзелася балота,
Зашумелі чараціны,
Узяліся за работу
Экскаватары, машыны!..

Хто рыдлёўкай маша ўдала,
Хто карчы з-пад багны рые...
Роўна ложацца каналы,
Быццам стужкі люстраныя.

На Палессі гоман, гоман...

Гул нястрыманы, бясконцы,
Трактары за трактарамі,—
Скібы тлустыя пад сонцам
Рассцілаюцца радамі.

Што дзятлы, клююць сякеры,
Пілы песні заспявалі,
Ладзяць сцены, вокны, дзверы,
Вёскі новыя пасталі.

На Палессі гоман, гоман...

А шумліва, як ніколі,
Заспрачаліся там днямі
Ніва з нівай, поле з полем,
Каласы ды з каласамі:

Што ўзрасло з іх самавіта,
Хто з іх можа ганарыцца —
Ці то бульба, ці то жыта,
Ці то грэчка, ці пшаніца?

На Палессі гоман, гоман...

Што за гукі, што за роскат,
Што за музыка ад ранку?
Пастухі склікаюць войска:
Трубяць трубы-берасцянкі.

Што за плюскат на азёрах
Між лазовымі кустамі?
Гэта качары ў дазорах
Звонка хлопаюць крыламі.

На Палессі гоман, гоман...

Грукат, тупат колькі сілы
Ды хлапечы дружны рогат —
Гэта пары йдуць кадрыллю,
Б'юць абцасамі падлогу.

Тут друг дружку прыглядзелі,
Люба сэрцу маладому.
А пасля, пасля — вяселлі,
Ну і чаркі, як вядома...

На Палессі гоман, гоман...

Пераходзяць зімы, весны,
Ўсё ідзе сваёй чаргою.
Там, дзе праца, там — і песні!
Уздымаюцца героі.

Нараджаецца багата
Крыкуноў там, як зазвычай;
Год хадзі ад хаты ў хату,
А калысак не палічыш!

На Палессі гоман, гоман...

## СОНЦА ГРЭЕ...

Сонца грэе, прыпякае,
Будзіць глебу.
Цёплы вецер б'е крыламі,—
Будзем з хлебам.

Жаўры зранку, ад світання,
Звоняць з высі.
Трактары, што чоўны ў моры,
Разбрыліся.

На паўмілі, можа, болей,
Круг займаюць,
Каб такім жа восень стрэціць
Караваем.

## БАНДЫТЫ

Амерыка,
Ззяеш кастрамі ў цямноце,
Над імі
У дрыжыках корчацца целы.
На здані падобны
Кацюгі-забойцы,
З вачамі савінымі, ў саванах белых.

Бандыцкай душы
Не прыкрыеш адзеннем,
Яна прабівацца кінжаламі будзе.
Ні твараў у іх не відаць,
Ні сумлення...
Не, гэта не здані,
І гэта не людзі!

Скарацць,
Ababраўшы да кропелькі сілы...
Маўчаць немагчыма,
Хоць мне невядома,
Адкуль ён, якога вось толькі спалілі,—
Са штата Агайо
Альбо з Аклахомы.

Ад колеру цела
Баяцца «заразы».
За тое скарала гайня
Ку-клукс-клана,
Што, мабыць, праехаў
Ён з белымі разам
У тым жа вагоне, што ім збудаваны.

Ён ім неслухмяны
І больш не патрэбен —
Агню аддалі без судовай дакукі...
А можа, я з ім
Сустракаўся на Эльбе,
Дзе моцна на дружбу паціснулі рукі.

Скруцілі,
Да дрэва яго прывязалі.
Крывавае зарыва ў прэрыях свеціць...
А можа, з ім разам
Мы кубкі ўздымалі
За вольнасць людскую, за праўду на свеце.

А воля —
За кратамі кас Уол-стрыта,
Скавана яна ланцугамі багатых.
У белых адзеннях бандыты,
Бандыты...
Амерыка,— ганьба!
Чаго дажыла ты?!

## У ВЯНОК ПАЭТУ

> Слух обо мне пройдет
> по всей Руси великой,
> и назовет меня всяк сущий
> в ней язык...
>
> *А. Пушкін*

Прайшоў
Ад краю і да краю
І ўсюды стрэў адну любоў —
Аб славе Пушкіна спяваем
Сягоння мы на сотнях моў.

Ягоны геній
З калыханкі
Натхніў нас сілай і красой,
Як гоман хваль,
Як бляск маланкі,
Як буры рокат над зямлёй.

Прайшоў
Праз пушчы ён і горы,
Святлом сабе праклаўшы
Шлях.
Ягоным словам, быццам
Зорам,
Гарэць нязгаслым у вяках.



К. Крапіва, В. Казлоў, М. Лынькоў, І. Шамякін,
П. Броўка. 50-я гады.



Бранскі фронт, 7 лістапада 1941 г.
П. Броўка, М. Лынькоў, К. Крапіва і інш. (справа налева).

## НОВЫ ШЛЯХ

А хто там ідзе?..
*Янка Купала*

Ад торбы да могілак
Шлях невясёлы —
Такімі шляхамі брыло нас нямала...
— А хто там ідзе,
Згаладалы і голы?..—
Некалі так запытаўся Купала.

Мы гэта выйшлі
З пахмурнае ночы,
Сонца над намі і сіняе неба,
Поле прад намі ўрадлівага хлеба,
Гмахі над намі,
Дзе ў гуле рабочым
Перамаўляюцца ў радасці вочы.

Мы не адны,
Мы ідзём грамадою,
Колькі ў нас радасці, што за сябрына:
Рускія з намі, украінцы, грузіны,
Армяне, літоўцы — адной мы сям'ёю
Крочым пад яркай
Чырвонай зарою.

Мы не лапцюжныя,
Мы ўжо не тыя,
Досыць мы ў цемры брылі без прыстанку...
Сёння мы ў промнях
Прывабнага ранку,
Моцныя духам, душой маладыя,
Бачым камуны агні залатыя.

## ЦАР-ДУБ

З даўнейшых дзён
Па нашы дні
Сярод палескіх гоняў
Стаіць цар-дуб і ў вышыні
З аблокамі гамоніць.

Відзён той дуб
Са ўсіх дарог,
З галінамі густымі...
Прыйдзеш да дуба ўчатырох,—
Ледзь стан яго абдымеш.

Ды хто згадае,
Колькі год
Ён тут стаіць нязменна?
Семсот,
Ну, можа, хай — шэсцьсот,
Але ніяк не меней.

Ён, як мудрэц,
Наўкол глядзіць
З мінуўшчыны на волю...
А колькі пала чужаніц
Прад ім на чорным доле!

Плячыст цар-дуб!
Яго сукі,
Што ў неба рыштаванні...
Ад бацькі к сыну праз вякі
Аб ім ідуць паданні.

Нямала
Бачыў ён пакут,
Як рос на панскім полі;
Спяваў пад ім прыгонны люд
Аб нешчаслівай долі.

Пад ім
Паўстанцаў мучыў кат,
Іх тут жа пахавалі...
І жалуды, як слёзны град,
З яго галля спадалі.

Прайшлі гады.
І хмараў дым сышоў.
Заззялі зоры.
Стаіць цар-дуб. Шумяць прад ім
Калгасныя прасторы.

На працу,
З працы ідучы,
Ці ўвечары, ці рана —
Прыходзяць людзі адпачыць
Пад звон лістоў мядзяны.

Стаіць цар-дуб
І ў цішыні
Глядзіць на сонцаўсходдзе,
Што ён сягоння ў камунізм
З прыгонных дзён ўваходзіць.

## ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА

Шалеюць паны з Уол-стрыта і Сіці
І лёкаі іх на прадажных задворках:
— У розных краінах на свеце,
Глядзіце,—
Масква запаліла чырвоныя зоркі.

Так, праўда, іх многа,
Змаганцаў за волю,
Такіх, што акроплены ў бітвах крывёю,
І радасна нам, што ўсё болей і болей
Праменняў тых зорак гарыць над зямлёю.

У горах Карэі,
У пушчах В'етнама,
У джунглях Малайі, дзе бітвы шугаюць...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Іх не прынеслі аднекуль рукамі,
А з полымя сэрцаў яны вырастаюць!

Народы збіраюць,
Як брата да брата,—
Відаць тыя зоры над цэлым сусветам.
Завуць яны Дэніса выйсці з-за кратаў.
Стаяць па-над ложкам Назыма Хікмета.

Чырвоная зорка —
Маяк пад'ярэмных,
Яна іх яднае, вядзе іх ў атаку,
Надзеі ў людзей на яе не дарэмны;
Чырвоная — новага свету адзнака.

Пад зоркай чырвонаю
Дружба і шчырасць,
Яе перамога — саюз між людзямі,
І молат, і серп, як сімвалы міру,
Абвіты на грудзях яе каласамі.

Чырвоныя зоркі
На сцягах геройскіх,
Расці і расці ім на свеце бясконца —
Яны праплываюць ля зоркі крамлёўскай,
Як быццам планеты навокала сонца.

Чырвоная зорка
Ад бацькі да сына
Праз сэрцы праходзіць нязгаслай ніколі —
Яе выпякалі жалезам на спінах,
Але пагасіць аніхто не падолеў.

Яна прабівае
Пахмурыя ночы,
Прад ёю банкіры дрыжаць і забойцы.
Да зоркі — мільярдаў скіраваны вочы,
За ёй камунізм — людзей выратоўца!

## ПРЫСЯГА БАЙЦА ЗА МІР

Добра жыць, таварышы, на свеце,
Столькі ў ім красы, што не спазнаць.
Раз мне жыць, я знаю, давядзецца,
Жыць хачу і ў шчасці працаваць.

Каб ствараць, я маю свае рукі,
Я людзям працую на карысць.
Мне браты — хто працай і навукай
Чалавецтва ўзнімаюць ўвысь.

Як люблю я племя маладое,
Звонкі смех шчаслівай дзетвары.
Вораг мне — хто атамнаю зброяй
Хоча ўсё жывое разбурыць.

Школы, клубы — нашае багацце,
У красе будоўлі — гарады.
Вораг мне — хто дзіўныя палацы
Знішчыць хоча, спапяліць у дым.

Так не будзе: над усёй зямлёю
Галасы свабодныя чутны,
Кожнай думкай, справаю сваёю
Я супроць падпальшчыкаў вайны.

Галубы, ўзлятайце мірнай стаяй,
Перад вамі сонечная шыр.
Я за мір змагацца прысягаю,
Веру ў праўду — пераможа мір!

## РАЗМОВА З ПАПАМ ПІЕМ

Такі, чувацъ, вялікі ты,
Што й гаварыць баюся,
Ты, кажуць, проста на зямлі
Намеснік Ісуса.

А ён, казалі нам, рабіў
Калісьці цуды-казкі...
Хоць я пры гэтым і не быў,
Ды што ж, праверыць цяжка!

Без крыл на неба узлятаў,
Хадзіў пяшком па моры...
Цяпер, калі намеснік ты,
Чаму ж ты цуд не творыш?

Не можаш ты без крыл ляцець,
Ну, не рабі такога,
А я табе параю што,
Не вельмі ўжо і многа:

Спусціся ў цёмныя скляпы,
Адкрый у куфраў векі,
Раздай ты золата сваё
Галодным да капейкі.

А хочаш цуд яшчэ зрабіць,
Зрабі па добрай волі —
Пусці ў палацы беднякоў,
Што корчацца ад золі.

Ты кажаш,
Сам чым будзеш жыць?
Маліся лепш старанна —
Табе, намесніку свайму,
Хрыстос адсыпле манны.

А ты якраз на земны скарб
Упяліў свае вочы —

Сядзіш на залатой гары
І яшчэ болей хочаш.

Скажы, прадаўся ты з крыжом
За плату, за якую?
З вады не робіш ты віна,
Піць хочаш кроў людскую.

Не знаю, служыш ты ў Хрыста,
А знаю, што ў багатых,—
Вадой так званаю святой
Ты кропіш ім гарматы.

Ты іх кіруеш на разбой,
На просты люд, мы знаем!
Раз так —
Падпальшчыкам вайны
Цябе мы залічаем!

## СТАСЯ

Побліз Віслы хаціна,
Пры хаціне садок.
Маладая палячка
Свой сплятае вянок.

За раку паглядае,
Быццам вішня сама,—
А яго ўжо не чутна,
А яго ўсё няма.

Сталі яблыні вышай
У гамонцы лістоў,
Ужо шостае лета,
Як на захад пайшоў.

Час яму б і вярнуцца,
Хоць паход і цяжкі —
Немалая ж дарога
Аж з-пад Волгі-ракі.

Стася хлопца чакае,
Хоць мінаюць гады...
Чым запаў ён у сэрца,
Той салдат малады?

Мо таму, што з напасці
Бацькаў вызваліў дом,
Мо таму, што спяваў ён,
Ну, нібы салаўём.

Мо таму, што быў просты,
Як струмень яснаты,
Мо таму, што быў дужы,
Як са сталі зліты.

Помніць — кветкі дарыла,
Многа часу з таго...

Што ж тады не сказала
Хоць бы слова свайго.

Вельмі
Цяжка, дзяўчына,
Ды скажы ты — бывай! —
Ён вярнуцца не можа,
Ты яго не чакай.

Ён загінуў, каб сёння
Кожны ў радасці жыў —
Ён дзіця над Берлінам
Да грудзей прытуліў.

Перад ім яшчэ хмурыць
І грыміць далячынь —
Ён стаіць жа спакойны,
І рука на мячы.

## ДАРОГА ЖЫЦЦЯ

Дарога жыцця жаданая
Далёка зямлёй прайшла,
Яна яшчэ ў розуме Маркса
Светлаю зданню была.

Яе, паміраўшы, бачылі
Ў праменнях зары-вясны
Адважныя камунары
Ля сумнай парыжскай сцяны.

Між бур і раскатаў грому
Пачаўся знаёмы след —
Ад Смольнага
Партыя наша
Яе павяла праз свет.

Сягоння пры ёй нямала
Цвітучых палёў, гарадоў —
Пад ленінскім мудрым сцягам
Мільёны ідуць сыноў.

А тыя, што ў бітвах палі,
Што мусілі шлях пракладаць,
Яны ў ясназорнае заўтра
Для ўсіх маякамі стаяць.

Дарогі кірунак адзіны —
Да камунізма ідзе:
Выходзяць на гэту дарогу
Штодзень усё больш людзей.

Яе не разбіць гарматам,
Ні атамных бомб агнём —
Праз сэрцы яна праходзіць
Найбольшаю сілай — жыццём!

## НАША МАРКА

Трактар маркі савецкай
Другам выйшаў удаль —
На Урале здабыта,
На Урале адліта
Наша моцная сталь.

Хіба ёсць што на свеце
Гэтай сталі мацней?
Ёсць адна толькі сіла —
Воля нашых людзей.

Гэта воля, што дружыць
З калектыўнай сям'ёй,
Тую сталь адкавала
І зрабіла жывой.

Дарагую радзіму
Скрозь прайшлі трактары,
На грудзях у іх марка —
Буйных літары тры.

За радзімай далёка
Іхні рокат чуваць —
Недарэмна суседзі
Сталі ў госці іх зваць.

Цаліну падымаюць
Там сябры-пасланцы —
Каля Віслы, Дунаю,
Побліз рэчкі Ян-Цзы.

А дзе пройдуць,— пшаніца
Аж да неба з далін —
За рулямі кітаец,
І паляк,
І румын.

Перад імі адкрыўся
Новы, сонечны шлях...
На абветраных тварах
Промні шчасця ў вачах.

І другія намеры
Для сусвету відны —
Не такія машыны
Шлюць з-за мора паны,

А што паляць агнямі
І жалезам плююць.
Не завуць іх у госці —
Самі гвалтам ідуць.

Ад гасцей тых, заморскіх,
Разбурэнне адно —
Іх страчаюць пракляццем
І спускаюць на дно.

Людзі іх разгадалі,
Ад машын тых — разбой,
Не даюць ім дарогі,
Засланяюць сабой.

І насупраць гарматаў
Сталі фронтам сваім,
Бо адны ў іх жаданні —
Мір над светам усім!

## ЛЯСНІК

Лясы з дрымотнай цішынёй,
Як медныя бары,—
З двухстволкай-тулкай за спіной
Ідзе ляснік стары.

З лясамі ўлетку і ўзіму
Ён рады размаўляць:
Дзе сцежка — вулачка яму,
Прагаліна дзе — пляц.

Куды ні пойдзеш — звонкі шлях,
Усюды спеў гучыць,
Гудуць шырокія ў плячах
Дубы, як мудрацы.

Да іх асін падбегла шмат,
Баўтлівых цераз край,
На ўзгорку сосны сталі ў рад,
Бы крыкнуў хто: — Зважай!

Бярозы ў строях удалых
Паслухаць падышлі,
Яліны — тыя падалы
Спусцілі да зямлі.

Ляшчыннік звесіўся ў раку,
Шапоча ледзь чутно,
Ды ўся гамонка лесніку
Вядомая даўно.

Ён знае сэнс іх розных слоў
І безліч галасоў,
Ён знае, колькі ў кім кружкоў —
Пражытых гадоў.

Узгоркі,
　　　　выспы,
　　　　　　　　гушчары,
Імшарышчы, куп'ё...
Ідзе праз іх ляснік стары,
Як праз жыццё сваё.

Вось тут ён трыццаць год назад
Стаў у рады байцоў,
Вось тут калісьці продатрад
Кулацкі хлеб знайшоў.

Адсюль,
            ён помніць, маладым
На рум вывозіў граб,
А вось пад дубам векавым
Быў партызанскі штаб.

Жылі тут хлопцы-малайцы,
Тут быў іх дом і клець,
Адсюль праз лес ва ўсе канцы
Ішла на катаў смерць.

Мінулі бітвы, адгулі,
І шчасце зноў жыве,
Пяе ляснік, і спеў галін
З той песняю плыве.

Ён любіць лес,
                        з якім узрос,
Вялікім пачуццём,
Ён знае — ў дрэў багаты лёс
І доўгае жыццё.

Бо ім не трэба паміраць,
А легчы ў новы зруб,
Ці на плячах пласты трымаць,
Ці жыць у звоне струн.

І рады ён, што праз гады
Іх шырыцца разгон —
Зайшлі адгэтуль жалуды
Аж на Кубань і Дон.

І ўсталі ў гомане лістоў
Наперакор вятрам...
А друг яго паміж дуброў
З двухстволкай ходзіць там.

## АБ ТЫМ, ШТО Ў ДУМАХ...

Лятуць і лятуць сняжынкі,
Спадаюць
На ціхі дол,
Чысцюткай-чысцюткай беллю
Заслалі палі вакол.

Пялёсткамі буйнага цвету
Яны закружылі скрозь,
Як быццам
Вялізную вішню
Хто ўзяў угары патрос.

Хусцінкамі пухавымі
Захуталі
Плечы хвой...
Мая дарагая Радзіма,
Прыгожая ты і зімой!

Бялюткае ўсё прад вачыма,
І дым,
Што плыве ад стрэх...
На лыжах, на санках дзеці,—
Які іх вясёлы смех!

А ў МТС, ля кузні,
Гоман і гул стаіць...
Туды,
На прагляд чарговы,
Прыйшлі трактароў страі.

Механікі там з кавалямі
Іх ладзяць
На цэлы год,—
Жалезнаму нават сэрцу
Не шкодзіць у часе рамонт.

І трактары, як новыя,
Выходзяць адтуль,
Не спазнаць:
Адзіная ў іх гаворка —
Сумна без працы стаяць.

Дармо,
        што вятры злуюцца,
Што снег на шляху рыпіць,—
Перамаўляюцца,
Рвуцца,
Каб толькі на полі быць.

Куды ні іду я, чую —
Дзе піляць,
А дзе куюць:
Такая мая Радзіма,
Што працаю ўсе жывуць.

Бачу я:
Ферму будуюць,
Шырацьцагельны завод,
Чысцяць палеткі ад хмызу,
Вязуць у лядоўні лёд.

А там,
        на пляцы калгасным,
Узняўся вялізны дом...
І радасна,
Лёгка ў грудзях —
Дужэем мы з кожным днём!

І дзень наш якраз узрастае,
Глянеш —
На вока відно...
І вось ужо неўзабаве
Сустрэнемся мы з вясной.

Спачатку яна нясмела
Ледзь зрушыць у нас халады,
І ў капяжы,
Пад сонцам,
Пап'е верабей вады.

Пасля разыдуцца крыгі
Па ўсёй шырыні ракі.
Гракі
Распачнуць будоўлю,
Сялібы займуць шпакі.

А потым сявярні пойдуць,
Палі
Загудуць сяўбой...
Мая дарагая Радзіма,
Шчаслівыя мы з табой!

Мы ў працы будуем,
Узводзім
Палацы,
        каналы,
                масты...
Мая дарагая Радзіма,
Уся ў рыштаваннях ты!

Усюды —
Далёка і блізка —
Жаданая ява ўстае...
Як гляну на плошчы Мінска,
Аж сэрца маё пяе.

Што ў казцы,
Падпёршы неба,
Між ліп стаяць карпусы.
Калісьці на ўсёй Беларусі
Не знալі такой красы.

Трактары мінскае маркі
Ідуць у палі
Чарадой,
Людзі са ўсёй Беларусі
Сілы не знալі такой.

А там на Дняпры і Волзе
Дужыя хвалі шумяць,—
Такія ўстаюць
Будоўлі,
Што будуць на свет відаць.

Агні іх пабачаць людзі,
Дзе б толькі яны
Ні жылі,—
І згінуць навечна цемра
І войны на ўсёй зямлі!

Хоць сёння і кружаць буры,
Сонца
Не засцяць яны:
Чуваць у паветры на свеце
Подых вялікай вясны.

## НЕ ТРЭБА ВАЙНЫ!

Як толькі ўзыходзіць зара над зямлёй,
Дзень радаснай працы займаецца мой.
Відаць мне, як токар стаіць за станком,
Як каменшчык ўзводзіць вялікасны дом,
Як экскаватар пракладвае шлях,
Як трактар ідзе па калгасных палях,
Як з кніжкамі дзеці збіраюцца ў клас,
Што птушкі, шчабечуць... Шчаслівы іх час!

Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!

Ды радыё з весткай, ледзь сонца ўзышло:
Карэя... Карэя... Хмурнее чало —
Балюча, крывавыя рэкі цякуць,
Калекі, сіроты шляхамі брыдуць.
Гляджу на зямлю за грамадамі хваль,
Гляджу на цябе, з Алабамы каваль,
То сына паслалі твайго на разбой,
А сам ты да долу панік галавой...

Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!

У сёлах Шампані паспеў вінаград,
Садоўнік абходзіць вялізарны сад,
Ён ягады ў гронках трымае ў руцэ,
Глядзяць яны ў вочы вачамі дзяцей.
Як добра цвісці пад праменнем садам,—
Хто ж выдумаў гэты пракляты напалм?
Навошта знішчальную зброю куюць,
Навошта гарматы у Францыю шлюць?

Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!

Стаіць ў Ланкашыры задумлівы ткач,
Ён радасці хоча, а чуецца плач,
Ён хоча, каб бегла тканіна ракой,
Каб кожны быў добра апрануты ёй...
Ды хто з тым загадам прыйшоў
ў Ланкашыр,
Каб ткалі бясконца вайсковы мундзір,
Хто саван сягоння настойвае ткаць,
Каб потым сыноў у яго спавіваць?

Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!

Мы дзеці вялікай, савецкай зямлі,
Мы з думай аб міры і шчасці ўзраслі,
Мы хочам зямлю даглядаць, засяваць,
Мы хочам свае гарады будаваць,
Мы хочам, каб кожны у радасці жыў,
Каб кожны дзяцей гадаваў і вучыў,
Мы клічам па свеце з'яднацца сяброў,
Каб полымя бойкі не ўспыхнула зноў.

Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!

## ТАМ, ДЗЕ ХАДЗІЎ КАЛІСЬЦІ ЛЕНІН...

Прыгожа, Прага, ты
Вясною,
Уся ў садах,
Што ў белай пене.
А я ўсё думаю
Пра тое,
Як тут хадзіў калісьці
Ленін.

Ідуць рабочыя
Праз пляцы,
Ідуць пад сцягам
Палымяным,
А ён тады
Ўсё гэта бачыў —
І чырвань зораў
На Градчанах.

Ляціць аб дружбе
Песня з сэрца,
Ляціць над вежамі
Высока.
І гэтай хвіляю,
Здаецца,
Я чую ленінскія крокі.

Блакіт
Над Жыжкавай гарою,
І Влтава
Ў сонечным адзенні...
А я ўсё думаю
Пра тое,
Як тут хадзіў калісьці
Ленін.

## ГАРА СЛАВЫ

Над Брацiславай
Народ па праву
Гару назваў —
Гарою Славы.

Плывуць аблокi
Над ёй высока,—
Яна ж вышэй
Самiх аблокаў.

Шумiць Дунай,
Шумiць Марава
Аб тых, што спяць
Пад Брацiславай.

З баямi йшлi
Яны нямала,
На сцягах iх
Зара палала.

Iх не забудзе
Нiхто, нiколi,
Ад зорак iх
Заззяла воля.

Нясуць вянкоў
Да iх багата —
Са ўсёй Славакii
Дзяўчаты.

Героям песень
Складаюць многа...
Героям снiцца
Дняпро i Волга,

Дзе кожны з iх
Хвалой успеты,—
Свой родны край,
Зямля Саветаў!

## СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКОМ

Дамоў прыехаў.
Шмат сышлося:
— Дзе быў?
Што бачыў, раскажы!
— Сябры, я рад, што давялося
Мне ў Празе быць на кірмашы.

У майскі дзень,
Між яркіх кветак,
Пад гоман разнастайных моў,
Паміж сцягоў братэрскіх свету —
Зямлю я быццам абышоў.

Хоць на зямлі
Не кінуў следу,
Ды сэрца поўніла праз край —
Як бы Балгарыю наведаў,
Пазнаў Румынію, Кітай...

На ўсё
Глядзелі прагна вочы.
Між павільёнаў я хадзіў —
Як бы прайшоў яшчэ раз Польшчай,
У сёлах Венгрыі пабыў...

Хадзіў я дзень
Па самы вечар
Паміж багаццяў, нібы ў сне...
Ды больш за ўсё адна сустрэча
Усхвалявала сэрца мне.

Іду
І чую я здалёку,
Як быццам з дому хто пазваў...
Выходжу я на пляц шырокі,
Гляджу —
Наш мінскі самазвал.

— Ды гэта ж волат!..—
Кажуць чутна.
А ён стаіць, глядзіць на шлях,
Такі вялізны і магутны,
З бліскучым зубрам на грудзях.

Не бачылі такога, мусіць.
Кругом здзіўленне і хвала...
І мне
Сталіца Беларусі
Адразу ў думках усплыла...

Я ганаруся
Ёй сягоння.
Знаёмы воблік мне узнік,—
Стаіць на кірмашы дастойны
Яе сягоння прадстаўнік.

Яму прыпала ў свет дарога,
А бачна мне,—
Яго сябры
Працуюць радасна і многа
На роднай Волзе і Дняпры.

## ЯРА!.. ЯРА!.. [1]

Слаўны братні горад Прага!
Да цябе любоў, павага —
Глыбі Влтавы, высь Градчанаў,
Вецер з гор мяккі, вясняны,
Чырвань сцягаў, шум бульвараў,
Маладой ліствы пажары...
Яра!.. Яра!..

Фестываль. Музыкі граюць
З Чылі, з СССР, з Кітая,
І з Балгарыі, і з Польшчы...
Прагна слухае рабочы,
Праца з песняй уладарыць,
Колькі радасці на тварах...
Яра!.. Яра!..

Кліч: «З савецкім мы народам
Назаўжды» — лунае горда.
Як з ручайкаў сталі рэкі,
Так зліліся мы навекі.
Ні дратоў, ні тых жандараў —
Так збылася наша мара.
Яра!.. Яра!..

---

[1] Яра — па-чэшску — вясна.

## НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

Ідзе жыццё. Мінае час.
Яго няспынны ход.
І вось з'яўляецца да нас
Ізноўку Новы год.

За стол сядаем мы сям'ёй,
Каб госця прывітаць.
Чаго ж хвілінаю такой
Яму нам пажадаць?

Каб не было вайны нідзе,
Каб шчасна ўсе жылі,
Каб мір жаданы для людзей
Быў скрозь — на ўсёй зямлі.

Каб кожны нават не прысніў
Ні бомбаў, ні гармат,
Каб дым адзін у небе плыў —
Ад стрэх шчаслівых хат.

Каб слёз пакутлівых не знаць,
Каб жыць нам весялей,
Каб толькі чуць нам першы плач
Народжаных дзяцей.

## СЛАВА ДРУЖБЕ!

Ад прадвеку, як вядома,
Праз бары,
Палі з гаямі
Нас з Літвой яднае Нёман,
Даугава — з латышамі.

Па-сяброўску,
Шчыра ў вочы
Мы друг другу ў твар глядзелі,
Ды хваліцца не было чым,
Мы аднолькава гібелі.

Бедавалі, гаравалі,
Знялі
Здзекі ды пагрозы...
З Беларусі неслі хвалі
Дзень пры дні людскія слёзы.

І з другога боку,
З мора,
Мчаўся вецер засмучоны:
Там людзей трымалі ў горы
Ка́ты — чорныя бароны.

І не раз вялі размовы
Аб гада́х цяжкіх, праклятых
Беларус,
Латыш,
Літовец
Па-над возерам Дрысвяты.

Заклікалі сваю долю,
А яна была такою —
Цемра ў небе,
Цемра ў полі,
Цемра-бездань пад вадою.

Ды не тое там сягоння —
Адышла

Бяда з гадамі,
Дзень і ноч народ гамоніць,
Гул стаіць над берагамі.

Экскаватар бездакорна
Грунт раўнуе,
Расчышчае,
Мінскі трактар возіць бёрны,
Кран дзюбасты пахаджае.

Праца дружная ў суседзяў,
Можна толькі падзівіцца —
Хто з пяском,
Хто з цэглай едзе,
Хто падвозіць чарапіцу.

Хто стаіць пры распілоўцы,
Хто з машын
Здымае грузы...
Ладзяць станцыю літоўцы,
Латышы і беларусы.

І яны,
Што назаўсёды
Думы й сэрцы паядналі,
Шчыра «Дружбаю народаў»
Гэту станцыю назвалі.

Вышай сосен
Ў хуткім часе
Закрасуе пабудова,
І не толькі ў трох калгасах
Ўспыхнуць лямпы Ільічовы.

Не над возерам адзіным
Бляскам срэбра разліюцца —
Іх праменні
Па краіне
Ў кожным сэрцы адаб'юцца.

Іх святло,
Што ярка свеціць,
Разгарацца болей будзе —
Іх святло далёка ў свеце,
Як надзею, ўбачаць людзі!

## ПАДАРОЖЖА

Жыццё тое даўна, няйначай,
Валамі наперад брыло.
Найболей, што дзед мой пабачыў,—
Сваё валасное сяло.

Ён мора не бачыў ні разу,
Ён выгляду гор не спазнаў.
Ды дзе там, сам цар да Каўказа
Па месяцы цэлым скакаў.

А сёння, як глянеш, не тое,—
Жыццё несутрымна бяжыць,
Народзіцца толькі малое,
А ўжо на машыне сядзіць.

Далей заглядае ўжо вока,
Адлегласці іншы памер,
І тое, было што далёкім,
Здаецца, што побач цяпер.

Прастор, як пабачыць ты можаш,
У руху няспынным увесь.
Здаецца, што ўсё ў падарожжы —
І людзі, і збожжа, і лес.

Паедзеш куды, азірнешся,
Глядзіш — землякі ўсё стаяць:
Дубкі ад дуброваў Палесся
Ужо каля Дона шумяць.

Настала часіна другая,
Усё родніцца сёння хутчэй,
А самая радасць людская,
Што сэрцы да сэрцаў бліжэй!

## КАЛІ ПАГЛЯДЖУ Я НА КАРТУ...

Калі пагляджу я на карту,
Ах, колькі шляхоў ляжыць!..
Такі ўжо ў мяне характар —
Усюды хачу пабыць.

Хвіліны не знаю спакою,
Не скажаш ты сэрцу: змоўч!
Яно ўжо ў мяне такое —
Вандруе і дзень і ноч.

Нямала патрэбна сёння
Агледзець яму куткоў —
На поўначы ці на поўдні
Наведаць многіх сяброў.

Вялікі прастор Саюза,
Магутны, прыгожы ён,—
І вось я праходжу шлюзы
І слаўлю свой Волга-Дон!

Твой стэп, Украіна, бяскрайні,
Калоссе шуміць, шуміць...
Прыемна сядзець на камбайне,
Па моры пшаніцы плыць.

Кахецiя! Песні пра радасць.
Дзяўчаты збіраюць ўраджай.
Ўзнімаю я кош вінаграду,
Напоўнены цераз край.

А потым з паморамі стрэцца
Ля Мурманска я пажадаў.
Вось так і хадзіў бы, здаецца,
І стомы б ані не знаў.

Паверце, маніць я не ўмею,
А гэтак бывае ў жыцці,—

За дзень маё сэрца паспее
І свет навакол абысці.

Усё яго моцна клапоціць,
Бо праўдаю хоча жыць,
З байцамі-сябрамі на фронце
Даводзіцца побач быць.

Бывае, сустрэць налучыць
Такое, не плачаш ледзь,
Бо вельмі яму балюча
На мёртвых дзяцей глядзець.

А пройдзецца за акіянам,
Ад гневу яно крычыць,
У сэрцы суцэльная рана —
Там вогненны крыж гарыць.

Нагледзіцца там на гора,
Спяшае хутчэй дамоў.
І толькі на родных пра́сторах
Яно весялее зноў.

Я знаю, паны за граніцай
З трывогай спытаюць не раз:
— Што гэта яму не сядзіцца,
Чаго яму трэба ад нас?

Адказ мой адзін, праўдзівы:
— Святло я і волю люблю,
Хацелася б бачыць шчаслівай
Як ёсць навакол зямлю,—

Каб заўжды быў шчасным, здаровым
Карэец, індус і француз...
Бо сілай вялікай любові
Натхніў нас Савецкі Саюз!



Пятрусь Броўка на Паўднёва-Заходнім фронце.
1941 г.

## ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Любімы наш чырвоны сцяг
Над роднаю зямлёй!
Ты азарыў нам вольны шлях
Кастрычніцкай парой.

Хто пад чырвоным сцягам йшоў —
Той жыў заўсёды тым,
Што камунары ўсіх часоў
Змагаліся пад ім.

Ён бессмяротны, ён жывы,
Яму няма канца,
Бо ў ім ша кропелькі крыві
Ад кожнага байца.

## ВОСЕНЬ... ВОСЕНЬ...

Скрозь стагі, стагі ў зялёных світах...
Звезлі з поля залатое жыта,
А бярозы, клёны, дзе ні глянеш —
Апранулі жоўтае убранне.
Быццам сарамлівая дзяўчына,
Аж гарыць ад чырвані рабіна,
Вецер золкі па шляхах гуляе,
Дзе ні йдзе — чырвонцы растрасае.
Павукі паміж ялін і сосен
Колькі заснавалі новых кросен.
Восень...
Восень...

А ля малатарань шумна, шумна...
Дзень і ноч гамоняць свірны, гумны.
Паплылі машыны ўжо шляхамі
З белымі, таўшчэзнымі мяхамі.
З хат выходзяць людзі, сустракаюць:
— Ах ты, восень,
шчодрая якая,
Будзе ўсё — абнова ў кожнай хаце,
Будзе чым і госця частаваці...—
Кожнага прывецяць і папросяць,
Рады: жыць шчасліва давялося.
Восень...
Восень...

Раніцой са шчэбетам вясёлым
Дзеці йдуць па вуліцах у школы.
Іх шляхі дзівосныя чакаюць,
А бацькі паверхі уздымаюць,
Рады, цэглу ложаць за цаглінай,
І растуць кварталы ў іх няспынна.
А на полі зерняты радамі
Скрозь зямлю прабілі, што цвікамі.
І вясной, як забуяюць росы,
Зашуміць, загойдае калоссе.
Восень... Восень...

## СМЕЛА, ТАВАРЫШЫ, Ў НОГУ!

Мы ў Веймары добра гасцілі,
Прыехаўшы Гётэ ўслаўляць,—
Рабочыя нас запрасілі
У госці да іх завітаць.

Пабачыць завод іх адменны
І тое, як стала ім жыць,
Завод той ля знанай Іены,
Дзе Маркс навучаўся, стаіць.

І вось мы, устаўшы світанкам,
Назаўтра ў дарозе былі.
Прыехаўшы ў госці шчэ ранкам,
Праз цэхі усе абышлі.

Усюды за выплаўкай сталі
Працоўны мы бачылі люд.
Там сталь, як раней, выплаўлялі,
Ды быў ёй інакшы маршрут.

Жыццёвы маршрут, чалавечы,
Далёкі ад гора і слёз.
І голуб над зыркаю печчу
Галінку лаўровую нёс.

На сэрцы вясёла і люба,
Што ў свеце паменшала зла.
Гудок. Нас пазвалі да клуба.
І хутка ўся змена прыйшла.

Ўсё моладзь. Ўсё члены Саюза —
Германіі новай сыны.
І хвалямі сінія блузы
Плылі ад сцяны да сцяны.

Была наша гутарка шчырай,
Яны выступалі і мы —
Мы так гаварылі аб міры,
Як сонца страчалі з зімы.

Ды мы не чакалі такога,—
Ўвесь сход усхапіўся і ўстаў,
Ён «Смела, таварышы, ў ногу!»
На мове нямецкай спяваў.

І песня ў нястрымным разгоне,
Як мора, гудзела кругом,
Пасля загрымелі далоні,
Бы ў горах Цюрынгіі гром.

І кожны, як блізкі нам здаўна,
Да нас развітацца ішоў
І моцна руку пацiскаў нам,
Жадаючы стрэчы ізноў.

Прасілі нас перад дарогай:
— Што можаце нам пажадаць?
— Смела, таварышы, ў ногу! —
Адно мы маглі адказаць.

## ПАРК ПІЯНЕРАЎ У БУХАРЭСЦЕ

Запала гэта глыбока ў сэрца —
Навек, здаецца.
Я парк прыпомніў у Бухарэсце —
Ў прыгожым месцы.

Густы, вялізны... Цудоўных дрэваў
У ім нямала.
Адна калісьці тут каралева
Скрозь панавала.

Адна па парку яна хадзіла...
Нуда, ды годзе!
Вы гляньце толькі, хто там сягоння
Спявае, ходзіць?

Іх уладанні — бярозы, ліпы,
Яліны, сосны,
Дарожкі, клумбы, сцяжынкі, кветкі,
Палац дзівосны.

Там смех не моўкне. Там песні-казкі
Звіняць лістамі.
Вам знаць цікава, хто там сягоння
Гаспадарамі?

Такое толькі адбыцца можа
У новым свеце.
Той парк вялізны у Бухарэсце
Належыць дзецям.

Народ пабачыў — адной асобе
Той парк праз меру,
Не каралеве такі патрэбны,
А піянерам!

І піянеры растуць, дужэюць
Там год ад году —

І сувязісты, і планерысты,
І садаводы.

Майстрамі справы яны выходзяць,
Яшчэ й якімі!
Скажу вам шчыра, быў рад я вельмі
Сустрэцца з імі.

Усё, што трэба, сваімі робяць
Яны рукамі,
Яны ўжо сталі сваёй краіны
Будаўнікамі.

Іх звонкі голас жыццё ўслаўляе,
Пяе аб міры.
Прывёз я дзецям зямлі Савецкай
Паклон іх шчыры.

## ПРЫСАДЫ

Юнацтва, юнацтва,
Гады маладыя!
Бальшак старадаўні,
Прысады густыя...

Пад гоман ваш ціхі
Над рэчкаю сіняй
Кахаў я ўсім сэрцам
Каліськці дзяўчыну.

Бярозы, бярозы
Ў зялёным адзенні,
Мінула між вамі
Маё захапленне.

Рабіны, таполі
На доўгім гасцінцы,—
Прайшло яно ў сціплай
Чырвонай хусцінцы.

Мільгнула, як водбліск
Вясёлкі над полем...
Прайшло і назад
Не вярнулася болей.

Ды толькі ніколі
Не меў я спакою,
Вярнуўся ў прысады
Аднойчы вясною.

Гляджу —
На камбайне дзяўчынка малая.
Чырвоная хустка...
Няўжо гэта тая?

І газік насустрач
Пыліць па дарозе.

Знаёмая ўсмешка...
Кальнула —
а можа?

Дзяўчына на лузе
Вянкі заплятае.
Любімыя вочы —
Мяне ж не вітае.

Юнацтва, юнацтва,
Гады маладыя!
Чаго ж я шукаю,
Ды гэта ж не тыя!

Ды гэта ж другія
Праходзяць, спяваюць...
А сэрца,
а сэрца
Спакою не знае!

## А ТЫ ХОЦЬ ДРЭВА ПАСАДЗІЎ?..

Дзе дваццаць год таму назад
Ляжаў дзірван акамянелы,—
Расцвіў прыгожы, буйны сад,
Паплыў удаль, як ветразь белы...

Нямала тут вясновых дзён
Папрацавалі слаўна людзі,
Каб кожнай яблыняю ён
Усхваляваў нам сёння грудзі.

Ён так святло сваё разліў,
Глядзіш, нацешыцца няможна...
— А ты хоць дрэва пасадзіў? —
Няхай сябе спытае кожны.

## ПУСЦІ, МАЦІ!..

Ах, як за акном гармонік грае!
Пусці, маці, выйду, пагуляю,
Я ж яшчэ маленькая, малая,
Ён мяне не можа зазываці...
Пусці, маці!

Толькі раз, я помню,— у нядзелю
З гарманістам трошкі пасядзела...
Сёння ж галава мне забалела,
Ці не чадна вельмі ў нашай хаце?
Пусці, маці!..

Я прайду ціхутка, стану збоку,
Можа, нат паслухаю здалёку,—
З гарманістам я не сяду зноўку,
Абыду, каб толькі не спаткаці...
Пусці, маці!

## РАХУНКАВОД

Ідзе гаворка між дзяўчат,
Ідзе каторы год —
Нідзе такога не спаткаць,
Як наш рахункавод.
Няхай, што ростам невялік —
Вышэй ад столу ледзь,
А возьме шчоты —
цок ды цок...
Аж люба паглядзець.
А піша —
быццам сее мак,
Ну хто зраўніцца з ім?
І сам ён думкі немалой
Аб значанні сваім.
Ён злічыць кветкі па садах
І краскі па лугах,
І колькі нават на палях
Зярнят у каласах.
Ён дасканала аб усім
Разлікі падвядзе —
Нат колькі кожная пчала
Прыносіць мёду ў дзень.
Дзяўчаты дзівяцца з яго —
Усім хлапчына люб,
Адна бяда, ў каханні ён,
Як кажуць,
ані ў зуб!

Ну што з таго, што гэткі спрыт,
Што ў лічбах ён герой?..
Каханкі ж, крыўдна, налічыць
Не можа і адной.



Такая і мне ўжо часіна прыпала,
Што сэрцам разважыш, як глянеш назад,—
Пражыў, перайшоў ты, як кажуць, нямала,
Пабачыў на свеце цікавага шмат!

А вось каб спыталі, чаму я зайздрошчу,
Чаго б я найболей хацеў у жыцці?
Сказаў бы: дзіцяці дапытлівым вочам,
Што толькі імкнуцца да сэнсу дайсці.

Яму праз гады дзіцячага плачу,
Пайшоўшы ў далёкі свой шлях па зямлі,
Такое, відаць, давядзецца пабачыць,
Аб чым толькі марыць мы прагна маглі.

Хацелася б з новым прайсці чалавекам,
Яшчэ раз уцеху ад працы адчуць,
Каб з гэтай паловы дваццатага веку
У век надыходзячы хоць зазірнуць!

## ВЯСЕЛЛЕ

Ну і вяселле было ў нас,
Ну й давялося пагуляць.
Клянуся,
Што і ў гэты час —
Такое трэба пашукаць!

Ну хто б раней падумаць мог,
Каб Насця з нашага сяла,
З сяла пад Брэстам —
Белы Мох,
Аж у Малдавію зайшла.

Не чулі гэтага калісь
Ані мой бацька,
Ані дзед,
А тут разважыш, паглядзіш,
Як быццам так яно і след.

Аж з-пад Днястра,
З малдаўскіх хат,
Служыў у нас адзін салдат.
Які сабой? Што ў песні той:
«Пагранічнік быў герой».

Пазнаўся з Насцяй.
Над ракой
Сябры іх бачылі не раз.
А адслужыўшы тэрмін свой,
Забраў ён дзеўчыну у нас.

Трывогі шмат бацькам старым:
— Куды? Што ў іх за старана?!
А хлопец:
— Мы жывём адным,
Наш лёс адзін і кроў адна!

. . . . . . . . . . . . .

Шуміць, гудзіць сяло вакол,
Хлапцоў, хлапцоў,
Дзяўчат, дзяўчат!..

Калгас накрыў багаты стол,
Прыслаў аркестр пагранатрад.

А хор дзяўчат-падруг пяе,
А песням тым
Няма канца...
...Калгас даярку аддае
За пагранічніка-байца.

Як зачыніць,
Паўнюткі дом,
Увесь народ не палічыць.
А госці едуць... За акном
Стаяць «Пабеды», «Масквічы».

Згулялі ноч. І дзень узнік —
Хто танцаваў,
Хто еў, хто піў...
Прымчаў пад ранне паштавік
І тэлеграму абвясціў.
А ў тэлеграме
Сэнс такі:
Ляцяць з Малдавіі бацькі.

Такой вясціне
Рад народ,
Прыйшоў, хто толькі быў вакол!..
...А ўжо над полем самалёт
Гудзе, зніжаецца на дол.

І вось ён сеў.
Аж загула
Ўся грамада ад пекнаты —
З-пад серабрыстага крыла
Ідуць бацькі, ідуць сваты...

А на адзенні ўзораў шмат,
А шапкі, шапкі — стаўбуном!
А кветак, кветак
Цэлы сад!
Між імі бочачкі з віном.

А мы насустрач — многа рук
І свату так:
— Вітаць дазволь! —
А мы насустрач ім —

Абрус,
А на абрусе хлеб і соль.

І вось, па звычаю старым,
Узняўшы чаркі,
Хто як мог,
Мы «Калі ласка» кажам ім,
Яны вітаюць нас: «Нарог!» [1]

А там, ад сэрца ідучы,
У хаце гутарка пайшла:
Амаль тры дні
І тры начы
Не выхадзілі з-за стала.

Віталі нашу маладосць
І лёс радзімы маладой,
І запівалі ўсё
Як ёсць
Мы чаркай моцнай не адной.

Ды не забыліся таго,
Што надта соладка —
Гарчыць!
Як ёсць пачатак для ўсяго,
Так і канец павінен быць.

Суняўся, змоўк
Вясельны гром,
Бо час ад'езду ўсім настаў.
...І маладых аэрадром
На крыллі срэбныя прыняў.

А я гляджу — ў жыцці людскім
Бліжэй сышліся берагі,
І я ўсё думаю аб тым:
Другія людзі,
Свет другі!

Раней адлучыць вёску гай,
І тая бы ў далі якой,
А вось цяпер —
Малдаўскі край
І той як быццам пад рукой.

---

[1] Нарог — па-малдаўску «Будзьце здаровы!».

## ЁСЦЬ!

Гэта слова — чэсць і гарт салдата
Ў мірных днях, ў паходах баявых,
Хай з вайсковых статутаў узята —
Стала спадарожнікам для ўсіх.

Нам яно гаворыць: — Не згінацца,
Быць упартым і дакладным скрозь.
Партыя нас вучыць: — Так трымацца!
Мы ад сэрца ёй гаворым: — Ёсць.

Не дае душой крывіць ніколі,
Ёсць загад — мы знаем, што зрабіць.
Ці ў страі, ці ў цэху, ці на полі,
Быццам клятва, так яно гучыць!

## ПАРАХОДУ «УКРАІНА»

А плыве ён па моры,
Неабсяжным і сінім,
Горда хвалі ўздымае
Параход «Украіна».

Хвалі колеру неба,
Фарбаваныя быццам...
А мне бачыцца мора
Залатое пшаніцы.

А мне бачыцца неба
З далягдядам бяскрайнім,
А мне чуецца гоман
І камбайны... камбайны...

А мне бачацца сёлы,
Пабялёныя хаты,
А мне чуюцца песні,
Што спяваюць дзяўчаты.

Параход «Украіна»!
Рады я, што сустрэўся —
Хутка з гэтай мясціны
Даплывеш ты ў Адэсу.

Завязі ж, завязі ты
Прывітанне ад сына
Залатой Украіне,
Дарагой Украіне.

Між азёраў Наддзвіння,
Між бароў і дуброваў
З песень маці пачуў я
Украінскае слова.

Я пачуў ад Шаўчэнкі
Пра жыццё, што мінула,

Дзе казацкая слава
У курганах паснула.

А цяпер, як пабачу,
Сэрца з радасці горда,
Ах, якія пасталі
Там асілкі-заводы.

А як песню пачую,
Што складаюць паэты,
Я шукаю вачамі,
Дзе, чароўная, дзе ты?..

І куды ні пагляну
Я з палёў Беларусі —
Многа хочацца зведаць,
Ўсё пабачыць імкнуся —

І Маскву, і Ўкраіну,
Ўвесь Саюз працавіты,
Дзе пачуццямі дружбы,
Як вянком, мы спавіты.

Я стаю з гэтай думай,
Ў далях высяцца горы,
Параход праплывае,
Рэжа Чорнае мора.

Завязі ж, завязі ты
Прывітанне ад сына
Залатой Украіне,
Дарагой Украіне.

## А Я ЖЫТА ЖАЛА...

Я ж жыта жала,
Сярпом не махала,
Снапоў не вязала...
На камбайне, што па моры,
З песняй праплывала.

Сыпся, сыпся, збожжа,
Сыпся спорна, гожа,
Каб нам жыць прыгожа —
На ігрышчы, на вяселлі
Нас прыбраць паможаш.

А як бы на тое
Хтось над галавою
Праімчаў стралою.
Памахаў мне любы крыллем...
Значыць, ён са мною!

## НА БЕРАЗЕ ЧОРНАГА МОРА

І неба, і зоры, і месяц сярпом
І сінія хвалі, што горы...
Сядзім мы з сябрамі за дружным сталом
На беразе Чорнага мора.

Сядзім і гамонім — адзін, то другі,
Нам ёсць расказаць што, вядома.
Ад розных мясцін прывялі нас шляхі,
А мы быццам даўна знаёмы.

Сабрала нас лета да хваляў марскіх,
І тут аб жыцці мы гаворым.
І кожнага радасць — ёсць радасць для ўсіх,
А гора — для кожнага гора.

Гамонім аб дзецях, аб нашых дамах,
А хтосьці ўздыхне па любімай...
Здаецца, што дружбы такое няма,
Як сёння між намі усімі.

Усё нас хвалюе: гамонка вятроў,
Абрысы скалы таямнічай,
І зоры, і мора ў агнях караблёў,—
Усё, што Радзімаю клічам.

## ЧАМУ Я ТАКАЯ...

За тэмай
Паэт увесь дзень прахадзіў.
— Ну чым бы,— ён думаў,—
Сягоння натхніцца? —
Пад вечар
Ад смагі ён ледзьве ўжо брыў.
І раптам —
На лузе знаходзіць крыніцу.

І вось, каб напіцца,
Да долу прынік,
А потым
Спытаў з прахалодаю ў грудзях:
— Чаму ты, крыніца,
Такой чысціні?
І што так табой
Не нахваляцца людзі?

І чуе наш лірык
З пахмурным чалом,
Што срэбны званок
Зазвінеў пад травою,
Памчала крыніца
Удаль ручайком
І быццам
Жывой адказала вадою:

— Ты хочаш народу
Заўсёды быць люб,
Чаму я такая,
Дарма не дзівіся —
Праз гушчу народа,
Як я праз зямлю,
Прайдзі —
І тады на сябе азірніся!

## БОНДАР

Наш бондар. Ён горды работай сваёю —
Кляніну абрэжа, прасушыць гадамі
І клёпак напіліць на пэўны узор...
А потым, прыгнаўшы адну да другое,
Іх зложыць дакладна, звядзе абцугамі
І добра заправіць ў глыбокі зазор.

А потым бугры і сучкі ён зразае,
Каб хібы дарэшты з-пад рук яго зніклі,
Каб вочы не ўбачылі іх нічые.
І вось ужо дрэва нібы ажывае,
Надзелена формай, багатай на выгляд,
Яно з ім гамоніць і быццам пяе.
Так з намі часінаю творчай бывае —
Працуеш над рэччу, над складам,
шліфоўкай.
Шчаслівы, калі ёй прысуджана жыць:
Прыкінеш на сонца — гарыць, залатая,
На дно яе глянеш, пабачыш — глыбока,
Ударыш рукою — што звон, зазвініць!

## ЗГАДАЎ Я СЯГОННЯ ДУНАЙ І МАРАВУ...

Згадаў я сягоння
Дунай і Мараву,
Як быццам нядаўна
Ад сцен Браціславы.

Славацкія рэкі,
Карпацкія горы,
Здаецца, вас бачыў
Я толькі учора.

Я рады. Хоць раз
Мне пабыць давялося
На Татрах,
Дзе жыў легендарны Яносік.

Я рады, што ўбачыў
І ўнукаў героя —
Пабыў, пахадзіў
Над Аравай-ракою.

Дзе моцнай плацінай
Раку сунімалі,
Дзе аж да нябёс
Узнімаліся хвалі.

А сёння прыносяць
Газеты навіны —
Працуюць ужо
На Араве турбіны.

Славацкая рэчка —
Арава!.. Арава!..
Я шчыра
Тваёй захапляюся славай,—

Што хваля жар-птушкаю
Ўдаль паляцела
І ў кожнай хаціне
На покуці села!

## МЫ СЛАВІМ ЯДНАННЕ

Прайшлі мы нямала
Сваімі шляхамі,
Хай часта нялёгка было будаваць —
Блакітнае неба
Сягоння над намі,
Нам ёсць аб чым сёння шчасліва спяваць.
Ды нам
Не магло нават гэта прысніцца,
Што зноў Беларусь расквітнее такой,
Што вырасце Мінск —
Беларусі сталіца,
Што ўсіх ён захопіць сваёю красой.
Мы рады
За поспехі нашай краіны:
Якія навокал заводы ўзраслі!
І з мінскаю маркаю
Нашы машыны
Далёка сягоння са славай прайшлі.
А выйдзеш на поле,
Што ў моры здаецца,
І зроку усё ахапіць не стае...
А як прыгадаеш
Аб нашым Палессі,
Аб тым, што з ім будзе,— аж сэрца пяе.
Масква,
Ты дала нам жаданае шчасце,
Мы сэрцам імкнуліся заўжды на ўсход.
Мы славім цябе,
Як любімую маці,
Мы славім вялікі наш рускі народ!
Мы славім яднанне
З братамі усімі,
Сцяг дружбы магутна сціскае рука.
Мы славім
Сваю дарагую Радзіму,
Мы партыю славім і родны ЦК!

## ПАЭМА ПРА СМАЛЯЧКОВА

Ён — горада Леніна воін, юнак, абаронца суровы,
З бароў беларускіх да славы й бяссмерця прывёў
яго шлях.
Прайдзіся ж ты, сціплая песня,
па мужных слядах Смалячкова,
Па снайперскіх тайных засадах,
па плошчах і шумных палях.
Прайшоў ён праз полымя боек у жоўтыя дні
лістапада,
Гадзінамі стыў на марозе,
схаваны між гурб снегавых;
Налітае волавам неба вісела ля сцен Ленінграда,
Ён паў, разганяючы хмары,
бліснуўшы маланкай між іх,
Да рускай зямлі прытуліўся,
спавіты паўночнай зарою,
Маўклівы,
раскінуўшы рукі пад ветрам зімы ледзяным,
Ды пільна ўглядаліся ўдалеч юнацкія вочы героя,
Туды,
дзе сябры-камсамольцы ў баях ўспаміналі аб ім.
За ім баявая сталіца, што грознаю вартаю стала,
Там плошчы,
дзе ў памяці дружнай і сёння ён ходзіць жывы,
Заводаў узнятыя трубы,
гранітнай чаканкі кварталы,
І рокаты Фінскай затокі, і гордыя плыні Нявы.
Ты спі, наш таварыш, спакойна!
Атакі сябрамі адбіты.
І вораг разбіты сканае. Мы верым у мэту адну —
Імя тваё, Федзя, мы ўзнімем на вуліцах,
сонцам аблітых,
І ў родных палях Беларусі з бацькамі
сустрэнем вясну.
Мы пройдзем,—
па травах духмяных абсыплюцца зорныя росы,
Загойдаюць ветры ласкава палёў залатыя дары;

Мы пройдзем сцяжынкамі тымі,
дзе хлопчыкам бегаў ён босы;
Журботна схіліўшы галовы,
аб ім нам раскажуць бары,
Мы ўбачым народ,
у якога узяў ён арліныя крыллі,
Адкуль яго постаць асілка і зоркія вочы чаму,
Якая зямля ўзгадавала, якія крыніцы паілі,
Якія дубровы спявалі ваяцкую песню яму.

## I

Пала досвіткам заранка,
Разагнала ночы сны.
Над ракою Трасіянкай
Расплыліся туманы.

І лягла, як бачыць вока,
Сінь, прабіўшы паплавы,
Быццам кінуў хто далёка
Срэбны пояс між травы.

А ля той ракі-дарогі
Дыванамі мурагі...
І вярба, абмыўшы ногі,
Ўдаль праводзіць берагі.

Нікнуць сонныя чароты,
За гарою ветры спяць.
І зямля яшчэ дрымоты
Не паспела адагнаць.

Сонца выбілася ледзьве
З-за вяршалінаў сасён...
Што ж не спіш ты,
Хлопчык Федзя,
Ці табе не смачны сон?

Не, не можа спаць хлапчына
Гэтым ранкам залатым:
Ходзіць статак па лагчыне,
Федзя мусіць быць пры ім.

Ён авечак гэтак пасвіць,—
Хоць на выстаўку бяры!
Смалячкова у калгасе
Нездарма завуць «Стары».

Не сумуе ён ніколі,
У яго ёсць верны друг,—
Добра з кніжкаю на полі
Адзінотай быць удвух.

...Дзесьці там у сіняй далі
Ён убачыў хлапчука,
Там гудзіць, узняўшы хвалі,
Волга — слаўная рака.

Там хлапцу стэпавы вецер
Твар бязлітасна пячэ,
Цягне ён густыя сеці,
Шмат да берага яшчэ...

Вось узяць авец бы кінуць
Ды праз нівы, гарады...
Так у гэтую хвіліну
Захацелася туды.

Прыімчаць хутчэй на бераг,
Крыкнуць моцна на бягу:
— Пачакай мяне,
Валерый,
Я табе дапамагу!

А пакуль, што мае сілы,
Федзя мчаўся да ракі,—
Лётчык смелы, легкакрылы,
Узляцеў за аблакі.

Паплылі прад ім паляны
З карагодамі бяроз,
Землі, моры, акіяны
І прастор усіх нябёс.

Смерць здаралася парою,
Ды адходзіла не раз...
Нездарма імя героя
Носіць з гонарам калгас.

Чкалаў сэрцам заўладарыў,—
Вось жыццё бальшавіка!
І вялі далёка мары
Смалячкова-пастушка...

— Што наперадзе з гадамі?
Лёс. Жыццё. А можа, бой...—
Ходзіць ён паміж кустамі,
Разважаючы з сабой.

Пагаворыць з шумным борам,
З серабраным ручаём;
На высокі ўзыдзе ўзгорак
Ды прыгледзіцца кругом...

Над пшаніцамі густымі
Пеніць песня цераз край,
Магілёўшчына, радзіма,
Беларускі родны край!

Колькі там азёр люстраных
Захавана ў верасах.
Колькі казак несказаных
Разбрылося па лясах;

Колькі песень, звонкіх, чыстых,
Узлятае на зары,
Колькі птушак галасістых
У зялёным гушчары!

А як свецяць ноччу зоры,
А які таемны гай!..
Магілёўскія прасторы,
Беларускі родны край!

А дрымоты баравыя,
А усмешкі зараніц,
А вясёлкі дажджавыя,
Што красу бяруць з крыніц.

А агні са смольным дымам,
А раўнюткі-роўны шлях!..
Магілёўшчына, радзіма,
Беларуская зямля!

А якія ветру шумы,
А як непагадзь гудзе...
І плывуць у Федзі думы,
Быццам крыгі па вадзе.

— Што мне гулі і гулянкі,
Хіба мне замала год?
Над ракою Трасіянкай
Пабудую я завод.

Трэба толькі добра вызнаць,
Як ён можа узрасці,
А магутны,
а вялізны,
Каб за дзень не абысці!

Хай жа новы час сустрэціць
З ім калгаснае сяло,
Каб усё,
што ёсць на свеце,
Можна вырабіць было...

Доўга ў марах хлопец ходзіць
З неспакойнай галавой.
Вечар.
Сонца на заходзе.
Гоніць Федзя статак свой.

Прыганяе да аборы
І адразу — да сяброў,
Ані стомы,
ані зморы,
Спаць не любіць Смалячкоў.

II

Нядаўна было гэта. Можа, назад
Чатыры,
А можа, і болей гадоў,
Да бацькі ён часта прыходзіў у сад,
Садзіўся з ім разам і гутарку вёў.

І доўга гамонка ішла ў шалашы,
Глядзелі і слухалі бацька і сын,

Як падаюць зорамі ў змрочнай цішы
Буйныя антоны з прыгнутых галін;

Як нікнуць да долу чаромхі кусты,
Як моўкнуць
Птушынай сям'і галасы,
Як шэпчуцца ўпотай на дрэвах лісты,
Як травы нямеюць пад срэбрам расы;

Як месяц запальвае ў небе касцёр,
Пад ранак
Кідаючы толькі вятох...
Здавалася Федзю бязмежным жыццё,
Як мары, каторых злавіць ён не мог.

Ды знаў, што сустрэне ў жыцці барацьбу,
Што час яго клікне ў шарэнгу байцоў,
Любіў ён паплаваць
І з лука стральбу,
Ваяцкія гульні ў кругу юнакоў.

І ў дні адпачынку ў сасновым бары
Хапала раздолля
Хлапцам маладым.
Падзеляцца, ў наступ ідуць змагары,
Быў Федзя заўсёды хлапцом баявым.

Яловымі шышкамі ўзброен атрад,
Паўзе
Па імшарах, равах, гушчарах...
Умоўныя знакі, засады, напад.
Адбой.
Пераможцы гукаюць: «Ура!»

Пасля разбіралі. Гуло, што ў вуллі.
Ды слава Хвядоса
Нязменна расла,
Пад сцяг жа ягоны ахвотна ішлі,
Бо заўжды з Хвядосам удача была.

Гадалі — аднойчы дадуць ім наказ,
І пойдуць адважна
Наперад палкі...
І храбрыя з гордасцю, ўсім напаказ,
Насілі на тварах сваіх сінякі.

Купацца на рэчку ішлі змагары.
Ныралі.
Ляцелі і пырскі, і смех.
На беразе потым да позняй пары
Сядзелі сябры між юнацкіх уцех.

А побач праходзіў чыгуначны шлях,
Прарэзаўшы
Нівы, лясы, гарады;
Па ім несупынна па днях і начах
З палёў Беларусі ішлі паязды.

І Федзя ў плячах уздымаўся. Ён рос.
Прад ім
Адкрываўся нябачаны свет.
Ён слухаў сціхаючы грукат калёс,
Як быццам хацеў ім пабегчы ўслед.

Прайшло яшчэ некалькі летаў і зім.
Быў май.
Асветлены кветкамі сад.
Сказаў Смалячкоў аднагодкам сваім:
— Я заўтра паеду, сябры, ў Ленінград.

Сябры сумавалі,
Пыталі не раз,
Згадаўшы аб рана мінуўшай вясне:
— Ты вернешся, Федзя?
Прыедзеш да нас?
— А як жа, вярнуся.
Чакайце мяне!

## III

Ленінград!
Смалячкова мы знали
Па-вясковаму простым:
Бегаў босы на лузе хлапчанё-пастушок.
Ленінград!
Ты яго ўзгадаваў,
Ты узняў яго постаць,
Даў рашучасць жаданням,
навастрыў яго зрок.

Ён прыехаў у горад аднойчы вясною
Ад прастораў дрымотных,
Ад лясной цішыні,
І здавалася ўсё там яму навіною —
Ленінградскія ночы,
Ленінградскія дні.
Вежы хлопца дзівілі,
што ўздымаліся ў неба,
Захаплялі каналы,
Чаравалі сады...
Федзя скрынку трымаў
з лустай чорствага хлеба,
Як праходзіў па вуліцах шумных тады.
Ён сябе да спакою
Меў жаданне прымусіць,
Неслухмяныя ж пальцы дрыжалі не ў лад.
Як ён марыў прывезці
Ў палі Беларусі
Хоць бы частку таго,
чым квітнеў Ленінград.
Ля палацаў спыняўся,
Разглядаў іх ахвотна.
І прыйшоў ён, мінаючы плошчы, масты,
Непрыкметна да брата
На суднарамонтны.
Цалаваліся моцна браты.
А праз месяц сапраўдным
ён стаў ленінградцам.
На работу ў завод уставаў на зары,
Рупным быў за варштатам.
Смалячкова-фабзайца,
Як дасціпнага хлопца, палюбілі майстры.
Федзя пільна ўглядаўся,
потым браўся спакойна
І рабіў. Працаваў ад душы.
І здавалася хлопцу,
Што з працы ягонай
Уздымаюцца ўвысь караблёў карпусы.
Воды Фінскай затокі!
Вы яго захаплялі
Неспакойнай гамонкай,
Гулам песень сваіх.
Як любіў ён на моры
шторм, суровыя хвалі,

Наглядаць, як лінкоры
праплываюць між іх,
Як любіў ён свой горад:
І граніт камяніцаў,
І дзівосныя ўзоры мастака-разбяра;
Як любіў ён,
калі бляск паўночнай зарніцы
Падаў срэбным святлом
над узлётам Пятра!
Як ён цешыўся там за сваё пакаленне,
За жыццё,
Што сюды юнака прывяло.
Чуў ён сэрцам —
Там жыў, працаваў мудры Ленін,
Там паветра, здавалася, гэтым жыло.
Славіў горад магутны,
Што ўздымаўся над светам,
І красу яго вуліц над Нявою-ракой,
Дзе стварылі бяссмерце мастакі і паэты
Для народа свайго неўміручай рукой;
Сэрца горад магутны
Прывяло, паяднала
З родным краем яго. Федзя марыў не раз:
— Падрасту,
Навучуся быць на ўсё дасканалым
І, палі Беларусі, я прыеду да вас!

IV

Быў чэрвень,
Калі ўсё расло і цвіло...
Быў дваццаць першага вечар спакойны.
А дваццаць другога сонца ўзышло
Пад грукат гарматаў крывава-чырвоным.

Як быццам зыначыўся свет уначы,
Маўклівао, летняй начною парою,
І тыя, што клаліся мірна спачыць,
Уранку
Уставалі, трымаючы зброю.

А выбухі рвалі сасновую глуш,
Усюды

Стагнала, смылела, гудзела...
І кветкі, апаўшыя з яблынь і груш,
Зямлю ўсю ахуталі саванам белым.

Святочна-ўрачысты
Паўсутак назад,
Пачуўшы разбойны напад чужаніцаў,
На захад сурова глядзеў Ленінград,
Гудзелі ад гневу кварталы сталіцы.

Ляцелі трывожныя весці-ганцы,
Радзіма
Склікала на бойку герояў,
І крочылі ў строях паходных байцы
Туды, дзе зямля чырванела крывёю.

І раніцай тою ў кругу дружбакоў,
Як сын, што радзіме душою аддany,
Ў райком камсамола прыйшоў Смалячкоў:
— Таварышы!
Сэрца баліць несціхана.

Пара мне!
У бойцы — адзіны мой шлях,
Няважна, што к часу не выйшаў гадамі,
Мяне беларуская кліча зямля
І бацька гукае з малымі братамі.

Сягоння пажары і выбухі там,
Крывёй
І слязамі заліты крыніцы...
Я кляўся ў дзяцінстве дубровам, гаям,
Што з першымі буду ў часы навальніцы.

Збыліся жаданні, і стаў ён такім,
Бо роўна праз тыдзень з ваяцкім уздымам
У горадзе Леніна,
Узняўшы штыкі,
Байцы прысягалі, і Федзя між імі.

Яны прысягалі
За родны свой дом
Змагацца бясстрашна, як цяжка ні будзе,
І кожнае слова паліла агнём,
І помстай сціскала юнацкія грудзі.

І Федзю няздарма ў семнаццаць гадоў
Хацелася крыкнуць
Ў бяскрайнія далі,
Каб воды, каб травы, каб лісці садоў —
І тыя аб гэтым пачуцці пазналі.

Каб маці казалі: такія сыны
Чужынцаў заўсёды штыкамі сустрэнуць!
Каб паўшыя храбра на полі вайны
Лічылі іх самай надзейнаю зменай.

І бачылі людзі
Сям'ю юнакоў,
Што шапкі з пашанай знялі безгранічнай
Перад героямі фінскіх баёў
Праз дзень ў інстытуце політэхнічным.

Там бачылі людзі
Сям'ю юнакоў,
Сям'ю маладых ленінградскіх рабочых,
Між імі задумны стаяў Смалячкоў,
Слязамі яго напаўняліся вочы.

Шаптаў ён:
— Вам слава! Вы добра жылі,
Загінулі ў бойках таксама прыгожа,
Над вамі мятлюгі, віхуры гулі,
Апошнюю песню спявалі марозы.

Хай часу не спыніш, і будуць шугаць
Над вамі
Ўсё новыя й новыя зімы,
Але, як нікому, вам цёпла ляжаць
Пад матчынай ласкай вялікай радзімы.

З палёў Беларусі,
Ад белых бяроз
Прынёс вам, героі, я шчырае слова:
Хай бура, хай вея, хай спёка, хай дождж,
Хай смерць —
не спалохаць нічым Смалячкова.

Калі ж мне астатняя хвіля праб'е
І лягу я ў доле

Ці дзе на прыгорку,
То нават застыўшыя вочы мае
Шукаць будуць ў небе чырвоную зорку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шаптаў ён:
— Вы слаўна, вы добра жылі,
Я ж сёння гатовы за край свой памерці.—
Быў ліпень. На фронт эшалоны ішлі,
І ў Федзі напружана білася сэрца.

## V

Вось і фронт. Лясок. Лагчына.
Ў бой рыхтуецца атрад.
Аднаго хацеў хлапчына,
А як выйшла — сам не рад.

Марыў Федзя: дасканалым
Стане снайперам-байцом,
Ды замест вінтоўкі ўдалай
Надзялілі чарпаком.

Што ж, і гэтую работу
Ён спраўляў заўсёды ў час.
Ледзь не ўсе з чацвёртай роты
Жартавалі — і не раз:

— Гэй, падсып, падсып, таварыш!
Каша просіцца сама,—
Лепей Федзі-кашавара
Ў цэлай арміі няма.

Смалячкову ж бойкі сняцца...
Не для гэтых смачных страў
Ён прыйшоў. Не так змагацца
Ён героям клятву даў!

Непамысна, ды і годзе,
Хоць ад сораму гары —
З першай лініі прыходзяць,
Выхваляюцца сябры:

— Ворагаў зямлёй мы дорым,
Днём знішчаем і ўначы.—
Хто чацвёра, хто васьмёра,
Хто й дзесятак налічыў.

Не, трываць ён больш не хоча
Пахвальбы таварышоў!
Да палкоўніка аднойчы
Федзя з просьбаю прыйшоў:

— Не магу на кухні болей
За катламі наглядаць,
Я прашу хоць раз дазволіць
Мне на фронце пастраляць.

Біў без промаху, дакладна,
Хлапчуком яшчэ малым...
Адказаў палкоўнік:
— Ладна,
Што за воін — паглядзім!

Праз гадзіну ў гай сасновы
Ён прыпоўз і ў снег залёг.
Удалося Смалячкову —
Палажыў за суткі трох.

А пасля так зведаў справу —
Першым стаў з усіх стралкоў.
І прайшла пра Федзю слава
Між усіх франтавікоў.

### VI

Снежань. Студзень. Снягі.
Кулі сыпалі градам.
Маразы працiналі аж да самай душы.
Вораг лёг, як удаў,
Навакол Ленінграда,
Сыкаў джалам змяіным,
нас хацеў задушыць.
Гнеў насілі танкісты, маракі, пехацінцы:
— Што ж на роднай зямлі
закаваным сядзець?

Шмат крывавых дарог
Аблягала сталіцу,
Людзі знalі адно — ці прарвацца, ці смерць.
Не прайсці чужаземцам, моцна сіла ў народзе,
Ёй дзяды надзялілі храбрых ўнукаў здавён.
Смалячкоў кожны дзень,
Ледзьве золак, выходзіць
І за краем пярэднім сочыць ворага ён.
Хай злуецца мароз, хай мятлюга шугае,
Ды нічога за помсту няма гарачэй!
Федзя ляжа ў кусты,
І ніхто не пазнае,
Што адтуль назірае пара зоркіх вачэй.
Бачыць ён — немцы ўглыб,
у зямлю пазалезлі кратамі,
Блізка, блізка яны, што прынеслі разбой.
І здаецца яму:
Бачыць ён за дратамі
Родны край Беларусь,
край, спавіты журбой,
Бачыць — бацька з братамі, апусціўшы галовы,
Адыходзяць у пушчу, пакідаючы дом,
І раку Трасіянку,
І лясы, і дубровы,
І бярозу, што плача пад хмурым акном.
Бачыць — віселыні там, дзе калісьці збіраўся
Будаваць па прыездзе вялізны завод.
Бачыць — плача дзяўчына,
Ёй прызнацца баяўся,
Што кахае бязмерна з чатырнаццаці год.
Бачыць — ходзяць сябры па лясах Беларусі,
Крыкнуць хочацца ім: «Хлопцы!
Разам нам жыць!
Пачакайце мяне,
Я ж казаў, што вярнуся,
Хто нас можа навек разлучыць, падзяліць?
Будзе радасць у нас, маці стрэнецца з сынам,
Можа, ў жоўтую восень ці зялёнай вясной,
А паду і не ўстану —
Знайце, я не загінуў,
Я прабіў сабе шлях да радзімы сваёй».
А над полем вайны — вецер, снег і марозы,
Ўсё жывое ў зямлю закавала зіма...
...Паказалася постаць

Над акопам варожым,
Прамільгнула секунда, і яе ўжо няма.
— Паляваў на ваўкоў я, а цяпер — на фашыстаў,
Шкода толькі, што знішчыў паганцаў няшмат.
Сёння соты! —
Сказаў Смалячкоў урачыста.
— Гэта ім за пакуты, за мой Ленінград.
Там, на вуліцах змрочных, плачуць дзеці напэўна,
Там ад свастыкі іхняй шмат няма ўжо ў жывых.
Што патрэбна табе,
Валацуга з-пад Рэйна,
Што цябе прывяло да ўзбярэжжаў Нявы?
Вам ляжаць між раўнін, як ламаччу і хлуду,
На пустых чарапах парасце дзікі мох.
Хто вас клікаў сюды,
Махляры і прыблуды,
Вам адгэтуль вярнуцца не будзе дарог! —
Так вядзе ён падлік. Ноч пачне апускацца,
Ляжа крыллем пахмурым на снягі між кустоў.
Морак дол засцілае.
Смалячкоў — у зямлянцы.
Справе снайперскай ён навучае байцоў:
Як прабрацца да мэты непрыкметна, употай,
Як страляць, каб без промаху весці агонь...
І ў каго ні спытай
З Ленінградскага фронту,
Кожны скажа аб славе ваяцкай яго!

## VII

Федзя быў сціплым. Заўсёды прывык
Рухацца далей упарта
Без крыку.
Болей за сотню быў яго лік,
А ён хацеў яго весці без ліку.
Ляжаць на марозе суткамі мог.
Мы помнім —
Уночы вея ўзнялася,
Вецер такі, што валіць з ног,
А Федзя ізноў у паход сабраўся.
— Пайду,— кажа,— гляну, сабак разбуджу,
Хай выйдуць,
Пабрэшуць дарма на зоры...

А што я, таварышы, вам скажу,
Адгэтуль наперад ісці нам скора.—
Жартуе: — Пайду і азначу шлях,
Такі, каб хутчэй
Прывёў да разгрому.—
Махае рукамі, а іскры ў вачах,
Марыць — вярнуўся з сябрамі дадому:
— Вёску займаем рашуча, з боем,
Стол нам засцелюць
Абрусам чыстым.
Усім пачастуюць: каго сырадоем,
Каго блінамі і сокам празрыстым.
Родных і блізкіх, пакутных там
Зноўку саберам,
Сагрэем самі,
А чорныя коміны стрэнуцца нам —
Смагу напоім сваімі слязамі.
Ісці нам, сябры, ад сяла да сяла.
Але да свайго мы прыйдзем парога.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён выйшаў. На твары усмешка была —
У хуткую верыў ён перамогу.

## VIII

Непакояцца ва ўзводзе,
Толькі й знаюць у бяседзе:
— Дзень мінае, ноч прыходзіць,
Што ж няма так доўга Федзі?

Камандзір, ў баях суровы
(Хваляваўся вельмі рэдка),
Ўсё ж двух вучняў Смалячкова
Пасылае на разведку.

За сваім пярэднім краем
Папаўзлі яны праведаць,
Ноч у пошуках блукаюць,
Не відаць нідзе і следу.

Да бяроз прыпалі ўпрыцем:
— Ці не бачылі вы, можа,

Беластволыя, скажыце? —
Ды стаяць, маўчаць бярозы.

— Вы, сняжынкі з белым крыллем,
Што над фронтам праляцелі,
Можа, вы яго накрылі? —
І ў адказ снягі цямнелі.

— Стой, вятры!
Вам ведаць болей:
Мо таварыша спаткалі
У кустах ці ў чыстым полі? —
Ветры ж толькі застагналі.

А назаўтра раніцою
Анямелі, адшукаўшы,—
На прыгорку, пад сасною,
Ён застыў, снягі абняўшы.

Апаліла сэрца жалем
Па герою маладому,—
Перад ім шляхі ляжалі,
Што вялі яго дадому.

І, здавалася, што ў полі
Ён сяброўскі голас чуе,
А яны сказалі з болем:
— Смалячкоў! Мы не даруем!

Хай сягоння нам журботна,
Абяцаць табе мы можам —
Ты забіў іх болей сотні,
Федзя, гэты лік памножым!

Не забудзецца краіна
Сына з бацькавых загонаў,
Па тваіх слядах-пуцінах
Вучняў выйдзе незлічона.

Ты, смерць, паміж намі і храбрым
ніколі не ляжаш мяжою,
Мы змоўчым ад болю
І ў грудзях задушым пакутлівы стогн.
Не плакаць нам дадзены слёзы,—
жалобнаю чыстай слязою

Мы клятву прыносім герою,
што будзем змагацца, як ён.
А клятву такую, што знішчым,
што набрыдзь чужынцаў раструшчым,
Трымаючы сцягі гвардзейцаў заўсёды высока ўгары.
Шумяць ленінградскія плошчы,
гудзяць беларускія пушчы.
Упарта з баямі на захад ідуць
Смалячкова сябры.
І пройдуць,— па травах духмяных
абсыплюцца зорныя росы,
Загойдаюць ветры ласкава палёў залатыя дары,
І пройдуць сцяжынкамі тымі,
дзе хлопчыкам бегаў ён босы.
Журботна схіліўшы галовы,
пра Федзю раскажуць бары.
Сустрэнуць народ, у якога узяў ён арліныя крыллі,
Пазнаюць, чаму ён асілак і зоркія вочы чаму,
Якая зямля ўзгадавала, якія крыніцы паілі,
Якія дубровы спявалі ваяцкую песню яму.

# БЕЛАРУСЬ

> Мой родны кут,
> Як ты мне мілы!..
>
> *Якуб Колас*

## I

Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,
У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў — ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог.

Зямля Беларусі! Вачамі азёраў
Глядзіш ты ў празрыстыя высі нябёс,
Начамі, што яблыкі, падаюць зоры,
Знікаюць па водах, па чорных разорах,
Па травах, абсыпаных кроплямі рос.

Былога быліны, старога паданні
Плывуць, як аблітыя сонцам чаўны,
Па краю зялёным, прасторах бяскрайніх
Ад Нёмна да Сожа, ад Буга да Гайны,
Па хвалях Дняпра і шырокай Дзвіны.

Бацькоў нашых слава на іх узбярэжжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары,
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І Турава сцены, і шум Белавежы,
І роднага Мінска сівыя муры.

## II

Зямля Беларусі! Ты ў полымі бою,
Ты ў бітвах суровых Айчыннай вайны;
Ты ўстала і зноўку ўзялася за зброю,
І меч свой напояць варожай крывёю
Твае непахісныя ў бойцы сыны.

Іх сіла, як сіла дубоў на Палессі,—
Высокія ростам, магутны ў плячах!

Іх многа, як сосен смалістых у лесе,
Як зор, што на небе абсыпалі месяц,
Як траў на шырокіх, бязмежных лугах.

За справу святую свабоды і чэсці
Ідзе незлічоная, дужая рацць:
«Смерць вырадкам лютым!» — адзіныя весці
У Мінску і Гродне, у Пінску і Брэсце,—
Па ўсёй Беларусі сягоння гучаць.

І помста няўмольна праходзіць шляхамі
Ад позняе ночы да ранняй зары.
Як гор не развеяць ліхімі вятрамі,
Як рэчак не высушыць злосці агнямі,—
Так сілы народнай нічым не скарыць!

III

Дзяды нашы білі драпежнікаў прускіх,
Не даўшы надзець на сябе кайданы,—
Пад Грунвальдам білі, на возеры Чудскім,
Там разам з украінскім братам і рускім
Сваю Беларусь баранілі яны.

Змагаліся з рознай напасцю варожай,
Прайшлі па смаленскіх, палтаўскіх палях,
Ішлі казакамі, у стэп Запарожжа,
І верылі цвёрда — ніхто іх не зможа,
Бо вечнаю праўдай жыла іх зямля!

Спытайцеся ў кожнай сасны і бярозкі,—
Яны вам раскажуць, як даўняй парой
Хадзіў тут Вашчыла, Хвясько, Каліноўскі,
Вадзілі атрады на подзвіг геройскі,
Іх слава, як сонца, стаіць над зямлёй.

Скарыць не падолелі іх чужаніцы,
Бо быў ім прытулкам і крэпасцю бор,
Чало асвятлялі з-пад Нёмна зарніцы,
І грудзі, як сталлю,
паілі крыніцы,
А шлях азначаўся мільёнамі зор.

## IV

Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,
Аб горадзе Полацку слава ішла,—
Друкар там выдатны Георгій Скарына,
Што зоры, рассыпаў па роднай краіне
Крыштальныя словы навукі-святла;

Нямала народаў з крыніц яго піла
І брала ад мудрасці вечны агонь,
У літарах першых знаходзячы сілу...
Ты слаўна, зямля, што вякам нарадзіла
Такога выдатнага сына свайго!

На грудзях тваіх, як скарбніцы жывыя,
Чалом выплываючы з даўняй імглы,
Стаяць гарадзенскія гмахі сівыя,
Муры Навагрудчыны, вежы Сафіі
І замкаў Заслаўля крутыя валы.

Аб славе народнай гамоняць зарніцы,
А думы яго захавалі ў сабе,
Як чыстыя перлы, азёры, крыніцы,
І неба вясёлкамі імі іскрыцца,
Што шлях асвятляюць яму ў барацьбе.

## V

Мы ў годы узлётаў і боек суровых
З Расіяй, Украінай разам былі.
Адзінага дрэва ў нас гучныя словы,
Як говар Дзвіны і гамонкі Дняпровы,
Яны нас ядналі на нашай зямлі.

Мы браліся разам за грозную зброю,
Крывёй мацавалі нярушны саюз,
Як чуўся гул ратны пад роднай Масквою,
Званілі мячы пад Чарнечай гарою,—
І бор твой у гневе гудзеў, Беларусь!

Ты кроўная з імі і лёсам і родам,
Адною асветлена ўсходняй зарой.
Ні немцам-магнатам, ні шляхцічам гордым

Цябе разлучыць не ўдалося. Заўсёды
Была ты з Расіяй, старэйшай сястрой.

Заўсёды ты з ёй на сумеснай дарозе
І ў яснае ранне і ў цёмнай начы.
І сонца праменні, і сцюжу марозаў,
І радасць уцехі, і горкія слёзы
Дзялілі вы, разам ў жыцці ідучы.

VI

Зямля Беларусі! Тваімі шляхамі
Вярнулася ворагаў мала дамоў —
На даўняй Нямізе іх слалі снапамі,
Крышыў на капусту іх Віцебск мячамі,
У Полацку варам варылі з валоў.

Скуголіць панурая цень Банапарта,
На хмурым чале яго чорны вянец:
«Чаго я імкнуўся сюды так упарта?
З расійцамі біцца ніколі не варта,—
Скарыць іх не зможаш, а знойдзеш канец».

І грознымі хвалямі кажа Бяроза:
«Чужынцам я заўжды прыносіла жах,
Нямала глынула я трупаў варожых,
Нямала іх змерзла на беразе ў лозах,
А колькі касцей у старых курганах».

Гамоняць над рэчкай дубы і чароты
Аб сіле народнай у тыя гады,
Як лезлі з усходу французскія роты,
Як іх дабівалі ў лясах і балотах
Сякерамі, віламі нашы дзяды.

VII

Зямля Беларусі! Не знала ты горшых,
Як немцаў-бандытаў, чужынцаў-звяроў.
Але уцякалі і кайзера бошы
З-пад сцен Магілёва, з-пад Полацка, Оршы
Пад грозным ударам чырвоных байцоў.

Палала над краем Кастрычніка ззянне,
Народ узнімаўся мільёнамі сіл,
Па сёлах і вёсках гудзелі паўстанні,—
Не ўдалася катам праменнага рання
На гонях раскутых тваіх пагасіць.

І ты, не зважаўшы на раны і болі,
Выходзіла ў пошуках праўды, святла.
Як шумам дажджу ты ачысціла поле,
Як дуб медналісты, расправіла голле
І пошасць атрэсла і з долу змяла.

І будзе ён слаўны ва ўсіх пакаленнях
На родных прасторах той памятны год,
Навек незабыўны твой дзень абуджэння,
Як рунню займаліся зоры насення,
Як крыллі ўздымаліся ў буйны палёт.

## VIII

Народ беларускі! Ты ўзняўся героем,
Даволі набыўся ў нядолі, бядзе —
І, твар свой абмыўшы крынічнай вадою,
Абцёршы усходняй, шаўковай зарою,
У будучнасць смела, адкрыта глядзеў.

Расправіўшы плечы, магутны, высокі,
Стаяў ты, як волат, між родных далін,
Як бор, галавою дастаўшы аблокаў,
Над шумным жытнёвым прасторам шырокім,
І вусны цвілі, як агні журавін.

Браты па нягодзе цябе раскавалі,
З вачэй тваіх чорныя хмары знялі;
Як бурнай паводкаю дужыя хвалі,
Як буйныя ветры, што хвалі гайдалі,
Абняў ты палеткі на вольнай зямлі.

Як гоман крынічны, як звон ручаёвы,
Як плёскат бязмежных, блакітных азёр,
Як гоман вясновых лістоў на дубровах,
Тваё зазвінела свабоднае слова,
Хвалой узляцеўшы да сонца і зор.

## IX

Кастрычніку вечная, вечная слава,—
Вялікія дні твой азначылі шлях,
Ты вырасла дужай, ты стала дзяржавай,
І, роўнай між роўных назваўшы па праву,
Кастрычнік прывёў на шырокі прасцяг.

Ты ў вымытай бела кужэльнай сарочцы.
Стан поясам слуцкім, як быццам зарой,
Абвіла. І лёнам цвілі твае вочы,
Калі ты, мінуўшы пахмурыя ночы,
Уполлеч з вялікаю стала сястрой.

Ты сэрцам гарачым сваім адчувала,
Што новае долі сустрэла часы.
І ветры на хвалях, нібы на цымбалах,
Аб днях урачыстасці гралі удала,
І шумна спявалі бары і лясы.

Навек адыходзілі крыўды, абразы...
Прыняўшы адзіны магутны саюз,
У вольнай сям'і ты ўзнялася адразу,
І вусны Паўночы і вусны Каўказа
З любоўю шапталі імя — Беларусь.

## X

Цябе, Беларусь, я шчасліваю бачыў,
Як ты расквітнела на гонях сваіх.
Спеў лірнікаў сумных над торбай жабрачай
І горкія слёзы сірочага плачу
Тады адышлі на дарогах тваіх.

А як ажывіўся прастор твой багаты!
Вясна, як вясёлка, над полем прайшла —
І выпрастаў плечы пакутны араты,
І зніклі з лучынаю курныя хаты,
А з імі мякіна сышла са стала.

Загойкалі пілы па лесе вясёла,
Плугі захадзілі па чорнай раллі,

Як звон, зазвінелі сасновыя сёлы,
Сцяной загудзелі жытнёвыя долы,
Крыніцамі песні твае пацяклі.

Як дорага сэрцу ты стала, краіна,
І поле тваё, і твае паплавы,
І дом твой, для госця адкрыты гасцінна,
І гоман пад небам, як спеў жураўліны,
І грозны, суровы твой шум баравы!

## XI

О, як ты збіралася, сіла народа,
Як мора прымала раку і ручай,
І воляю партыі ў дні пяцігодак
Гамонкаю фабрык, гамонкай заводаў
Напоўніла родны, абуджаны край.

Турбіны-асілкі спакойна і важка,
Скарыўшы адвечныя нетры жуды,
Агнямі Арэсы — балотнае казкі,
Іх рухам нястрымным, і гулам, і бляскам —
Жыццём акрылілі твае гарады.

І чулася нам у прасторах шырокіх,
Як песняй спавіўшы лясы і палі,
Гудкі ўсіх заводаў гудзелі навокал,
У родных размовах здалёку-далёку
Да фабрык сталіцы, да Мінска ішлі.

Мы славілі час урачысты і новы,
Над полем калгасным другую зару,
Тваіх трактароў і машын перамовы...
Не ў лапцях лазовых, не ў світцы суровай,
А ў новым убранні жыла Беларусь!

## XII

Мы ўвосень не зналі здабытку, як змерацъ,
Па свірнах засекі стаялі з дабром,
Па клунях ад збожжа ламаліся дзверы;
Буйныя антоны і слуцкія бэры,
Чарэшні і вішні былі за сталом.

Мы сеялі дбала, збіралі мы густа,
Мы з працы калгаснае ведалі плён —
У нас па вядру ураджала капуста,
І спорыла бульба рассыпчастым кустам,
І ў добрую сажань адборлівы лён.

А колькі ў нас ягад, чарніц і ажыны,
Па мхах журавіны да самай зімы;
А колькі вадзілася ў лесе дзічыны,
Шумелі чароты пад крыллем гусіным,
Чародамі ў рэках хадзілі самы.

Зямля Беларусі давала, што трэба.
Мы чулі, як сокі па нетрах гудуць,
І хлеб нам штодзённы, і ўсё, што да хлеба,
Здавалася нават, што зоры на небе,—
На гонкіх вяршалінах бору растуць.

## XIII

Зямля Беларусі! Былі ў нас клапоты,
Каб ты урадліваю ўся зацвіла,
Мы багну ўздымалі з адвечнай дрымоты,
Каналамі рэзалі нетры балотаў —
І з тванню знікала туманаў імгла.

Народная сіла скарыла паўсюды;
І там, дзе гібелі лаза ды імхі,
Дзе вокны бяздоння ляжалі пад хлудам,
Дзе продкі вялі з лесуном перасуды,—
Ішлі з перамогаю нашы плугі.

Мы ўзмахам рыдлёвак нядолю хавалі
І стомы ніколі не зналі ў руках.
Глухія палескія сумныя далі,
Як стрэлы, прабілі наскрозь магістралі,
І сталі сялібы на іх берагах.

Калі прыгадаеш, дык дзіву даешся,
Як многа зрабілася ў тыя часы.
О, як вы ўставалі, прасторы Палесся,
У нівах шырокіх, што ў казачных песнях,
У гомане буйнай жытнёвай красы.

XIV

Зямля Беларусі! Табой мы сагрэты,
Ніколі не сходзіш ты з нашых вачэй.
О, як ты прыгожа над Нёманам, лета!
Чаборам, рамонкам, мядункавым цветам
І водарам ясных купальскіх начэй.

Па вішнях і яблынях сонца разліта,
Яно над кустамі парэчак, малін;
Блішчаць сенажаці травой-аксамітам,
Хвалюецца возерам спелае жыта,
І шум канюшыны ўзлятае з лагчын.

Дарогі ў прысадах, бярозы, таполі,
Блакітнага неба струменіць віно,
Вятры пралятаюць, як песні над голлем.
Шырока-шырока калгаснае поле,
Куды ні паглянеш,— мяжы не відно.

Ніколі, ніколі, нідзе не забыцца,
Як хлопцы выходзяць адранкам касіць,
І росны мурог перад імі іскрыцца,
Як песні спяваюць вясёлыя жніцы,
Заплёўшыя ў косы красу зараніц.

XV

Знаходзілі мы адпачынак здаровы
Па ціхіх дубровах, па звонкіх гаях.
Азёры пад Леплем, бары Аўгустова
Дарылі паветрам смалістым, сасновым,—
Мы сілу, што крэмень, насілі ў грудзях.

Як добра, устаўшы вясной раніцою,
Адчуўшы на целе праменні цяпла,
Напіцца з цвітучых палёў сырадою
І ў чоўне паплыць задуменнай ракою
Пад мерныя ўсплёскі на хвалях вясла.

А з берага хіляць галовы купавы,
А кветак на полі, нібы аганькоў,
І ветры ўсяго абдымаюць ласкава,

І кратаюць вусны духмяныя травы,
А гоман птушыны, як хор гусляроў.

А як вы чароўны, Наддзвіння заходы,
І ў дзень вераснёвы і ў сонечны май!
Хто быў там аднойчы з якое нагоды,
Дык той праканаўся і скажа заўсёды —
Здаровы, прыгожы, азёрны наш край.

## XVI

Зямля Беларусі, зялёныя долы!
З крыніц тваіх чыстых пад шумнай вярбой
Зачэрпнулі думы Купала і Колас,
На кожнай сцяжынцы іх песня і голас
З тваёю журбою і ўцехай тваёй.

Пад гоманы бору, куванне зязюлі
Злажыў Багдановіч тут яркі вянок...
І поле, і пушчы, і рэкі тут чулі,
Як Цётка спявала, як марыў Бядуля,
Як слёзы рассыпаў Мацей Бурачок.

А як разгарнуўся наш росквіт вялікі
У дні нашай бурнай, прыгожай вясны.
Мы радасным песням не ведалі ліку —
Раслі спевакі, песняры і музыкі.
Аб шчасці народным спявалі яны.

Зямля Беларусі! Ты ў граях-вяснянках,
Ты ў звоне вясёлак, ты ў гуслях вятроў;
Ты песня сама ад крыніц да заранкі,
Ад зорак паўночных да сіняга ранку,
Ты наша паэма з бурштынавых слоў!

## XVII

Як гэта ўсё дорага сэрцу і блізка —
Над ціхаю Свіслаччу строі муроў,
Прасторныя плошчы і вуліцы Мінска...
Сталіца! Ты — нашага росту калыска,
Спрадвечная слава бацькоў і дзядоў.

Сталіца! Магутнасць твая незлічона,
Не раз ты суровую знала пару,
Тут шаблі крышылі французы, тэўтоны,
І шведы, і ляхі. Чужынцаў з праклёнам
Ты біла, збіраючы ўсю Беларусь.

Сталіца! Цябе будавалі мы дбала
У нашы савецкія, шчасныя дні,
Ты быццам на крыллях увысь узлятала,
Палац за палацам, квартал за кварталам,
Такая, якою ніхто і не сніў.

Блакітнае неба над горадам-садам,
Ускраіны ў гулкіх фабрычных гудках,
І бронзавы Ленін ля Дома Урада
Вітаў нашу сілу і буйную радасць
І зваў нас нязломнымі быць у вяках!

## XVIII

Мы славілі час той пад сцягам чырвоным,
Што раны балючыя нам загаіў,
Калі мы з братамі з-пад Буга і Нёмна,
Разбіўшы іх путаў ланцуг пад'яромны,
Сышліся навечна ў адзінай сям'і.

Адна гадавала нас родная маці,
Хто ж мог нас дратамі мяжы падзяліць?
Хто права займеў у прыгнечанай хаце
Забраць у братоў нашых скарбы, багацці
І волю пакінуць адну — галасіць?

Зямлю адабраўшы і роднае слова,
Не ведалі майстры прыгнёту-ярма,
Як Прыпяці нельга пасеч напалову,
Як вольных вятроў не суцішыць размовы,
Так нельга народ у палоне трымаць.

Калі мы з'ядналіся, слёзы, як росы,
Ад шчасця па тварах у нас пацяклі,
Бо прагнага сэрца жаданне збылося —
У промнях рабіны вясёлая восень
Хадзіла па ўсёй беларускай зямлі.

## XIX

Дык будзьце пракляты на вечныя векі,
Фашысцкай краіны забойцы-сыны,
Што страцілі воблік, душу чалавека,
Што ўсё разбурылі праз гвалты і здзекі,
Што ў край наш прынеслі пакуты вайны.

Агорнута сэрца і болем і жалем,
Ніяк не забыцца таго, Беларусь,
Як ветры тужылі, як рэкі рыдалі,
Як беглі па нівах крывавыя хвалі,
Як хмары закрылі пад небам зару.

Як нікла здабытае намі ў сталеццях,
Як горад ахуталі морак, жуда,
Як нішчылі вуліцы выбухі смерці,
Як чэзлі ў руінах забітыя дзеці,
Як сонца з-за хмараў было не відаць.

Як зграі з'явіліся з гвалтам, прымусам,
Як полымя крыллі плылі па начах...
Ды толькі не здаўся народ Беларусі,
Не стаў на калені, не паў, не сагнуўся,
А ворага стрэціў ударам мяча!

## XX

Зямля Беларусі! Ты ў гневе, ты ў ранах,
Твой гнеў разгараецца сёння ў агні.
Палямі-барамі сыны-партызаны,
Жыцця не шкадуючы, б'юцца аддана,—
Не рэкі гамоняць, а зброя звініць!

Ты ўстала паўстанкай прад набрыддзю дзікай
З азёрамі помсты ў грозных вачах.
Ды гэта ж не сосны, а вострыя пікі,
Ды гэта ж не вецер, а смерці музыка,
Што грае на чорных, варожых касцях.

Па ўсіх неабдымных прасторах-абшарах
Устала расплата, крывёй загула,
Знаходзіць чужынцаў суровая кара,

Грымяць Налібокі, хвалюецца Нарач,
На бераг з палону выходзіць Сула.

Зямля Беларусі! Ў часіны нягоды
Тваіх абаронцаў нязломная рать.
Хто жыў тваім хлебам, хто піў твае воды,
Хто меў тут прытулак у час непагоды,
Гатоў той памерці, цябе ж ратаваць!

## XXI

Бор шумны, бор грозны, вяшчун наш зялёны!
Гамоніш вячыстай, сівой галавой,
Як з вернай дружынай адважны Заслонаў
Знішчаў акупантаў,
скідаў эшалоны,
Маланкам і бурам ён родны і свой.

Бор шумны, бор грозны, гамоніш з вятрамі,
Галінамі сосен, ялін і дубоў,
Як Міша Сільніцкі хадзіў тут шляхамі,
Як роснае поле прыкрыў ён грудзямі
І зоркай над роднай зямлёй узышоў.

Бор шумны, бор грозны, гамонкай сяброўскай
Сягоння ты ўзняўся да самых аблок,—
Як ворага косіць наш храбры Дуброўскі,
Як нішчаць злачынцаў па сёлах і вёсках
Паўлоўскі, Казлоў, Бумажкоў, Лабанок.

Бор шумны, бор грозны гудзіць над краінай...
Сустрэнеш старога, малога — спытай,
Спытайцеся ў хлопца, спытайся ў дзяўчыны,
Адказ вы пачуеце толькі адзіны,—
Што помсцяць яны за разбураны край!

## XXII

Зямля Беларусі! У гуле і звоне
Сягоння ўздымаешся вольнаю ты,
Грымяць батарэі, імчаць эскадроны,
Цябе вызваляюць з прыгнёту-палону
Уплеч з сынамі са ўсходу браты...

Не залпы гарматаў, а сотні вясёлак
Пад снежаньскім небам высока лятуць.
О, як асвятляе чырвоны наш золак
Твае гарады і калгасныя сёлы,
Што болей і болей з няволі ўстаюць.

А ветры спяваюць чужынцам хаўтуры,
Ім некуды дзецца ад грозных байцоў,
Што йдуць з Украіны, Сібіры, Амура.
Ні снег, ні марозы, ні буры-віхуры
Ніколі не спыняць гвардзейскіх палкоў.

Да іх партызаны выходзяць сям'ёю,
На ўсю Беларусь узлятае святло,
Хай нашы палеткі абліты крывёю,
Ты мужнаю ўстанеш і яснай вясною
Рамонкамі зноўку расквеціш чало.

XXIII

Зямля Беларусі! Тваімі шляхамі
Мы рэйкі пралажым, збудуем масты,
Равы зараўнуем, засыплем плугамі,
Сялібы абсадзім густымі садамі,
На кожнай галіне расправім лісты.

Саберамся ў новай сасновай мы хаце,
Пасадзім бярозку пад самым акном,
Прыберам сірот у кужэльныя плацці,
На покут пасадзім старэнькую маці
І сядзем за радасным нашым сталом.

Мы пройдзем па вуліцах Мінска-сталіцы,
Прыберам руіны, агледзім муры,
Высока-высока ўзвядзём камяніцы,
І зноўку над імі святло заіскрыцца
У промнях вясёлых чырвонай зары.

Мы працаю ўзнімем за горадам горад,
Зялёнаю руннюю засцелем палі.
І будуць над борам бурштынныя зоры,
І будуць спяваць нам крыніцы, азёры
І шумныя рэкі на роднай зямлі.

## XXIV

Зямля Беларусі! Мы знаем — нямала
Загінула ў бойках адважных сыноў.
Мы верым, што знішчана будзе навала,
Бо ўсіх нас адзінаю воляй з'яднала
Магутная партыя бальшавікоў.

Яна нас нязломнымі быць навучыла,
Нідзе не баяцца ніякіх нягод,
У дні навальніцы давала нам сілу,
Праз моракі ночы заранкай свяціла,
Дала нам арліныя крыллі ў палёт.

Яна ўзгадавала нас дбайна, старанна,
Дала неўміручы, жыццёвы наказ.
Як з кроплі да кроплі гудуць акіяны,
Так мы загартаваны ў ёй і сабраны,—
На свеце ніхто не падолее нас.

Славутыя сцягі ўздымаюцца горда
Па грозных напрамках ваенных дарог,
У братнім яднанні сям'ёю народаў
Ідзём мы наперад упэўнена, цвёрда,
І ўсходзіць над намі зара перамог!

## XXV

Зямля Беларусі! Радзіма герояў!
Сягоння ў змаганні бязмежная шыр.
Ты ворага знішчыш, бо заўжды з табою
Народы Саветаў з адданай душою.
Ты шчасце сустрэнеш і радасны мір!

Як толькі з вайною на мірныя гоні
З'явілася зграя чужынцаў ліхіх,
Ты ўся паднялася пад сцягам чырвоным
І, мужна зрываючы путы палону,
Жывеш партызанкай між дзён баявых.

Зямля Беларусі! Палямі, барамі
Тваімі вакол вызваленне ідзе,
Праз буры-віхуры і снежную замець

Гвардзейцаў праходзяць палкі за палкамі,
А іх сустракаюць мільёны людзей.

Ідуць яны — сонца ўздымаецца, свеціць
Ад горада ў горад, з сяла да сяла.
Па ўсёй Беларусі і маткі і дзеці
Гавораць сягоння ад шчырага сэрца:
— Народу і партыі нашай хвала!

## ЯСНЫ КУТ

Я прыйшоў і ля дрэўца стаю.
Гэты клён
Той вясной я знайшоў у гаю,
Адкапаў там ашчадна,
Прынёс,
Пасадзіў у садку, каб ён рос,
Каб ён цешыў сялібу маю.
З той пары
Ён мой сон, ён мой дом;
Гэта ён мне шырокім лістом
Гаманіў над шпітальным акном
І ў бяссонных пакутных начах
Мне ратункам стаяў у вачах.
Я падняўся. Прайшоў між завей,
Я вярнуўся да родных мясцін.
Клён на тры ўжо калены вышэй,
Толькі ж я тут хадзіў не адзін.
Дзе ж ён той,
Што мяне забаўляў,
Што мне несці цябе пасабляў,
Мой сынок
Васілёк?!

Тут вясна,
Тут святло,
Тут жа сіняе неба, як шкло,
Тут крыніцы, як срэбра, відны,
Толькі ў вочах маіх туманы.
Я не чую,
Не бачу зялёных бяроз,—
Мае вочы аслеплі ад слёз,
Паміж чорных абвугленых дрэў,
Мне здаецца, я сам спапялеў.
Толькі ты ўсё шуміш,
Мной пасаджаны клён,
Я ж не бачу сялібы,
Ні ціхіх акон.

Мне яны не раскрыліся радасна ў хаце,
Не пабачыў я там сваю маці
На прыпірышчы сумным сваім.
Я малым стаў,
Малым.
Я гляджу на дарожны пясок,—
Сын мой, сын,
Васілёк!

Я знямелы стаю да цямна
І шукаю сляды, дзе яна?
У палях, у жытах за сялом,
Хто ж устаў там з бліскучым сярпом?
Хто там жніўную песню пяе?
Я маленькім ляжу ў таганах,
Я ўстаю і на голас яе
Першы раз па іржышчы іду
Ў свой далёкі, няскончаны шлях.
А цяпер
Я стаю і гляджу
На сухі на дарожны пясок.
Ўжо вечар. З-пад рэчкі, з асок
Рассцілаецца коўдрай туман.
Сын мой, сын,
Васілёк!

А цябе ўсё няма,
І няма маёй маці.
Між бароў, між лясоў
Я ж цябе, быццам кветку, знайшоў.
Мне нацешыцца дня было мала,
Так яна і мяне даглядала,
Ад вятроў, ад дажджоў
У хусціне ля сэрца трымала.
Не спала.
Колькі ночак да самага ранку
Прастаяла яна з калыханкай,
Саграваля мяне ціхім сном,
І паіла мяне малаком,
І ў жыцці мне заместа вясла
Свае словы і песню дала,
Каб знаходзіў дарогу здалёк
Я заўсёды у матчын куток.

Сын мой, сын!
Васілёк!

Я вярнуўся з адбітай рукой.
Я стаю. Ужо ноч нада мной.
Папялішчы ахутаў туман...
Вас няма!
Як спяшаўся я трапіць сюды!
Па-за мною ляжаць гарады,
І палеткі ў крыві,
І зямля, што казала: жыві!
Ты йшчэ прыйдзеш дамоў.
Я па трупах фашысцкіх ішоў,
І лажыла мяне і ўзнімала зара,
Маё сэрца не чула дабра,
Бо па іхніх калючых вачах
Прачытаў я свой боль,
Гэты жах.

Я прылёг на зямлю разам з горам сваім,—
Як маўкліва пад небам маім!
Хіба ж зоры вісяць нада мною уночы?
Не! То плачуць забітых сумотныя вочы,
А кругом паміж імі рассыпаўся дым.

Я маўчаў.
Ноч.
Не знаю пары.
Мне няма з кім абмовіцца словам,
Толькі ж я не адзін,
Як жывыя, стаяць каптуры
І, здаецца, са мною вядуць перамовы.
Світкі шэрыя ў іх,
З твараў сумных, блядных
Паспадалі бароды да долу, здаецца...
Пачакай, ці то здань.
А ці то сапраўды,
Што адзін з іх крануўся,
Да мяне падаецца.
Я гляджу насцярожаны чутка,
Ўжо абрысы пазнаў галавы,
Так і ёсць,—
Ён жывы.
Нават зорка на ім пяцікутка.

Я настрэчу ўзнімаюся хутка.
А на ўсходзе кавалак зары
Загарэўся ў той момант якраз.
Я пазнаў, я абняў, гаварыў:
— Дзед Лукаш, дзед Лукаш,
Я вярнуўся, падпасавіч ваш!
Мы сіроты з табой, землякі! —
Адказаў ён спагадна, як мог:
— У цябе не хапае рукі,
Будзе тры ў нас,
Нам хопіць на двох,
Адбудуем уласны парог.
Як ты скора вярнуўся ў свой дом!
Тут нядаўна хадзіў яшчэ кат.
Толькі ўчора наш выйшаў атрад
І з'яднаўся з гвардзейскім палком.
Я пакінуў іх там,
за Дняпром,
Яны далей і далей ад нас.
Мы ж з табою наладзім калгас.

Паглядзі,
Быццам пуста кругом,
Так сустрэўся ты з родным сялом.
Ты не бачыш людзей.
Ёсць жа ў нас хоць нямнога сямей
На пажарышчах,
сном спавітых.
У зямлянках жывуць, што краты...
Глянь,
Выходзяць адтуль на святло.
Адбудуем мы з імі сяло.

Па сялу,
Паміж чорных, нямых камiноў,
І павёў ён мяне,
І павёў...
Не злічыць на грудзях маіх ран,—
Яшчэ болей нясе іх жуда.
Мы стаім,
Перад намі курган,
Ён высокі, як наша бяда.
Ён глыбокі, што ў моры вада;
Ён жа боль,

Ён жа жах, смутак наш.
Пры курганах панурых такіх
Колькі нас засталося адных!

Я маўчу.
Мне гаворыць Лукаш:
— Два гады ўжо з таго адышло,
Як загінула наша сяло.
Пад курганам ляжыць
Паўсяла,
А другая палова пайшла
На чужыну далёка, далёка...
Я не знаю, дзе хто,
Сваім вокам
Я не бачыў жахлівай падзеі,
Лес мяне не аддаў ліхадзеям.—
Да зямлі прыкаваўся мой зрок:
Сын мой, сын,
Васілёк!

Толькі сонца не знае тугі,
Яно роўна абходзіць кругі
Над зямлёй
І цяпер апаўдні
Рассмяялася над галавой,
І праменне над рэчкай звініць...
А вакол, як абняць, паплавы
Прабіваюцца крыкам травы:
— Жыць!
Бор таксама крычыць:
— Жыць!

Бачым,
Выйшлі жанчыны
І працуюць з пілой,
За гумном хлапчанё захадзіўся з касой.
Грушу-бэру старанна
Ад гарэлай кары
Абчышчае стары.
Што такое, адкуль кулямёт?
Фронт?
Далёка адсунуўся фронт,
Да яго многа вёсак і сёл...

Мы глядзім з Лукашом навакол,
Нас усмешка сагрэла цяплом —
На вязу,
Над старым калясом,
Ладзіць бусел няхітры свой дом
Ды клякоча сабе
Пакрысе,
Стаючы
На высокайназе.

Паглядзеў з нас адзін і другі
Навакол на свае берагі,
Ды пайшлі ўдвух сцяжынкай адной,
Спілавалі там дуб над ракой.
Сто гадоў рос ты, дуб,
Быў нам дораг і люб!
Мы ж спілілі цябе
На адзін толькі слуп.
Каб ты стаў, родны дуб,
Болей дораг і люб!

Гэты слуп я прынёс і Лукаш,
І ўкапалі на выгане ў нас,
Каб стаяў многа год,
Многа дзён,
Каб здалёку быў добра відзён,
Абсадзілі карэннямі руж.
А з сяла
І стары і малы
Стаў пры слупе сваім;
І прыбілі мы дошку на ім,
Каб ўсе знаді, што тут
Наш калгас: «Ясны кут»,
Трыста душ.

Мы пайшлі абхадзіць па мяжы
Наш калгас,
Дзе чакаць нам сваіх,
Дзе нам жыць.
Захад гас,
І праменняў яго палазы
Упіраліся ў рэчку канцамі...
Мы ішлі з Лукашом гушчарамі.
Дзень канчаўся,

І нам было шкода,
Толькі зналі, што заўтра з усходу
Зноўку блісне святло,
Разбяжыцца агнямі,
Будзе тут, на зямлі нашай,
З намі!

Раптам з лесу, зусім на змярканні,
Даляцела к нам конскае ржанне.
Мы пабеглі і ўбачылі —
Пегі, пануры,
Стаіць паміж елак
З нямецкаю фурай.
Відаць, што прыкончылі нашы салдата,
А конь не патрапіў дабрацца дахаты.
І жартуе Лукаш:
— Гэта будзе палонны
Наш!

А на раніцу, ледзьве на золак,
Мы за плугам гамонім вясёла:
Мы сваю сустракаем вясну
І ўладарна кладзём баразну,
Ажыўляючы родныя гоні.
А суседні калгас
Даў насенне для нас.

Пройдзем мы,
А па следу аратых
Хутка стануць шаптацца зярняты;
Будуць цешыць ячмень і авёс
Нас да слёз;
Разбяжыцца, як быстрая рэчка,
Наша белая, белая грэчка,
І на градах паснуць качаны.
Ажывае сяло.

Мы з табою, Лукаш,
Не адны:
Бачаць нашую працу здалёк
Мая маці і сын Васілёк.
О, як дораг ім гэты куток!
Дзень за днём,
Дзень за днём

Працаваў наш калгас,
Працавалі мы так з Лукашом.
Ужо ўсходы плылі па зямлі
І ажыны ў садку зацвілі.

Час прыйшоў нам наладзіць свой дом.
Ад цямна да цямна
Мы складалі бярно да бярна,
Каб за вясну прытулак займець,
Мы лажылі вянец на вянец.
І ўздымаўся смалісты і радасны ён
Ад падмурку да самых акон,
А пасля ён увысь узляцеў галавой,
Жоўтай, жоўтай страхой.

А да нас з-за зялёных бароў
Ужо чэрвень пахучы прыйшоў,
І на захад далёка прайшоў наш салдат,
Не чутно ані куль, ні гармат.
Тут жыццё нас уцехаю дорыць,
Мы на ганку сядзім і гаворым —
Я, прыйшоўшы сюды пасля ран,
І стары партызан.
А над намі дрымотная высь.
Месяц, быццам падкова, павіс
На зялёнай сасне.
Сам пачаў зелянець,
Што зязюля гатова туды ўзляцець,
Каб адтуль нам з гары пракуваць,
Доўгіх год пажадаць.
Ціха, ціха. Нікога нідзе.
Што ж за зорка з-за рэчкі ідзе? —
Белы кужаль, не твар,
Валасы, як той попел, як дым...
Мы ўстаём з Лукашом і глядзім,
Нас кідае у жар:
Гэта ж наша дзяўчынка,
Аўгінька,
Кавалёва дачка,
Што нагадвала нам светлячка.
Мы ёй кажам:
— Ты ў пору прыйшла,
Бачыш, яблынька ў нас расцвіла.

А яна у адказ — і слязіны між слоў,
Быццам кроплі дажджу між лістоў:
— Я была на вайне,
На чужой старане.
Я вярнулася толькі з вайны,
З той нялюбай чужой стараны.
Я не знаю сваіх, дзе яны,
Разлучылі ўсіх нас бізуны.
Я насіла свой боль і дакор
Паміж рускіх гаротных сясцёр.
Калі б нашага плачу рака усплыла,
Той бы рэчкай да вас прыплыла.
Каб сабраць наш пакутлівы стогн,
Аглушыў бы Нямеччыну ён.—
Мы праплакалі зрок.
Наша кроў —
Што ні крок.
Сын мой, сын,
Васілёк!

Я пабачыў твой горасны шлях
У Аўгінькі ў журботных вачах.
Мы Аўгіньку сваю, як дачку,
З Лукашом узялі пад руку,
Абышлі ўсе старыя загоны,
Накапалі там кветак чырвоных
І вярнуліся ў хату сваю.
Мы паставілі кветкі на вокнах радамі,
Каб гарэлі яны aганькамі;
Каб жа кожны, дамоў ідучы,
Бачыў днём іх
І позна ўначы,
Каб ён ведаў,
Свой лёс несучы,
Дзе ад нашага шчасця ключы.
Колькі, колькі са свету дарог
Прывядзе іх на родны парог!
Мы выходзім на ганак утрох —
Перад намі крыніцы бруяць,
Хвоі голавы хіляць здалёк:
Чуеш, маці мая,
Сын мой, сын,
Васілёк!

Вас чакае свой родны куток.
Ён у сэрцы маім, ваш пакутлівы шлях.
О, як хораша ў нас на палях,
Тут і ветры свае,
Тут і птушка пяе,
Жытні колас па твару нам б'е.
Побліз нас ля гаёў
Бык на пожні зароў,
А на пожнях трава, як віном, налітая:
Ён сям'ю сваю мужна склікае.
На шырокія выйшаўшы гоні,
Зноўку трактар гамоніць.
Мы глядзім на суседні калгас,—
Колькі там адбудована хат,
Колькі там маладзіц і дзяўчат!
Скора вернуцца, будзе і ў нас
Шмат.
Мне чуцён
Ужо твой галасок,
Сын мой, сын,
Васілёк!

Многа вернецца нашых салдат,
Што ў вароты Германіі б'юць.
Будзь жа,
Будзь
Ты на іхнім шляху, перамога
І да хаты пад сонцам дарога,
Каб шляхамі да родных сялібаў і зор
Прывялі сваіх матак, братоў і сясцёр.
Тут
Бацькоўскі наш кут,
Край узроджаны наш.
Мы стаім —
Я, Аўгінька, Лукаш —
І з чужога, далёкага краю
Вас дадому чакаем.
Нашы сосны —
Для вас маякі,
Вас на вокнах завуць агянькі.

## ПАЛАНЯНКА

Цёмнай восеньскай ноччу,
Цёмнай ноччу глыбокай
Прывялі паланянку
На чужыну далёка.

На чужыне далёкай
Неба выслана дымам.
Пасадзілі дзяўчыну
За драты Асвянціма.

За дратамі густымі
Злосны крык з бізунамі.
Развіталася Люба
З маладымі гадамі.

Развіталася Люба
З песняй шчырай, дзявочай,
Назаўсёды пагаслі
Жартаўлівыя вочы.

Спахмурнеў, замаркотнеў
Твар бялявы, што месяц...
Ах ты, Любачка, Люба,
Партызанка з Палесся.

Ты сама не згадаеш,
Дзе бацькоў пахавала,
Тры гады над табою
Смерць з касою стаяла.

Тры гады апаўночы
Выганялі на «апэль»,
Тры гады муштравалі
Прыганятыя — «капы».

Тры гады ты не мела
Ласкі з чорнага неба,

Тры гады сумавала
Па акрайчыку хлеба.

Што з цябе засталося
Тымі днямі цяжкімі —
Толькі стан чараціны
Ды ласкавае імя.

Слава воінам нашым,
Што прынеслі вам волю!
Не забудуць пра гэта
Паланянкі ніколі.

Помніш выбухі, залпы,
Чырванеліся далі...
Ох, і білі ж гарматы,
Як цябе вызвалялі.

Ты пабачыла родных,
Сэрцу блізкіх, знаёмых
Ды, паплакаўшы разам,
Паспяшала дадому.

Добра знала — не стрэнуць
Ані бацька, ні маці,
Толькі знала — там сонца,
Што свяціла дзіцяці.

Засталася там ніва,
Што адмалку карміла,
Засталася крыніца,
Што вадою паіла;

Засталіся зарніцы
Залацістага ранку,
Засталіся пуціны,
Дзе сляды ад каханка;

Засталіся дубровы,
Сосны стромыя ў лесе...

. . . . . . . . . . . .

Недалёкая сцежка,
Што вядзе на Палессе.

Беглі сцежкі па свеце,
Што ў палях ручаіны,—
Прывялі паланянку
Да знаёмай мясціны.

Стала Люба на ўзгорку,
Ледзьве з гора не плача —
Гэта ж родную вёску
Падмянілі, няйначай.

Навакол, як пабачыш,
След пажарышчаў чорны,
Ані клуба, ні школы,
Ані вуліц прасторных.

Ні дубоў медналістых,
Ні ліповых прысадаў,
Ні гаёў над ракою,
Ні зялёнага саду.

І здавалася б, вока
Не знайшло б там прыпынку,
Калі б там не стаялі
Чарадою хацінкі,

Што на шлях паглядалі
Зноў гасцінна аконцам,
Узнімаючы стрэхі
Да ласкавага сонца.

У зялёных бярозак
Запытала дзяўчына:
— А куды мне падзецца
Тут адной, сіраціне?

Зашумелі лістамі,
Адказалі бярозы:
— Як сваю, цябе стрэнуць,
Вытры горкія слёзы!

Запытала ў яліны:
— Ты скажы мне, сястрыца,
Хто прывеціць [illegible] дарогі,
Хто падасць мне напіцца?

Адказала яліна:
— Не хвалюйся без меры,
Дзе ні ступіш на ганак,
Там раскрыюцца дзверы.

Трэці раз запытала:
— Дуб, наш волат магутны,
Хто мне ложак пасцеліць
Адзінокай, пакутнай?

Загудзеўшы вярхамі,
Дуб параіўся з дубам:
— Ў кожнай хаце жаданай
Будзеш, бедная Люба!

Акрыяла дзяўчына.
Зніклі цені адчаю,
І пагрукала ў сенцы
Першай хаты ад краю.

Усхадзіліся людзі.
Не прайшло і хвіліны —
Абдымалі суседзі
Паланянку-дзяўчыну.

А калі прывітаўся
Шчыра з Любаю кожны,—
Пасадзілі на куце
Ды спыталі трывожна:

— Дзе старыя, малыя,
А куды іх падзелі?
Дзе астатнія тыя,
Што з табою гібелі?

На чало маладое
Хмара чорная пала,
І пакутніца ціха
Ім усім адказала:

— Вецер попел развеяў,
Вось што сталася з імі
На далёкай чужыне,
На палях Асвянціма!

Засталася адною.
Цяжка жыць мне такою...—
І заплакалі людзі
Разам з ёй, сіратою:

— Ты прыйшла на світанне
З чорнай ночы суровай,
Ты прынесла ад мёртвых
Развітальныя словы.

Ты прайшла паднявольнай
Блізка смерці шляхамі.
Мы цябе не пакінем,
Ты свая паміж намі.

Будзеш роднай дачкою,
Досыць быць адзінокай.
Паглядзі, як над борам
Сонца стала высока.

Так прыйшла сіраціна
Ў родны кут ад загубы.
Прыгарнулі суседзі,
Быццам родную, Любу.

А знаёмае поле
Ўсхвалявала дзяўчыну,
І гамонка рамонкаў,
І напеў ручаіны,

І высока на ўзгорку
Ветраковыя крылы,
І далёкая зорка,
Што ў дзяцінстве свяціла,

І жытнёвыя спевы
За спюдзёнай ракою...
— Толькі дзе ж вы, падружкі,
Што хадзілі ў жытное?

О, як пахнуць на лузе
Шаўкавістыя травы!
Толькі дзе гарманісты,
Што глядзеў так ласкава?

Не забыцца хвіліны,
Як назваў дарагою...
Ён, казалі, загінуў
У баях пад Масквою.

Як згадае пра гэта,
Стане горна і шкода...
— Ой, няўжо адляцелі
Вы, шчаслівыя годы?

Ходзіць Люба ў самоце,
Па дарогах блукае...
Бачаць людзі, што чэзне
Без пары маладая.

Не заплецены косы,
Стан танклявей травінкі,
Спахмурнелыя вочы,
Белы твар — ні крывінкі.

Дзе ні йдзе па дарожцы,
Голаў схілены долу.
Непакояцца людзі,
Што ж яна невясёла?

Каб разведаць пра гора
І дазнацца прычыну,
Часам прыйдуць суседкі,
Запытаюць дзяўчыну:

— Што цябе так хвалюе,
Мо згрызота якая?
Чым жа ты засмучона,
Мо чаго не хапае?

Чуеш ты, салаўіны
Над сялібамі голас,
Паглядзі, як высока
Узнімаецца колас!

Паглядзі, чараціны
Зашумелі над рэчкай.
Каштаны на дарозе
Пазапальвалі свечкі.

Чуеш, ветры спяваюць
Над барамі вясёла,
І ад ранку гамоняць
Працавітыя пчолы.

Паглядзі, разаслаўся
Луг абрусам зялёным...
Супакойся, дзяўчынка,
Чым жа ты засмучона?

Бачыш, ліха мінула,
Непакоіцца годзе! —
Змоўчыць Люба
Ды зноўку
Адзінотаю ходзіць,

Бо не можа былога
Воблік жудасны сцерці,
Бо не гоіцца рана,
Што глыбока на сэрцы.

Пойдзе ў гай ці дуброву,
Хтосьці гоніцца быццам,
А як прыйдзе на бераг
Ды на вір заглядзіцца,—

Здасца ёй — Асвянціма
Там драты загайдалі,
Наглядальнікаў твары
Выглядаюць праз хвалі.

Бачыць многа пакутных,
Што ў нядолі, ў галечы...
І дымяць аж пад неба
Печы, чорныя печы.

Узняліся высока,
Злосна іх палыханне...
Уцякае дзяўчына
Ад жахлівае здані,

Ад жахлівае здані,
Ад прывіду цяжкога
Ды схаваецца ў жыце,
Каб не бачыць нічога.

Толькі б слухаць ды слухаць
Шум жытоў над сабою...
Так сядзела аднойчы.
...Што за дзіва такое?

Па сцяжынцы, што полем
Бегла з лесу дадому,
Быццам грае гармонік,
А знаёма, знаёма...

— Глянь, дзяўчынка, ля бору
Сонца яснае ўсходзіць...—
Гэта ж песенька тая,
Што іграў ёй Валодзя.

А гармонік гамоніць,
Ціш вясковую будзіць...
І забілася сэрца,
Разрываючы грудзі.

Усхапілася Люба,
Выйшла з жыта нясмела.
А пабачыла добра —
Ледзь яна не самлела.

Так і ёсць!
Твар ягоны...
Як магло гэта стацца,
Хіба ж можа каханак
Ды з магілы падняцца?

Ён жа, ён! Толькі плечы
Больш шырэйшымі сталі,
Ды на грудзях радамі
Ордэны і медалі.

Ёсць на свеце надзіва
Непаўторныя рэчы!..
О, якой нечаканай
Ты была, іх сустрэча!

Ад спаткання такога
Не прамовілі слова,
Нават вусны знямелі,
Нават твары збялелі.

Нават вецер над імі,
Усхвалёваны, змоўчаў,
Толькі сэрцы спявалі.
Толькі плакалі вочы.

Ўжо над вёскаю вечар
Рассцілаўся заранкай,
Як пайшлі ўдвух дахаты
З-пад жытнога каханкі.

Кожны рад быў на вёсцы,
Што іх разам угледзеў.
Са зваротам дадому
Прывіталі суседзі.

Прывіталі суседзі,
Стол абрусам накрылі
Ды сяброўскую радасць
Чаркай добрай змачылі.

Да паўночы сядзелі,
Покуль сны агарнулі...
Толькі двое каханкаў
Ні на міг не заснулі.

Гаварылі да рання
Пра часіны цяжкія,
Пра драты Асвянціма,
Пра шляхі франтавыя.

Гаварылі ад сэрца
Пад атуленнем ночы,
Калі слоў не хапала,
Дагаварвалі вочы...

Адгрымелі гарматы,
Адышла страляніна.
Хто застаўся, вярнуўся
Зноў да роднай мясціны.

Бо нядарма з вінтоўкай
Ён вайну перамераў,
Каб вярнуцца да плуга,
Да касы і сякеры.

Бо нядарма праплыў ён
Найвялікшыя рэкі —
Жыць ён мусіць у хаце,
Як і след чалавеку.

А па страчаных блізкіх
На крывавай дарозе
Можна плакаць, ды плачам
У жыцці не паможаш.

Кожны знае, што з працы
Смачна хлеба скарынка,
Хмельны сок у бярозы,
Песціць вока травінка.

Птушка цягне здабытак
Птушаняці маломy,—
Значыць, дбаць пра жывое
Трэба заўжды жывому.

Жыць, каб дзеці, што кветкі
Па садах, расцвіталі...
Так і Люба з Валодзем
Аб жыцці меркавалі.

О, як сэрца хвалюе
Першы воклiч дзіцячы...
Толькі чорная доля
Меркавала інача й.

Часу радаснай песні
Ім прызначыла мала,
Бо нядужая Люба
На вачах высыхала.

А праз месяц, як восень
Жоўты ліст рассыпала,
Злегла хворая Люба
І ўжо болей не ўстала.

Хай над пеклам астрожным
Кляцьба вечная будзе —
Гэта ж там назаўсёды
Надламіліся грудзі.

І ад самага ранку,
Покуль сонца не зойдзе,
Не знаходзіў спакою
Адзінокі Валодзя.

Ён праседжываў ночы,
Ні хвіліны не спаўшы.
Ён скакаў па мястэчках,
Дактароў заклікаўшы.

Прыязджалі, глядзелі,
Не памог ні адзіны.
А пакутніца Люба
Чэзла з кожнай хвілінай.

Хваляваўся Валодзя,
Ледзь не плакаў з адчаю —
Дзе ж на свеце ты, праўда,
Што яе забіраеш?

«Мы спаткаліся толькі,
Разлучаць нас не гожа,
Хіба ж дарма прайшоў я
Ўсе равы й загарожы?

Толькі з ёю сустрэцца —
Жыў я думкай адною.
Хіба ж дарма дарогі
Паліваў я крывёю?

Не аддам, не аддам я
Дарагую дзяўчыну,
Хіба ж дарма вярнуўся
Да яе з-пад Берліну?»

Ён хадзіў у жытное,
Вецер жаласна гушкаў.
Зажурыўся гармонік,
Нават плакалі птушкі.

Ён прасіў у прастораў
Спачування, спагады.
Да чаго ні звяртаўся
Ён, шукаючы рады.

Ён прыходзіў да Любы
З чабаром, з медуніцай,
Ён прыходзіў да Любы
З каласамі пшаніцы.

Ён прыходзіў да Любы
З рутай-мятай шаўковай,
Ён прыходзіў да Любы
З цветам жоўтым, ліповым.

І казаў ёй: — Устань жа,
Глянь вачамі заранак,
Пажадай, чаго хочаш,
Для цябе я дастану.

Свет нагамі я змераў,
Зноў прамчуся стралою,—
Што зямля толькі мае,
Пакладу прад табою.

Хочаш кветку Купалля,
Што зямля захавала?
Хочаш зорку з-пад неба?..—
А яна не ўставала.

Апускаліся вейкі
У пакутнай дзяўчыны,
Быццам сумныя хвоі
Па-над возерам сінім.

А на твары збялелым
Чырванюткія кроплі,
Быццам ягад рабіна
Ёй паклала на шчокі.

І здавалася, мольбаў,
Слоў ягоных не чула...
Толькі белыя рукі
Да каханка хінула.

— Супакойся, цяжкая
Мне прыходзіць хвіліна,
Я хачу, каб на свеце
Не блукаў ты адзіны.

Ажаніся, хай дзеці
Забаўляюць гульнёю,
Як сасонкі малыя
Ля сасны маладое.

Каб не ведаў ты з імі
Ні бяды, ні дакукі,
Каб, як сумна, заўсёды
Браў гармонік ты ў рукі

Ды іграў ім ад сэрца
Пра шчаслівую долю...
А мяне пахавайце
На гары пры таполі.

Я хачу, каб дзяўчаты
Блізка ў жыце спявалі,
Я хачу, каб вясёлкі
Нада мною ігралі.

Я хачу, каб на голлях
Вецер радасны гушкаў,
Каб спявала з таполі
Пералётная птушка.

Каб скрозь ноч-дамавіну
Мной было там пачута,
Што ніхто не сустрэне
Болей нашай пакуты.

Каб пад тою таполяй
Любы цешыўся з любай.

. . . . . . . . . .

А зусім на змярканні
Змоўкла бедная Люба.

Выбег з хаты Валодзя,
Налякашы да жаху,
Стаў у полі на ўзгорку,
Павярнуўся на захад.

І на захад далёкі,
Да чужацкага краю,

Кулаком, моцна сцятым,
Пагражаў ён з адчаю.

— Вас, што смерць сюды неслі,
Я ў спакоі не кіну,
Дзе вы, тыя, што сёння
Загубілі дзяўчыну?

Мо збіраеце кветкі
Вы, пакінуўшы стрэльбы.
Што ж, я вас адшукаю
Хоць за Рэйнам ці Эльбай.

Можа, з дзецьмі сваімі
Вы гуляеце лугам,
З-пад дзесятае сховы
Я знайду вас, звяругі.

Бачыць вас не жадаюць
Ані сонца, ні месяц!
Не хачу больш нічога,
Вас бы толькі павесіць.

Акіяны не ўмесцяць,
Што ў грудзях маіх болю,—
Не дарую за гэта,
Не дарую ніколі!

А назаўтра уранку
Сумавалі рабіны —
Неслі людзі на ўзгорак
На плячах дамавіну.

Нахіліўся каханак
Над труною дзявочай...
Два лісты тапалёвых
Палі Любе на вочы.

Твар празрысты, спакойны,
Быццам толькі заснула,
І зямля, як здалося,
Пад трунoю ўздыхнула.

Развіталіся людзі
З паланянкай-дзяўчынай,

А на ўзгорку высокім
Вырас насып магільны.

Сведка нашага смутку,
Сведка гора і болю —
На гары пад вятрамі
Той курган ля таполі.

Ля кургана дарогі
Разыходзяцца ў полі.
І праходзяць там людзі —
Ўспамінаюць няволю.

Хто з сярпом, хто з сякерай,
Хто касу з іх трымае,
Навакол паглядаюць —
Скрозь жыццё расцвітае.

Яны галавы хіляць
Прад магілай дзяўчыны,
Праклінаюць чужыну,
Праслаўляюць айчыну!

## ХЛЕБ

### I

Смачны хлеб працавіты.
Сейбіт ходзіць палямі,—
Сыпле, сыпле ён жыта
Залатымі дажджамі.

Пяць гадоў, можа, болей,
Як не быў тут, напэўне,
Праслаўляе ён поле
І ліповую сеўню.

І агні на рабінах
З баравое паляны,
І красуню-дзяўчыну,
Што так лешыць старанна.

Што саломкаю меціць
Шлях ці голлем зялёным,
І да долу хінецца
З урачыстым паклонам.

Прамільгнуць светлякамі
Зерні з ветрам імкліва —
Пакладуцца радамі
На пуховую ніву.

А дзе зернета пала —
Шум калоссяў здаецца,
Што вясёлка, зайграла
Сёння ў сейбіта сэрца.

Бо сваімі рукамі
Засявае палетак,—
Колькі год між баямі
Ён памарыў пра гэта.

Колькі раз ў завіруху
Чуў узрушаны голас —

Гэта шэптам, на вуха,
Гаманіў яму колас.

Між агню франтавога,
Між гарматнага грому —
Быццам зваў да жытнога,
Да далёкага дому.

Як хацеў ён, да болю,
Той паслухацца рады,
Ды салдацкае поле
Узнімалі снарады.

Ды салдацкае поле
Кулямёты аралі,
Ды салдацкае поле
Кулі скрозь засявалі.

Да далёкае Эльбы
Гнаў чужынцаў наш сейбіт
І вярнуўся дахаты,
Зноў да жытніх зярнятаў.

Вось ён ходзіць палямі,
Па прасторах шырозных,—
Нібы ў кнізе, радамі
Роўна леглі барозны.

Сыпне горсць залатую,
Восень звонкую збудзіць,
Вецер з бору цалуе
Расхрыстаныя грудзі.

Чырванееццa неба,
Чырвань з краю да краю.
На вільготную глебу
Мякка ногі ступаюць.

Сейбіт марыць, ды годзе,
Быццам хвіляю тою,
Дзе ён толькі ні пройдзе,—
Войска ўстане сцяною.

Ды, не знаючы зморы,
Сее дбала і многа —

Сонца села за борам,
Сеў і ён ля дарогі.

Нахіліліся травы
Перад захадам сінім.
Сейбіт глянуў ласкава
На красуню дзяўчыну.

Ды сказаў ён з усмешкай:
— Ты ляшыла са спрытам,
Не забудзься на сцежкі,
Дзе мы сеялі жыта!

II

Быццам кроў, журавіны
Чырванеюць між лозаў,
Адплыло павуцінне,
Пажаўцелі бярозы.

Замаркотнелі далі,
Абляцелі крушыны,
Толькі зерні ўставалі
Там, дзе сейбіт іх кінуў.

Як бы выраслі крыллі
У зярнят за плячамі,
Як бы поле прабілі
Скрозь яны агенькамі.

Сейбіт прыйдзе з надзеяй,
Паглядзіць, усміхнецца,
Быццам там ён пасеяў
Свой кавалачак сэрца.

Падышоў на загоны
І ў глыбокую восень —
Хваляй, морам зялёным
Жыта скрозь разлілося.

Падышоў, як заранка
Поле скрозь ахінула,
Падышоў, калі ранкам
Срэбра рунь закранула.

Ці то сам напрарочыў
Ён пра тую хвіліну,
Бо на руні аднойчы
Зноў сустрэўся з дзяўчынай.

Шчыра з ёй прывітаўся
Ды нясмела спытаўся:
— Ці не поле жытное
Нас так вабіць з табою?

А дзявочыя бровы
Узляцелі, што крылы,
Адказала сурова:
— Я каралі згубіла!

III

З пушчаў, з даляў сасновых
Палі белыя стрэлы,
На палоззях ліповых
І зіма прыляцела.

Як бы ўсім на пацеху
Упрыгожыла хаты,—
Аж па самыя стрэхі
Абляпіла іх ватай.

Дрэў бухматае голле
Замяла, запушыла,—
Рунь зялёную ў полі
Абрусамі накрыла.

Снежань сцягі развесіў,
Глянуць радасна, люба.
Ходзіць сейбіт па лесе,
Сосны валіць для зруба.

Бор, як сонца усходзіць,
Быццам срэбрам заліты,
Толькі з думак не сходзіць
Пад завеямі жыта.

Рунь цяпер пад снягамі
Не праб'ецца да вонку,

Ды якая начамі
У жытоў за гамонка?

Так ідзе ён ды марыць
Ад сасны да сасёнкі,
Адгукнецца гушчарам
Ён сякераю звонкай.

Вецер песню зайграе,
Ён успомніць дзяўчыну
Ды сябе прыгадае
З ёй у новай хаціне.

Дні прабеглі за днямі
За работаю плённай,—
Зруб узняўся вянцамі
Аж па голаву клёну.

Хто ні йдзе,— прывітае,
Гляне радасным вокам.
А за рэчкай, над гаем
Сонца стала высока.

Ветры скрозь разышліся
Ад вясны пасланцамі,
Снег са ўзгоркаў скаціўся
Аж на дол ручаямі.

Птушцы ў небе раздолле,
Разляцеліся роем...
Закупнела на волі,
Зашумела жытное.

Стала вышай ўзнімацца,
Што дружына якая,—
Сейбіт гляне, ад шчасця
Быццам сам вырастае.

Нейк раз раніцою
Сэрца ў грудзях заныла:
Зноў угледзеўся з тою,
З той, што жыта ляшыла.

Глянуў дзеўчыне ў вочы,
Пакланіўся няўдала:

— Гэта поле, як хочаш,
І цябе счаравала.

Твар яе заружовеў,
Што знайсці за прычыну?..
Адказала тры словы:
— Я згубіла хусціну!

## IV

Загудзела, як трэба,
Жыта скрозь галасамі,
Заглядзелася ў неба
Да аблок каласамі.

Будзе хлеба багата,
Жыта стала сцяною,
Светла сейбіта хата,
Светла смольнай сасною.

Студня з гонкім асверам
Цэлы дзень размаўляюць,
У раскрытыя дзверы
Да сябе запрашаюць.

Ну, чаго яшчэ болей —
Ўсё наладжана быццам!
Гаспадар жа на полі,
Аднаму не сядзіцца.

Раніцою і ўпрыцем,
Толькі час выпадае,
Ходзіць сцежкамі ў жыце
Ды кагосьці чакае.

Не ляжыцца, не спіцца,
Што ж магло гэта стацца?
А ўжо скрозь завушніцы
На калоссях дымяцца.

А ўжо скрозь налітое
Жыта шэпча вясёла,
Дзе-нідзе галавою
Паглядае да долу.

Сейбіт ходзіць лагчынай,
Штосьці сэрца скарыла...
Бачыць, ходзіць дзяўчына,
Як бы нешта згубіла.

Ціха крочыць па сцежцы,
Васілёчкі трымае...
Значыць, вось каго сэрцу
Доўга так не хапае!

Падышоў вінавата
Ды сказаў ёй з душою:
— Не кажы мне пра страту —
Ўсё знайшоў я з табою!

V

Жыта звесіла шыю,
Каласы зашапталі,
Каласы медзяныя
Шмат цяжэйшымі сталі.

Вецер, быццам калыску,
Ўсё жытное гайдае,
Што, схіліўшыся нізка,
Да зямлі прыпадае.

Нельга,
Нельга марудзіць,
Бо заплача слязамі,
Выйшлі з песняю людзі,
Са жняяркай, з сярпамі.

Як аглянуць іх вокам —
Можа, сотня ці болей,
А шырока, шырока,
Ты, калгаснае поле!

Выйшлі людзі на працу,
А між імі са спрытам
Два сярпы зіхацяцца,
Тых, што сеялі жыта.

Жыта іхнія вочы
Між усіх распазнала:
Гэта іх яно ўночы
Ад вятроў прыкрывала.

Колькі ў цемры глыбокай
Чула любых размовы
Ды схавала далёка
Іх таемныя словы.

Роўна, роўна радамі
На шырокай лагчыне
Усцілаюць снапамі
Поле сейбіт з дзяўчынай.

Між сабой размаўляюць,
Добра ім, як ніколі.
Ставяць бабкі і знаюць —
Тут з'яднала іх доля.

А як выйшлі дадому
Познім, змрочлівым часам,
Нізка полю жытному
Пакланіліся разам.

VI

Каласы адспявалі,
Іх пажалі, сабралі,
Бараду завязалі
Ды дажынкі згулялі.

Сейбіт меў асалоду —
Жыта слаўна ўрадзіла!
Дзе б ні быў ён, заўсёды
Зерне з ім гаманіла.

Ён глядзеў гаспадарна,
Браў на спробу рукою,
Як ішло з малатарні,
Быццам золата тое.

Як выносілі з току,
На калёсы грузілі,

Як займалі шырока
Ветраковыя крылы.

Што, заняўшы паўнеба,
Раскруціліся спорна,—
Новым, ліпеньскім хлебам
Запыліліся жорны.

А як зносіў па сходнях
Мех за мехам ён дбала,
Як улетку, апоўдні —
У спіну прыгравала.

У жыцці сваім, мусіць,
Так не быў ён багаты,—
З поўным возам вярнуўся
Да уласнае хаты.

А назаўтра сышліся
Людзі ў хаце прыбранай,
Каравай задыміўся
На абрусе ільняным.

І ўся вуліца чула
Іхні гоман шчаслівы...
Ўсім у твары дыхнула
Спелай,
жытняю нівай.

Мабыць, гэтак ніколі,
Як тады,
не спявалі,
І да самае столі
Чаркі ўсе падымалі.

Быў між імі адзіны,
Быццам сонцам абліты,
А сядзеў ён з дзяўчынай,
З той, што сеялі жыта!

## БАЦЬКАЎ ДОМ

Праўдзіва ўвесь сцвярджае люд:
Няма радней, чым родны кут.
Калі страха
Над галавой,
Калі дымок
Па-над страхой,
Тады на сэрцы супакой.

Ляжыць да нашых ціхіх хат
Сцяжынак
І дарожак шмат,
Дзе, можа, й ты калісьці ўзрос
Пад гоман сосен і бяроз.

Вось аб прыстанішчы адным
Хачу паведаць сёння ўсім.

Яшчэ задаўна,
Пры цары,
Стаяла хатка на гары,
Як бы зірнуць вакол сяла
Яна на ўзгорак узышла,
Бары пабачыла,
Палі...
Ды і застыгла пры зямлі.
Яна ў сяле сваім старым
Не вылучалася нічым —
Ні падмуроўкай,
Ні сцяной,
Ані ўскудлачанай страхой,
Ані заторкнутым акном,
Ані пахілым камінам.
Нямала гэткіх хат кругом.
А ў гэтай здаўна жыў Арцём,
З мякіны дзьмуў на лебяду,
Адно што меў багата — душ.

Калі ж узяцца падлічыць,—
Сыноў дарослых толькі пяць,
Дачок і ўнукаў
Нарасло,
Дзе ж разгарнуцца не было.

Ад хаты ў бор,
Цераз пясок,
Ляжаў шнурок,
Што паясок.
Тут і жытное, і папар.
Вось тут, як хочаш, гаспадар.

А супраць —
Панскі быў абшар;
Палеткі, пожні і бары
Не аббягуць за дзень вятры.

Як гляне з ганка наш Арцём —
Усюды панскае,
кругом.
Худоба ўзыдзе —
Забяруць,
Свінчо ускочыць —
Падаб'юць,
А певень ўспырхне —
Штраф дадуць.

У пана луг і паплавы,
Тут не прыложыш галавы,
Бяры, як хочаш, і жыві.

Але на ўсё свая пара.
Ўзышла Кастрычніка зара,
З прастолу скінулі цара,
Прагналі пана са двара.

Ускалыхнуў прасторы гром,
Павесялеў бядняк Арцём.
Лясы, дубровы і палі
Цяпер ягонымі былі.

Мільёны стала з тых часоў
Такіх, як ён,
гаспадароў.



А. Твардоўскі, П. Броўка, І. Эрэнбург.
Варшава, 1947 г.

Пайшоў з сынамі за плугом,
За бараною —
Наш Арцём.
Прыйшла ў краіну маладосць,
Усюды песні,
Радасць скрозь;
Здаецца, у хаце на гары
Зайгралі гучна гусляры,
А побач зруб
Пад новы дом
З сынамі выдажыў Арцём.

Ды не суняліся паны,
Сваё надумалі яны —
Зямлю ў Арцёма адабраць,
Яго з сынамі пакараць,
Хаціну ж вынішчыць агнём,
Каб стаў ён вечным парабком.
Буржуй буржую ёсць сваяк,
Буржуй заморскі слаў ваяк;
Пайшоў Юдзеніч
І Калчак,
Пайшоў Пілсудскі
І Махно,
Пайшлі...
І краю не відно!

Запаланілі скрозь,
кругом,
Але не здаўся наш Арцём.
Да часу кінуў
Новы зруб
І родны кут,
Што сэрцу люб,
З сынамі дужымі пайшоў
На ўсе чатырнаццаць франтоў.
Ён з рускім братам
След у след
Знішчаў тых ворагаў нашчэнт,
З сям'ёй аддапаю братоў
Прагнаў заморскіх ваякоў,
Прагнаў пілсудскіх,
Калчакоў;
Не стала следу больш відно

Ані Пятлюры,
Ні Махно.

Арцём з сынамі перамог,
Хоць павярнуўся ўчатырох,
І загудзелі гусляры
Ізноўку ў хаце на гары.

А неўзабаве пад акном
Узняўся адмысловы дом,
Ну, з чым яго нам параўнаць?
Нібы сасновы той палац.
Як звон,
Ні шчыліны нідзе,
Бярна краніся —
Загудзе.
Прыйдзі ж часінай хоць якой —
Адкрыты дзверы прад табой.
Далёка славіўся Арцём,
Сыны яго
І светлы дом.

Прыйшоў на вёску новы час,
Сяло наладзіла калгас,
І дом высокі
Над гарой
Зажыў з сялом адной сям'ёй.
Ад сэрца цешыўся Арцём —
Усё яго,
Усё кругом.

Прайшло, мінула колькі год,
Узрос, расправіўся народ,
Пайшоў у жыцці на ўсё прыплод,
Узняўся з поля ўмалот,
З'явілася здабыткаў шмат.
Пад вокнамі узняўся сад,
Вясною пеніўся увесь,
Ажно кружыў галовы
Бэз.
Арцём дажыўся да ўсяго,
А колькі ўнукаў у яго!

Аднойчы ў свята
Новы дом сабраў за радасным сталом
Бяседу цёплую,
Сваю —
Яго вялікую сям'ю.

Там быў калгасны брыгадзір,
Студэнт,
Адважны камандзір,
Дзве фельчарыцы, аграном,
Мастак,
Ляснічы, астраном,
Настаўніца, ды ці адна,
І сам калгасны старшыня.

Да хаты бацькавай
Любоў
Сабрала іх са ўсіх бакоў.
Са ўзгорка роднага яна
На ўвесь Саюз была відна.
Быў гэты дом усім вядом
І слаўнай працай, і дабром,
Сваёй гасціннасцю, цяплом,
І быў здаволены Арцём.

Здавалася б, што жыць і жыць.
Не знаў жа ён, што набяжыць
Такое ліха,
Чорны час,
Што прамяністы дзень пагас,
Што знікла з поля цішыня,—
З заходу ўдарыла вайна.

І загудзеў з усім сялом,
Як вулей той,
Арцёмаў дом.
На фронт у першы дзень вайны
Пайшлі і ўнукі і сыны,
А ўнукаў меншых і сяброў
У цёмны лес Арцём павёў.

Трывожна грозны бор гудзеў,
Спакою наш Арцём не меў.
Адкуль жа будзе той спакой,

Калі ліецца кроў ракой,
Калі спусціўся груганом
Чужынец-кат на родны дом,
Калі, на свет нагнаўшы жах,
Той дом трымае ў кіпцюрах.

Тужыў Арцём,
Гарэў, не жыў,
Як бы хто сэрца падпаліў.
Але ён ведаў, што рабіць,—
Што злосных катаў трэба біць.

Ён між бароў,
Ён між палян
Пайшоў з атрадам партызан.
Чужынцам помсціў дзед Арцём
За любы кут, за родны дом.
Снапамі клаліся яны —
Звяры, забойцы, дзікуны.
На фронце ж біліся сыны,

І ім здаваўся з кожным днём
Бліжэй свой кут
І бацькаў дом.

Але ў тым доме на гары,
Што прысланіўся пры бары,
Дзе раней гралі гусляры,
Што ўвесь свяціўся на зары,
Што славен быў на ўсё сяло,—
Пажыць не суджана было.

Як быццам ён адруз, аслаб,
Стаяў у ім фашысцкі штаб,
І гралі там не гусляры,
А здзек чынілі свой звяры.
З яго закрачаных акон
Не песні чуліся, а стогн.
Не гоман ліўся ад смыкоў,
А кроў сцякала з бізуноў.

І вось наважыўся Арцём
З грудзей навек той вырваць дом.
Аднойчы ў катаў пір ішоў.

Арцём жа з групаю байцоў
Здалёк у вокны паглядаў,
Чакаў,
Каб зручны час настаў,
А прычакаў —
Падпоўз ціхом,
Без жалю дом
Пусціў з агнём,
І тых, хто быў у доме тым,
Пусціў таксама ён на дым.

Застаўся попел ды пясок,
Ды сумны дуб непадалёк,
Што вартаваў калісьці дом.

Вярнуўся зноўку ў лес Арцём,
Як далей быць,
Мяркуе ён.

Фашысты ўзнялі вэрхал,
Звон —
Рашылі дзеда адшукаць,
У лес хоць цэлы полк паслаць,
Каб толькі люта пакараць.

І вось наслалі
Немцаў шмат,
Наслалі танкаў і гармат
Ды абкружылі імі ўвесь
Прытулак мужных хлопцаў — лес.

І пачалося,
І пайшло,
Усё ў тым лесе загуло.
Адбіць драпежніцкі напад,
Як волат, ўстаў увесь атрад.

Фашыстаў ён панішчыў шмат,
Нападу ўсё ж не змог адбіць,
Бо іх так шмат, што не злічыць.
Атрад Арцёмаў ў балатах
Яны прыціснулі, што жах,
Не стала храбрых хлопцаў шмат,
Патронаў вобмаль і гранат.

Здавалася, настаў канец,
Ды так, што й рады не займець,
Яшчэ дзень, два і прыйдзе смерць.
Бо ўсё мацней душыў ланцуг,
Усё тужэй сціскаўся круг.
Сем дзён няспынна гром грымеў,
Крышыла дрэвы, бор смылеў.
Адбілі бойку ў восьмы дзень.
Але ратунку — анідзе.

На момант сціхла уначы.
Арцём, прылёгшы адпачыць
На мох сівы,
Пад тоўстым пнём
Заснуў...
І ўбачыў — родны дом
У бляску ранняе зары
Стаіць, як раней, на гары,
Як бы ніколі не гарэў,
А больш таго, папрыгажэў.

Крануўся ён ісці дамоў,
Ледзь-ледзь з балота адышоў,
Але ўзысці на свой бальшак
Не можа ён, Арцём, ніяк,

Бо там, дзе хмыз стаіць гусцей,
Балота поўнае чарцей,
Фашысцкіх вылюдкаў страшных,
Што ў д'яблаў лютых, морды іх.
Куды ні кідаўся Арцём,
Не мог прабіцца ў родны дом...
Прачнуўся,
Як вятох ўзышоў,
Праверыў варту між дубоў.
А раніцой Арцём хлапцоў
Ізноў ў рашучы бой павёў.

Спытайце ў сосен вы
І ў траў —
Ніхто жыцця не шкадаваў;
Магіл раскажуць курганы,
Як прабіваліся яны
З балот на родны свой прасцяг,
З бяздоння смерці да жыцця.

І дзіва!
Там, паміж палёў,
Сустрэлі радасных братоў.
Яны прайшлі праз доўгі шлях
З надзеяй светлай у вачах,
Са сцягам волі у руках.
Пад пераможны кліч байцоў
Арцём абняў сваіх сыноў.

---

Прайшоў, адгаманіў віхор,
Прыйшлі дахаты змагары.
Арцём ізноўку на гары
Працуе аж да сініх зор.

І так
Ад рання да цямна
Стаялі ў працы дзень за днём,
Бярно лажылі да бярна,
Пакуль не ўзняўся
Новы дом.

Ну, з чым яго нам параўнаць?
Нібы сасновы той палац.
Ён ад падмурка да страхі
Загаманіў на ўсе шляхі.

Шмат яблынь, вішань і малін
Як бы прыйшлі са ўсіх далін
І абкружылі гэты дом.
Вясёла зноў жыве
Арцём,
Бо славен дом яго кругом,
Бо ў ім ізноўку, як раней,
Адкрыты дзверы для гасцей.

Здалёку добра ён відаць,
Яму цяпер ўвесь век стаяць,
Бо з роднай зліты ён зямлёй,
Бо гэта месца над гарой
Кастрычнік асвятліў зарой.

## РОДНЫЯ БЕРАГІ

I

Сажні, збяры,
Ізноў пасей,
Прыгледзь ад буры з громамі.
Няма ў раёне цікавей,
Чым служба аграномава.

Куды прыедзе —
Там ужо
Яму і дом, і родныя.
Вясной, як выехаў з райзо,
Жыццё ідзе паходнае.

Ён едзе
Шляхам векавым,
Зямлёй зялёнай цешыцца.
Раён прасцёрся перад ім,
Як на далоні, свеціцца.

Налева — роўнядзь,
Справа — бор,
Снуюцца сцежкі кроснамі,
Чатыры рэчкі,
Пяць азёр,
Гара Мядзведзь пад соснамі.

На ўсход — падлесак малады,
Імшары ды ягоднікі,
На поўдзень —
Новыя сады
І дваццаць тры пітомнікі.

А перад ім
Разліўся цвет
Чырвоны, канюшынавы.
А шлях бяжыць.
Веласіпед
Шуміць па доле шынамі.

А сцежкі збоку,
Сцежкі скрозь,
Як стужкі раскіданыя...
Паедзе кожнай — ўсюды ёсць
Сябры яго жаданыя.

Адам Пілюта,
Мільгуноў,
Сымон з сяла Падгайнага,
І тая самая з Лагоў,
Ну, што завецца Ганнаю.

Вунь блізка ўжо
«Маяк» дыміць,
Вунь «Першы май» ўздымаецца,
І ўсюды хочацца пабыць,
Таму ён так спяшаецца.

Мінуўшы поле,
Ўскочыў ў гай
І раптам азадачаны:
— Сцяпан Пятровіч, пачакай,
Спыні сваю ламачыну!

Зірнуў,
Аж гэта старшыня
З калгаса Пералесіца.
— Ну што ж, на гэтакім кані
Не сорамна праехацца.

А сам падумаў:
«Ну і жмут.
Гаворкі тут ласкавыя,
Каня ў калгасе папрасі —
То хворы, то кульгавыя».

II

І вось дарогай
Цок ды цок,
Гняды стрыжэ вушамі.
Паміж гаворкаю дымок
Уецца між сябрамі.

— А што, праз Пціч
Ляжаць масты?

— Наладзілі вясною.
— Як на тарфяніпчы жыты?
— Усталі, брат, трубою.

— Табе ж дарожачка адна —
Ўсё скачаш
Па раёну...—
А ў думках: хоць бы не дазнаў,
Што не прачысціў лёну.

— Лужок пад борам
Ты скасіў?
— Скасіў лужок млынарскі...—
І так гамоняць аб усім
Як след, па-гаспадарску.

Перагудуць
Пад гул калёс
Да дробязі да рознай,
А потым ціхенька пад нос
Сабе спявае кожны.

Чаго дзівіць?
Такой парой
Трава з травой гаворыць,
На ўсё прачулаю душой
Глядзіць Сцяпан Пятровіч.

Не больш як месяц адышло
З таго,
Як тут праходзіў,
А штосьці новае ўсплыло
За гэты час, ды годзе.

Разлапушыўся
Шумны лес,
Бруснічнік зацвітае,
Бліпчыць на кузні МТС
Страха ўжо бляшаная.

У «Першым маі»,
Пры садку,
Яшчэ ўзнялася хата,
А на балоце ў «Маяку»
Гамоніць экскаватар.

Гусіны статак
Ля пруда
Ўжо крылы распраўляе,
Гусак між імі: га-га-га!
Паважна пахаджае.

А вось на рэчцы
Цуд адзін —
Наладжана запруда,
На два паставы новы млын
Гудзе адменным гудам.

Ля става
Быццам сом ўспляснуў
І знік, не стала следу.
Сцяпан Пятровіч штурхануў
Пад бок свайго суседа.

Драбок паперы
Адарваў,
Падсыпаў самасаду:
— Хто гэты млын пабудаваў?
— Ды з Боркавіч брыгада.

Скрозь плён
Пятровічу відзён
Не шлях — адна пацеха...
Ды раптам схамянуўся ён:
— Здаецца, пераехаў.

Ён цісне
Старшыні далонь
І голасна бядуе:
— Сягоння трэба мне ў Падблонь,
А я ў Лагі кірую.

Пусціўся зноў адзін
У шлях,
Крыху усхваляваны:
— Ды гэта ж там яна, ў Лагах,
Ну, што завецца Ганнай.

Пятровіч кажа сэрцу:
— Стой,
Не час туды сягоння.

А бор шуміць над галавой,
Як быццам з ім гамоніць.

І гэты шолах нагадаў
Аб днях мінулых многа.
Сцяпан Пятровіч
Злез і стаў
На крыжавых дарогах.

Успомніў бітвы,
Партызан,
Як ваяваў з сябрамі,
А перад ім ляжаў курган,
Зарослы верасамі.

Яшчэ з начы,
Відаць, раса
На верасах драмала...
Ён шапку зняў,
І з воч сляза
Да той расы прыпала.

Закалаціўся агранам
І спахмурнеў,
Як хмара:
Ляжыць пад гэтым курганом
Яго стары таварыш...

Ды ўспомніў ён
Адзін вырок:
— Жальбы не сцішыш плачам.—
Слязу змахнуў і глянуў ўбок:
Хаця б ніхто не бачыў.

Пасля ён кветак назбіраў,
Што ў лядах
Красавалі,
Магілу кветкамі прыбраў,
А сам паехаў далей.

Праехаў лес,
Мінуў адхон,
Прасторы заняліся —
На ўзгорачку калгас Падблонь
Увесь прад ім раскрыўся.

Да неба ўзняўся галавой
Высозны элеватар,
Стаяць хаціны
Над ракой,
Як маладухі ў свята.

Па жоўтых зрубах
Дзе-нідзе
Яшчэ клююць сякеры,
З калгаснай кузні звон ідзе
Рассыпчаты без меры.

То там,
То сям жураў відзён,
Глядзіць куды каторы...
З-пад лесу статак на паўдзён
Падходзіць да аборы.

Пятровіч ехаў між палёў,
Красою іх
Дзівіўся;
Пад'ехаўшы да мурагоў,
Ён ля касцоў спыніўся.

Ды не паспеў
Яшчэ касцам
І словы два прамовіць,
Схапіў рахункавод Адам:
— Ну, брат, хадзем, Пятровіч!

Павёў,
Узяўшы пад руку,
Як сябра дарагога,
Сцяжынкай, логам, за раку.
Да самага жытнога.

Яно ж, не знаючы мяжы,
Гайдалася, што мора.
— Глядзі,
Як ты наваражыў,—
Адам яму гаворыць.

— Чаму яно гудзе
Сцяной?
Ты раду даў на тое.

І мы прайшліся бараной,
Далі падкорм вясною.

А жыта ў рост,
Што не стрываць...
Спрабуй, амаль паспета.
Ты, брат Пятровіч, галава!
Паклон табе за гэта.

Глядзі на колас —
Гэта ж дар!
Зярнятак сто напэўна.
А колькі ж будзе на гектар —
Мільёнаў сем, не меней!

Скажу табе я
Сам-насам,
На тым стаім нязменна,
Што мо дадуць героя нам,
А ордэн — дык напэўна.

Вунь лубін наш
За ручаём,
Што пушча, кажуць людзі,
Вось кончым справы — зааром,
Пад жыта добра будзе.

Пятровіч зноўку стаў казаць,
Як лепш
Наладзіць глебу,
Што лубін лепей заараць
У цвет, цяпер жа трэба.

— Ары, пакуль не адцвіло,
Дык будзеш
З ураджаем.—
Ідуць удвух яны ў сяло,
Аб справах разважаюць.

### III

А на сяле, ля школы,
Пад ліпамі, вясёла —
Паўднём адпачываюць,
На траўцы пасядаюць,

Гасця свайго чакаюць
Касцы, даяркі, жніцы —
На сход сышліся быццам.

Кабеты не драмалі,
Сарвэту разаслалі,
Паклалі хлеб
З акрасай,
Гладыш прынеслі квасу.

Чакалі, як вядома,
Адама з аграномам.

Калі ж прыйшлі,
За страву
Паклікалі ласкава:
— Чаго там доўга мовіць,
Сядай, Сцяпан Пятровіч!

Спачнуць хай крыху ногі,
Перакусі з дарогі.
Скажы, што дзе прыкмеціў
Ды што чуваць на свеце?
Цыгаркі задымілі,
Пра ўсё загаварылі:

Ці трэба жаць даяркам?
Як лепш араць
Папары?
Што сёння ўсюды людзі
Аб міры й шчасці мараць.

Пацiху ды разважна
Бяседа йшла паважна.

Сядзелі б так бясконца,
Ды не чакала сонца,
Бо й сонцу не стаіцца,
Пайшло на бор хіліцца.

Гаворцы час канчацца,
Пара ізноў за працу.
Ўсхапіліся даяркі,
Пайшлі ў аборы шпарка,
Касцы пабралі косы,
Пайшлі лажыць пракосы.

Пятровіч развітаўся
Ды ў «Ясны кут» падаўся.

### IV

Прад ім ізноў шляхі ляжаць,
І мусіць ён спяшацца —
Яшчэ патрэбна адмахаць,
Напэўна,
вёрст дванаццаць,
Усюды стрэць сваіх сяброў...
Ён рад з такой нагоды
Пад вечар ехаць між палёў —
Для сэрца асалода.

Усюды чуецца жыццё,
Яго прасцяг шырокі:
Дзе пруд,
Дзе гай,
Дзе азярцо —
Усё лагодзіць вока.

А над усім таемны звон —
Загаманілі быццам
Ячмень вусаты,
Сіні лён
Ды жоўтыя пшаніцы.

Пад небам жаўра,
Што гусляр,
Такі ж пяюн рухавы,
І вецер з бору б'е у твар,
Рахманы і ласкавы.

І хоць з дарог тых крыжавых
Курган запаў у грудзі,
Яго,
Як кожнага з жывых,
Бліжэй цягнула к людзям.

Успомніў ён аб Ганцы тут,
Аб шчасці чалавечым...
Так непрыкметна ў «Ясны кут»
Прыехаў ён пад вечар.

Вакол знаёмыя куткі
І строі новых хатак...
Ён на папары ля ракі
Спыніўся ля аратых.

Як паглядзеў,
Жахнуўся ён:
— Што гэта за ашука?
Пастой, таварыш Спірыдон,
Давай мне плуг у рукі.

І той аддаў яму:
— Бяры,—
Сказаўшы вінавата:
— Пятровіч, коннік я стары,
Каня шкадую надта.

— Не выйдзе
З гэткай глыбінёй,
На тры хоць трэба болей.—
І сам Пятровіч баразной
Пайшоў пад бор праз поле.

Калі ж вярнуўся,
Плуг аддаў
З наказам Спірыдону:
— Глядзі, каб заўжды так араў
На дваццаць, па закону.

Крыху усчуняўшы хлапцоў
Як след
За справы брацца,
Пайшоў Пятровіч да грабцоў
На бліжняй сенажаці.

І хоць людзей там грэбла шмат
Старанна і сумленна,
Пятровіч згледзеў,
Што не ў лад
У стог складаюць сена.

— На дол пакласці — папсаваць,
Палову працы
Знішчыць,

А што было прыгатаваць
Як трэба стажарышча.

Каб, што шафран,
Схаваць мурог,
Нямнога трэба сродкаў:
Калі складаеш добры стог,
Мацней кладзі сяродку.

Хлапцы зладжылі стог,
Як дом,
І ля стага прыселі:
— А чуў, таварыш агроном?
Сягоння ў нас вяселле.

Мы сена скончылі зграбаць,
Дый сонца на заходзе...
Сцяпан Пятровіч,
Што чакаць?
Давайце разам пойдзем!

Як майстра ведае народ
Атрошчанкаву Полю —
Яна збярэ за гэты год
За ўсіх, напэўна, болей.

— Паскачам там,
Куды ні йшло,
Мы здатны і на гулі.—
І вось пайшлі яны ў сяло
І песню зацягнулі.

V

За сталом,
                ды пасяродку,
Малады і маладая,
З караваем сваццця ўстала,
Хлопцы чаркі уздымаюць,
Тры гармонікі іграюць,
Бубны б'юць,
Звіняць цымбалы,
Скрыпка сэрца закранае.

Старшыня калгасны Ціхан
Перад чаркай кажа слова:
— Маю я адну прычыну...
Што й казаць,
Яшчэ да часу
Нарабілі самі ліха:
Каб ды гэткую дзяўчыну
Занішто аддаць з калгасу.

Узнімаецца з пагрозай
Таварыства маладога:
— Мы яшчэ нідзе не чулі,
Каб нас гэтак абражалі.
Дзе вы хочаце, шукайце,
А не знойдзеце такога —
Хлопец статны,
Тварам ладны,
За геройства
Ўвесь у медалях.

Вось другая ўстала свацця:
— Што й казаць, калгас ваш — сіла,
Толькі ўсе вы ільнаводы.
Хоць дзяўчына працавіта,
Цяжка ёй стаяць на мялцы,
Залятаць кастрою,
Пылам,
Добра ў нас мець справу
З жытам.

— Вы чаго на лён напалі? —
Адказалі ёй сурова.—
Вы куды без лёну гожы?
Лён жа — нашае багацце!
А за лён дадуць ёй хлеба,
А яшчэ сукенак розных...
Што ад вас тут
За напасці?

Толькі гэта — жарт,
Не сварка.
Тут адзін другога знялі
З тых часоў,
Калі з іх кожны
Быў пры матчыным падоле.

Зазвінелі дружна чаркі
Над сталамі пераможна,
Сваццi гойкнулі да столі.

Так пілі аж да світання —
За калгас,
За маладое,
За дзявочы голас звонкі,
А яшчэ за агранома,
За таварыша Сцяпана,
З пажаданнямі: на восень
З ураджаем быць
І жонкай.

Гэты песні, жарты, гулі,
Пажаданні і размовы
Так за сэрца закранулі,
Што задумаўся Пятровіч.

Што ж, выходзіць,
Праўду кажуць,
Аднаму няма разгону...
Паблукаць і паразважыць
Выйшаў ён у сад зялёны.

А ў садку салоўка з ночы
Так зазыўна заліваўся...
Дзе ж стрываць!
Пятровіч ўскочыў
Ды ў Лагі хутчэй падаўся.

## VI

Шуршыць ізноўку па шашы
Пятровіча машына.
Нідзе
Нікога, ні душы,
Адно гамоняць шыны.

Яшчэ вачэй перад зарой
Не параскрылі хаты,
Туман ляжаў па-над ракой,
Як той кажух касматы.

Яго вятры
Ледзь-ледзь крылом
Гайдалі, што калыску...
А ўжо раённы аграном
Быў пад Лагамі блізка.

А думка ўсё
Адным-адна
Б'е сэрца несціхана...
Глядзіць, ды што за навіна?
Няўжо на полі Ганна?

Па-за гумном,
Між ярыны,
Дзяўчаты йдуць радамі,
Парассыпаліся яны,
Што краскі над лугамі.

Ірвуць асот з зялёных ніў,
Стараюцца заўзята.
Ды іх Пятровіч абудзіў:
— Дзень добры вам, дзяўчаты!

Заварушылася кругом,
Як шумны рой, ды годзе.
Глядзіць,
І Ганка да яго
Паміж дзяўчат выходзіць.

Сукенка простая на ёй,
Прыгожа, як ніколі...
— Чаго такою талакой
Сягоння вы на полі?

— Латвей па вёсках раз'язджаць,—
Кпін Ганна закідае,—
А нам калі адпачываць?
Праполка не чакае!

Ячмень учора абышлі,
Пшаніцу прачышчаем.
На сходзе слова мы далі,
І мы яго стрымаем.

— З такое працы
Будзе плён,—

Пятровіч кажа Ганне,
І ехаць далей, чуе ён,
Няма адсюль жадання.

Чаго б хацелася яму?
Не вельмі ўжо і многа:
Каб з ёю ў лета і зіму
Па ўсіх кружыць дарогах.

Ён кажа Ганцы:
— Прабачай,
Хачу спытацца штосьці:
У сваты ехаць?
— Прыязджай.
— Калі найлепш?
— Увосень.—
Яму сказала Ганка так
Паміж аўсоў зялёных.
А перад ім ляжаў бальшак
У горад, да раёна.

Паехаў зноўку паміж ліп,
Дарогай між гаямі;
Здавалася,
Вакол палі
Ляжалі прад вачамі.
Пятровіч знаў,
Як даць ім толк,
Як іх узняць адменна,
Дзе — гліна, жвір,
А дзе — пясок,
А дзе — падзол пустэльны.

Куды падсыпаць купарос,
Куды падвезці гною,
Дзе сеяць жыта,
Дзе — авёс,
Дзе ўсё заняць травою.
Дарогай, шляхам векавым,
Захоплены Пятровіч;
Яму здавалася,
Што з ім
Сягоння ўсё гаворыць.

Клапот нямала у яго,
Такі абшар, вядома...
Што гэта?
Бачыць ён свайго
Сакратара райкома.

Як толькі прамінуў
Гушчар —
Той з неба ўпаў, здаецца.
Сядзіць на газіку і ў твар
Прыветліва смяецца.

— Дзе ты падзеўся?
— Не крычы,
Бо справы не малыя.—
І б'юць друг друга па плячы,
Як два сябры старыя.

— Ты, брат Пятровіч, чарадзей!
— Цябе такім жа знаю.
— Гадуеш душы ты людзей.
— А ты, брат, ураджаі.
Давай жа ураджай збіраць,
Не трацячы хвілінкі.
Сядай,
Паедзем, бо пара
Распачынаць зажынкі.

Бо час гамонку пачынаць
З густымі каласамі,
Дзе жнейкай,
Дзе касой збіраць,
Дзе вострымі сярпамі.

Бо жыта скрозь
Гудзе сцяной,
Пад ветрам аж дыміцца...
Нам будзе чым
Перад Масквой
Увосень пахваліцца.

# ДОБРЫ ДРУГ

## I

Сельская бальніца.
Гоман сасны.
Домік драўляны
Над ціхай ракой —
Чатыры пабеленых вапнай сцяны —
І кабінет,
І прыёмны пакой.

Пахі ад кропель.
Прамені святла.
Белая марля на вокнах малых.
Шафа з прыскрынкамі
Побліз стала,
Надпіс старою лацінкай на іх.

Крэсла
На доўгай, крутлявайназе,
Колбы і шклянкі радамі стаяць.
З белае сценкі,
Здаецца, паўзе
Трубка гумовая,
Быццам змяя.

А на паліцах,
Паміж усяго,—
Ножык з дзюбастым бліскучым лязом.
Можа, і боязна там для каго,
Лене ж Патапенка —
Гэта як дом.

Сюды як прыслалі
Два леты назад —
Здаецца ж, было гэта
Вельмі даўно,—
Родны ёй сцены,
І з марляй акно,
І за акном тым
Увесь далягляд:

Поле,
За полем — задумлівы лес,
Просты, абсаджаны клёнам бальшак,
Дом сацкультуры,
Сельпо,
МТС,
Новы ля школы пасаджаны парк.

Так адышоў ён,
Студэнцкі іх свет.
Добра жылося, хоць мелі няшмат.
Што ж,
Пазычалі друг другу абед,
Па кантрамарках хадзілі ў тэатр.

Ды не забыць ёй
Студэнцкіх гадоў,
Той інтэрнат, дзе жылі ўсе яны.
Быццам учора яшчэ ад сяброў,
Быццам учора
Той вечар прайшоў
У актавай зале,
У дзень выпускны.

Ды хіба гэта трэці год
Прайшоў з часіны тое,
Як плыў павольна параход
Палескаю ракою?
Яшчэ цяпер не сходзяць з воч
Шырокай рэчкі хвалі...
Яны з Андрэем цераз ноч
На палубе стаялі.

Глядзелі ўдвух у даль ракі
І марылі без краю —
Дзе тыя хаты,
Аганькі,
Што доўга іх чакаюць?
А час прабег
Няма хутчэй,
Яны ўрачы сягоння.
Яна вось тут,
А ён, Андрэй,
Далей, ў другім раёне.

Што ж, кожнаму выпалі
Сцежкі свае,
Сцежкі ўсё далей і далей вядуць.
Доктарам,
Ленай Пятроўнай яе
Сёння з павагаю
Людзі завуць.

Многае,
Многае трэба ёй знаць,
Хворых выслухваць,
Лекі даваць,
Гутаркі весці, як быць у жыцці.
Доктару ж хочацца так пагуляць,
Доктару
Крышачку больш дваццаці.

Кніжка
Не дасць сумаваць ёй, аднак,
Быць ёй на сцэне героем жывым.
Громавай ролю рыхтуе яна,
З ёю гамоніць Алег Кашавы.
Заўжды гатова ісці яна з ім,
Свецяцца вочы яе чысцінёй,
Светлыя косы,
Як два ручаі,
Спадаюць за гнуткай дзявочай спіной.

Лена ўяўляе падполле і тыл,
Нібы ў падполлі яна,
На вайне.
Цётка Мальвіна,
Сціраючы пыл,
Гляне
І часам глыбока ўздыхне.

Вечар. Бліжэй
І бліжэй да цямна
Моўкне над рэчкай Лазянкаю дом.
Позна.
За шыбамі змрок.
Цішыня.
Лена ў пакоі сядзіць за сталом.

Андрэй, Андрэй,
Куды ты знік?
Ды што з табой такое?
Што дзень прыходзіць паштавік —
Пісьмо падасць,
Не тое!

Хацелася б суняць душу,
Ды крыўда не пускае —
Няма адказу...
Напішу!
Не, лепей пачакаю.
І вось
Прад ёю быццам
Свой інстытут,
Сталіца.

Недзе ў сталіцы
На плошчы адной
Ёсць у дзяўчыны старыя сябры.
Гэтай часінаю
Хочацца ёй
З другам-прафесарам
Пагаварыць.

Вось яна й піша
Аповесць сваю,
Ціха паперы лісты шамацяць.
Перад вачыма яе
Паўстаюць,
Быццам жывыя,
Кавалкі жыцця.

Лена ў задуме,
Як лепей зрабіць.
Хто б ёй такою хвілінай памог?
Вось ён,
Прыйшоўшы з ваенных дарог,
Побач,
Прад ёю на крэсле сядзіць,
Сёмка Вірута,
Калгасны камсорг.

— Доктар!
Не быў я сумотным, павер.

Быў баяністам я
Удалым,
Быў я ў Даватара хлопцам ліхім.
Глянь жа ты, доктар,
Што стала цяпер?..

Хіба не йграць
Мне ўжо больш на вяку,
Хіба па мне
Не засмуціцца конь...—
Выняў з кішэні ён моўчкі руку
І працягнуў
Нежывую далонь.

— Доктар!
Няўжо мае дні адышлі?
Гэтыя ж пальцы
Калісьці жылі,
Шаблю ўзнімалі
Над Эльбай-ракой...

. . . . . . . . .

Можа, з паўгода,
Штодня, раніцой,
Пальцы яна расцірала яму
Гэтак уважна,
А з ласкай такой,
Можа, як маці
Дзіцяці свайму.

Шлях жа упарта
Пракладвала кроў,
Займала ўсё далей
Каморкі свае...
Помніць —
Вірута прыйшоў да яе:
— Доктар!
Заўваж ты, мой палец здароў!

Можа, няпраўда,
Не верыце вы,
Скажаце, хлусіць?
Не так мо адчуў.
Вось ён, глядзіце —

Рухавы, жывы! —
І урачыста мезенец прыгнуў.

Хто б
Яе гэтак узрадаваць мог?
Гэта ж яе перамога,
Не зман —
Скора ўжо месяц,
Як Сёмка-камсорг
Зноў на вячорках разводзіць баян.

Радасна,
Плённая праца відна,
Болей усе пачалі паважаць.
Ёсць жа ў яе
Непамыснасць адна,
А як гэта стала,— сорам сказаць.

Неяк рукою
Трапіў пад пас —
Вывіхнуў палец
Дзядзька Ігнась.
Здаецца, нічога складанага ў тым,
Ды не паставіла пальца
Як след.
Палец паправіўся,
Стаў жа крывым,
Сорамна проста на ўвесь сельсавет.

Дзе толькі людзі —
Сходка ці так,—
Дзядзька Ігнась там,
На слова мастак:
— Гляньце, суседзі,
Гляньце сюды,
Навек загубіў мяне ўрач малады.
Чатыры, як трэба,
Пяты набок.
Чатыры, як пальцы —
Пяты кручок!

Золак,
Птушыны за вокнамі гам.

Лена канчае ў сталіцу пісаць:
«Якаў Іванавіч!
Дзякую Вам,
Добра Вы зналі, як нас настаўляць.
Каб выйсце заўсёды мы ўмелі шукаць».

## II

Спелых калоссяў
Рукой не дастаць.
Жытняга хлеба рашчынавы пах.
Конікі звоняць, жаўры звіняць...
Добра на ранку
Пайсці па палях.

Вецер з-пад лесу,
Як быццам віно,
Травы ў праменных ільдзінках расы.
Чуеш —
Зліваюцца недзе ў адно
Посвіст салоўкі
І посвіст касы.

Мроіцца Лене
Непадалёк —
З небам гамоніць,
Бурліць ручаёк.
Быццам званочак,
Звініць між травы,
Перабягае
Лугі,
Паплавы.

Бяжыць і бяжыць ён
Удаль,
Сугрунём,
Покуль не стрэнецца дзе
З ручаём —
Так і плывуць далей дружнай сям'ёй...

А Лена сумуе,
Гняце непакой:
З Андрэем, здавалася,
Зблізяць гады,

А выйшла не гэтак,—
Каторы куды.

Учора, нарэшце,
На ліст адказаў.
У горад ён кліча,
Засумаваў.
Мы, кажа, даволі
Ў сяле адбылі...
А дзе ж тыя словы,
Што раней былі?

А дзе ж тая шчырасць?
Выходзіць, што чмут.
Яна не паедзе.
Ёй хораша тут!

Відаць, не сыдуцца
Іх сцежкі ніяк.
Што зробіш,
Балюча...
Ды лепей, што так.

І вось надыходзіць
Спакой на душу,
Досыць тугі, хваляваца не след.
Ліпы гамоняць,
Аж звоніць ўвушшу,
Лена збірае духмяны іх цвет.

Потым
Прайшлася на луг пры бары.
Што за паветра —
З чабору настой!
Кветкі збірае, і ўсюды сябры
Радасна, шчыра вітаюцца з ёй.

З лугу,
З-пад возера,
З доўгіх асок:
— Цёця! —
Крычыць пастушок Пілілок,
І, раскудлаціўшы рыжы віхор,
Ён берасцянкаю будзіць прастор.

Да хлопчыка
Лена імкнецца хутчэй,
Хораша часам памарыць з такім.
Якая ў малога дапытнасць з вачэй!
І вось яна разам
Ля возера з ім.

Пры беразе гай.
Сасна пры сасне
Задумліва ў сінія хвалі глядзяць.
Карыснейшы іл — сапрапелі
На дне,
Добра раматусы ім выганяць.

Моцную сілу
Ён мае, відно,
Правяцца людзі і хваляць ўсяляк.
За лекі тым ілам
Лена даўно
Ў сяле атрымала
Нямала падзяк.

Слаўнае возера
З золатам-дном.
На беразе гутарка йдзе з Піліпком —
Гэткае месціны
Блізка няма!
Лена сцвярджае і верыць сама.

Лена хлапцу ўсхвалявала душу:
— Хочаш, я казку табе раскажу?
Мы сядзім
Тут над вадой,
А над нашай галавой
Вецер гойдае між хвой,
Навявае супакой.
І заснулі мы з табой...

Многа мы праспалі дзён,
Быў у нас даўжэзны сон,
Не сказалі нам сябры,—
Можа,
Год,
А можа,



К. Крапіва, А. Пракоф'еў, А. Куляшоў, А. Твардоўскі,
П. Броўка. 50-я гады.



М. Клімковіч, К. Крапіва, П. Глебка, Я. Колас,
П. Броўка, А. Куляшоў. 1947 г.

Тры.
Разбудзіў нас песень гром,
Паглядзелі мы кругом,
Не пазналі гэты кут.
Гэта ж казка!
Гэта ж цуд!

Каб хацеў ты адшукаць,
Не знайсці такой красы:
Па-над возерам стаяць,
Што палацы, карпусы,
Вырас горад малады,
А вакол
Сады, сады...

Многа хворых ў ім цяжкіх,
Лечаць
Нашым ілам іх.
Хто ні з'явіцца
З кійком,
Пройдзе час —
Глядзіць арлом.

А завецца той куток
Санаторый «Туравок».
Ён здалёку ўсім відзён,
І не ў казцы будзе ён.
Мы з табой не будзем спаць,
Будзем
Горад будаваць.

У хлопчыка
Многа задум усплыло,
А Лену гукаюць ужо на сяло.
На ростані кажа ёй Пілілок:
— Цёця!
Збудуем з табой гарадок.

Праўда,
Што ў Лены
Прыхільнікаў шмат,
Каб захацела і то не злічыць —
Просіць садоўнік
Наведацца ў сад,

Бабка Тадора
Адведаць чарніц,
Хто,
каб унукаў зайшла паглядзець,
Хто на сняданне,
Хто так пасядзець.

Ўсіх пераведаць —
Суткі не спаць,
Часу, як хочаш,
ніяк не стае.
Некалі —
Нават здалёку чуваць,
Цётка Мальвіна ўжо кліча яе.

Вось яна й дома,
Збораў няшмат.
Лекі патрэбныя ставіць радком,
Хутка накінуўшы
Белы халат,
Распачынае свой ранні прыём.

Трэба ўсіх хворых
Уважна прыняць,
Што папрыходзілі з розных бакоў,
Добра абслухаць
І кожнаму даць
Ці мазі,
Ці кропель,
Ці парашкоў.

Усё тут пастаўлена
Ёй пад руку —
Вата і марля,
Ёд, шкіпінар...
Цётка Мальвіна заўжды начыку —
Яе вартаўнік,
Асістэнт,
Санітар.

Хворым дала яна
Многа парад.
Кожны, як трэба, агледжаны быў.
Справы ішлі,

Як той кажа, на лад,
Ды на сцяне тэлефон зазваніў.

Лена падбегла.
Здалёк тэлефон
Голасам клікаў трывожным:
— Доктар! Няшчасце!
Звоняць з Рамон...
Просім хутчэй, калі можна.

І трубка ў руцэ задрыжала ў адказ:
— Яе палажыце старанна.
Самі не рушце!
Буду я ў вас
Сёння апоўдні дакладна.

— Дзе гэта, дзе? —
Загудзела з куткоў.—
— Блізка, ў калгасе,
Пасля раскажу.—
Сёмка Вірута ў той міг падышоў:
— Лена Пятроўна,
Я давязу!

Лена сабрала ўсё ў сумку
Як след.
Хутка ля ганка і конь заірзаў.
Едуць.
Дарога ў калгас «Новы свет» —
Сем кіламетраў
Між лесу і траў.

Сёмку не трэба
Каня падганяць.
Лейцы ўзяў ў рукі,
І той, як агонь.
Едзе і дукрыць усё пра каня,
Толькі пра коней
Гаворка ў яго.

— Конь вам не так сабе.
Ён з галавой,
Трэ падыход мець,
Як кажуць, і нюх.

Доктар і я,
Толькі ў справе сваёй,
Я вам не просты калгасны канюх.

Бачыце, як ён
Навыскач пайшоў?
Вецер няроўня ягоным нагам.
Хіба знайсці дзе
Такіх рысакоў?
Хутка Будзённы дачуецца сам.

Хіба цана ёсць
Такому каню?
Можа, на выстаўку хутка пашлюць.
Што ні кажыце,
А я не маню,
Болей за бацьку я праўду люблю.

Гляньце,
То ж птушка,
Арол, не рысак.
Знаю, такога не бачылі вы.
Доктар, ці праўда? —
Кіўнула, што так,
Думкі ж свае не ідуць з галавы.

Даць паратунак
Любою цаной —
Кажа знаёмае ёй пачуццё.
Недзе тут блізка.
Ў хаціне адной,
Б'ецца сам-насам
Са смерцю жыццё.

Спяшыць яна,
      Спяшыць яна.
У мыле ўся
      Спіна ў каня.

З бакоў слупы,
      З бакоў кусты.
Б'юць капыты
      Па камянях.

Гамоніць шлях.
Праз гаць,
Праз мост,
Аж загуло —
І ўжо сяло.

Прыскакалі.
Конь у пене.
А натоўп іх абкружыў:
— Доктар! Выпадак страшэнны,
Ты хутчэй дапамажы!

І вось Лена ў хаце,
У хворай цяжкой —
Тая ляжыць, не кранецца ані.
Яна аб бядзе прашаптала сваёй:
— Нага паламаная
Вышай ступні.

Што тут хадзіць
І даходзіць здалёк,
Лена не траціць дарэмна хвілін.
Дзеўчыне Лена паклала лубок,
Хоць пальцы дрыжалі,
Няпэўны былі.

Здавалася,
Трэба раўней і тужэй,
Покуль зрабіла, аж потам сышла.
Каб жа на сэрцы было спакайней,
Пеніцылін на выпадак дала.

Поўна у сенцах
Старых і малых,
Не абышлося без плачу і слёз.
Лена спытала аб хворай у іх:
— Як гэта стала?

— Папала пад воз.
Ехала з возам заўчора на ток,
Перакулілася, там, дзе равок.
Вельмі шкадуе
Увесь наш калгас.
Яна працаўніца
Найлепшая ў нас.

Ніхто больш яе не здолеў сабраць,
Ну, а танцорка, што і казаць.
Хараша скача, добра пяе,
Вылечыць трэба, доктар, яе.

— Вылечыць,—
Лена сказала,— магу.
Толькі патрэбен для гэтага час.
Быць Сцепанідзе
Зноў першай у вас,
Пройдзецца слаўна яна й па кругу.

І ездзіла Лена
Шмат сюды дзён.
Часта сядзела, забыўшы на сон,
Праз ночы на міг не гасіла святло,
Часта на сэрцы трывожна было.

Ці здолее косць, як патрэбна, зрасці?
Блізка ж
Няма тут рэнтгена.
Мо да хірурга лепш адвязці?
Было, хвалявалася Лена.

Хай сабе сіл
Ты нямала кладзеш,
Добра ж хваробу у часе стрымаць.
Як жа прыемна,
Што хвораму лепш,
Быццам ўстаеш, маладзееш сама!

Сталася гэтак
З дзяўчынаю той —
Аднойчы, сабраўшыся з сілай,
Нібы ўпершыню адвыкшай нагой
Яна на падлогу ступіла.

І расказала паволі,
Ціхом,
Як гора здарылася з ёю:
— Воз мой вялізны, вялізны, як дом,
Засеў у гразі пад гарою.
Саскочыла я, падперла плячом,
Ды слізка было, як на тое...

III

Зарадзіўся лён багаты.
Ён здалёку ўсім відзён.
Поліць Даша. З ёй дзяўчаты
Прачышчаюць дбайна лён.

Гэты лён для ўсіх багацце!
Сёмка
Дашы дапамог —
Колькі раз ў даследчай хаце
Сабіраў гурток камсорг.

Лён пасеяла дзяўчына,
Працавала дзень за днём,
Лён той —
Вокам не абкінеш,
Быццам возера кругом.

Полюць дбайна лён дзяўчаты,
Каб вышэй яшчэ ўставаў...

. . . . . . . . . . .

На сяле,
Ля крайняй хаты,
Сёмка Лену адшукаў.

— Не выконвае задання
Наш сусед калгас «Усход».
Даў я сёння абяцанне
Склікаць там агульны сход.

Пойдзем мы,
Пра лён раскажам,
Знаю — кожны будзе рад,
І аб лёне слаўным нашым
Даша зробіць там даклад.

Трэба добры вопыт з поля
Паказаць усім людзям —
Трэба з практыкай найболей
Спалучыць навуку нам.

Ты схадзі
І на дарогу
Падрыхтуй сваіх сяброў.
Ну, пакуль,
А я з парторгам —
У брыгады да касцоў.

Міг!
І Сёмкі ўжо не стала,
На лугі, відаць, пайшоў.
Лена ў поле паспяшала
Да таварышак-сяброў.

У палольшчыц адпачынак.
Селі дружна на лужку:
Белы хлеб,
Праснак, свініна,
Мёд у клёнавым судку.

Хто дастаў пірог пшанічны,
Хто сырок,
Хто агурок,
Запілі вадой крынічнай,
І ў грудзях пабег лядок.

І пайшла тады гаворка
Немалая у дзяўчат,
А пра што —
Ды рознай шмат:
Пра вячоркі,
Сходкі, зборы,
Аб сваім жа лёне зноў,
Пра істужкі,
Пра уборы
І, бывае, пра хлапцоў.

Абкружылі кругам Лену
Камсамольскія сябры:
— Ці не зноў ты нам пра гены
Будзеш сёння гаварыць?

— Не, сягоння пра другое —
Вас павінен знаць народ.
Проста з поля

Грамадою
Пойдзем мы ў калгас «Усход».

Як, скажы, даклад твой, Даша?
— Прачытала трэці раз.
Возьмем мы і ўзоры нашы...
— Калі так —
У добры час!

Змоўклі жарты,
Смех суняўся,
Неўгамонны гоман змоўк...
І дзяўчаты побліз Лены
Пасядалі ўсе ў кружок.

Палка ім тлумачыць Лена,
Быццам сэрца аддае —
Пра праполку,
                    пра насенне
З кніжак многа пазнае.
Быць нам трэба працавітым,
Каб займець у працы плён,
Гляньце ўвысь!
Прастор блакіту,
Ды не меней мае лён.

А пшаніца залатая
Буйным коласам гудзе,
А спарная, а густая,
А далёка як ідзе...

Перабілася гамонка.
Чуюць —
Полем гул гудзіць...
Паглядзелі, ажно Сёмка
На касілцы ўжо сядзіць.

Неспакойная ў ім сіла,
Здатны Сёмка да ўсяго!
Лена гутарку спыніла
І на раду да яго.

Як за лес апала сонца
І на полі гул прыціх,

Заспявалі камсамольцы,
Лены голас быў між іх.

Спеў гучаў іх пераможны
Па-над лугам,
Над ракой,
Нёс сябрам з іх шчыра кожны
Свой здабытак,
Вопыт свой.

Як прыйшлі назад дасвеццем —
Спала ціха ўсё сяло,
Толькі ў вокнах ў сельсавеце
Шчэ відаць было святло.

У дні радасці і славы
Выбіралі яго ўсе,—
Бо за ўсіх
Перад дзяржавай
Ён адказнасць тут нясе.

Цераз ноч усю працуюць,
Сапраўды ім мала дня.
Там сядзяць,
Сядзяць, мяркуюць
І парторг,
І старшыня.

Шчоты ў іх.
Шчаўкаюць косці.
Колькі б лішку здаць хто мог?
Там сядзіць і раіць штосьці
Усхвалёваны камсорг.

А на птушніку ў закутку
Певень біў ужо крылом,
Як ахрыплы рэпрадуктар
Распінаўся над сялом.

IV

Што за пагода,
Як звон угары!
Сонца —
што ўшыта на сінім сцягу.

Жыта паспела,
Дайшло да пары,
Ходзіць жняярка па жоўтым кругу.

З жыта
Ледзь-ледзь узнімаецца пыл,
Добра жняяркай жыты падразаць.
А следам
Жанчыны вяжуць снапы,
Пройдуць —
Снапы, што салдаты, стаяць.

Слаўна пяецца
Жанкам маладым,
Песень над полем узносіцца шмат.
Спорыцца праца,
І весела ім,
Тут жа на пожні дзіцячы іх сад.

З самага ранку,
Як толькі прыйшлі,
Кветкамі ў лузе яны расцвілі —
Марфачак,
Ганначак
І Янучкоў,
Быццам рамонкаў,
Мядункаў,
Званкоў.

Зашчабяталі
Птушынай сям'ёй.
Колькі іх розных,
Прыгожых, малых...

. . . . . . . . .

Вольнай часінай,
Што выпала ёй,
Лена апоўдні наведала іх.

Вось яны побач,
Як тыя грыбы.
Побач жняяркі пайшлі на палі.
Не, хіба гэтак
Магло калі быць?
Матчыны словы на памяць прыйшлі:

З ранку да вечара
Выстай круком,
Некалі ўзняць набалелай спіны.
З ранку да вечара
Рэжа сярпом,
А па-за ёю стаяць таганы.
Матчына сэрца
З цямна да цямна
Кроіць дзіцячы прарэзлівы плач...

. . . . . . . . . . . . .

З кніжак таксама пазнала яна
Долю,
Якою гібеў земскі ўрач.

Цемра
Пад стрэхамі курных хацін,
У брудзе
Няцяжка было захварэць.
Урач на павет, можа, толькі адзін,
На часткі ірвецца,
А ўсё не паспець.

Чараўнікі
Ачмурылі сяло
Атрутай шаптання і забабон,
Ды і лякарства
Як след не было —
Толькі рыцына ды кроплі на сон.

Доктар між цемры
Мусіў гібець...
Час наш зусім не падобны, другі.
Вунь як завуць
На жніве да сябе:
— Лена Пятроўна,
Наш друг дарагі!

Клічуць —
З гары адгукаецца гай,
Клічуць
На ўвесь шырачэзны той луг:
— Лена Пятроўна,
Прыходзь, пасабляй!

— Лена Пятроўна,
Добры наш друг!

І вось Лена там.
Жняярка гудзе.
Пройдзе,
А ззаду шчаціна адна.
Лена з жанкамі па ржышчы ідзе.
Спрытна пярэвяслы вяжа яна.

Важкі і мядзяны
Сноп там любы,
Кожнае зернятка —
Кропля цяпла,
Колас да коласа шэпчуць нібы,
Як бы прабіцца хутчэй да стала.

Колецца ржэўнік.
Не страшна ж ніяк.
Джалам нібы пеканецца не раз.
Жанчыны жартуюць:
— Доктар, ну як?
А Лена ў адказ:
— Я жала й да вас!

Што, дзе ў калгасе,
Што робіцца там,
Кожная ведаць імкнецца:
— Доктар!
А Даша, скажыце вы нам,
Хутка рэкорду даб'ецца?

— Лёну такога не бачна нідзе,
Большы за вашу пшаніцу!
Мабыць, нядарма
Столькі людзей
Едуць да Дашы вучыцца.

Дзяўчаты пытаюць нязлічана раз:
— Ці будзе яна
Гераіняй у нас?

Жарты.
А варта зноў песню пачаць,

Словы, што птушкі,
Лятуць, не дастаць.
Колькі прастору
І колькі жыцця!
Хораша жнеям у полі спяваць:

*Ходзіць жыта, ходзіць жыта*
*жоўтай хваляй,*
*А мы жыта, а мы жыта зваявалі.*
*Між снапамі аж да роднага парогу*
*Залатую пралажылі мы дарогу.*

Гулкае рэха абсыпала дол,
Слухалі елкі, схіліўшы чубы;
Як вартавыя, на полі вакол
З поўнай увагай
Застылі дубы.

*Каласы вы, каласочкі, як паспелі*
*Добрым людзям на радзіны, на вяселлі.*

Толькі і гэтая песня
Прайшла,
Чуюць жанчыны,
Паміж цішыні —
Тупат і грукат ляціць з-пад сяла.
Глянулі —
Сёмка імчыць на кані.

Мчаўся
Ад ветру ён, мабыць, жывей,
Аж яго чуб узлахмачаны ўзмок,
Толькі з'явіўся:
— Пятроўна, хутчэй!
Трапіў на міну
Наш Піліпок.

Болей нічога
Сказаць ён не мог,
Вядома ж было, што нельга чакаць,—
Можа, праз хвілю
Скакалі удвох,
Трэба ж ім смерць
Абмінуць, перагнаць.

Сэрца у Лены
Ахутваў жах —
Хлопчык няшчасны стаяў у вачах.

Заскочылі ў больніцу,
Лекі ўзялі,
Праз момант якi ўжо
На месцы былі.

Лена не бачыць
Нічога вакол.
Перад вачамі — рана адна.
Перавязала,
Зрабіла укол,
Толькі тады ачуняла яна.

Бачыць,
Сабраўся народ
Грамадой,
Ужо вечаровыя блізка часы.
Маці, счарнелая,
Моўчкі рукой
Гладзіць пяшчотна хлапцу валасы.

Хтосьці стаяў —
Уздыхаў па малым,
Хтосьці паклаў берасцянку пры ім,
Бабка старая шаптала здалёк:
— Бедны ты, бедны,
Наш Пілiпок!

Хтосьці
Капаўся і поўзаў між траў,
Штосьці даводзіў,
Ледзь зводзячы дух,
Хтосьці асколак ад міны трымаў,
І тут жа тлумачыў
Сёмка-канюх:
— Міна нямецкая,
З часу вайны
Ляжала ў імшары перад карчом.
Вінны фашысты,
Забойцы яны,
Што нарабілі яны з Пiлiпком?

Сёмка даводзіў
Аб кары людской,
На захад махаў пагражальна рукой.
Лена забрала
Малога з сабой
Ў дом над ракою, у свой жа пакой.

Вечар.
Трывожна,
Хоць скрозь цішыня.
Ложак.
Маўклівы ляжыць пастушок.
Удвух неразлучны — маці й яна.
Лямпа —
Прыкручаны ледзь аганёк.

Цяжка хлапчыну —
Ўзнімаецца жар,
Часам прашэпча адзінае:
— Піць...—
Свеціцца белы і стомлены твар,
Маці спытаецца штосьці,—
Маўчыць...

Потым да Лены
Рыдаць і прасіць:
— Муж мой загінуў на гэтай вайне.
Доктар, ратуй,
Без сынка мне не жыць,
Ён жа адзіны на свеце ў мяне.

Як жа так сталася,
Родны сынок?
Лепш бы пайшла я мясцінай той,
Мой ты гаротнік,
Гаспадарок...—
Слухае Лена, балюча і ёй.

Хлопчык вясёлы,
Званок — галасок,
Быў ён любімцам сяла, Піліпок.

Як ён улетку
На золку будзіў,
На берасцянцы пад вокны трубіў.

Быў ён уважным
У сэрцы сваім,
Колькі прыносіў ён лекавых траў.
Знаў ён імшары,
Дубровы, гаі,
З кожнаю птушкай там размаўляў.

Паабыходзіў
Ён кожны куток,
Болей не бачыць прастору таго.
Ляжыць пастушок —
Прыціх галасок,
Сталі празрыстымі пальцы яго.

Лена зрабіла,
Што толькі магла,
Нічога не можа дадумацца больш.
Ноч наглядала яна,
Да' святла,
Бачыць,
Чым далей,
Не лепей, а горш.

Што гэта?
Можа,
          чаго не дайшла?
Можа, не ўмее чаго зразумець —
З дзядзькам Ігнасем няўдача была,
А над Піліпком
Нахілілася смерць.

Лена баіцца —
Не ўзнімецца ён,
Нельга узняць пажаданнем: — жыві.
Хлопчык працягне не болей двух дзён,
Выхад —
Пераліванне крыві.

Прыбегла на пошту.
Цёмна ў вачах.
У Мінск напісала некалькі слоў.
Пайшла тэлеграма па правадах...
А Лена той хвіляю
Зноўку дамоў.

Зрабіла укол —
Уліла хлапцу кроў,
Заснуў ён, здаецца,
глыбока.

Ранне мінула.
І поўдзень прайшоў —
Яна ж ад яго ані кроку.

Розных шукала
Ў ратунку шляхоў,
Сэрца яе апярэджвала зрок.
Як жа зрабіць,
Каб, як раней, ізноў
Звонка трубіў пастушок Пілiпок?

V

Пільна на шлях пазірае пілот,
Моцна штурвал ён трымае,—
Хутка ляціць над зямлёй самалёт,
Думы ж яго абганяюць.

Будзіць вакол цішыню раніцой
Гул ад матора нязменны...
Якаў Іванавіч
Даўна душой
Там, дзе ля хворага Лена.

Доктар лічыць перастаў,
Колькі раз
Лётаў па хуткай ён справе,
Плашч.
Пад плашчом шарсцяны самавяз.
Погляд заўсёды ласкавы.

Рэчка Лязянка.
Запруда.
Бальніца.
Хаты і хаты наўкруг...
І самалёт пачынае кружыцца,
Потым сядае
На луг.

Якаў Іванавіч выйшаў і глянуў:
Тут,
Гадоў сорак назад,
Земскім ўрачом працаваў ён старанна,
Цяжка,
Ды ўспомніць ён рад.

Выбегла Лена
Насустрач з дзвярэй:
— Якаў Іванавіч,
Родны, хутчэй!

Лену, як бацька,
Прафесар абняў.
— Дзе ж ваш паранены? —
Ціха спытаў.

— Вось ён, бялюткі,
Сышоў ён крывёй...—
Лена на ложак рукой паказала.—
Цяжка было мне з хворым адной,—
І падрабязна дакладываць стала.

Прафесар на хворага погляд свой кінуў:
— Давайце
Агледзім спачатку хлапчыну! —
Зусім непрытомны
Ляжыць Піліпок —
Сцюдзёныя рукі,
Блукаючы зрок.

Якаў Іванавіч з трубкай
Падсеў,
Добра абслухаў яго, аглядзеў:
— Выпадак цяжкі,
Ды будзе ён жыць,
Варта яшчэ раз кроў пераліць!

І Лена ў адказ
На ягонае слова:

— Якаў Іванавіч! Я ўжо гатова!
— Давайце
На стол мы яго пакладзём.

— Дзе ж мой інструмент?
Хутчэй мне падайце!
Можа, асколкі схаваліся дзе,
Яны мяне больш непакояць, прызнацца.
Колькі хвілін аперацыя йшла.
Лена старанна дапамагала,
Трымала тампоны яна ля стала,
На рукі прафесара ўсё паглядала.

Скончыў.
Адклаўшы іголку, пінцэт,
Прафесар узняўся са шпрыцам.
Лена спакойна,
Як доктару й след,
Руку працягнула:
— Бярыце!

Здалося, з крывёй
Мільёны байцоў
Яна ратаваць Піліпка пасылала,
Каб толькі узняўся здаровым ён зноў —
Сэрца дарэшты яму аддавала.

Маці прыбегла
І стала рыдаць:
— Ратуйце,
Бо сілы маёй ўжо не стала!
Прафесар узняўся:
— Я рад вам сказаць,
Патапенка Лена яго ратавала.—
А Лена ад ложка,
Дзе быў Піліпок,
Не адыходзіла нават на крок.

Як пойдзе ўсё далей,
Чакала адно.
Стамілася, ў вочах мігцела імгла.
Лена у сад расчыніла акно,
А за акном тым вішня расла.

Вішня
На хворага хлопца глядзіць,
Лісцем зялёным шуршыць па акну.
Неяк у вішні ў адну з навальніц
Вывіхнуў вецер галіну адну.

Уважна садоўнік яе ратаваў.
Перавязаў і абмазаў як след.
Паволі ў ёй кожны лісток ажываў,
Пасля ж узмацнела,
І выбліснуў цвет.

Потым напоўніла завязь вясна,
Ягады сталі буйнець і буйнець —
Ад іншых галін
Цяпер не пазнаць,
Вішні на ёй пачалі чырванець.

Марыла Лена
Аб сіле жыцця...
Што гэта — шэпт
Ці лісты шалясцяць?
Што гэта — вецер па лісцях плыве?

Не, сапраўды хтосьці ціха заве.
Глянула —
Паружавеў Піліпок!
Бы кроппнуў на шчокі
Вішнёвы той сок.

Можна надзею мець,
Будзе жывы.
Шэпча ледзь чутна, як шэпат травы:
— Цёця!
Ці доўга я буду ляжаць? —
Спытаўся і зноўку пачаў засыпаць.

Лена была ўсхвалявана ў той час,
Тут жа яна не заплакала ледзь —
Даруе няўдачу дзядзька Ігнась,
Здаецца,
Што ёй пераможана смерць.

Лена ў трывозе стаіць над малым,
Думкі адзіныя толькі аб ім:

Хіба не пойдуць
Ягоныя ногі,
Хіба не ўстане ён болей? Чаму?
Хлопчыка ногі

Клічуць дарогі,
Хопіць прастору і сонца яму!

Мусіць ён жыць,
Уставаць раніцою,
Баравікі сабіраць у бары,
Спевы саловак
Слухаць вясною,
Мчацца зімою на санках з гары,

Вадзіць на начлег,
Сядзець над кастрамі,
Рэзаць канькамі люстэркавы лёд,
Бегаць у школу
Разам з сябрамі,
Папрацаваць так,
каб выступіў пот.
Стаць трактарыстам,
Зведаць машыну,
Пашпарт займець,
Выбіраць у Савет.
Трэ закахацца моцна ў дзяўчыну,
На вечарынках пагрукаць як след;

Вырасці дужым,
Умелай рукою
Пшаніцу пасеяць на балатах,
Трэба дабіцца у працы Героя,
Маці пацешыць у старых гадах.

Хлопчык!
Ты многа пабачыш дарог,
Свет прад табою вялізарны лёг,
Шмат цябе сёння чакае кніжок,
Мы пабудуем з табой гарадок!

## VI

Раніца.
Вецер шуміць у лісці.
Сонца ўзбудзіла над рэчкаю дом.
Лена й прафесар рашылі прайсці
На месца, дзе стала бяда з хлапчуком.

І вось яны полем
Гамоняць чутно.
Якаў Іванавіч апавядаў:
— Фельчарам ў воласці гэтай даўно,
Калісьці ў юнацтве, я працаваў.

Ведаю добра
І гэта сяло.
Чаго толькі тут пры цары не было!
У кожнай хаціне —
На печы сядун,
У кожнай сялібе —
Трасца, каўтун.

Не,
Нашай вёскі цяпер не пазнаць,
Гэта як дзень
Пасля чорнай начы.
Што ў ёй рабіць,
Як далей працаваць,
Якаў Іванавіч Лену вучыў.

Раіў ён сродкі
Мясцовыя ёй —
Многа ж іх мае і пожня і бор:
Ліповыя кветкі,
Рамонкаў настой,
Траву-падарожнік,
духмяны чабор.

Ля возера ён прыпыніўся
І стаў —
Пра сапрапелі ў Лены спытаў.
Успыхнуў у Лены ў вачах агенёк:
Будзе для хворых
Тут гарадок!

Раіў заўсёды
Даследаваць штосьці,
Каб толькі наперад імкненне было...
Усюды прайшлі,
Агледзелі скрозь,
Потым вярнуліся зноў у сяло.

Згінулі
Вёскі старое сляды,
Вось яна ява, не казкі і сны,
Глянуць прыемна —
Палеткі, сады,
Хата да хаты —
Сасна да сасны.

Вуліцы
Добрых праспектаў не горш,
Колькі тут дрэўцаў расце маладых!
Вуліцы ўпоперак,
Вуліцы ўдоўж.
Хораша сёння прайсціся па іх.

Дзяўчаты
Па вуліцы йдуць чарадой.
З жартамі
Хлопцы прысталі да іх.
Дзеўчына —
Лепш не знайсці маладой,
Што ні хлапец —
Прыгажэйшы жаніх.

Дзе-нідзе
Радыё ў хатах гуло,
Адпачываў той часінай калгас.
Апоўдні
Вярнулася з працы сяло.
Адкуль ні вазьміся — дзядзька Ігнась.

Стаў перад імі
Са скаргай сваёй,
Перад прафесарам круціць рукой:
— Што нарабіла!
Смяюцца наўкруг.
Гляньце, прафесар, не палец, а крук.

Сорамна Лене,
Схмурнела чалом.
А хлопцы стаяць і рагочуць кругом:
— Дзядзька!
Ды гэта на шчасце кручок —
Люльку лепш ладзіць
І ціснуць курок.

Спачатку
Ігнась не згаджаўся ніяк,
Пасля рассмяяўся:
— Хай сабе й так.

Сам госця павёў ён
Па хатах усіх.
Прафесар абходзіў — скрозь дабрыня!
Наведалі яслі,
Прытулак малых,
Глянулі ў школу — і там чысціня.

Восень
Адкрые вучобы часы,
Прыйдзе настаўнік, пачнецца урок.
Як загамоняць тады галасы!
Як загамоніць тады Піліпок!

Хутка паправіцца,
Будзе жывы,
Будзе ён добра чытаць і пісаць.
Думкі аб хворым не йдуць з галавы:
Як ён цяпер там?
Пара аглядаць.

І вось яны дома.
Скрозь цішыня.
Цікавяцца хворым, ці доўга ён спаў?
Для іх нечаканай была навіна —
З маткаю хворы крыху размаўляў.

Хлопца
Прафесар як след агледзеў
І Лене ад сэрца мог праказаць:
— Бачыце,
Хутка на папраўку йдзе,
Можна быць пэўным
І вас прывітаць.

Пад вечар
На выган сышоўся народ.
Праводзіць сабраліся ўсёй грамадой —
Прафесара зноўку забраў самалёт,
А Лена вярнулася
Ў дом над ракой.

Чакаў яе
Ціхі і светлы той дом,
А цётка Мальвіна
Сустрэла з пісьмом.

І стала у Лены
Ў душы весялей —
Пісаў і прасіў прабачэння Андрэй.

## VII

Памяць,
Старонкі яе прагарні,
І загамоніць усё навакол —
Помняцца
Лене Патапенка дні,
Як уступала яна ў камсамол.

Помняцца добра
Дзяцінства сябры,
Школа,
За партамі гул галасоў,
Лагеры,
Песня «Картошка»,
Кастры,
Гальштук з эмблемаю
«Заўжды гатоў!».

Многа прайшло
Непаўторных гадоў,
Многа на сэрцы жыццёвых адзнак —
Дзён адляцела,
Што з дрэва лістоў...
Ці спраўдзіла слову?
Быццам што так.

Цяжка бывала
Гады перажыць,
Толькі імкнулася заўжды наўпрост,
Вось і прыйшла ўжо
Да пэўнай мяжы
І на ўсю сілу адчула свой рост.

Што ж, ёй сягоння
Чаго не стае?
Дрэвам расцвіўшым імкнецца ў сад.
І вось перад ёю,
У думках яе,
Загартаванаю сілай ўстае
Партыя —
Веліч жыцця і краса;

Партыя —
Скарбніца дум агнявых,
Якім наша заўтра,
Што сёння відно.
Партыя —
Сэрцаў мільёны людскіх,
Што б'юцца суладжана ўсе, як адно.

Гэта Ангеліна,
Што за рулём,
Гэта Чуткіх за варштатам сваім,
Гэта Лазо
Прад смяротным агнём,
Гэта Гастэла ў палёце цяжкім,
Гэта
Сумленне на цэлай зямлі,
Вера, ў якую паверыў народ.

. . . . . . . . . . . .

Некалькі тыдняў
За працай прайшлі,
І Лену пазвалі аднойчы на сход.

Партсход.
А сабралася вёска амаль,
Кожны з'явіўся, хто толькі мог,
І паміж імі
Пярэдня-каваль,
Садоўнік Загорны
І Сёмка-камсорг.

Важную справу
Мяркуюць яны —
Сваё папаўненне з сіл маладых.

Ленін
Нібыта глядзіць са сцяны
І слухае ўважна гутарку іх.

Усе тут свае,
Нікога чужых,
Нават сюды яны разам прыйшлі,
Лена ж гаворыць,
А голас дрыжыць,
Ружавасць на шчоках больш, як калі.

— Многа рабіць
Патрабуе наш час.
Толькі адна я не здолею шмат,
А калі стану
Уплеч да вас,
Я падужэю адразу ў стократ.

Што мне жадаецца
Ў сэрцы маім —
Ўсё, што павінна, рабіць без заган.
У арміі мужных быць радавым,
Кропляю ў дужы ўвайсці акіян.

Хочацца мне сказаць
Як шчырэй,
На крок не сыду я з гэтых дарог.—
Скончыла Лена.
І слова бярэ
Услед жа за ёю Сёмка-камсорг:

— Подых да подыху —
Ветру узлёт.
Баец да байца — воін-народ.
Ручай да ручайкі —
Мчыцца рака.
Вось перад вамі
Салдата рука.

Ёю
Спускаў аўтамата курок,
Знішчаны ёю фашыст не адзін;
Гэта рука
Падымала клінок,

Маскву бараніла,
Брала Берлін.

Праўду люблю,
Не люблю я маны.
Вярнуўся —
Не ведаў спакою і сна,
Проста бязрукім
Прыйшоў я з вайны.
Гэту руку ажывіла яна.

З доктарам сёння
Мы ў мірным страі.
Подпіс я стаўлю
Салдацкай рукой —
Лена адзінае з намі сям'і,
Вернаю ў партыі
Будзе дачкой.

Яна ж адчувала —
Побач сябры,
Многа сумесна ім вырашыць спраў.
Пярэдня-каваль
Аб ёй гаварыў,
Садоўнік Загорны таксама сказаў:

— Многа пражыў я
І ўжо састарэў,
Што крыг у паводку, гадоў праплыло.
Сорак я летаў хаджу каля дрэў,
Колькі я іх насадзіў,
Даглядзеў,
Колькі ад гэтай рукі расцвіло!

Розных людзей
Я страчаў на вяку,
Доктара нашага рад быў спаткаць,
Яна ратавала жыццё Піліпку.
Я падымаю
Высока руку
За дзеўчыну працы,
Бальшавіка.

І вось за сталом
Невялічкі той круг
Вырас са ўздымам
Мазолістых рук.

Лена пабачыла —
Вышай галоў
Рукі
даярак,
жней і касцоў.
Сэрцам з ёй кожны
быў камуніст —
Сейбіт,
настаўнік
і трактарыст.

Лена адчула —
Яны побач з ёй,
Непадзяліма,
Ўсёй сілай сваёй.

Многа прайсці ім сумесна дарог.
Выйшла на ганак,
Не чуючы ног.
Быццам навокал
Пабольшала дрэў,
Быццам інакшы стаў выгляд сяла.
Вечар,
Здавалася, паружавеў,
Як з сельсавета
Дадому ішла.

Дома, ў прывычным
Утульным кутку,
Мальвіна сустрэла яе, як дачку.
Шмат было ў словах пяшчоты, цяпла:
— Высока,
Высока ты, Лена, ўзрасла.

Доўга ў той вечар
Не клаліся спаць,
Ярка праз вокны свяціў аганёк...
Сёмка з'явіўся дахаты вітаць,
Праз маці
Паклон прыслаў Піліпок.

Ўсе гаманілі,
Як быццам радня,
А потым, як бачыш, вечарам тым
З «Новага свету»
Прыбыў старшыня,
Паздаравеўшая дзеўчына з ім.

Ён,
Рыжаваты паправіўшы вус,
З гонарам, як ён узняць толькі мог,
На стол палажыў,
На белы абрус,
Вялізны-вялізны пшанічны пірог:

— Доктар!
Нямала ты мела дакук.
Знай жа,
Ты золата нам зберагла —
Гэты пірог Сцепанідзіных рук...
...А Сцепаніда
Стаяла, цвіла.

Можа,
З прычыны дарунка таго
Селі наўкруг за прыбраным сталом.
Цётка Мальвіна знайшла усяго,
Кажучы праўду —
Няблага было.

Хто скварку,
Хто чарку ў бяседзе там браў,
І кожны ад сэрца слова казаў.
Хлопчыка маці ўстае з-за стала:

— Лена даўно
Камуністкай была.
Кожнаму
Болька свая балючэй,
Прыпала мне гора цяжкое спаткаць.
Хіба на свеце
Што ёсць даражэй
Мне за майго сынка Піліпка?

Што ж, я скажу.
На хвіліну вачэй

Лена Пятроўна закрыць не магла.
Лена Пятроўна, як маці, была.

Лене Пятроўне
Хачу аднаго —
Заўжды быць к людзям уважнай такой.
Сёння
Ў падзяку за сына майго
Нізка схіляюся я перад ёй.

Сядзелі.
Хвалілі прытульны куток,
Доблесны подзвіг адданых людзей.
Пад раніцу зноў устрывожыў званок:
— Прасілі пад'ехаць
На роды хутчэй.

І вось развітанне.
Шмат добрых слоў
Лене сказалі ў апошні той час.
З бальніцы ўсё ад'язджалі дамоў,
А Лена на працу —
Ў суседні калгас.

Дарога.
Ляшчыннік з бакоў. Арахі.
Дзе-нідзе выблісне рэчкі спіна.
Пыл узнімае
Арловец ліхі,
У Сёмкі, вядома, гамонка адна.

Лена глядзіць
У прастор палявы,
Бачыць краіны сапраўдны узлёт —
Дзе школа,
Дзе клуб, дзе млын паравы,
Дзе збудаваны цагляны завод.

Многа ўзнялося
Адноўленых сёл,
То на пагорку, то дзе над ракой.
Бальнічны участак
Тут, навакол,
Як на далоні увесь перад ёй.

Кожны павінен
Тут доўга пражыць,
Бо жыць — гэта сёння радасць адна.
Воін бароніць народ
На мяжы,
Тут абаронца народа — яна.

Дзе толькі хвароба
Ступіць к людзям,
Хай гэта будзе далёка ці зблізі —
Доктар умомант з'явіцца там
З сумкай,
Дзе полымем значыцца крыж.

А думы ўсё далей
Лятуць, не стрымаць —
Праз годы яшчэ прыгажэй краявід.
Едзе.
Здаровыя. Хворых няма.
Знай адно радуйся,— ў шчасці жыві.

Едзе.
Страчае бадзёры народ.
Песня па сёлах ракою цячэ,—
Мала старэюць.
Пад шэсцьдзесят год
Бачыць яна ў карагодах яшчэ.

Ну, а пад сотню
Яны ўжо сталей,
Расказваюць ўнукам са шляху свайго.
Дзяцей, дзе ні глянь,
У кожным сяле,
Як быццам на градах маку таго.

Лена ўсё едзе.
Дарогі бягуць,
Вось ён і той, што патрэбен, калгас —
Рунь зелянеецца,
Хаты растуць,
Дзіця нараджаецца...
Хораша ў нас!

## ЧЫРВОН-ГАРАДОК

### I

Чырвон-гарадок,
Чырвон-гарадок!
Над Прыпяццю-рэчкай
Прыгожы куток.

Высокі пагурак
Здалёку відзён —
Адтуль пазірае
Нямала сасён.
Узгорак як быццам
Увесь абнялі:
Пад стрэхі,
Пад самыя вокны прыйшлі.

Іх голле, як струны,
Да самай зары
Перабіраюць
Вятры-гусляры.

Са ўзгорка глядзіць
На шырокі бальшак
Радыёвышкі
Высокі маяк.
Над мачтай, што голуб,
Крылаты сцяжок;
Як воблак,
Над дрэўкамбінатам дымок.

Дамы, што ў вянках,
Між садамі стаяць,
Як быццам на раду
Сышліся на пляц.

Туды,
Дзе прад помнікам,
Прад Ільічом —
Чырвонгарадоцкі сельскі райком.

На пляц той
Сыходзіцца з розных бакоў
Нямала дарожак, сцяжынак,
Шляхоў.

Чырвон-гарадок!
Чырвон-гарадок!
Над Прыпяццю-рэчкай
Прывабны куток!

## II

Яшчэ толькі ўспыхнулі зарніцы,
Халадок прадранішні ў паветры —
Грукнулі на вокнах аканіцы...
Рана прасынаюцца ў райцэнтры.

Загула над прыстанню сірэна,
Краем з рэчкі выбліснула сонца.
Міліцыянер заўзята і адменна
Даў кірунак першай сямітонцы.

Шляхам з гарадка яна шырокім
Паплыла удаль руплівым часам,—
Павязла прысланае здалёку
Новае насенне для калгасаў.

На палях сяўба ўжо распачата.
Працы ўсім хапае, як вядома.
Раніцой вяртаюцца дахаты
Сакратар райкома з аграномам.

У райцэнтр,
відаць яшчэ ад ночы,
Шмат ідзе калгаснага народу —
Ціт Заграй па вуліцы ўжо крочыць,
Старшыня з «Чырвонага усходу».

Ён ідзе праз плошчу,
Каля рынка,
Прыкідае гаспадарскім вокам —
Вышай сосен клуб стаіць высокі,
Бач, ізноўку новыя будынкі...
Да чаго змянілася навокал!

Радзівілаў —
Гэта месца звалі,
Пры Пілсудскім тут жылося горка —
Гміна ўпоплечкі з карчмой стаялі
Ды касцёл маячыў на прыгорку.

Ціт-Заграй хадзіў сюды нямала,
Так было, што ледзьве не жабрачыў,—
Гміна аж да ніткі рабавала,
А касцёл прызваніваў ў прыдачу.

Навакол жа,
Пазгінаўшы спіны,
Як сіроты, галасілі вёскі,
Забіралі ўсё там на чужыну,
Заганяючы ў трыбух заморскі.

Што панам? —
Абы кішэня поўна,
Што яны расцілі, гадавалі?
Лес і збожжа, сала, лён і воўну
За грашы на Захад адсылалі.

Ім адно было па сэрцу люба —
Адшукаць, што толькі не прадана,
Нат людзей вывозілі на згубу
У ярме хадзіць за акіянам.

Ціт Заграй ідзе,
А дзень вясновы,
Дзе ні глянь — бярэцца ўжо за працу.
Не, зусім інакшыя размовы,
Як Чырвоным гарадок стаў звацца!

Узняліся каміны пад неба,
Хлеб вакол — народнае багацце!
Гарадок азначаны, як трэба,
На вялікай, на савецкай карце.

Ён цяпер упоплечы з усімі,
Сцяг над ім чырвоны палыхае,
Кожны, аглядаючы Радзіму,
І на ім пагляд свой супімае.

Пра яго цяпер далёка знаюць,
Спраў у ім для кожнага багата —
Вось той дом, патрэбен ён Заграю,—
Выканком Савета дэпутатаў.

У пакоі да сцяны сасновай
План сяўбы калгаснае прыбіты.
Старшыня таварыш Валатовіч
Аб усім распытывае Ціта.

Ціт Заграй ўсё выканаў, запэўніў
Ды хутчэй спяшае развітацца:
— Дзякую за добрае насенне,
Пабягу пра грузавік дазнацца!

Хутка ён убачыў і машыну,
Тую, абяцалі што зімою,
Шофер стрэціў, скочыў у кабіну
І за руль узяўся ён рукою:

— Што ж, калі патрэбна —
Поўным ходам,
Хоць куды сягоння пракатаю,
Старшыня з «Чырвонага усходу»,
Я ж ад учарашняга чакаю!

Ад прыбытку Ціт Заграй вясёлы —
У калгасе будзе болей сілы.
Руль крануў ён і памацаў колы...
Скуль сябры ўзяліся,
Абкружылі —
Старшыня — сусед Тамаш Калыска,
Каця з паляводчае брыгады,
Васілёнак, чый калгас тут блізка,
І пастух з раённае нарады.

Знай, што хваляць новую машыну:
— З ёй ты станеш яшчэ больш багаты!
Ціт Заграй, ты нас усіх павінен
Развязці, як мае быць, па хатах!

— Што ж, давайце, я з паўдня паеду...—
І пайшлі яны, куды каторы —
Хто ў райком, хто РВК наведаць,
А хто ў краму набіраць уборы.

Там адкажуць справай ім і словам,
Будуць скрозь уважліва сустрэты —
Чырвонгарадоцкія ўстановы
Славяцца сягоння і ў газетах.

Не змаўкае тут зімой і летам,
Мчаць машыны, звоняць тэлефоны,
Цягнуцца драты ад сельсаветаў,
Быццам тыя нервы, да раёна.

У раёне ты пазнаеш многа,
Школы, клубы, розных кніг багата —
Тут парада, тут і дапамога,
Тут і кара ёсць для вінаватых.

Што было ў кутку такім сіроцкім:
Млын ды дзве смалярні, мусіць.
Рэчы маркі чырвонгарадоцкай
Сёння ўсёй вядомы Беларусі.

Ёсць плугі, жалезныя бароны,
Бляшаныя конаўкі і місы —
Посуд просты, посуд і гранёны,
Мэбля з дубу — проста заглядзішся.

Абады, калёсы, панарады,
Хамуты і збруя там любая...
І ніхто пустым цяпер дахаты
З Чырвон-гарадка не прыязджае.

Як дамоў збіраліся апоўдні —
Нёс пастух бідоны і дайніцы,
Васілёнак — радыёпрыёмнік,
Каця — мех насеннае пшаніцы.

Набылі яшчэ пакункаў многа,
Селі з чамаданамі, кулямі...
Загула машына у дарогу
З чырвонгарадоцкімі дарамі.

III

Ах, дарогі вы дарогі, шыр-раздолле,
Няма краю вам між бору і між поля!
Праз лугі паедзеш — кветкамі уп'ешся,
Што ў крышталю, ў кожнай рэчцы адаб'ешся.

Дзе сасна цябе прывеціць, дзе таполя,
Ах, дарогі вы дарогі, шыр-раздолле!
Нам нямала вас праехаць давялося,
Добра ехаць па вас летам, добра ўвосень!

Ці на ўзгорак узнімацца, ці спускацца долу,
Ад Чырвон-гарадка ўсе шляхі вясёлы!

Лес і луг,
На лузе кветкі,
Азярцо, што люстра,
І сасёнкі, што падлеткі,
Выбеглі насустрач.

Абмінае іх трохтонка,
А на ёй гамонка:
Кажа штосьці сусед суседу,
Хоць бы хто пануры,
У дарозе без бяседы
Не язда — хаўтуры.

Васілёнак ўсхваляваны
Між усіх садзіцца:
— Братцы,
сёння калі гляну,—
Сэрца весяліцца!

Гляньце й вы, зямля якая
З краю і да краю,
Ну, няйначай, як жывая,
З намі размаўляе.

Сёння дарага яна мне,
Быццам маці сыну.
За яе, была часіна,
Ледзь я не загінуў:

Пры панах ля нашай вёскі
Жыў магнат багаты,
Адабраў у нас ён поле
Па самыя хаты.

Я пайшоў да войта ў гміну,
Праўду каб давесці,
Войт пры ўсіх мяне спачатку
Лаянкаю збэсціў.

Думаў я ў павет падацца,
Каб знайсці ратунак,
Войт адвёў мяне на кару
Аж у пастарунак.

Стаў крычаць я на ўвесь голас:
— Хіба так мажліва? —
Пан і войт мяне загналі
Аж у дэфензіву.

Не суняўся, не паддаўся
Я на іх пагрозы,
А раз так, адна дарога —
Да Картуз-Бярозы.

Па-за кратамі, дратамі
Моцна катавалі,
Толькі волю ў нашых сэрцах
Каты не зламалі.

Калі вера ёсць у грудзях,
Дык ніхто не страшан,
Дачакаліся, нарэшце,
Што зямля ўся наша!

Ні паноў, ні катаў-гіцляў,
Ані пастарункаў —
Вось ён, наш калгас, глядзіце —
Быццам на малюнку.

Брама.
А на браме зорка
Дзеразой спавіта,
Сад разбегся на прыгорку
Да самага жыта.

Дом цагляны выглядае
З зялёнага парку...
Васілёнак запрашае
Да сябе на чарку.

— Прыпыніцеся на хвілю, што вы за суседзі?
Адказалі ўсе з падзякай:
— Некалі, паедзем!

Зноўку далей зашуршала па шашы машына,
Толькі збоку застаюцца сосны і яліны.
У машыне той гамонка не магла суняцца,
Ды заместа Васілёнка размаўляе Каця:
— Служба ў пана,
Вось дзе гора.
Раніцой, ледзь пройдзе морак:
— Прэндзэй, Каця! Да аборы!

Яшчэ ў пана пазяханне:
— Прэндзэй, Каця! Ладзь сняданне!

Пачне пані прасынацца:
— Плацце пані, прэндзэй, Каця!

Пан і пані йдуць гуляці:
— Прэндзэй, Каця! Жыта жаці!

Пані й пану трэ вячэру:
— Прэндзэй, Каця! Ты халера!

Шмат зазнала я абразы, шмат зазнала плачу,
Праўду кажуць, што батрачы — гэта хлеб сабачы.
Ды настала нам часіна, і паноў — ні звання,
Я сама сабе сягоння гаспадар і пані!
І Тамаш услед за Кацяй распачаў размову:
— Хто ў жыцці адведаў гора болей Тамашова.

Трапіў я ў руднік заморскі
З роднай Беларусі,
Калі ёсць на свеце пекла,
Пекла не баюся.

Пад зямлёю, што ў скляпенні,
Трацілі мы сілы.

Падбівала нас каменнем
І агнём смаліла.

Каб было прыбытку болей,
Бэсцілі бясконца...
Ледзь я вырваўся на волю,
Рад, што ўбачыў сонца!

Перабіў пастух размову, стаў аж выхваляцца:
— Вы пра гора, ды пра гора,
я ж хачу пра шчасце.

Я жыву, што лепш не трэба! Кожны можа слухаць,
Як труба спявае ў полі — сэрца весялуха...
Як зайграю, як зальюся, гэтак чыста, звонка,
Ажно грукаюць ўпрысядкі ля шляха сасёнкі.

І пастух перакканальна так гаворыць людзям:
— Сёння болей пра былое гаманіць не будзем,
Я хачу, каб адказалі на адно мне слова,
Ну, чыё жыццё ў калгасе лепш за пастухова?

Пастуху на гэты словы
Ціт Зaграй заўважыў:
— Апанас! Табе адкажам
Мабыць, другім разам!

А каму сягоння лепей,
То йшчэ невядома.
Злазь, праехалі дарогу,
Мы сягоння дома!

IV

Сіла ў нашых руках,
Сіла ў новым часе —
Ля Чырвон-гарадка
Навакол калгасы.

Многа скрозь пасёлкаў
Добрай гаспадаркі,
Ані тых маёнткаў,
Ані тых фальваркаў.

На зямлю сяляне
Маюць уладанне,
Ані табе пана,
Ані табе пані.

Ні старое гміны,
Знік і войт-забойца —
У сям'і адзінай
Чырвонаусходцы.

Іх шнуркі былыя
Леглі б і ў прыполе,
А цяпер якія —
Не агледзіш поля.

А вакол прыгожа,
Так і не прысніцца,
А на полі збожжа
Густа каласіцца.

Грэчка бела ўлетку,
Што смятана тая,
А ячмень на ветры
Вусы раздзьмухае.

Жыта мкне плячамі
Аж увысь, здаецца,
Белы мак крыламі
Узляцець імкнецца.

І спяваюць быццам
Скрозь ляны з аўсамі,
Шапаціць пшаніца
З грэчкай, ячмянямі.

Сонца аж смяецца,
Промні раскідае —
Радасна на сэрцы
Старшыні Заграю.

Стаў прыгожы наш куток,
Вось дык перамена —
Даў Чырвон-гарадок
Добрае насенне.

Будзе ў гэтым годзе
З хлебам урадліва,
Ціт Заграй абходзіць
Па брыгадах нівы.

Сам сабе ён дукрыць,
Штосьці разважае,
А Тамаш насустрач
З «Вясёлага гаю»...

— У маім калгасе
Поле ты наведай.—
І пайшлі ўжо разам
Два сябры-суседы.

Слова ды да слова,
Пра калгасы спрэчка:
У адным дуброва,
У другім жа рэчка.

У адным майстэрня —
Абады і шыны,
У другім цагельня
І ў дадатак пільня.

У аднаго поле —
Толькі любавацца,
У другога — болей
Добрай сенажаці.

Проста ганкі ў ганкі,
Іх сялібы блізка,
Чутны пеўні ранкам,
Як рыпяць калыскі.

Іх сумесны гоні,
Разам іх брыгады,
Ды старшыні сёння
Не дайдуць да ладу.

Ціт Заграй, каб зліцца,
А Тамаш — ні блізка...
Нельга згаварыцца
З Тамашом Калыскай.

Праз усю бяседу:
— Не хачу, дый годзе!..—
Ціт Заграй суседу —
Так і сяк даводзіць:

— Быць адным калгасам
Трэба нашым хатам,—
Калі станем разам,
Будзем больш багаты.

А Тамаш: — Не трэба!
Вельмі ты харобры!..
Нам хапае хлеба,
Нам і гэтак добра!

Ціт Заграй: — Будзь пэўны,
Людзі скажуць самі,
Што ты ўпёрся ў сценку,
Быццам вол рагамі.

А Калыска: — Вочы
Пяліш на чужое,
Над усім быць хочаш,
Мабыць, старшынёю.

Ціт Заграй: — На сходзе
Гэта абмяркуюць!..—
Апанас падходзіць
На гаворку тую.

Стаў ён. Разважае.
Трубу ўзняўшы ўгору:
— Нам з «Вясёлым гаем»
Жыць асобна сорам.

Хай з'яднае згода
Разам нашы вёскі,
І ў мяне ў паходах
Стане болей войска.

Знаю, перамога
Нас усіх чакае...
І ўжо ўтрох дарогай
Між палёў блукаюць.

Шум між каласамі,
Ды яны не чуюць,
Неўзабаве, днямі
Сход склікаць мяркуюць.

V

У калгасным садзе сходка моцна ўсіх усхвалявала,
З двух калгасаў люд гаворыць, ну, здаецца,— завіруха.
А навокал таго люду дрэў у круг нямала стала,
Быццам яблыні і грушы падышлі таксама слухаць.

Быццам птушкі груkнуць крыллем,
калі хтосьці ўдала скажа,
Часам бас прарэжа цішу, як бы ўдараць бубны грому,
Ціт Заграй, Тамаш на сходзе пасядаюць сёння разам,
З імі побач Валатовіч — старшыня райвыканкома.
І Тамаш дае пытанні — быццам ўсё яму загадка:
— Як жа будзе з працаднямі, як у вас падрыхтавана?
— А скажыце, калі ласка, ці не будзе непарадку?
— Можа, спаць усе ахвочы, не ўзнімаецеся рана?

Апанас: — Ды што такое, хіба мелі б мы Героя?
Ёсць у нас яшчэ надзея, што і гэты не апошні.
— Нам з «Вясёлым гаем», знаю,
аб'яднацца смела можна.
Наш калгас ды з іх калгасам, сапраўды,
як брат з сястрою.—

Ціт Заграй гаворыць людзям:
— Мы адно жаданне чуем.
Каб як лепей гаспадарка ўздымалася сягоння.
Што ж, калі мы зложым сілы, дык чаго не пабудуем.
Ды і трактару на полі шмат прыбавіцца разгону.

— Згода? Згода! — Валатовіч устае і запрашае
Старшыню праўлення выбраць, ды найлепшага, вядома:
За таварыша Заграя рук ўзляцела, быццам стая...
І Тамаш руку пацiснуў сябруку свайму старому.

А калгаснікі на працу сталі дружна сабірацца.
Летні час цяпер на полі,
а такога часу шкода,

І пайшлі яны ўсе разам на палі, на сенажаці...
Так з'яднаўся «Гай вясёлы» назаўжды
з «Чырвоным ўсходам».

Разышліся па брыгадах, у сялібах стала пуста,
Толькі чуць,
як млын грукоча ды гагочуць гусі недзе.
Валатовіч жа Заграя запрашае ў газік шустры:
— Дай з табой па сельсавету пацікавімся, праедзем!

І пайшлі кружыць дарогі ад хаціны да хаціны,
Праплываюць перад імі сельсавецкія абшары —
Вунь знаёмая смалярня, пры панах завод адзіны,
МТС за ёй ўзнялася, што машынамі ўладарыць.

А за ёю сыраварня для калгаснае патрэбы,
Пільня з вышкаю высознай, дзе агнём маячыць зорка,
А далей завод цагляны комін вывеў аж пад неба,
Цераз лес вядзе размовы з элеватарам на ўзгорку.

На балоце экскаватар заграбае спорым коўшам...
Валатовіч да Заграя: — Бач,
як скрозь закрасавала? —
А Заграй яму на гэта, навакол рукой абвёўшы:
— Сёння столькі ў сельсавеце,
што і ў гміне не бывала!

У бяседзе едуць далей. Бачаць поле залатое,
А на полі смех і гоман, жартаўлівая размова...
Ходзіць Каця між жытамі і дзяўчаты разам з ёю
Ды вяроўкаю ў калоссяў бы прычэсваюць галовы.

І глядзяць яны пшаніцу, а яна шуміць, густая,
Каласы вакол гамоняць, ну, здаецца, што жывыя,
Воскам сонечным наліты,
ад сцябла на дол спадаюць,
Сцёблы тоўстыя такія, быццам з дроту, медзяныя.

Валатовіч цісне руку Кацярыне на расстанні:
— Каця! Лес, а не пшаніца,
не чакаў сустрэць такую,
Што ж, дазволь нам пакланіцца,
знаеш нашы пажаданні,
Зорка на абы-якая па табе, відаць, сумуе!

— Вось каб гэтак, ды усюды,—
Валатовіч Ціту кажа,—
Зноўку газік плыў палямі,
як на фронце дзе ў паходзе...
— А то ёсць такія людзі, што зямлі ад іх абраза,
Невядома, як працуюць, толькі клопаты, дый годзе!..

Трэба ж так зрабіць,
хай добры скрозь благога навучае,
Хто адстаў, няхай працуе,
покуль лепшых не дагоніць.—
Валатовіч ў захапленні, аж калоціць ён Заграя:
— Гэтай восенню нам трэба зладзіць выстаўку ў раёне!

## VI

Поўны клеці дабра
Жнівень з поля сабраў.
Лісця ўзняўся віхор,
І кастрычнік — на двор.

Гоман-гуд на шашы,
Колькі мчыцца машын,
Тупат, грукат з бакоў
Ад пралётак, вазкоў.

А куды іх нясе,
Ажно курыць пясок —
Ды на выстаўку ўсе,
У Чырвон-гарадок!

У Чырвон-гарадок едуць свята спраўляць,
І людзей паглядзець, і сябе паказаць;
І шуміць, і гудзіць, і спявае народ
На дзядзінцы ў калгасе «Чырвоны усход».

Збожжа ў свірнах ляжыць, кружыць восеньскі ліст,
Пахаджае дваром Апанас-гарманіст.
А гармонік яго — што за лад галасоў!
З ім за Одэр схадзіў, з ім вярнуўся дамоў.

А дзяўчат ля яго неўгамонлівы рой,
Агпядаюць уборы на адной, на другой.

— Што за брошкі, каралі, што за дзіва шнуркі? —
Несціхана шумяць на дзяўчатах шаўкі,
Кветак, стужак вакол паначэплена шмат.
Домна з фермы птушынай падышла да дзяўчат:

— Знаю, харашы вы,
Не адстану й сама —
У Чырвон-гарадку пэўне лепшых няма! —
Пры трохтонцы ўбаку хлопцы сталі гуртом,
Толькі рогат вакол, толькі дым аж слупом.

На дзядзінцы тым гул, людзі ходзяць, шумяць —
Дзе вазы, дзе вазкі, дзе пралёткі стаяць.
Коні моцна іржуць, дугі ў стужках гараць.

Старшыня Ціт Заграй глянуў зырка на шлях,—
Грудзі ў промнях усе, грудзі ўсе ў медалях.

Аглянуўся назад:
— Палявод, дзе ты там?
Ці не спознімся мы? Час на выстаўку нам!

Знекуль выскачыў газік, падбег сугрунём,
На ім дзядзька Тамаш з велічэзным снапом.
Маладжавы на твар, хоць як снег валасы,
Курыць люлечку ён і смяецца ў вусы.

— Будзе што паглядзець. Ёсць нямала навін.
Я з Чырвон-гарадка, можа, сорак хвілін —
Наша ўсё там дабро, як на картцы, стаіць,
Што ж, ды лепей сябе мы не будзем хваліць!
Дай каманду, бо час!
А на выстаўцы наш не паддасца калгас! —
Да яго старшыня сеў,
Рукою махнуў —
Увесь поезд тады, быццам вулей, загуў.
На пярэдняй машыне ўзвіўся крылламі сцяг,
Як чырвоны арол, узляцеў ён на шлях.

На трохтонцы за ім трубы ў лад загулі,
Увабраныя голлем ўслед машыны пайшлі.
Кожны думаў бы так, каб пабачыў здалёк:
— Гай няйначай паплыў у Чырвон-гарадок!

І крычалі з калёс да імклівых машын:
— Не адстанем мы больш
Чым на дваццаць хвілін.—
На Чырвон-гарадок шлях аж гулам гудзіць...
Старшыня Ціт Заграй між сябрамі сядзіць.

З імі летаў нямала ён у працы правёў,
Не злічыць у яго і суседзяў-сяброў,
Каб сабраць — не змясціць і ў вялізарны дом,
Столькі іх, колькі ёсць тут калгасаў кругом.

Вось і сёння на выстаўку яны разам спяшаць,
Да яго на шляху іх вітанні гучаць.
Ці пад рокат машын, ці пад грук капытоў:
— Як жывеш, Ціт Заграй?
— Ціт Заграй, як здароў?

## VII

На шырокім бальшаку
Гул не моўкне суткі —
У Чырвон-гарадку
Вуліцы паўнюткі.

Тут спаткаеш хоць каго —
Кожны госць жаданы.
У Чырвон-гарадку
Вуліцы прыбраны.

Чырвань,
хвоя на дамах,
Лозунгі, вядома.
У палотнішчах, сцягах
РВК з райкомам.

І відно яшчэ здалёк,
Зазываюць крамы —
Прыязджае ў гарадок
Ціт Заграй з сябрамі.

У машынах, у вазках
Мкнуцца ўсе наперад,
Азначаюць спрытна шлях
Міліцыянеры.

Шмат на вуліцах галоў,
Бы цвіце паляна,—
Ля кіёскаў, ля ларкоў
Гоман нестрыманы.

Гапака, аж гул гудзе,
Адбіваюць хлопцы,
Не спыняюцца нідзе
Чырвонаусходцы.

У напрамку мкнуць адным,
Дзе наўпрост, дзе з краю,
Быць на выстаўцы яны
Перш за ўсё жадаюць.

Гул матораў, грук калёс,
Шмат народу едзе,—
Ціт Заграй дарогай скрозь
Пазнае суседзяў.

Хустку, быццам аганёк,
Вецярок калыша,—
Едзе Каця Гаманёк,
З «Горак» брыгадзірша.

Каця ростам не ўзяла,
Ды — як вішня быццам.
Той пшаніцай, што дала,
Можа пахваліцца.

Пазнае Ціт седака,
Што прамчаў дарогай,—
Васілёнка Петрака,
Друга баявога.

Далей дзіўна,
Што за шык?
Распазнаў ён ледзьве —
Старшыня Мікіта Цвік
Едзе на «Пабедзе».

Ціт Заграй ўздыхнуў не раз
Ўслед Цвіку сягоння:
— Што ж, пакуль яго калгас
Першы ў раёне.

Едзе далей,
А ў грудзях
Аж пячэ нібыта:
— Вось і брама ўся ў вянках,
Выстаўка адкрыта!

### VIII

Канца і краю не відаць
На выстаўцы сябрам,—
Раскінуўся вялізны пляц,
І поўны ён дабра.

Тут і пшаніцы, і жыты,
І грэчка, і аўсы,—
Стаяць, гамоняць каласы
Аб леце пражытым.

Машын, бы хто сабраў на сход,
Якіх там не спаткаць,—
Там трактары, абцёршы пот,
З павагаю стаяць.

Сявярні там спаткаліся,
Сяўбы правёўшы план,
З павагай углядаліся
Жняяркі на камбайн.

А побач — з краю аж у край —
Пастала збажына,
Ідзе з сябрамі Ціт Заграй,
І думка ў іх адна.

Што ёсць найлепшага ў другіх
Прыкмеціць, пераняць,
І кожны так жадае з іх,
Сваё каб паказаць.

Стаіць высока у снапах
Пшаніца, аж шасціць,—
У Каці Гаманёк ў вачах
Як бы іскра свіціць.

Яна ўслаўляе свой калгас
І хваліцца сама:
— Такой пшаніцы, як у нас,
Відаць, нідзе няма?

Ды цягне за рукаў Тамаш,
Хвалюецца аж ён:
— Ды гляньце,
чым жа горшы наш,
Такі адменны лён!

А Ціт Заграй да Петрака,
Яго не цягне ледзь:
— Ты шчэ не бачыў, брат, быка,
А ёсць што паглядзець!

Ну і вялізны, як гара,
Спужаешся — зірнеш,
Такога, браце мой, зубра
Не мае Белавеж!

І быццам ён пачуў здалёк,
Што бык яго раве...
— Ды гэта ж, браце, мой Вянок.
Хадзі, ён нас заве!

Прыйшлі.
Дзівуецца Пятрок,
Аж рукі ён развёў:
— Нічога, брат, сабе Вянок!
Не менш як сто пудоў!

А бык раве, глядзіць на дол,
Рагамі ўпёрся ў плот.
Каля быка і навакол
Гудзіць, як рой, народ.

А побач, колькі там кароў,
Ягнят, цялят, авец,
Буланы жарабок Улоў,
Ну, дзе такога стрэць?

Ажно ўзаўецца, ледзь кранеш,
Гатоў скрышыць загон,

Зірне — маланкаю блісне,
Капытам грукне — звон!

А далей — новыя рады,
Плугоў, баронаў шмат,
Нат сепаратары сюды
Зрабіў промкамбінат.

Ідуць, глядзяць на ўсё сябры —
Сякеры скрозь, нажы,
Начоўкі, дзежачкі, цабры,
Калёсы, палазы.

Талеркі, місы і судкі,
А колькі лыжак тых,
І з гліны пеўнікі-свісткі —
Забаўкі для малых.

Праходзіць Ціт ў кружку сваім
І чуе: з вецярком
Дыхнула пахам садавым,
Капустай, агурком.

Нібыта ў сад яны прыйшлі,
Шчаслівыя праз край:
— Калі ёсць рай дзе на зямлі,
Дык вось дзе, братцы, рай!

Апорты з кропінкай зары
Наліты, як віном,
Антонаўкі, нібы сыры,
Даспелыя кругом.

А груш які там выбар быў,
А слуцкіх бэр гара,
А белы-белы той наліў,
Што сонца усё забраў.

Праменнем чырвані палаў
Там кожны памідор,
Як бы хто з неба назбіраў
Гару чырвоных зор.

А далей солад, хлебны квас,
З агрэсту сок, як шкло.

Вы запытайце лепей нас,
Чаго там не было.

Народ хадзіў не для забаў,
Ён лепшага шукаў —
Хто з кім насенне там мяняў
І збажыны, і траў.

А да Заграя ў Петрака
Ёсць просьба на хаду:
— Дазволь, ад добрага быка
Я племя завяду.

— Ну, што ж,
я гэта раю вам,
Няма між нас чужых,
А ты, браток, па лёну нам
Вясной дапамажы!

— Ты мне гудзіш усё пра лён,
Як бы сышоўся свет,
Ды не адзіны толькі ён,
Усё ў мяне як след.

Бо трэба знаць душу ў палях,
У кожным нораў свой.
Якое зерне дзе зямля
Ўскалыша над сабой.

Што я табе скажу, дружок,
Вы хваліцеся чым —
Пшаніцай Каця Гаманёк,
А ты быком сваім.

А ты, на міг, сюды хадзі,
Тут ёсць усё якраз,—
Ты паглядзі, ты паглядзі,
Што можа мець калгас.

Пшаніца, што там дзіваваць,—
Што месяц, глянь, сыры,
І птушка — раз,
І рыба — два,
І мёд для сэрца — тры!

А Ціт Заграй тады знарок
Сябру кідае жарт:
— Відаць, па-твойму, я, Пятрок,
Нічога ўжо не варт!

Я знаю так, як трэба жыць,
Нам шмат яшчэ рабіць!

Пайшло і сонца асядаць
За бор у гэты час.
Ужо чакаюць іх,
відаць,
І Каця і Тамаш.

— Ну, братцы, толькі паглядзеў,
На вус адно матай,
Не бачыў гэткага нідзе,—
Ім кажа Ціт Заграй.

— Цяпер зусім інакшы час,
Другімі сталі й мы.
Бывала, прыйдзеш на кірмаш,
Ды з гора да карчмы.

Займееш грош які малы,
Пачнеш сівуху піць,
Нап'ешся... потым за калы...
А пан над намі кпіць.

Цяпер прыемна нам глядзець,
Што сталася з зямлёй...
Усе да лепшага ідзём
З прасветленай душой.

А я камуну так спазнаў —
Усё маеш для патрэб,
Каб чалавек араў
І жаў —
Для сэрца працаваў,
Каб чалавек пра чорны хлеб
Ніколі і не дбаў.

Камуну бачу я такой,
Што ў ёй расці, цвісці,

Назаўжды скончана з вайной,
Мінулі голад, жах...
І чалавек на ўсім жыцці
Не знае, што за страх.

Я так камуну разглядзеў —
Шчаслівы сэрцы ўсіх,
А слёз, ды іх няма нідзе,
Хіба ў дзяцей малых.
Камуны бачу я прыход,
Каб кожны моц набыў,
Каб чалавек да сотні год,
Ну, сама меней, жыў.

Каля прамоўцы люд загуў,
Шчыльней яго абняў,
І сакратар райкома чуў,
Што Ціт Заграй казаў.

Ён чуў — дзень заўтрашні людзям
Здаецца залатым,
І вось бярэ ён слова сам,
Ад сэрца кажа ўсім:

— Твой, Ціт Заграй, праўдзівы сказ —
Узняўся наш куток,
І гэта выстаўка для нас —
Наперад добры крок.

Чаго дасяглі мы пакуль —
Маглі ўсе аглядаць.
З вас кожны лепшае адсюль
Павінен пераняць.

Каб кожны да зямлі ішоў
І сэрца прыкладаў,
Каб абібокаў, гультаёў
Раён у нас не знаў.

Каб незаможных не было,
Каб наша кожнае сяло
Найболей расцвіло,
Бо да камуны нам бліжэй,
Калі мы багацей!

Ну, а цяпер — дачкам, сынам
Прыгледзьце вы абноў,
Без падарункаў сёння вам
Няма хады дамоў.

IX

Вецер над дамамі сцягамі палошча.
Неўгамонна сёння гарадская плошча —
Параскрылі вочы зыркія вітрыны.
Просяць, каб наведалі людзі магазіны.

Паміж крам паважных,
З габляваных дошак,
Быццам маладухі, кніжныя кіёскі.
На людзей з калгаснай, нашай новай вёскі
Паглядаюць з шыбаў Пушкін, Маякоўскі.

Песня ў родным слове там жа красавала,
Пасядаюць побач Колас і Купала.
Кожны выбірае, што яму жадана,
У калгасе кніжцы добрая пашана.

Побліз крам народу, быццам ходзяць хвалі,
А па крамах поўна дзіўнага паркалю,
Аж паліцы гнуцца, ажно глянуць люба,
Хочаш для старога, хочаш і да шлюбу.

Як раскрыюць шоўку трубку вам якую,
Быццам луг увесну кветкамі красуе.
А калі ў блакітным ёсць у вас патрэба,
Вам дадуць такога, як самое неба.

Курткі і сукенкі, хусткі і капоты
Набірае дзецям шчасная Дарота.
Мае брыгадзірша пяць дачок у хаце,
Кожная з іх хоча, як найлепш, прыбрацца.

Трэба па каралях і па шляпцы кожнай,
Што ж, у чым тут справа, сёння гэта можна.
Адышлі пакуты,
Чорныя навалы,
Уздыхнула цяжка, толькі прыгадала —

Муж забіты ў бойцы, кат жа знішчыў хату,
Выкінуў сіротак, бы з гнёздаў птушанятаў.
Мабыць, і загінулі б тым пакутным часам,
Каб не перамога ды каб не калгасы.

— Што ты ўсю, суседка,
Краму абчышчаеш? —
Глянула Дарота, хто жартуе ў краме,
Бачыць, ажно гэта Ціт Заграй з сябрамі.
І на кпін ягоны кпінам адказала:
— Вам, чырвонаўсходцы, тут і крама мала.—
Хтосьці жартаваў з іх, хто казаў сур'ёзна,
Толькі да паліцаў падыходзіць кожны.

Вось Тамаш прыгнуўся
Ціха каля сценкі,
Сыну браў скуранку,
А дачцэ — сукенку.
Цётка Домна й Каця сталі ля паркалю,
Дзетак вельмі слаўных шмат нагадавалі.

А Пятрок прыкмеціў добрага фасону
Гарнітур адменны з сіняга бастону.
Хтосьці выбраў боты, рад, што нос шырокі,
Ціт Заграй той «тулку» выверыў на вока.
А вакол —
Крамніны, сукны і тканіны,
Матацыклы, стрэльбы, швейныя машыны,
Чаравікі, шляпкі, шапкі і берэты...
Слаўны тыя рукі, што зрабілі гэта.

Дзе яны працуюць — блізка ці далёка,—
Мы да іх з падзякай ставімся глыбокай.
Гул стаіць у краме,
Радасна суседзям.
Час жа не чакае, ён пакрыху едзе.

Сонца ледзь варушыць промнямі-крыламі
За Чырвон-гарадком,
па-за камінамі.
— Ну, пара дадому.—
Выйшлі ўсе на плошчу.
Толькі адыходзіць аніхто не хоча.

Жарты ды размовы.
Ўсе стаяць ля крамы...
Васілёнак пляснуў гулка даланямі:
— Што мы тут пасталі,
Не заносіць колы,
Хочаце прабавіць час які вясёла —
Дык, сябры-таварышы, так я прапаную:
Едзем да мяне ўсе — добра пачастую!

## X

Вокны аж іскрацца,
Ля акон сасёнкі.
Гул стаіць у хаце
Пётры Васілёнка.

Скрозь прыбрана ўдала,
Люстра аж палае,
Скрыпка і цымбалы
«Вальс асенні» граюць.

Чаркі за сталамі
Размаўляюць звонка,
А паміж сябрамі
Дружная гамонка.

То пра гаспадарку,
То аб чым размовы...
Узнімае чарку
Ўгору Валатовіч.

— Раз за стол паселі
Сёння з перамогай —
Налівайце белай
Ці віна якога.

Выпілі, паволі
Завялі «Каліну».
Рады, як ніколі,
Ціт Заграй з дружынай.

Што ж, калі няспынна
Паляцелі хвілі...

Ды не хмель прычына,
Сэрцы гаварылі.

Першы Васілёнак
Распачаў гаворку:
— Некалі батрачыў, жыў я вельмі горка...—
Уздыхнула Кацярына:
— Хто быў сіратою...

А Тамаш азваўся:
— Гэта вам не тое.
Каменем у горле стаў мне хлеб заморскі,
Ледзь жывым не клаўся паміраць у дошкі!

Домна:
— Я дык за кудзеляй вочы праглядзела...
А Дарота зноўку:
— Пяць сірот ты мела?

Ціт Заграй ўсміхнуўся,
Узмахнуў рукамі:
— Як відаць, мы роўнымі ўсе былі панамі.—
Гул, што далей, болей
Круг займаў наўкола,
Устае паволі Апанас з-за стала.

— Слухаю вас доўга, сам сказаць жадаю —
У ксяндза батрачыў, пекла больш не знаю.
Ксёндз і сёння ладзіць да старога часу,
Чулі, як ён пнецца насупроць калгасаў.

Ды жыццю другому здалі мы экзамен —
Адказалі проста: — Досыць, ксенжа! Аман!
Гора прамінула, канула ў бяздонне,
Дайце пагамонім, як жывём сягоння!

Няблага ў нас жыве народ,
Вось наш куток, зважай —
Калгас «Прамень», «Чырвоны ўсход»
І збоку — «Першы май».

А «Першы май» — зямля мая,
Калгасны статак — мой!
І сапраўды, хвалюся я
Работаю сваёй.

Як скончу вечарам паход,
Ды граю ўсім: страчай!
Калгас «Прамень», «Чырвоны ўсход»,
Прыгожы «Першы май»!

Гаварыць адразу захацелі трое,
П'яныя не з чаркі, з добрага настрою.
Каця з Васілёнкам пачала размову,
Толькі перабіла слова Тамашова:

— Вось, калі свой лёс я стрэціў,
Што старэю шкода,
Хіба ёсць каму на свеце
Лепш, як паляводу?

Біўся я даўней з сахою,
Сам я пан сягоння.
З першым жаўрам ў нас вясною
Трактары гамоняць.

Рассцілаюць скібы роўна,
Ходзяць уладарна,
І зямлю ў дыван цудоўны
Зернем ткуць сявярні.

Поле ў цвеце, сэрца рада,
Што кругом красуе —
Ад брыгады да брыгады
Цэлы дзень хаджу я.

За работаю з сябрамі
Весялей, чым дома,
Што іх робіцца рукамі,
Добра ўсім вядома.

А калі паспеюць нівы —
Глянуць асалода.
Ну, скажыце, хто шчаслівы
Больш за палявода?

Маю ўсё, што толькі трэба,
Гэта знаюць людзі,
Думка сёння не аб хлебе,—
Пра жыццё, што будзе.

Бо паны не сціхлі, выюць,
Пан стаіць за пана,
Асабліва злосны тыя,
Што за акіянам.

Свет жа ім занадта цесен,
Страшна спраў калгасных —
Нашых зерняў,
Нашых песень,
Зорак нашых ясных.

Джалам сыкаюць, як змеі,
Хочуць свет загрэбці,
Што ж, відаць, яны шалеюць
Прад сваёю смерцю.

Сеў Тамаш.
Паважна ўшанавалі друга,
Абышлі яшчэ раз чаркамі па кругу —
Пра сябе ж напомніць кожнаму ахвота,
Слова сваё кажа шчасная Дарота.

— Пражыла сваё я гора
І таксама штосьці значу,
Калі ўходжу я ў абору,
Весялею я няйначай.

А прыйду дадому з працы,
Як жа мне не захапляцца —
Пяць дачок я маю ў хаце,
Хіба гэта не багацце?

І вясёла ў нас і жыва,
Адпакутвалі, і годзе —
Хто за вышыўкай ці швівам,
Хто ад кніжак не адходзіць.

Да навукі цяпер блізка,
Можна стаць і дактарамі:
Хочаш ты — вучыся ў Мінску,
І Масква не за гарамі.

Дзе такое шчасце стрэціш,
Толькі ў нас, усім вядома.

Сапраўды, так мне здаецца,
Лепш, як мне, няма нікому.

Загудзела за сталамі бы ў віхор між бору,
Так прайшло, не зразумееш,
хто за кім гаворыць —
Васілёнак запэўняе:
— Вам вядома, што я маю.

Валатовіч супыняе (цішыня настала ў хаце):
— І дадому не дабрацца, калі гэтак выхваляцца.
Што й казаць,
аб справах добрых пахваліцца можа кожны,
І не дзіва, ёсць такія, што цяпер жывуць заможна,
Ды ляжыць яшчэ прад намі немаленькая дарога,
Нас чакае спраў нямала і рабіць яшчэ нам многа,
Каб раслі ўсе, багацелі несупынна з кожным годам,
Мы пра ўсе свае калгасы мусім думаць і заўсёды.
Трэба так,
каб да драбочка мы зямлю ўсю засявалі,
Каб сады вакол сядзібаў белай пенай красавалі,
Каб дамы пад чарапіцай, цагляныя скрозь пасталі,
Каб машыны на палетках усё больш круг займалі,
Каб авец, кароў і коней многа мы нагадавалі,
Каб ніякае патрэбы мы ні ў чым ані не зналі.
— Зробім? Зробім! —
Узняліся ўсе яны ў хвіліну тую —
Ёсць у нас зямля такая, у якой мы сэрца чуем,
Ёсць паветра, ды якое, лепш усякага настою,
Ёсць у нас такія людзі, што ні глянеш, дык героі...

Яшчэ доўга б, мусіць,
Людзі гаварылі,
Ды акон крануўся
Золак сінім крыллем.

Певень як бы госцяў
Прывітаў заўзята,
І азваўся хтосьці:
— Ці не час дахаты!

Не прайшло гадзіны,
З двору ад'язджалі —
Загулі машыны,
Коні заірзалі.

## XI

Ранне.
Шляхі праз палі і бары.
З выстаўкі едуць
Дадому сябры.

Руні вакол
Зеляпеецца шоўк —
У кожнага ў думах —
Чырвон-гарадок.

У кожнага ў сэрцы
Нямала клапот —
З чым заявіцца
Туды цераз год?

Думае, што паказаць,
Апанас;
Марыць аб лепшай
Жывёле Тамаш.

Усхваляваны Заграй
І здавён
Думае думу,
Як вырасціць лён.

Марыць Дарота
Пабольшыць удой,
Кацярына — аб новай
Пшаніцы сваёй.

І кожны з іх дбае
Пра новы наш час,
Каб рос, узнімаўся
Іх родны калгас.

Каб ведалі ўсюды
Пра слаўны куток,
Што ёсць у Беларусі
Чырвон-гарадок!

## ЛЯСЫ НАДДЗВІНСКІЯ

*Якубу Коласу*

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы,

Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

Шуміць, шуміць чароўны спеў
Зялёным верхавіннем дрэў...

Яшчэ калі ў калысцы быў,
Ваш гул таемны палюбіў.

Пад сіні бляск далёкіх зор
Спяваў мне калыханкі бор.

Я помню мой далёкі час,
Як гадаваўся сярод вас!

Лясы наддзвінскія, лясы!
Прайшлі дзіцячыя часы —

І над маёю галавой
Прамчаў гадоў крылаты рой

І скроні выбеліў мае,
Як снег вяршаліны твае.

Хоць многа часу перайшло,—
Здаецца, ўчора ўсё было.

Зіма і зорна. Цішыня.
Сяджу ў хаціне ля акна.

Сяджу, стаіўшыся я ўвесь,
Гляджу, гляджу на цёмны лес.

А ён маўчыць. Ледзь чуцен скрып,
А ён стаіць ля самых шыб —

Такою дзіўнай грамадой,
Ну, сапраўды, што ў казцы той!

Імкнуцца сосны ўвышыню,
Каб абагнаць адна адну —

Адна дайшла ў такую высь,
На ёй серп месяца павіс.

Ялін і зрокам не абняць,
У белым вэлюме стаяць.

А навакол іх шмат такіх,
Як ля бацькоў дзяцей малых.

А крыху ўбок, узняўшы чуб,
Стаіць мажны, маўклівы дуб.

Ляціць з яго цяжкіх сукоў
Мядзяны звон старых лістоў.

Усё ахутала зіма.
Лясы... І краю ім няма...

Хачу дазнацца я хутчэй,
А што за імі там, далей?

І бачу ў змрочную пару —
Ідуць мужчыны з гушчару.

Заснежаны да самых броў
Бароды, што ў лесавікоў.

На іх баюся я глядзець.
Яны ідуць, ступаюць ледзь.

Яны падняць не могуць рук.
І вось ужо ў хаціне грук

І ўздых, як быццам боль які:
— У лесаруба хлеб цяжкі! —

І да мяне: — А ты, блазно,
Чаго углядзеўся ў акно?

Якіх ты там не бачыў дзіў?
Глядзі, лясун каб не схапіў.—

Пабачыў страшнае мой зрок —
Таемны нейкі аганёк.

Гляджу з-за бацькавай спіны —
Мо ў лесе ходзіць цар лясны?

Лясы наддзвінскія, лясы,
Не знаю большае красы,

Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

* * *

Праз трыццаць год між вас іду
І з вамі гутаркі вяду.

Я да бярозы падышоў —
Шуміць, шуміць лісцвяны шоўк.

Мінуў нямала я дарог,
Цябе ж нідзе забыць не мог.

Прайшла вялікая пара.
Ты мне цяпер, нібы сястра.

Сталей мы сталі выглядаць,
Абодвум ёсць што расказаць.

Зарубкі на суках тваіх,
Як шрамы на грудзях маіх.

Ты слухаеш?.. Шуміць твой ліст...
Дык знай — быў добры я танкіст.

З гарматы біў я — даль гула,
Каб ты, бяроза, аджыла!

Я ад заводскіх карпусоў
Ізноў сюды да вас прыйшоў.

Я буду рад па цэлых днях
Кружыць з камбайнам па палях,

Каб узнімаўся, рос калгас,
Каб заўжды ў шчасці бачыць вас.

Гляджу на вас я гэтым днём —
Усё змянілася кругом!

За даллю год, за гулам бур,
Калісьці жыў тут смалакур,

А выганяў яго завод
Тры бочкі дзёгцю цэлы год.

Ён сам казаў: — Тады не жыў,
А толькі неба ледзь капціў.—

Бяроза мне шуміць ліствой —
Не стала ўжо смалярні той...

Я нават месца не пазнаў,
А смалакура — напаткаў!

Жыве, як кажуць, пакрысе
І службу спраўна ён нясе.

Хоць пасівеў стары зашмат,
Але на працы, як салдат.

Ён стрэльбу носіць на плячах,
Пільнуе велічэзны гмах

І ганарыцца тым, і рад,
Што ён вартуе камбінат.

А камбінат, што горад той.
Няма цяпер глушы былой —

Дзе быў гушчар, цяпер там клуб.
Інакшы стаў і лесаруб,—

Ён рад за поспехі свае,
Піла не стогне, а пяе.

Схавала лісце час стары.
Цяпер на руме трактары,

А трактар-волат без размоў
Дзялянку ўзваліць і — пайшоў...

А лес не меншае. Стаю,
Гляджу на шумную сям'ю.

Шмат дрэў за гэтыя гады
Пайшло адсюль у гарады —

Зялёнай вартаю з лясоў
Стаяць ля стройных карпусоў.

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы.

Праз трыццаць год між вас хаджу,
На ўсё захоплена гляджу —

Другія дні, інакшы час,
Другія гутаркі і ў нас!

* * *

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы,

Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

Мне родны ваш куток любы.
Шумяць дубы, гудуць дубы —

Каржакаватыя ў плячах,
Гудуць, паглядваюць на шлях,

Як бы ўстрывожаны яны
Яшчэ з мінулае вайны.

А так было: адзін вар'ят
Сагнаў чарцей са свету шмат,

Сказаў: дубы павырываць
І з краю гэтага забраць.

Што ні рабіў ён — так і сяк,
Ды іх скрануць не мог ніяк.

Дубы карэннямі дайшлі
Да сэрца роднае зямлі

І так стаяць праз сотні год,
Нязломныя, як і народ.

Дубам ніколі не забыць,
Як з сёл, пад стрэлы бліскавіц,

Ішоў стары, малы сюды,
Рыдлёўкі неслі, малаты,

Ламы, дубіны, цесакі,
Патроны, стрэльбы і штыкі —

І, акапаўшыся ў зямлі,
Адсюль змагацца пачалі.

Мне не забыць цяжкіх гадоў,
Нямала я прайшоў франтоў.

І ў той суровы, грозны час
Імкнуўся сэрцам я да вас!

О час вялікай барацьбы!
Шумяць дубы, гудуць дубы,

Вядуць аповесць грозных год
І славяць велічны народ —

Мой край, што зведаў многа ран,
Край незабыўных партызан!

Вятры-ганцы склікалі іх,
Агні пакут ядналі іх,

Карміў, паіў вячысты бор,
Хаваў іх дах з мільёнаў зор,

Пасцеллю быў зялёны мох...
Ды іх ніхто скарыць не мог!

Запаланілі ўсе куткі
Гвалтаўнікі-рабаўнікі.

Быў злосны, прагны іх намер...
Дзе ж косці іхнія цяпер?

На іх быў добры умалот —
У чорнай багне між балот,

Па цёмных норах у звяроў,
У вострых кіпцях каршакоў.

Мой край! Ты выпрастаў свой стан,
Край незабыўных партызан!

За наш савецкі вольны сцяг
Не шкадавалі тут жыцця.

Я слухаю... Гудуць дубы,
Спяваюць песню мне жальбы,

Стаяць з нахмураным чалом
Па-над высозным курганом.

Зарос курган густой травой.
Ляжыць там дзеўчына-герой.

Дубы над ёю праз гады,
Як слёзы, сыплюць жалуды...

Яны ж, сагрэтыя ў зямлі,
На той магіле прараслі.

Ідуць, ідуць увысь расткі
Ад сэрца слаўнае дачкі.

Расці дубкам, расці, мужнець,
Над родным краем ім шумець,

Пад сонцам новы дзень вітаць!
Ніхто не можа іх забраць.

Прыходзіў кат з чужых дарог,
Паспрабаваў — касцямі лёг!

Яго загнаў навек у твань
Адважны воін-партызан.

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы,

Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

* * *

Да вас прыходзіў я не раз,
Было б мне сумна жыць без вас!

Пад ваш шацёр я вольным днём
Іду, нібы ў прасторны дом.

І ў чысты бор, і ў хмыз-гушчар
Прыходжу, быццам гаспадар.

Гляджу, як бор увысь узвёў
Калоны медныя ствалоў.

А колькі, як дзяўчатак, скрозь
Паразбягалася бяроз!

А колькі да бяроз галоў
Схіляе клёнаў-малайцоў!

А навакол лясны ўвесь штаб:
Сасна, і дуб, і вяз, і граб.

Глядзяць на новыя часы,
Другія чуюць галасы —

Няма былых пакут-загуб,
Спявае песні лесаруб.

Глядзяць лясы, гудуць вакол.
Другі над імі птах-арол

Па небе так імкліва мчыць
І срэбным крыллем зіхаціць!

Глядзяць — святло! Ды гэта што?
Адзін быў месяц — стала сто!

Зірнуць пад ногі — не пазнаць:
Рачулка бегла там адна,

Цяпер імшарышчы кругом
Нібы пакроены нажом —

Каналы-струны паміж іх
У светлых бляснах люстраных.

Па іх маторкі скрозь гудуць,
Плывуць удаль, удаль плывуць.

Туды, дзе ў кветках новы пляц,
Туды, дзе стаў цяпер палац!

— Што? Лесарубы там відны?
— Яны, іх дочкі і сыны...

Адпачываюць там сям'ёй,
Шчаслівай дружнай грамадой.

Іх многа — мужных, маладых,
Не толькі секчы справа іх,

Не толькі секчы. Кожны рад,
Каб вырастала дрэваў шмат.

І з году ў год лясы растуць,
Бы ўвысь па лесвіцы ідуць...

Мой родны край! Як ты прыгож!
Ну што магу сказаць я больш.

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы,

Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

## ПАЛЯВАЯ ПОШТА

Чацвёра сутак бой ішоў няспынна,
Грымела дзень і ноч заслона наша агнявая,
Суняўся бой. Прывал у лесе на гадзіну.
Пад'ехала і пошта палявая.

Былі мы вельмі ўсцешаны, вядома,
Прыемнай нечаканасцю такою,—
Здавалася, што кожны з родным домам
Пагаварыў тады усёй душою.

Па ўсіх кутках займалася гамонка,
Для сэрца незабыўныя хвіліны:
Байца-сапёра прывітала жонка
З даўночаканым сінявокім сынам.

Артылерысту маці піша: «Горды
І смелы сын! Тут маю я павагу,
Бо з радасцю дазналася, што ордэн
Ты атрымаў у бойках за адвагу».

І вось вымае ён вялізны кубак,
Што мёдам наладованы да краю,
І пах лугоў калгасных люба
Усіх глыбока сэрцы закранае.

На дне пасылкі вестка дарагая,
Як быццам кожнаму ад роднай хаты:
«Шлём прывітанне. Скора прыязджаем
На фронт да вас. Калгасныя дзяўчаты».

І сталі мы адзіным, цесным кругам,
І ўсе дамоў сваё паслалі слова:
«Клянёмся, сёстры, верныя падругі,
Мы будзем тут фашыстаў біць сурова.

Не страшна нам, няхай памрэ каторы,
Сваю радзіму абаронім самі.

Клянёмся, маці! Нашыя прасторы
Мы адстаім уласнымі грудзямі.

Бывайце!» Словы чуюцца загада:
— Да зброі стань, заслона агнявая!
Пачаўся бой. Мы зноўку нішчым гада.
Часцей з'яўляйся, пошта палявая!

## ПАРТЫЗАНКА

Перад восеньскім прасторам,
Перад полем, перад борам,
Перад ранняю заранкай
Прысягала партызанка:
— За вінтоўку я ўзялася
І клянуся родным сынам
Гадаў біць, каб kroў лілася
Тых паганцаў да Берліна.
Не раскажуць нават лозы,
Дзе ляжыць бандыт каторы...
Нашых матак льюцца слёзы,—
Будзе маткам катаў гора.
Між лясоў сваіх, балотаў
Будзем гадаў біць знянацку...
Многа ў нас дзяцей-сіротаў,—
Будуць дзеці іх без бацькі.
Партызанкі! Ўсе мы мусім
Біць фашыстаў да разгрому,
Каб яны ад Беларусі
Не знайшлі пуцін дадому.
[...]

## КАСТРЫЧНІК ЗАВЕ ЗМАГАЦЦА!

Кастрычнік заве змагацца,—
Фашысты вядуць разбой.
Не на вуліцы,
Не на пляцы,—
Мы сягоння ідзём на бой.
На роднае наша поле
Напоўзла нямала зграй,—
Мы з Кастрычніцкім
Сцягам волі
Абаронім любімы край.
Павыганім катаў з хаты,
Ім касцей сваіх не сабраць,
І Кастрычнік свой
Дваццаць пяты
З перамогай будзем вітаць.

## ПЕСНЯ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАН

На край наш любімы фашысцкія орды
З разбоем і смерцю прыйшлі.
І выйшлі змагацца за чэсць і свабоду
Сыны беларускай зямлі.
    Прыпеў:
    Ой, чаго так рана-рана
    Зелен бор шуміць.
    То сышліся партызаны,
    То выходзяць партызаны.
    Ворага крышыць.
Бандыты прынеслі пажараў зарніцы,
А людзям нязлічана ран.
Не плачце, матулі, не плачце, сястрыцы,
Адпомсціць за ўсё партызан.
    Прыпеў:
    Ад хаты да хаты плыве пагалоска,—
    Што хутка нам волю сустрэць,
    Ідзе к партызанам Чырвонае войска,
    І будзе разбойнікам смерць!
    Прыпеў.

## УРАНКУ, ТОЛЬКІ БОЙКА АДГУЛА...

Уранку,
Толькі бойка адгула,
Баец ішоў па вуліцы сяла.
Над пажарышчамі
Курыўся дым і чад,
Касцямі грукаў абгарэлы сад.
Бязлюдна скрозь. Пуцінамі вайны,
Што мерцвякі, тырчэлі каміны.
І, прыхінуўшыся да попелу нічком,
Дзяўчынка маці клікала з плачом.
Баец да розных жудасцей прывык,
Але сляза скацілася на штык,—
Малую ўзяў, пяшчотна прыгарнуў,
Абцёр ёй твар, паесці даў...
Адчуў,
Што сэрца скамянела у грудзях,
Што з бойкаю яму на захад шлях:
Там дзень і ноч заве яго дачка...
Вінтоўку сціснула рука.

## СЛАВА!

Паганую набрыдзь, натоўпы фашыстаў
Агнём размятаюць артылерысты.
Зарыюцца каты, залезуць у дзоты,
Ды дзе ім схавацца ад нашай пяхоты,—
Няпрошаных госцяў, чужынцаў праклятых
Пяхота знішчае штыком і гранатай,
А коннікі ветрам прамчаць над палямі —
Дагоняць, на часткі пакрояць клінкамі.
Бандытаў, да працы чужое ахвочых,
Знішчаюць танкісты, бязлітасна топчуць.
Навек рабаваць адпадае ахвота,
Як зверху ударацць яшчэ самалёты.
    Змагаецца воін савецкі заўзята,
    Бо нішчыць фашыстаў — свяшчэнная справа,
    Ён вызваліць край свой і родныя хаты.
    Нашай Чырвонай Арміі — слава!
Балтыйскае, Белае, Чорнае мора.
На варце савецкія ходзяць лінкоры.
На розных шыротах фашысцкіх піратаў
На дне назбіралася сёння багата.
Туды для чужынцаў шлях вельмі кароткі,
То спусцяць эсмінцы, то нашы падлодкі.
Туды ж патрапляе, хто вылез на сушу,
Ды толькі раней іх гранатай аглушаць.
Адважны марак — гэта гордасць народа,
Ён заўжды завецца героем па праву,
Бо вольна ракочуць савецкія воды,—
Чырвонаму флоту — народная слава!
Няма акупантам ніколі спакою,
Іх мужна караюць суровай рукою
Па нашых дарогах, лясах і палянах
Адданыя дочкі й сыны-партызаны.
    Як цёмнаю ноччу світальныя зоры,
    Мы бачым сваю перамогу яскрава,
    Не быць у палоне любімым прасторам.
    Вам, партызаны,— народная слава!

## МАШЫНІСТ

Не можа ён забыць часін,
Тае суровае пары,
Калі ў агні, ў дыму руін
Кідаў ён горад на Дняпры;

Калі з-пад смерці і жуды
На ўсход выводзіў паравоз,
Глыбока раніўшы тады
Душу на боль дзіцячых слёз.

Нямала дзён таму прайшло.
Пад рокат куль, пад бомбаў свіст,
Хай шлях задзьмула, замяло,
На фронт спяшае машыніст.

Братоў трымаюць у бядзе
Фашысты, ўзяўшы у палон.
Разлік снарадамі.
Ідзе
За эшалонам эшалон.

Хай машыніст не знае сна,
А сэрца радасна яго,
Бо з новым рэйсам ён штодня
Бліжэй да горада свайго;

Бо знае: час абмые кроў,
І скора ўжо канец тузе,
І ў родны край паміж бароў
Ён шчасце волі прывязе.

## МЫ ІДЗЁМ, БЕЛАРУСЬ

Хай дрыжаць фашысты перад смерцю,
Знішчым іх, наперад ідучы.
Клічуць нас загубленыя дзеці,
Клічуць сёстры з плачам уначы.
Прыпеў:
Наш удар не стрымаць,
Нашы пушкі грымяць.
Не даруем фашыстам ніколі,
Мы ідзём, Беларусь,
Мы прыйдзём, Беларусь,
І пазбавім цябе ад няволі.
Вытры, маці, горасныя слёзы,
Глянь на ўсход над спаленым сялом.
Хутка, хутка будзем над Бярозай
І па мінскіх вуліцах прайдзём.
Прыпеў:
Будзе, будзе ворагам пагана,
Гэта наш бязлітасны паход.
Б'ём у твар, а ў спіну партызаны,
Б'е увесь узброены народ.
Прыпеў:
Пройдзе час, пазбыўшыся ад болю,
Адбудуем сёлы, гарады.
Закрасуе зноўку наша поле,
Зацвітуць шумлівыя сады.
Прыпеў:

## ФАНАБЭРЫСТЫ ФРЫЦ

Фрыц стары Вільгельм Фонбот
Па шашы кульгаў на фронт.
Ён пацеў, пыхцеў, стагнаў,
А рашуча разважаў:
— Раз татальны ёсць загад,
Значыць, добры я салдат.
Фюрэр знае мне цану,
Што ж, я выйграю вайну.
Як індык, надзьмуўся фрыц,
Са ўсяго на свеце кпіць:
— Я, стары ваенны воўк,
Хоць адзін пайду на полк.
І панёс ён,
І панёс...
Ледзь не ўзняўся да нябёс.
Толькі раптам гонар знік —
Бахнуў збоку драбавік,
Пасінеў у фрыца твар...
Выйшаў з лесу дзед Макар.
Фрыц яму пад ногі бац:
— Не хацеў я ваяваць.
Вінаваты фюрэр-гунд,
Будзе фюрэру капут.
— Ну, і чмут, стары пляткар...—
Усміхнуўся дзед Макар,—
Як сабака, брэшаш шмат,
Ты ж лізаў Адольфу зад,
З ім хацеў забраць наш край...
Дык рыхтуйся, памірай!
Ды не варта сумаваць,
Будзеш зноўку цалаваць.
Я з табою згодзен,
Гут.
Будзе фюрэру капут!

На Палессі, між балот,
Кліча фюрэра Фонбот.

## ГОМЕЛЬ

Гомель. Сож...
Дачакаліся светлых часін.
Знікла чорная ноч
Гвалтавання і жаху.
Сыпле золатам восень
На попел руін,
І па вуліцах
Крочаць героі на захад.
Слава ім,
Што ў баях свой праславілі сцяг,
Ён над горадам сёння
Лунае высока.
Сож гудзіць...
І на стромых яго берагах
Беларуская песня ўзляцела, што сокал.
Крылляў болей зламаць
Не падолее кат.
Блізка ўся Беларусь,
Раскаваная, блізка...
Песня вольна ляціць
У Маскву, Ленінград
І ірвецца імкліва
Да роднага Мінска.
Шлях да яснай зары
Ёй адзначыла кроў,
Гэта воінаў кроў —
І ніхто іх не спыніць.
Беларусь!
У сыноў тваіх многа братоў
І з-пад Волгі шырокай,
І з палёў Украіны.

## ТРЫ ПРАВЫ

За краты кінуўшы свабоду,
Тры правы даў фашызм народу:
Па першым праву нават волат
Сыдзе ў зямлю праз люты голад,
Другое — лепшае, бясспрэчна,—
Турма — жыллё для ўсіх навечна.
І забяспечан кожны трэцім:
Пайсці на фронт і там памерці.

## БРАХУН

Гітлер д'ябальскай натуры,
Брэша, лезе вон са скуры:
— Гаў, гаў, гаў... ды гаў, гаў, гаў...
Я даўно Маскву забраў.
Аж язык самлеў ад зморы...
А фашысцкіх трупаў горы
Узрастаюць на вачах,
Пад Масквою мосцяць шлях,
Ні адзін фашыст жывы
Не пабачыць век Масквы,
Хутка бегчы ім назад,
Дык брашы ж, праклятьі кат:
— Гаў, гаў, гаў... ды гаў, гаў, гаў...
Смерць сабе ты набрахаў.

## БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

Будуць помніць гарады, і вёскі,
І Дняпро,
І Прыпяць, і Бяроза,
Як праходзіў з войскам Ракасоўскі
На заход па вогненнай дарозе.

І нясуць танкісты і пяхота
Волі сцяг,
Асветлены зарою,
Ні бары густыя, ні балоты
Не спыняюць воінаў-герояў.

Нашы маці з чыстаю слязою
Кажуць ім
Прыветлівыя словы,
Ім насустрач і дубы, і хвоі
Нахіляюць радасна галовы.

## СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ!

Прад табою нізка я хілюся,
Перад кожным зруйнаваным домам.

Родны Мінск,
Сталіца Беларусі!
Зноўку мы на вуліцах знаёмых.
Ты стаіш, як волат, над Айчынай,
Над табою рэюць сцягі волі.
Хоць ты ўвесь —
У ранах, у руінах,
Ты нам дораг сёння, як ніколі.

Ты завеш сыноў сваіх здалёку,
Аж да Буга гулкіх узбярэжжаў.
Чуюць кліч твой
Плошчы Беластока,
Чуюць кліч твой пушчы Белавежы.
Хай мацней грымяць удары бою,
Вораг згіне. Ён загінуць мусіць.
Ты стаіш
З узнятай галавою
Над усёй вялікай Беларуссю.

## СПАТКАННЕ

Рады я, што ўбачыць давялося
На шляхах знаёмых
Залатую восень.
Перад вамі нізка я хілюся,
Родныя прасторы Беларусі!
Дык прымі паклон,
Сасновы гоман,
І ад тых,
Што не прыйшлі дадому,
Бо яны ў дарозе не прысталі,
Ім у сэрцы білі Нёмна хвалі,
Баравыя песні добра чулі...
Іх спынілі на дарозе кулі,—
Спяць яны ля Волгі і ля Дона,
Сняцца ім жытнёвыя загоны.
Мне й за іх пабачыць давялося
На шляхах знаёмых
Залатую восень.
Я прыйшоў з прыгоршчамі насення,
Каб дажджом рассыпаць па-над краем,
Мне пажар лістоў яго асенніх
Сэрца на спатканні сагравае.
Хай марозіць, аісці не золка:
Бачу я —
Праменная вясёлка
Асушае нашых матак слёзы
І ўстае над Бугам і Бярозай.

## ЧЫРВОНЫЯ СЦЯГІ

Зашумелі плошчы, паркі,
Поле ў сонцы — залатое.
У чырвоных сцягах, яркіх,
Наша свята веснавое.

Ці ты ў горадзе, ці ў полі —
Над галовамі іх многа —
Гэта сцягі нашай Волі,
Гэта сцягі Перамогі.

Узнялі мы іх старанна,
Хай плывуць крылатым роем —
Колькі воінаў адданых
Абрасілі іх крывёю.

Сцягі, сцягі... лашчаць вока,—
Узняліся ў стройным маршы...
Пранясём жа іх высока,
Як бацькі насілі нашы!

# СЕЙЦЕ, СЕЙЦЕ ЗЯРНЯТЫ

Папрыходзілі з войска
Баявыя салдаты.
Хто бацькоў дачакаўся,
Хто сыноў, а хто брата.

Зноўку дружнай сям'ёю
Пачалі будавацца,
Весялейшымі сталі
Нашы сёстры і маці.

Сонца сёння высока
Над палеткамі ўстала,
Ды усіх працавітых
За сяўнёю спаткала.

Леглі ў полі барозны,
Леглі ў полі, што хвалі,
Сейце, сейце зярняты,
Каб дружнейшымі сталі.

Сейце, сыпце зярняты
У пухавыя пасцелі,
Каб ля нашае хаты
Вечна песні звінелі.

Сейце, сейце зярняты,
Рассыпайце па полю,
Каб расла і шумела
Наша ясная доля!

## ТРАКТАРАГОРАД

Рассунуўшы сосны
Плячамі, што волат,
Пад Мінскам ўздымаецца
Трактарагорад.

Высока кавальскія цэхі
Пасталі
На месцы, дзе немцаў
Ў кацёл заціскалі.
[...]

На новай будове
Працуюць заўзята
Са ўсёй Беларусі
Хлапцы і дзяўчаты.

Хоць многія з іх
Маладыя гадамі,
Але ўжо выдатнымі
Сталі майстрамі.

Слухмяна ім кельма,
І цесля,
І молат...
Тут будзе збудаваны
Трактарагорад.

Узнімецца горад
У працы няспыннай,
І трактары пойдуць
Шляхамі краіны.

І будуць на полі
Калгасным гадамі
Ад Мінска-сталіцы
Яны пасланцамі.

## ЧУТНА ПЕСНЯ...

Чутна песня,
Песня чутна,
Аж гайдаюць дрэвы голлем,
Чуцен гоман між барамі,
Беларускімі шляхамі:
— Ой, Дняпро, Дняпро магутны!
Ты яднаеш наша поле
З украінскімі палямі,
Ты яднаеш нашы сэрцы
З украінскімі братамі.
Добра жыць
Пад небам сінім,
Пад сваім, пад ясназорым,
Дзе ўсе людзі маладыя,
Дзе ўсе песні агнявыя —
На Савецкай Украіне:
Дзе бязмежныя прасторы,
Плыні рэчак люстраныя,
Быццам волаты заводы,
А пшаніцы залатыя.
Чутна песня,
Песня чутна,
Гэта сцяг зачырваніўся
Па-над Кіевам зарою,
Над Чарнечаю гарою —
То Ўкраіны дзень славуты!
Дык цвіці ж і весяліся,
Правадыр заўжды з табою,
Уздымайся горда ў высі,
Аж да сонца галавою!

## ГРОМ

Люблю,
Калі прастор кругом
Ускалыхне магутны гром,
Разбудзіць дол
Даждҗом вакол,
Руччамі-срэбрам прашуміць,
І пойдуць
Травы гаманіць.

Мацней,
Выразней з кожным днём
Чуцён нам з-пад Кітая гром.
Чжу-дэ байцы —
Вясны ганцы.
Грымяць грымоты гнеўна й там,
Дзе горны Грамас,
Дзе В'етнам.

І Уол-стрыт
Дрыжыць, не спіць
Пад гул народных навальніц.
Там небаскроб
Нахмурыў лоб,
Пужлівым стаў банкірскі дом —
Маланкі бачыць,
Чуе гром!

## НА ЛЕНІНСКІХ ГОРАХ

Калі нам сягоння да роднай сталіцы
Даводзіцца з розных краёў пад'язджаць,
Мы бачым, бы ў казцы, пад сонцам іскрыцца
На Ленінскіх горах вялізны палац.

Магутны той гмах, аж пад сонца высокі,
Стаіць ён і безліччу вокнаў заве,
Чырвоная зорка над ім у аблоках,
Як бы над усёю зямлёю плыве.

Якая вялікасць! Прыгожы і горды,
Па вобліку, быццам сталіца сама,
І брыдка прыгадваць гмахі-уроды,
Адкуль выпаўзаюць напалм і чума.

А тут будзе моладзь вучыцца старанна
І шмат дасягне для народа ўсяго,
І будуць такія, што ў мармуры стануць
З вялікімі разам на сценах яго.

Не, гэта не гмах збудаваны надзіва
З бетону і цэглы, з жалеза і шкла.
А гэта любімая наша радзіма
Да сонечных новых вышынь узрасла!

## А Я МЯРКУЮ, БУДЗЕ ТАК...

Паставілі шмат год назад
Вайне мы кропку агнявую.
Ізноў жыццё ідзе на лад —
Арэм, і сеем, і будуем.

Уцеха — воінам былым,
Прастор для пошукаў юначых,
Мы ўсе цяпер жывём адным,
Каб больш крыві і слёз не бачыць.

Нам кожны друг — жаданы госць,
Яго прымаем мы гасцінна,
Бо сэрцы нашы ўсе, як ёсць,
Любові поўны да Айчыны.

Дзе б ні хадзіў ён, дзе б ні быў —
Усюды ласку ён пазнае...
Але хто камень прытаіў,
Няхай спагады не чакае.

Майстры крывавых, брудных спраў
Не застануцца без адказу,
Бо з нас ніхто не даравал
Ніколі крыўды і абразы.

Я чую, дзесьці зноў маньяк,
Нам пагражаючы, лютуе —
А я мяркую, будзе так...
Няхай жа толькі паспрабуюць!

## ПАРТЫЯ

Партыя!
Болей святога
У свеце не ведаю я.
Партыя, гарту стальнога,
Родная наша сям'я.

Шлях твой,
Здаўногу вядомы,
Лёг праз гады ў барацьбе,
Што не пад сілу нікому,
Заўжды пад сілу табе.

Сілу адзінства
Гартуем,
Славу куём перамог,
Выйсці супроць хто спрабуе —
Смеццем злятае з-пад ног.

Партыя!
Болей святога
Ў свеце не ведаю я,
Партыя, гарту стальнога,
Родная наша сям'я.

# КАМЕНТАРЫІ[1]

У другі том Збору твораў Петруся Броўкі ўваходзяць вершы і паэмы 1941—1953 гг.

Том складаецца з трох раздзелаў: у першы і другі ўваходзяць творы, якія былі ўключаны паэтам у апошняе прыжыццёвае выданне; у трэці — вершы, якія друкаваліся толькі ў перыядычным друку ці паасобных зборніках, але ў Зборы твораў пісьменніка не ўключаліся. Некаторыя вершы публікуюцца ўпершыню.

У кожным раздзеле творы падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. За асноўны тэкст большасці твораў дадзенага тома прыняты тэкст 2-га т. Збору твораў у 7-мі тамах (1976), як выданне, у якім з найбольшай паўнатой выявілася апошняя аўтарская творчая воля. Творы, якія не ўвайшлі ў гэтае выданне, друкуюцца па апошніх прыжыццёвых крыніцах.

Паколькі крыніца асноўнага тэксту ўключаных у том твораў адна і тая ж, у каментарыях да кожнага тома яна не называецца. Выключэнні агавораны.

У выпадках, калі крыніцу першадруку таго ці іншага твора дакладна ўстанавіць не ўдалося, указваецца першы па часе зборнік, у якім твор змешчаны. Для некаторых твораў крыніцай першадруку былі, магчыма, перыядычныя выданні на рускай мове, дзе гэтыя вершы друкаваліся ў перакладзе. У каментарыях не ўказваюцца некаторыя бібліяграфічныя звесткі, якія можна знайсці ў даведніку — Пятрусь Броўка: Бібліяграфічны паказальнік.— Мн.: Маст. літ., 1976.

Пры падрыхтоўцы вершаў і паэм пісьменніка для дадзенага тома тэксты іх упершыню зверany па ўсіх наяўных прыжыццёвых друкаваных і рукапісных крыніцах. У выніку праведзенай зверкі выпраўлены памылкі і недакладнасці, якія мелі месца ў ранейшых публікацыях асобных твораў, удакладнены даты напісання некаторых вершаў.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца:

I. 1. Рукапісы і машынапісы, якія захоўваюцца ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі[2]:

---

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:

Вершы 1941—1946 гг.; паэмы 1942—1945 гг.— Т. С. Голуб.

Вершы 1946—1952 гг.; паэмы 1946—1948 гг.— Л. У. Хрышчановіч.

Вершы 1952—1953 гг.; паэмы 1949—1953 гг.— С. В. Забродскай.

[2] Паколькі большасць рукапісных матэрыялаў захоўваецца ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі, месца знаходжання іх у каментарыях не называецца. Іншыя крыніцы захавання агаворваюцца.

а) чарнавыя і белавыя рукапісныя тэксты твораў (пераважна ваеннага часу), напісаныя простым алоўкам, а таксама каляровым чарнілам на старонках няпоўных агульных сшыткаў у лінейку з сінімі вокладкамі і без вокладак, на асобных лістах сшытка, на палове машынапісных лістоў і блакнотных лістах. Маюцца тэксты вершаў з аўтарскімі праўкамі і без правак, з загалоўкамі і без загалоўкаў, з паметай, у якой указваецца дата і месца напісання, і без паметы. У сшытку з сінімі вокладкамі, дзе многія старонкі з рукапіснымі тэкстамі вершаў выразаны, на асобным лісце простым алоўкам складзены «Змест». У ім названы: «Беларусі», «Дахаты», «Песня беларускіх партызан», «Помста», «Пастух», «Пісьмо землякам», «Партызанка», «Партызан Бумажкоў», «Дрыжыце, падлюгі-фашысты», «За кроў бязвінных» і іншыя. Тэксты прызначаліся, відаць, для перадрукоўкі і выдання асобнай кніжкай;

б) няпоўны машынапісны экземпляр тэксту твораў з праўкамі аўтара каляровым чарнілам, якія за выключэннем нямногіх выпадкаў улічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. (Захоўваюцца таксама машынапісныя тэксты, у якіх улічаны аўтарскія праўкі.) Старонкі першапачаткова пранумараваны фіялетавым чарнілам, а пасля выпраўлены сінім. Тытульны ліст мае назву: «Паміж баёў» (зборнік выйшаў пад прыгаданай вышэй назвай);

в) асобныя машынапісныя тэксты твораў, надрукаваныя каляровым шрыфтам, з праўкамі і без правак аўтара;

г) газетныя выразкі з творамі паэта, на якіх зроблены аўтарскія праўкі.

2. Рукапісы і наборныя экземпляры машынапісаў з архіўнага фонду часопіса «Беларусь», 1955, № 1, якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ЦДАМЛІМ).

II. Перыядычныя выданні 1941—1953 гадоў: газеты «За Савецкую Беларусь», «Савецкая Беларусь», літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Чырвоная змена», «Раздавім фашысцкую гадзіну» (на беларускай і на рускай мовах), «Партызанская дубінка», «Настаўніцкая газета», «Шлях сацыялізма», «Савецкі селянін», «Піянер Беларусі», асобныя нумары «Литературы и искусства», «Правды», «Известий»; часопісы «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Бярозка», «Калгаснік Беларусі», альманах «Беларусь» (1943), «Альманах 2» (1945).

III. Прыжыццёвыя выданні асобных зборнікаў пісьменніка: Насустрач сонцу.— Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943; Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1945; Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1946; Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1947; Выбраныя вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1948; Сонечнымі днямі: Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1950; Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1951; Цвёрдымі крокамі: Вершы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1954; Збор твораў. У 2 т. Т. 1.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1957; Збор твораў. У 2 т. Т. 2.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1957; Маладым сябрам.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1961; Па сакрэту: Сатыра і гумар.— Мн.: [Звязда], 1961; Збор твораў. У 4 т. Т. 2.— Мн.: Беларусь, 1965; Збор твораў. У 4 т. Т. 3.— Мн.: Беларусь, 1966; Збор твораў. У 7 т. Т. 2.— Мн.: Маст. літ., 1976.

IV. Наборны экземпляр Збору твораў П. Броўкі ў 2 тамах (1957), які захоўваецца ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

V. Зборнікі, складзеныя з твораў беларускіх пісьменнікаў: Моладзь Беларусі ў баях за Радзіму.— Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943; За шчасце Беларусі: Вершы і апавяданні.— М.-Л.: Детгиз, 1945.

Аналіз перапрацаваных пісьменнікам твораў паказвае, што найбольш характэрнымі з'яўляюцца моўна-стылёвыя праўкі, пошук адпаведнага слова, праўкі, якія надаюць радку, а ў некаторых выпадках і ўсяму твору, іншае сэнсавае гучанне, найбольш яскрава характарызуюць з'яву, падзею, героя, нясуць большы згустак эмацыянальнай энергіі. Перастаноўка слоў, радкоў надае твору большую дынамізацыю, уплывае на рытміку, сведчыць пра беражлівыя адносіны мастака да фактычнага матэрыялу. Найбольш істотныя праўкі ўносіліся аўтарам у тэксты пры падрыхтоўцы іх для зборнікаў «Насустрач сонцу», 1943, «У роднай хаце», 1946, «Сонечнымі днямі», 1950, «Цвёрдымі крокамі», 1954 і інш., а таксама для першага двухтомнага Збору твораў, 1957. Значныя перапрацоўкі агаворваюцца непасрэдна ў каментарыях да твора, прыводзяцца прыклады розначытанняў.

Другі том склалі творы, напісаныя П. Броўкам у гады Вялікай Айчыннай вайны і ў пасляваеннае дзесяцігоддзе, калі паэт востра адчуваў «пульс сваёй эпохі, свайго часу», чуў «яго магутныя ўдары не толькі ў вялікіх падзеях, а і ў штодзённым непрыкметным жыцці» [1]. Гэтыя словы П. Глебкі, сказаныя пазней, у 60-я гады, многае адкрываюць нам у творчай манеры паэта і не страчваюць свайго значэння і ў нашы дні. Уменне П. Броўкі паяднаць вялікае і малое, у драбніцы ўбачыць цэлае пранесена ім праз усё жыццё, стала дамінантай яго стылю. І Броўкава славеснае мастацтва мы ўспрымаем як гарманічную цэласнасць, а падчас і балюча перажываем парушэнне гэтай цэласнасці ў асобных творах. І яшчэ адну асаблівасць паэзіі свайго сябра заўважыў П. Глебка — яе стылёвую шматграннасць, што вынікае з умення «зрабіць вялікае і малое прадметам мастацтва». У выніку гэтага Броўка можа быць і тонкім лірыкам, гэта значыць, карыстацца «толькі акварэльнымі фарбамі», і трыбунам, «які можа прымусіць слова гучаць узнёсла і ўрачыста», і здатным гумарыстам і сатырыкам. І ў вайну, і ў пасляваеннае дзесяцігоддзе паэзія П. Броўкі была з'явай поліфанічнай.

На вайну паэт пайшоў добраахвотнікам. Працаваў пэўны час інструктарам-літаратарам у рэдакцыі франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» на Бранскім і Заходнім франтах. У 1942 годзе рашэннем ЦК КПБ быў адкліканы з фронту для працы ў партызанскім друку. У паходных абставінах, на лістках паперы, падчас чарнілам розных колераў пісаліся вершы, паэмы. Пісаліся як апеРатыўны водгук на суровыя і грозныя падзеі, як заклік да народа працягваць барацьбу да перамогі. У 1943 годзе ў выдавецтве ЦК КПБ «Савецкая Беларусь» выйшаў невялікі зборнік паэзіі Броўкі «Насустрач сонцу». У ім 15 вершаў і «Паэма пра Смалячкова». На вокладцы — сонца, што ўзнімаецца на даляглядзе,— сціплы, някідкі і сімвалічны малюнак. У ім, праз яго — настрой паэта, яго вера ў светлую будучыню. У тым жа годзе з'явяцца вершы паэта і на рускай мове ў кнізе «К родным берегам». Праз год на грудзях паэта заззяе ордэн Чырвонай Зоркі. Неўзабаве ён вернецца ў Мінск, вернецца на папялішча, да роднага берага.

Лірыка і паэтычны эпас П. Броўкі ваеннага часу — з'ява унікальная па многіх прычынах. Хоць бы таму, што яна — не рытарычная. Не рытарычная, нягледзячы на высокі публіцыстычны пафас, уласцівы многім творам ваеннага часу. Не рытарычная, можа, таму, што сарвацца на выгук, на лозунгавы заклік паэту не дае глыбокі сум, нясцерпны боль па родным краі. Гэты боль — у кожным радку, у кожнай сцэне і кожным штрыху «малога чалавечага жыцця». Гэта малое, такое блізкае і дарагое паэту, прык-

[1] Глебка Пятро. Багаты і шчодры талент//Пятрусь Броўка: Бібліяграфічны паказальнік.— Мн., 1976.— С. 6.

мечанае яшчэ ў мірны час, не раствараецца ў агульных лозунгах і дэкларацыях, аказваецца на першай пазіцыі, перарастае само сябе, ператвараецца незаўважна для чытача ў вялікае. І адбываецца цудадзейны сплаў малога і вялікага, прадметнага і агульнафіласофскага.

Не менш уражваюць сваёй зрокавай прадметнасцю і радкі з верша пра вяртанне франтавікоў да мірнай працы. Іх сіла — зноў у велізарнай, глыбіннай увазе да малога, канкрэтнага, што звязана з чалавечым жыццём, якое вялікае ўжо тым, што яно існуе, што ёсць, было і будзе. На першым плане ў мастацкім тэксце непаўторны прадметны малюнак, асветлены дотыкам ледзяной расы, цяплом сяброўскага застолля:

Перавяжам мы кужалем
Раны на целе,
Стому з твараў
Абмыем расой ледзяной,
На зарапках праменных прасушым шынелі,
Па святочнаму кругу
Пройдзем з чаркай адной.

Паэзія П. Броўкі ваеннага часу — з'ява унікальная і па другой прычыне. Я назваў бы яе паэзіяй, якая вастрэй, чым паэзія многіх іншых аўтараў, адчула страту самага роднага і дарагога беларусу — права сеяць і жаць. Матыў хуткай сяўбы — галоўны ў ёй. «Будзем сеяць, беларусы, на ўсход сонца чыстым зернем... Смерць на захад мы павернем» — упэўнена заяўляе паэт у вершы «Будзем сеяць, беларусы». Матыў хуткай сяўбы, па якой сумаваў на фронце салдат-беларус, пераплецены [redacted] матывам вяртання на Радзіму і ў вершы паэта «Перад вясной». Вяртаецца на Радзіму Іван Капуста, і здаецца яму, хлебаробу, сілай адлучанаму ад зямлі на час, што «трава пад пульхным снегам стала варушыцца». Прадчуваннем радаснай стваральнай працы поўняцца і вершы паэта «Веснавое», «Возьмем сеўні», «Давайце рамоўкі наладзім». У апошнім творы, што ў рэчышчы традыцый нашай нацыянальнай літаратуры, сяўба якраз і паўстае як вечная субстанцыя чалавечага існавання на зямлі:

І мы, што змагаліся мужна,
Рупліва засеем загоны
Таксама з'яднана і дружна,
Па тым жа адвечным закону.

Стваральная праца — адвечны закон чалавечага жыцця, ёю жыве, без яе не можа існаваць чалавек — на такой пазіцыі стаіць паэт-воін і сейбіт у гады вайны, і сваёй пазіцыі не здраджвае. І няхай пазней, ужо ў мірны час, матыў стваральнай працы, рупнай сяўбы будзе раскрывацца і некалькі з іншых, ілюстрацыйных пазіцый у вершах аб людзях розных прафесій, менавіта ён, Пятрусь Броўка, у трывожны ваенны час здолеў узняцца да філасофскага асэнсавання тэмы стваральнай чалавечай працы, асвяціў яе сваім гуманістычным поглядам, надаў ёй адзнакі эпічнага гучання.

Шырокім разваротам эпічнага дзеяння, вострым драматызмам сюжэта і высокім напалам лірычнага пачуцця характарызуюцца балады П. Броўкі «Надзя-Надзейка», «Кастусь Каліноўскі», «Магіла байца», «Балада пра чырвоны сцяг». Пасляваенная крытыка,

сучаснае літаратуразнаўства залічылі гэтыя творы ў несумненны актыў нашай літаратуры, адзначылі іх праўдзівы характар, падкрэслілі іх цесную сувязь з фальклорам.

У гады вайны П. Броўка напісаў свае выдатныя паэмы «Беларусь», «Паэма пра Смалячкова», «Ясны кут», «Паланянка», якія ствараліся па гарачых слядах падзей, былі прасякнутыя верай у перамогу сіл дабра над сіламі зла, раскрывалі радасць і смутак людзей, што вярнуліся на папялішча адбудоўвацца і залечваць раны. На першым плане ва ўсіх гэтых творах герaічны пачатак. Яны надзвычай разнастайныя ў жанравых адносінах. І іх аснову, як і аснову многіх лірычных твораў, складае не безадноснае да жыццёвых рэалій лірычнае пачуццё, а пачуццё апрадмечанае, якое мае рэальную жыццёвую аснову, пачуццё, якое з'яўляецца вынікам уважлівага стаўлення паэта да «малога», канкрэтнага. У цэлым паэмы Броўкі ваеннага часу даюць шырокую карціну і даваеннай, і ваеннай, і пасляваеннай рэчаіснасці. Яны трохмерныя ў часавых адносінах. Дзеянне не абмежавана ў некаторых з іх («Беларусь», «Паланянка») вузкімі часавымі рамкамі. Вядома, паэт не мог даць такі маштабны малюнак жыцця, які пазней дасць раманная проза, але многае, што гэта проза разаўе, паглыбіць, знайшло «мініяцюрны адбітак» у паэмах Броўкі.

Час няўмольна ідзе наперад, прад'яўляючы ўсё новыя і новыя патрабаванні мастацтву, але ён бяссільны перад агульначалавечым зместам, выказаным у неўміручай паэме «Ясны кут» вуснамі франтавіка, воіна, які вярнуўся на папялішча і адчуў яшчэ вастрэй, чым у акопах, трагедыю, што прынесла вайна, адчуў бесчалавечную сутнасць жорсткага руйнавання:

Я не чую, не бачу зялёных бяроз,—
Мае вочы асляплі ад слёз,
Паміж чорных, абвугленых дрэў.
Мне здаецца, я сам спапялеў...

Ніхто з беларускіх паэтаў у гады вайны не надаваў такой вялікай увагі мінуламу народа, як Броўка ў сваім паэтычным эпасе, не напісаў паэмы пра героічны лёс краіны, які складваўся на працягу не аднаго стагоддзя. Такую паэму напісаў П. Броўка, назваў яе паэмай-кантатай, даў ёй лаканічнае і строгае імя — «Беларусь». Яе задумка ідэнтычная задуме К. Чорнага — стварыць галерэю раманаў пра лёс народа ў даваенны і ваенны час. І няхай выкананне задумы ў празаіка і паэта было рознае, менавіта Броўка стаіць ля вытокаў эпічнай інтэрпрэтацыі тэмы Вялікай Айчыннай вайны ў нашай літаратуры. Паэма-кантата «Беларусь», паэма-нарыс, жыццяпіс Фёдара Смалячкова, паэма — лірычнае эсэ «Ясны кут», паэма-легенда з ясна выражанымі элементамі апавядальнасці «Паланянка»... Паэт быў сапраўдным даследчыкам шматмернага жыцця, пранікаўся наскрозь гуманістычнымі ідэямі, верай у народ, які пераможа чорныя сілы і будзе сеяць, мірна працаваць на зямлі.

У ваенны час творчасць паэта развівалася надзвычай плённа. Яго прываблівала не толькі шырыня ахопленых падзей, але і іх глыбокая гуманістычная сутнасць, вечна дарагія чалавеку і чалавецтву ісціны — Праўда, Дабро, Справядлівасць. Ён настойліва шліфаваў кожны радок, дабіваўся сэнсавай ёмістасці і афарыстычнасці напісанага, пазбаўляўся расцягнутасці і апісальнасці. Некаторыя прыклады такой руплівай працы прыводзяцца ў тэкстала-

гічным каментарыі. З іх відаць, што многае адкідалася аўтарам як агульнае, занадта расцягнутае і невыразнае. Так, напрыклад, з «Балады пра чырвоны сцяг» паэт выключае шэсць занадта апісальных строф, у якіх пералічваліся месцы баёў з ворагам.

У пасляваеннае дзесяцігоддзе да паэта прыйшло яшчэ большае прызнанне. Адзін за адным выходзяць яго паэтычныя зборнікі на беларускай і рускай мовах, заканчваюцца паэмы: 1946 — паэма «Хлеб», зб. «У роднай хаце» і «Вершы і паэмы», 1948 — паэма «Родныя берагі», 1949 — зб. «Избранное» і паэма «Добры друг», 1950 — зб. «Сонечнымі днямі», «Дорога жизни», паэма «Чырвон-гарадок», 1951 — зб. «Выбраныя творы», «Стихотворения и поэмы», 1954 — зб. «Цвёрдымі крокамі» і паэма «Сябры», 1955 — зб. «Стихотворения и поэмы», 1956 — раман «Калі зліваюцца рэкі» і пачатак працы над паэмай «Заўсёды з Леніным». У гэты час паэт двойчы станавіўся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР: у 1947 г. за паэму «Хлеб» і вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне», у 1951 — за зб. «Дорога жизни». Партыя і ўрад Краіны Саветаў высока ацанілі і грамадскую дзейнасць паэта: у 1948 г. яго ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Ён быў абраны старшынёй праўлення СП БССР, членам ЦК КПБ (1952), членам-карэспандэнтам АН БССР (1953), узнагароджаны яшчэ адным ордэнам Леніна з нагоды 50-годдзя.

Пасляваенная крытыка дала станоўчую ацэнку творчасці паэта. Рэцэнзіі ў друку з'яўляліся на старонках практычна кожнага часопіса. Аўтары публікацый нават ва ўмовах уплыву тэорыі бесканфліктнасці на літаратурны працэс заўважылі станоўчае ў творчасці П. Броўкі і адзначылі ўласцівыя ёй недахопы.

Так, Рыгор Шкраба ў рэцэнзіі на зборнік «Сонечнымі днямі» «Паэзіі стваральная праца», змешчанай у часопісе «Полымя», адзначыў такія станоўчыя якасці пасляваеннай паэзіі Броўкі, як яе «прастату, песеннасць, празрыстасць» стылю, глыбінную сувязь Броўкавага твора «Новы шлях» з Купалавым творам «А хто там ідзе?», даў высокую ацэнку творам «Каваль», «Дзяўчына з Палесся», «Чараўнік», «Калгасны мельнік», «Сымонка» за тое, што «ў іх раскрываецца характар савецкага чалавека, які перамог ворага ў вайне, каб мацаваць мір ва ўсім свеце» [1]. І разам з тым у рэцэнзіі акрэсліваліся істотныя недахопы, уласцівыя паэмам «Родныя берагі» і «Бацькаў дом». У першым творы «малюнкі паказваюцца, як вынік зробленага», што «пазбавіла аўтара магчымасці намаляваць вобраз свайго героя ў развіцці, паказаць, як ён не толькі гутарыць з калгаснікамі, дае ім парады, але як сам на справе змагаецца за высокі ўраджай» [2].

Зборнік вершаў «У роднай хаце» з'явіўся ў пасляваенным 1946 годзе. Складаецца ён з двух раздзелаў — «Паклон жыццю» і «Ідучы дахаты», з 35 твораў, у тым ліку паэм «Хлеб» і «Палапянка». Паэт жыве ўспамінамі пра мінулую вайну. Радасны настрой спалучаецца ў ім з настроем трывогі, з болем пра перажытае ў вайну. На першым плане ў творах «Брат і сястра», «Зварот музыканта», «Каб мне стаць...» святая памяць пра мінулае. Датуюцца яны 1945—1946 гадамі. Радасць мірнага дня агорнута для іх герояў бядой, горам невыносных страт. Першы верш напісаны ў форме звароту бацькі да роднай дачкі і сына, якія не вярнуліся

---

[1] Полымя.— 1950.— № 12.— С. 140.

[2] Тамсама, с. 142.

дадому. Па чарзе звяртаецца ён да іх, нежывых, пытаецца, як яны пачуваюць сябе. І, як жывыя, адказваюць яны яму цёпла і добра на ягоны клопат, на ягоную памяць.

Усё мае мову ў гэтым цудоўным творы. Ён пяшчотны і суровы па інтанацыі. Невымерны чалавечы боль раскрываецца сродкамі прадметна-рэалістычнага пісьма, дакладнага, выверанага ў папчуццях дыялогу.

Не можа не закрануць чалавечую душу і верш «Зварот музыканта», радкі з якога пра тое, як «свет ад шчасця плакаў, Калі пабачыў вольны сцяг» і «як воіну падзяку Шаптала поле ў каласах» пры ўсёй сваёй філасофскай маштабнасці і значнасці раскрываюць настрой рэальнага чалавека — удзельніка ваеннай эпапеі, сведкі нашай Перамогі.

Пасляваенная лірыка Броўкі актыўна супрацьстаяла агульшчыне і публіцыстычнай рыторыцы ў тых выпадках, калі была лірыкай памяці пра мінулую нялёгкую вайну, калі гэтая памяць у ёй выступала альбо ў «чыстым выглядзе», альбо цесна перапляталася з тэмай аднаўлення разбуранага, будаўніцтва на папялішчы. Калі ж балючая памяць адыходзіла на другі план, з'яўляліся святочныя і радасныя оды мірнаму дню, жыццё ўяўлялася бясхмарным, іншы раз занадта ў ружовым святле паўставала рэчаіснасць, драматычная і складаная.

Поспехі па-ранейшаму чакалі паэта ў лірыцы ці ў паэтычным эпасе тады, калі тэма мірнай стваральнай працы праецыравалася на тэму памяці пра мінулую вайну, як, напрыклад, у выдатнай паэме «Хлеб», якая, нават адна, склала б яркую старонку ў творчасці П. Броўкі. Гэта твор — пра вечны клопат чалавека-сейбіта, пра яго неўміручую руплівасць і стаpанне, твор, у якім адухаўляецца, міфалагізуецца акт ворыва і сяўбы, акт дзейнасці на зямлі хлебароба. Паэма — гімн жыццю ў яго агульначалавечым вымярэнні, жыццю, якое перамагло смерць.

Трэба сказаць, што ў паэзіі П. Броўкі 1952—1954 гадоў намеціліся тэндэнцыі абнаўлення тэматыкі, якія ярка выявіліся ў вершах са зборніка «Цвёрдымі крокамі», «А ты хоць дрэва пасадзіў?..», «Начальнік загса», «Хацеў бы...» і іншых. Паэт адмаўляецца ў гэтых творах ад бясстраснай канстатацыі фактаў, імкнецца суаднесці раскрытыя ў іх падзеі са сваімі асабістымі перажываннямі і выклікаць на адпаведнае суперажыванне чытача. Цяпер яму становіцца даражэйшай маральна-этычная праблематыка, ён хвалюецца за духоўную чысціню чалавека і чалавецтва, непакоіцца, каб не разбурылася гармонія ўзаемаадносін паміж людзьмі.

Як у ваенны, так і ў пасляваенны час творчасць П. Броўкі давала праўдзівы адбітак рэчаіснасці, выхоўвала любоў да Радзімы, стваральнай працы, спрадвечных высокіх каштоўнасцей, што выпрацавала чалавецтва. Падсумоўваючы зробленае, пяцідзесяцігадовы паэт напісаў верш «Роздум» — пра сталасць, пра не астуджаную сівізной маладосць душы, пра новыя дарогі:

Ніколі лёгкага нічога
Не выбіраў сабе ў жыцці.
Я знаю —
Доўгую дарогу
Яшчэ нам трэба перайсці.

МІКОЛА МІШЧАНЧУК

# I

## ВЕРШЫ

*Дрыжыце, падлюгі-фашысты* (с. 7)

Упершыню — За Савецкую Беларусь, 1941, 29 ліп.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Гомель, 1941 г.

Тэкст машынапісу супадае з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Захоўваецца рукапіс і газетная выразка верша з нязначнымі аўтарскімі праўкамі, якія ў машынапісе і ва ўсіх друкаваных крыніцах не ўлічаны. Паміж рукапісам, першадрукам і машынапісам выяўлены некаторыя разначытанні.

Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957 істотна перапрацаваны сёмы і восьмы радкі.

*Партызан Бумажкоў* (с. 8)

Упершыню — Правда; Красная звезда, 1941, 7 жн. у перакладзе С. Леўмана на рускую мову.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Клімавічы, 1941 г.

Машынапісны тэкст з адзінай праўкай аўтара супадае з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы тэкст машынапісу адпавядае рукапіснаму тэксту. Больш значныя праўкі зроблены аўтарам пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957.

Верш напісаны з нагоды прысваення Бумажкову Ціхану Піменавічу (1910 — снеж. 1941), кіраўніку партызанскага атрада «Чырвоны Кастрычнік», 6 жніўня 1941 года звання Героя Савецкага Саюза за адвагу і геройства, праяўленыя ў партызанскай барацьбе ў тыле ворага.

*Маці* (с. 9)

Упершыню — За Савецкую Беларусь, 1941, 3 лістап. пад назвай «Да маці».

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Касторнае, 1941 г.[1].

Тэкст верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943 супадае з тэкстам рукапісу і машынапісу і мае адзінае разначытанне з першадрукам.

На сесіі АН БССР, якая адбылася ў сакавіку 1942 года, Я. Купала сказаў: «У мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў чуюцца вострая боль і крыўда за пакуты і слёзы беларускай зямлі, часова захопленай фашысцкімі бандытамі, у іх кіпіць нязгаслая прага свяшчэннай помсты і непахісная вера ў пабеду савецкага народа над вераломным і ненавісным ворагам. З вялікай паэтычнай страсцю гэта вера народа ў правату сваёй справы і перамогу над ворагам выражана ў мужных радках верша П. Броўкі «Маці» (Ку-

[1] У некаторых рукапісах пад тэкстам, як і ў дадзеным выпадку, спачатку пазначаецца год, затым — месца напісання твора. Гэта разыходжанне ў каментарыях у далейшым не агаворваецца.

пала Я. Зб. тв. У 7 т. Т. 7.— Мн.: Навука і тэхніка, 1976.— С. 400—401).

У перакладзе В. Колычава на рускую мову верш уключаны ў зборнік «К родным берегам» — М.: Госиздат, 1943. У рэцэнзіі на кнігу адзначалася: «...Два основных образа проходят через эти стихи: родина и мать. Они как бы сливаются воедино... О храбрых партизанах, о мужественных бойцах Красной Армии рассказывает Бровка ■ небольших эпических стихотворениях: «Баллада о красном знамени», «Неуловимые», «Танкисты», «Три брата», «Пастух». Искренно, задушевно, как народная жалобная песня звучит одно из лучших стихотворений сборника — «Надя-Надейка» — о белорусской девушке, изуверски замученной и повешенной немцами... Но поэт знает, что все ближе, ближе час освобождения и мести... Вперед, только вперед, к победе — зовут стихи Бровки» («Огонек, 1943, № 48/30 снеж.).

На словы верша ў перакладзе В. Колычава на рускую мову пад назвай «Белоруссии» кампазітар Д. Васільеў-Буглай напісаў музыку. У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ЦДАМЛІМ) захоўваецца нотны запіс пад назвай «Да маці», зроблены кампазітарам Я. Цікоцкім.

*Пісьмо землякам* (с. 10)

Упершыню — Литература и искусство, 1942, 21 лют. у перакладзе Д. Кедрына на рускую мову.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Мічурынск, 1941 г.

Першапачатковая назва верша ў рукапісе — «Навагодняе пісьмо» — закрэслена, істотна перапрацаваны пачатак. Тэкст верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943 адпавядае тэксту машынапісу і апошняму рукапіснаму варыянту.

*Пастух* (с. 11)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У рукапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1941 г. (у зб. «За шчасце Беларусі», 1945 памета «Масква» — адсутнічае).

Захоўваецца машынапіс, тэкст якога супадае з рукапісам і мае некаторыя розначытанні з першадрукам.

Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957 у тэкст унесены паасобныя праўкі.

*Помста* (с. 13)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Ліпецк, 1941 г. Дакладная дата — 20.XII.41 г.— у машынапісе закрэслена, відаць, з прычыны аднолькавай падачы матэрыялу ў зборніку, для якога рыхтаваўся верш і быў уключаны ў яго з улікам аўтарскіх правак.

Акрамя дадзенага машынапісу, захоўваецца чарнавы рукапіс, а таксама перабелены на машынцы рукапісны тэкст з праўкамі аўтара, якія ўлічаны пры перадрукоўцы раней названага машынапісу.

Адно розначытанне тэксту выяўлена паміж першадрукам і Выбранымі творамі, 1947.

*Дахаты* (с. 14)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1942, 1 лют. на старонцы пад зва-

ротам-заклікам: «Партызаны роднай Беларусі! Не выпускайце жывым ні аднаго немца з нашай зямлі!»

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г. (у зб. «За шчасце Беларусі», 1945 памета «Масква» — адсутнічае).

Праўкі на тэксце машынапісу ўлічаны пры перадрукоўцы верша, а таксама ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы машынапісны тэкст мае некалькі розначытанняў з першадрукам. Захоўваецца чарнавы рукапіс.

Нязначная колькасць правак унесена пры падрыхтоўцы верша для «Выбраных твораў», 1945. Праўкі ўлічаны ва ўсіх наступных выданнях, акрамя зб. «За шчасце Беларусі», 1945.

*Па дарозе Мінск — Масква* (с. 16)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1942, 7 сак. пад назвай «На дарозе Мінск — Масква» на старонцы пад зваротам-заклікам: «Да зброі, партызаны! На разгром ворага!»

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Праўкі аўтара, зробленыя на тэксце машынапісу, улічаны пры перадрукоўцы верша, а таксама ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Захоўваецца чарнавы і перабелены рукапіс. Паміж першадрукам, першапачатковым машынапісным тэкстам і перабеленым рукапісам маюцца розначытанні. На тэксце рукапісу зроблены пераклады асобных слоў на рускую мову. Тэксту верша ў чарнавым рукапісе папярэднічае запіс:

1. Пейзаж
2. Выходзіць стары
3. Развагі
4. Ідуць [эшалоны]
5. З'яўленне самалёта
6. Развагі [юнака]
7. Вынікі выбуху
8. Развагі старога

Ва ўсіх прыведзеных вышэй матэрыялах, у тым ліку і ў зб. «Насустрач сонцу», 1943, верш мае назву аднайменную першадруку. Канчатковая назва ўдакладнена ў «Выбраных творах», 1947.

Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957 у тэкст твора ўнесена нязначная праўка.

*Нязлоўны* (с. 19)

Упершыню — Известия, 1942, 15 крас. у перакладзе на рускую мову М. Зянкевіча.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Захоўваецца таксама частка рукапісу (канец верша), наяўны тэкст якога мае некаторыя розначытанні з прыгаданым вышэй рукапісам; пад тэкстам пазначана: сакавік, 1942 г. Абодва рукапісныя тэксты заканчваюцца чатырохрадкоўем, якое ў машынапісе з аўтарскімі праўкамі выкраслена і ў зб. «Насустрач сонцу», 1943 не ўключана. На тэксце поўнага рукапісу зроблены пераклады асобных слоў на рускую мову.

Некаторыя праўкі ў тэкст верша ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957.

*Будзем сеяць, беларусы!* (с. 20)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1942, 17 крас. на старонцы пад зваротам-заклікам: «Партызаны — слаўныя сыны зямлі беларускай! Знішчайце жывую сілу і тэхніку фашыстаў, рабіце засады ля дарог, біце па калонах і машынах ворага!»

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г. Захоўваецца чарнавы рукапісны тэкст, побач з якім на гэтай жа старонцы — запіс іншага верша (тэксты неразборлівыя). Уверсе, з левага боку старонкі, напісана:

1. Калыханка
2. Будзем сеяць

На словы верша напісана музыка кампазітарам С. Палонскім.

*Тры браты* (с. 21)

Упершыню — Известия, 1942, 18 крас. у перакладзе на рускую мову М. Зянкевіча.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Захоўваюцца тры рукапісы: чарнавы і два перабеленыя з праўкамі аўтара. На адным з рукапісаў, акрамя правак, зроблены пераклады асобных слоў на рускую мову. На другім — памета пад тэкстам: сакавік, 1942 г. выпраўлена на: Масква, 1942 г.

Машынапіс супадае з тэкстам рукапісу, які ў дадзеным каментарыі названы апошнім і мае разначытанні з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943.

*Якубу Коласу* (с. 22)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1942, 4 лістап.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі супадае з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы тэкст машынапісу адпавядае першадруку. Прыклады разначытанняў:

С. 22, радок 37:

Што сваю Беларусь

С. 23, радок 21:

Сына мужная маці

Верш напісаны да 60-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа (1882—1956).

*Роднае* (с. 24)

Упершыню — Огонек, 1943, № 20 (май) у перакладзе на рускую мову М. Пасынка.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Праўкі аўтара, зробленыя на тэксце машынапісу, улічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы машынапісны тэкст супадае з рукапісам, на тэксце якога зроблены пераклад асобных слоў на рускую мову. Захоўваецца таксама частка рукапіснага тэксту (дзве першыя страфы), якая мае некаторыя разыходжанні з адпаведным тэкстам у вышэй прыведзеных матэрыялах.

Новыя праўкі ў тэкст верша ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957. Найбольш істотны прыклад разначытанняў:

С. 24, радок 32:

Маці, маю Беларусь

*Вясновая пераклічка* (с. 26)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Тэкст машынапісу з праўкамі аўтара супадае з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957 у тэкст унесены дзве праўкі.

Захоўваецца чарнавы рукапіс.

*Каўказ* (с. 28)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Праўкі аўтара на тэксце машынапісу ўлічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы машынапісны тэкст адпавядае рукапісу.

*Казбек* — вяршыня Бакавога хрыбта Вялікага Каўказа.

...*Сасунца плямёны* — маецца на ўвазе герой армянскага эпасу Давід Сасунскі.

*Нізамі* — азербайджанскі паэт і мысліцель Нізамі Ганджэві Абу Мухамед Ільяс ібн Юсуф (каля 1141 — каля 1209).

*Руставелі* — грузінскі паэт Шата Руставелі (гады нараджэння і смерці невядомы, 12 ст.), аўтар сусветна вядомай паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры».

*Эльбрус* — самы высокі горны масіў у сістэме Вялікага Каўказа.

*Поці, Сухумі, Чыятур* — гарады ў Грузінскай ССР.

*Рыёні* — рака ў Грузінскай ССР.

...*песні чангуры і саза* — чангуры — народны грузінскі смычковы музычны інструмент; саз — струнны шчыпковы інструмент.

С. 29. *Хеўсуры* — этнаграфічная група грузін (горцаў).

*Цынандалі* — сорт вінаграднага грузінскага віна.

*Байцам-беларусам* (с. 30)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1943, 20 лют.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943 г. (у зб. «За шчасце Беларусі», 1945 памета «Масква» — адсутнічае).

Захоўваюцца два машынапісныя тэксты. Адзін з іх адпавядае першадруку, другі — тэксту верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Прыклады разначытанняў:

С. 30, радок 33:

Што ў абдымках вярбы

С. 32, радок 23:

І ўдарэць па струнах

З выхаду зборніка тэкст верша перадрукоўваўся без змен, акрамя зб. «За шчасце Беларусі», 1945, дзе праўкі не ўлічаны.

*Надзя-Надзейка* (с. 33)

Упершыню — Известия, 1943, 27 сак. у перакладзе на рускую мову Д. Осіна. Пад назвай «Плача жалейка» надрукаваны ў альманаху — Беларусь: Альманах першы.— Выд-ва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943.

У зб. «Насустрач сонцу», 1943 пад тэкстам: Масква, 1943 г. Ва ўсіх наступных прыжыццёвых выданнях памета «Масква» — адсутнічае.

Захоўваецца чарнавы рукапіс і машынапіс пад назвай «Плача жалейка». Тэксты паміж сабой маюць некаторыя адрозненні. У машынапісе, напрыклад, як і ў альманаху, адсутнічае 8-ы і апошні радок верша (с. 34), чаго не назіраецца ўжо ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. У зб. «За шчасце Беларусі», 1945 верш надрукаваны пад першапачатковай назвай, без восьмага радка (с. 34).

Я. Мазалькоў у рэцэнзіі на зборнік «К родным берегам».— М.: Госиздат, 1943 пісаў: «...В стихах, вошедших в сборник ..., мы видим знакомые черты, слышим знакомые интонации. И вместе с тем в стихах сборника мы находим много такого, что несомненно является новым и, может быть, неожиданным в творчестве П. Бровки. Великая Отечественная война и вызванное ею огромное напряжение сил помогли поэту открыть в себе новые, еще неиспользованные возможности. Если прежние стихи П. Бровки нередко свидетельствовали о склонности автора к отвлеченному пафосу, риторике, то в его новых стихах преобладает ярко выраженное лирическое начало. Поэт стал задушевней, он стремится установить более интимную, глубокую и непосредственную связь с читателем. Вместе с тем его стих становится напевней, музыкальней. Ораторские интонации все еще уступают место песенным. В этом отношении очень характерно стихотворение «Надя-Надейка»... Стихотворение глубоко волнует, оно очень действенно. Сила ненависти и жажда расплаты равны здесь силе скорби. Огромное впечатление оставляют полные лиризма, исключительно эмоциональные стихи сборника — «Землякам», «Как только бой затих», «Полесская дорога», «Памятка» и др. То обстоятельство, что «Надя-Надейка», «Землякам» и другие стихи сборника не являются случайной удачей поэта и что сильная лирическая струя знаменует новый этап в его творчестве, подтверждается также новыми прекрасными стихотворениями П. Бровки, не вошедшими в настоящий сборник. Вспомним хотя бы такое стихотворение Бровки, как «Кастусь Калиновский», написанное так же, как и «Надя-Надейка», в народно-романтическом плане. Мы здесь имеем дело не с отдельными удачами П. Бровки, а с новым качеством его поэзии, с ее обогащением» (Беларусь, 1944, № 3).

*Рана* (с. 35)

Упершыню — Раздавім фашысцкую гадзіну, 1943, № 82, сакавік, пад назвай «Мая рана». Надрукаваны ў альманаху — Беларусь: Альманах першы.— Выд-ва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943 г.

Паміж тэкстамі рукапісу, машынапісу і першадруку маюцца паасобныя розначытанні. Машынапісны тэкст адпавядае тэксту верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Адна праўка ўнесена пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1957.

*Мінск* (с. 36)

Упершыню — Шлях сацыялізма, 1943, 3 чэрв.

У белавым рукапісе датуецца сакавіком, 1943 г.; ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943 г. (у зб. «За шчасце Беларусі», 1945 памета «Масква» — адсутнічае).

Захоўваецца чарнавы рукапіс пад назвай «Здымак» і частка машынапісу (пачатак верша). Паміж тэкстамі белавога рукапісу,

наяўнага машынапісу і першадрукам маюцца паасобныя разначытанні. Значныя адрозненні тэксту наглядаюцца ў чарнавым рукапісе (тэкст неразборлівы).

Параўнальны аналіз крыніц тэксту верша выяўляе істотныя праўкі, скарачэнні, якія зроблены пры падрыхтоўцы верша для зб. «Насустрач сонцу», 1943, а пазней для Зб. тв., т. 1, 1957. У белавым рукапісе і першадруку, напрыклад, было:

С. 37, радок 27:

І чорныя пальцы абвугленых дрэў

пасля 29 радка:

А што мне рабіць?
Я ж ніколі не сніў,
Каб полымя гэтак на плошчах шугала...
Высока пылалі два гнеўных агні —
То з Коласа твораў
І Янкі Купалы.

Да выхаду Зб. тв., т. 1, 1957 апошнія два радкі верша гучалі:

Прыберам каменні з разбураных сцен,
І кветкі пасадзім на могілках паўшых

верш заканчваўся:

Мы чуем свой горад —
Там люты ўціск.
Мы шлём табе, горад, жаданыя весці:
Ты родзішся зноўку, абуджаны Мінск,
Устаўшы з нябыту і чорнае смерці.

Тэкст верша, змешчаны ў зб. «За шчасце Беларусі», 1945, супадае з першадрукам.

У Літаратурным музеі пісьменніка захоўваецца ліст П. Панчанкі да П. Броўкі ад 28 чэрвеня 1943 года, у якім Пімен Емяльянавіч піша: «Мне вельмі спадабаўся твой «Мінск». Пачынаючы ад радкоў «Ішоў я, бяздомны...».

*Першамайскім ранкам* (с. 39)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1943, 1 мая; «Известия», 1943, 1 мая ў пер. П. Сямыніна на рускую мову.

Датуецца годам апублікавання. У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях памылкова датуецца 1944 годам.

Тэкст машынапісу, за выключэннем аднаго разначытання, адпавядае першадруку. Захоўваецца чарнавы рукапіс без загалоўка. Пры падрыхтоўцы верша для зб. «У роднай хаце», 1946 у тэкст унесена нязначная колькасць правак. Замена аднаго слова зроблена пры падрыхтоўцы верша для «Выбраных твораў», 1951.

*Партызанскі марш* (с. 41)

Упершыню — літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», 1943, № 2, чэрвень.

У рукапісе пад тэкстам: V.1943 г. У адным з машынапісаў месяц пазначаны неразборліва: V ці VI. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Рукапіс і машынапіс мае назву «Марш беларускіх партызан». (Захоўваецца машынапісны тэкст і з канчатковай назвай.) Тэксты іх супадаюць з першадрукам. Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1965 у тэкст унесены некаторыя праўкі.

*Кастусь Каліноўскі* (с. 42)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1943, 26 чэрв.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Істотных розначытанняў паміж крыніцамі тэксту не назіраецца.

У Літаратурным музеі П. Броўкі захоўваецца ліст (подпіс неразборлівы) ад 2 кастрычніка 1943 года, дзе адрасант піша: «Петрусь! за «Кастуся Калиновского» (6 сентября 1943) от меня и моих боевых товарищей — гвардейское спасибо.

Давай, Петя, и дальше. А мы будем шагать все дальше и дальше на Запад».

Пры аналізе верша Н. Перкін адзначыў: «Цікавым па задуме і сродках яе выяўлення з'яўляецца верш «Кастусь Каліноўскі»... Імя выдатнага кіраўніка сялянскага паўстання 1863 г. шырока вядома на Беларусі, дзе яно глыбока ўвайшло ў памяць народа; асоба Каліноўскага стала легендарнай. Слава Кастуся Каліноўскага, яго бясстрашнасць і мужнасць набылі зусім новую значнасць у гады Айчыннай вайны. Запаветы гэтага выдатнага барацьбіта за свабоду і справядлівасць зрабіліся грознай зброяй супраціўлення і бязлітаснага знішчэння акупантаў на беларускай зямлі. У сваім вершы Броўка і раскрывае гістарычную пераемнасць граічных традыцый народа, выкарыстоўваючы для гэтага прыёмы як знешняй характарыстыкі вобраза, так і сродкі выяўлення ўнутранага падабенства рыс. У зусім канкрэтна-нагляднай форме паўстаюць перад чытачом два героі: адзін — гэта жывы ў памяці і ўяўленні народа легендарны Кастусь Каліноўскі [гл. камент. да паэмы «Беларусь» — *Т. Г.*], другі — гэта малады беларускі хлапец, былы трактарыст Каліна, што праславіўся на ўсю Беларусь сваімі смелымі налётамі на варожыя гарнізоны. (Перкін Н. Творчасць Петруся Броўкі: Крытычны нарыс.— Мн.: Выд-тва Акадэміі навук БССР, 1952, с. 81.)

*Не паверу смерці* (с. 45)

Упершыню — літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі». 1943, № 3, чэрвень.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Захоўваецца чарнавы рукапіс без загалоўка.

Верш напісаны ў сувязі з гадавінай з дня смерці Я. Купалы (1882—1942).

*Таварышу* (с. 47)

Упершыню — Беларусь: Альманах першы.— Выд-ва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943 г.

Тэкст машынапісу з праўкамі аўтара супадае з тэкстам верша ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы тэкст амаль поўнасцю адпавядае публікацыі ў альманаху.

Захоўваецца чарнавы рукапіс без загалоўка.

*Магіла байца* (с. 49)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1943, 24 лістап.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943 г.

У рукапісе, а таксама ў зб. «За шчасце Беларусі», 1945 памета «Масква» — адсутнічае.

Рукапісны тэкст верша мае назву «Магіла салдата». Паміж рукапісам і першадрукам выяўлены шматлікія тэкставыя разы-

ходжанні. Новыя праўкі ў тэкст верша ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957.

*Балада пра чырвоны сцяг* (с. 51)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1943.

Машынапіс з аўтарскімі праўкамі адпавядае тэксту верша ў названым вышэй зборніку. Захоўваецца таксама першапачатковы машынапісны тэкст, на якім (паверх радкоў) рукой аўтара зроблены пераклад на рускую мову. Значныя праўкі ў тэкст верша ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957. Найбольш істотнымі з'яўляюцца скарачэнні тэксту. Пасля трэцяй страфы былі наступныя радкі:

За дрэўка праваю рукой
Трымаў яго казак,
Як сэрца мацеры сваёй,
Бярог паміж атак.
Аберагаючы клінком,
Прайшоў з ім шлях даўгі —
Лясы пад Оршай, над Дняпром
І Дона берагі

пасля чацвёртай:

— Яго ўтрымаю,— кляўся ён
Сярод цяжкіх часін,
...І знае родны, ціхі Дон,
Што спраўдзіў слова сын.
І сказ яшчэ цяпер не змоўк
Пра слаўны той паход...
У дальні тыл аднойчы полк
Зрабіў начны налёт

пасля адзінаццатай:

І кліч гвардзейскі зазвінеў
Праз міг на месцы тым,—
І мёртвы вораг качанеў
Пад ветрам ледзяным

верш заканчваўся:

Ён для гвардзейцаў сілай быў:
Узняты на руках,
У бой іх зваў, да барацьбы
За брата-казака.

*Спатканне* (с. 53)

Упершыню — Литература и искусство, 1944, 1 студз. на беларускай мове. Пад назвай «Встреча» ў перакладзе М. Ушакова на рускую мову надрукаваны ў часопісе «Беларусь», 1944, № 1.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам (у зб. «За шчасце Беларусі», 1945 пад тэкстам памылкова пазначана: 1944 г.).

Машынапісны тэкст супадае з першадрукам і мае адно разначытанне з тэкстам верша ў зб. «У роднай хаце», 1946.

«Спатканне», «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Хлеб» — творы, за якія ў 1947 годзе П. Броўку прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР II ступені.

*Родны край* (с. 55)

Упершыню — Комсомольская правда, 1944, 11 студз. пад назвай «Беларусь» у перакладзе на рускую мову М. Замахоўскай.

У рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Першапачатковая назва ў рукапісным тэксце — «Беларусь» — закрэслена, збоку напісана: «Кліч да роднай зямлі». Тэкст машынапісу пад назвай «Родны край» ідэнтычны тэксту верша ў зб. «У роднай хаце», 1946. Паміж рукапісам і машынапісам маюцца нязначныя разначытанні.

*Сыны* (с. 56)

Упершыню — Раздавім фашысцкую гадзіну, 1944, № 118, студзень.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Машынапісны тэкст мае нязначныя разначытанні з першадрукам і супадае з тэкстам у зб. «У роднай хаце», 1946.

*Два клёны* (с. 58)

Упершыню — Беларусь, 1944, № 3.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Захоўваецца машынапіс, тэкст якога супадае з першадрукам. Пры падрыхтоўцы верша для Выбраных твораў, 1947 пасля 17 радка быў скарочаны тэкст:

Не ведала Насця,
Што прыйдзе няшчасце.

Наступная нязначная праўка верша зроблена пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957.

На словы верша напісана музыка кампазітарам А. Туранковым.

*Адыход у партызаны* (с. 60)

Упершыню — зб. «У роднай хаце», 1946.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Машынапісны тэкст адпавядае тэксту верша ўназваным вышэй зборніку. Пасля публікацыі ў ім верш доўгі час не друкаваўся. З некаторымі разначытаннямі змешчаны ў Зб. тв., т. 1, 1965, адкуль без змен перадрукаваны ў апошнім прыжыццёвым выданні.

*Вам скажуць сосны* (с. 68)

Упершыню — зб. «У роднай хаце», 1946.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1943 годам.

Машынапісны тэкст мае назву: «Раскажуць сосны!» і супадае з тэкстам верша ў прыгаданым вышэй зборніку.

*Родны горад* (с. 69)

Упершыню — Звязда, 1944, 10 кастр.; пад тэкстам: 8 кастрычніка 1944 г. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1944 г. (у зб. «У роднай хаце», 1946 дата пад тэкстам верша адсутнічае).

Трэцяя і пятая строфы верша надрукаваны ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944, № 134, кастрычнік.

Захоўваецца машынапіс без даты, які супадае з тэкстам верша ў зб. «У роднай хаце», 1946 і мае адно разначытанне з перша-

друкам. Адзінкавыя праўкі ўнесены ў тэкст верша пры падрыхтоўцы яго для «Выбраных твораў», 1951 і Зб. тв., т. 1, 1957.

Верш напісаны з нагоды масавага нядзельніка, у які працоўныя горада Мінска выйшлі на адбудову сталіцы пасля вызвалення яе ад ворага. (Мінск быў вызвалены 3 ліпеня 1944 г.)

*Перад вясной* (с. 70)

Упершыню — Звязда, 1945, 18 сак.

У машынапісе, першадруку і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: люты, 1945 г.

Машынапісны тэкст адпавядае тэксту першай публікацыі.

*Дарога салдата* (с. 72)

Упершыню — Звязда, 1945, 2 сак.

У машынапісе, зб. «У роднай хаце», 1946 і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам памылковая памета: красавік, 1945 г.

Машынапіс, за выключэннем нязначнага розначытання, супадае з тэкстам верша ў названым вышэй зборніку. Паміж першай публікацыяй верша і тэкстам верша ў зб. «У роднай хаце», 1946 выяўлены паасобныя розначытанні. Напрыклад:

С. 72, радок 33:

— Мо бачылі Насценьку

*Возьмем сеўні!..* (с. 74)

Упершыню — Беларусь, 1945, № 2.

У зб. «У роднай хаце», 1946 і «Выбраных творах», 1947, 1951 пад тэкстам: 16 сакавіка 1945 г. У машынапісе, Зб. тв., т. 1, 1965, 1976 датуецца 1945 годам.

Машынапісны тэкст супадае з першадрукам.

Пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., т. 1, 1965 у тэкст унесены некаторыя праўкі.

*Давайце рамоўкі наладзім* (с. 75)

Упершыню — Беларусь, 1945, № 3.

У рукапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: 18 сакавіка 1945 г.

Тэкст верша ў зб. «У роднай хаце», 1946 ідэнтычны рукапіснаму тэксту з праўкамі аўтара. Першадрук, акрамя неістотнага розначытання, адпавядае першапачатковаму рукапіснаму тэксту.

*Прачнуўшыся рана...* (с. 76)

Упершыню — Беларусь, 1945, № 2.

У рукапісе пад тэкстам пазначана: 19.III.1945 г. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1945 годам.

Першадрук супадае з тэкстам рукапісу.

Адзінае розначытанне выяўлена паміж першай публікацыяй верша і зб. «У роднай хаце», 1946:

С. 76, радок 5:

Што сталася з белым бяроставым плаццем?

*Веснавое* (с. 77)

Упершыню — Звязда, 1945, 1 мая пад назвай «І сонца нам свеціць...».

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: 1 мая 1945 г.

Машынапісны тэкст супадае з першадрукам.

У газеце «Правда», 1945, 18 мая верш надрукаваны на беларускай мове пад назвай «Наша вясна», у часопісе «Бярозка»,

1945, № 1, чэрвень — пад назвай «Перамога». У абодвух выпадках верш надрукаваны без шостай і сёмай строф, чаго не назіраецца ў наступных выданнях. Пры падрыхтоўцы твора для Зб. тв., т. 1, 1957 у тэкст унесена істотная праўка ў два апошнія радкі.

*Настачка* (с. 79)

Упершыню — Звязда, 1945, 12 мая пад назвай «Сустрэча».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1945 годам.

Некаторыя праўкі тэксту зроблены пры падрыхтоўцы верша для зб. «У роднай хаце», 1946. Напрыклад:

С. 79, радкі 2, 11, 12, 18:

Спіцца Насценьцы салодка
Асцярожна, часценька
Разважае Насценька
Толькі хтосьці больш загрукаў

*Знаёмая дарожка* (с. 80)

Упершыню — Сов. Белоруссия, 1945, 21 кастр. у перакладзе В. Мілаванава на рускую мову.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1945 годам.

На словы верша напісана музыка кампазітарам В. Яфімавым.

*Сябры франтавыя* (с. 81)

Упершыню — Савецкі селянін, 1945, 4 кастр.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1945 годам.

На словы верша напісана музыка кампазітарам А. Туранковым.

*Мы не забудзем вас!* (с. 82)

Упершыню — Савецкі селянін, 1945, 4 кастр.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1945 годам.

Разначытанні тэксту выяўлены паміж публікацыяй у зб. «У роднай хаце», 1946 і першадрукам.

*Народнаму пасланцу* (с. 83)

Упершыню — Звязда, 1946, 11 лют.

Захоўваюцца два машынапісы верша. Адзін (1 с.) з датай: 5.II.46 г., другі (2 с., з іншым размяшчэннем радкоў) — 10 лютага 1946 г. Дакладнасць апошняй даты пацвярджаецца тоеснай паметай пад тэкстам верша ў зб. «У роднай хаце», 1946.

Напісаны з нагоды выбараў у Вярхоўны Савет СССР, якія праходзілі 10 лютага 1946 года. Тэкст верша быў скарочаны пры падрыхтоўцы да выдання Зб. тв., т. 2, 1965 і ў такой рэдакцыі друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

*Зварот музыканта* (с. 84)

Упершыню — Беларусь, 1946, № 3.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку Выбраных твораў, 1951 П. Броўка ўнёс праўкі ў чацвёртую страфу верша:

С. 84, радкі 1, 3:

Прыйшлі к яму суседзі з вёскі.
Скажы, у якіх майстроў заморскіх.

*Брат і сястра (с. 86)*

Упершыню — Беларусь, 1946, № 3.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Уваходзіць у лік тых твораў, за якія П. Броўку ў 1947 годзе

прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР II ступені (гл. камент. да верша «Спатканне»).

У вершы адлюстравалася цікавасць паэта да вуснай народнай творчасці. Аб народных вытоках верша «Брат і сястра» гл., у прыватнасці: Перкін Н. Творчасць Петруся Броўкі: Крытычны нарыс.— Мн.: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1952, с. 111—112.

Перакладзены на рускую мову паэтам А. Пракоф'евым (час. «Звязда», 1946, № 7—8).

*Развітальнае слова* (с. 88)

Упершыню — Звязда, 1946, 24 крас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Адзінае розначытанне выяўлена паміж тэкстам верша ў зб. «У роднай хаце», 1946 і ў «Выбраных творах», 1951.

Істотныя праўкі ў тэкст верша ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 1, 1957.

*Парк Перамогі* (с. 92)

Упершыню — Звязда, 1946, 16 чэрв.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Імпульсам для напісання верша паслужыла закладка парку ў г. Мінску (30 кастрычніка 1945 года) у гонар Перамогі. П. Броўка, як сведчыць змест верша, прымаў удзел у высадцы дрэў.

*Дзень мой* (с. 93)

Упершыню — зб. «У роднай хаце», 1946.

У рукапісе верша (4 с.) з нешматлікімі праўкамі аўтара пад тэкстам пазначана: 25.VI. 46 г. Дукора.

*Думы пра Маскву* (с. 95)

Упершыню — Полымя, 1946, № 7; пад тэкстам: ліпень, 1946 г. Надрукаваны ў газ. «Савецкі селянін», 1946, 18 жн. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях памета «ліпень» — адсутнічае.

Істотныя праўкі і скарачэнні тэксту твора выяўлены ў двух выпадках: пры падрыхтоўцы яго для зб. «У роднай хаце», 1946 і пазней для Зб. тв., т. 1, 1957.

Да 800-годдзя Масквы ўрыўкі верша друкаваліся ў перыядычным друку. Адзін з іх змешчаны ў газеце «Звязда», 1947, 7 верасня. (Гл. камент. да верша «Спатканне», с. 437.)

*Помнік* (с. 100)

Упершыню — Полымя, 1946, № 7.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Верш надрукаваны таксама ў «Настаўніцкай газеце», 1946, 17 кастрычніка.

Пры падрыхтоўцы яго для зб. «У роднай хаце», 1946 у тэкст унесены нешматлікія праўкі. Адно з розначытанняў:

С. 100, радок 20:

І Шакуру — начальніка штаба

*Не бура нам стрэхі сарвала* (с. 102)

Упершыню — Настаўн. газ., 1946, 17 кастр.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Розначытанні тэксту выяўлены паміж першадрукам і зб. «У роднай хаце», 1946.

*Каб мне стаць...* (с. 103)

Упершыню — Полымя, 1946, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Рукапіс захоўваецца.

Верш «Каб мне стаць...» уваходзіць у лік твораў, за якія П. Броўку ў 1947 годзе прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР II ступені (гл. камент. да верша «Спатканне»).

Пры жыцці паэта верш быў перакладзены на многія мовы народаў СССР (азербайджанскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, рускую, украінскую), на рад замежных моў (польскую, румынскую, чэшскую).

*Народнае дзякуй* (с. 104)

Упершыню — Полымя, 1946, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1946 годам.

Рукапіс захоўваецца.

Верш «Народнае дзякуй» уваходзіць у лік твораў, за якія П. Броўка ў 1947 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР II ступені (гл. камент. да верша «Спатканне»).

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «У роднай хаце», 1946 П. Броўка ўнёс у тэкст верша некалькі правак.

С. 104, радкі 7, 15:

Злы вораг разбіты суровай атакай.
Мы разам знішчалі паганцаў усялякіх.

Тэкст верша быў скарочаны пры падрыхтоўцы да выдання Зб. тв., т. 1, 1957 і ў такой рэдакцыі друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

*Камсамольцам Беларусі* (с. 105)

Упершыню — Чырв. змена, 1947, 5 сак., пад тэкстам: сакавік 1947 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

Верш напісаны з нагоды адкрыцця ў Мінску 5 сакавіка 1947 года XV з'езда камсамола Беларусі.

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Сонечнымі днямі», 1950 П. Броўка скараціў тры апошнія страфы верша:

Да мэты жаданай сягоння нам блізка —
Працуйце ж вы так, маладыя сябры,
Каб выраслі плошчы і вуліцы Мінска,
Каб выйшлі на поле свае трактары.
Працуйце, каб жыта шумела, што хвалі,
Каб косы звінелі ў лугах па расе.
Каб зерне, што золата, ў свірны ссыпалі,
Каб сёлы ўставалі ў нябачнай красе.
Працуйце ж, таварышы, спорна і дбала
На радасць радзімы, на радасць бацькоў.
Вялікая партыя вас гадавала
Зямлі беларускай дачок і сыноў!

*Каваль* (с. 106)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях друкуецца з паметай: сакавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам пазначана: 1947 г.

Мяркуецца, што вершы «Каваль», «Апошняя зямлянка», «Маці», «Сымонка», «Скарб», «Чараўнік» напісаны пасля паездкі П. Броўкі па раёнах былой Полацкай (зараз Віцебскай) вобласці восенню 1946 года. Аб гэтым сведчыць ліст П. Броўкі да Мазалькова Я. С. ад 18.X.1946 г., які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ф. 259, воп. 1,

адз. зах. 336): «Ездзіў я ў раёны Полацкай вобласці... Пабываў за два тыдні і ў усходніх і заходніх раёнах. Паездка вельмі цікавая, але разам з тым і цяжкая...

Я цяпер сяджу над нарысам з калгаснага жыцця для «Праўды». Кончу, пашлю, ды вазьмуся за адну нізку вершаў. Прыйшлі такія-сякія, новыя думкі ў галаву».

Верш значна не перапрацоўваўся.

Пры падрыхтоўцы Зб. тв., т. 1, 1957 П. Броўка зрабіў некалькі дробных правак і ўвёў у тэкст два новыя радкі:

С. 108, радкі 1, 2: не было.

*Апошняя зямлянка* (с. 109)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: сакавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам пазначана: 1947 г.

(Гл. камент. да верша «Каваль».)

*Шпак* (с. 111)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: сакавік, 1947 г., акрамя зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам стаіць дата: 1947 г.

*Маці* (с. 112)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях друкуецца з паметай: красавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам пазначана: 1947 г.

(Гл. камент. да верша «Каваль».)

*Сымонка* (с. 115)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: красавік, 1947 г., акрамя першадруку, зб. «Сонечнымі днямі», 1950 і зб. «Маладым сябрам», 1961, дзе пад тэкстам пазначана: 1947 г.

(Гл. камент. да верша «Каваль».)

*Архітэктар* (с. 117)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: красавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам памечана: 1947 г.

*Скарб* (с. 118)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: красавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам пазначана: 1947 г.

(Гл. камент. да верша «Каваль».)

Пры падрыхтоўцы верша да выданняў Выбраных твораў, 1947, «Сонечнымі днямі», 1950, «Выбраных твораў», 1951 паэтам зроблены некаторыя папраўкі.

У першадруку і названых зборніках быў працяг верша, які адсутнічае ва ўсіх наступных выданнях.

У першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950 г. было:

На ўзгорку
Паставілі хаты радамі,
Ды каб зіхацелі
У прывабнай ясноце —

Слупы мы злучылі
Між хат правадамі...

І свецяць, нам свецяць
Агні на балоце.

*Чараўнік* (с. 120)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкуецца з паметай: красавік, 1947 г., акрамя першадруку і зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе пад тэкстам памечана: 1947 г.

(Гл. камент. да верша «Каваль».)

*Вярба над вадою* (с. 122)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

У Выбраных творах, 1947 пад тэкстам пазначана: красавік, 1947 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

*Запаветнае* (с. 123)

Упершыню — Полымя, 1947, № 5.

У Выбраных творах, 1947 пад тэкстам пазначана: красавік, 1947 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

*Мая айчына* (с. 124)

Упершыню — Лит. газета, 1947, 5 лістап. (пер. Я. Хелемскага).

Датуецца годам апублікавання. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях памылкова датуецца 1948 годам.

Рукапіс захоўваецца.

Верш напісаны да 30-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

*Кандрату Крапіве* (с. 125)

Упершыню — Звязда, 1947, 23 ліст.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях друкуецца з паметай: 22 лістапада 1947 г.

Напісаны да 25-годдзя творчай дзейнасці Кандрата Крапівы.

*Смерць героя* (с. 126)

Упершыню — Полымя, 1947, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

Рыхтуючы да друку Зб. тв., т. 1, 1957, П. Броўка ўнёс у верш некалькі правак:

С. 127, радкі 14, 15:

Гарачая кроў загудзела ў грудзях,
З пагрозай чужынцу прамовіў казах.

*Дзень добры, хлопцы!* (с. 128)

Упершыню — Полымя, 1947, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

*Маладзіком* (с. 130)

Упершыню — Полымя, 1947, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

*Дзяўчына з Палесся* (с. 131)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1948, 31 студз.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

*Ленінградскі трамвай* (с. 134)

Упершыню — Звязда, 1948, 18 студз. пад назвай «Падарунак ленінградцаў».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Сонечнымі днямі», 1950 П. Броўка перапрацаваў некаторыя радкі верша.

С. 134, радкі 1, 2, 17—20, 28—30:

Вышлі на гулянку мы, здаецца,
Я сябра штурхаю...
Ты ў вайну прабіўся
Праз блакаду,
Будзеш нам цяпер
Дапамагаць.
Дык вядзі
Свой шлях па каляінах,
Сустракай прыгожыя часы.

*Бранявік* (с. 136)

Упершыню — Звязда, 1948, 21 студз. пад рубрыкай «Вершы пра У. І. Леніна»; Полымя, 1948, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам. Відаць, верш напісаны пад уражаннем ад паездкі ў Ленінград па запрашэнню ленінградскага аддзялення СП СССР у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (18—23 жніўня 1947 года).

*Дом у Пароніне* (с. 137)

Упершыню — Звязда, 1948, 21 студз. пад рубрыкай «Вершы пра У. І. Леніна»; Полымя, 1948, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Напісаны да 24-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна.

*Паронін* — мястэчка каля Кракава (ПНР), у якім летам 1913 і 1914 гадоў жыў У. І. Ленін, і дзе адбылася Паронінская (1913) нарада ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі.

*Ля Маўзалея* (с. 138)

Упершыню — Звязда, 1948, 21 студз. пад рубрыкай «Вершы пра У. І. Леніна»; Полымя, 1948, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Напісаны да 24-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна.

*Плытагон* (с. 139)

Упершыню — Сав. селянін, 1948, 8 крас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

*Чатыры шляхі* (с. 142)

Упершыню — Беларусь, 1949, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Напісаны да 30-годдзя ўтварэння БССР.

Пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957 П. Броўка апусціў адну страфу верша. Пасля радка «Прыйшлося панам і падпанкам уцякаць» было:

Бо ўсюды ўздымаўся
Працоўны саюз,
І стала Савецкай мая Беларусь!

*Калгасны мельнік* (с. 145)

Упершыню — Полымя, 1949, № 1.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

У тэкст машынапісу ўнесены праўкі, якія былі ўлічаны пры падрыхтоўцы да друку зб. «Сонечнымі днямі», 1950.

*Кладаўшчык* (с. 148)

Упершыню — Полымя, 1949, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

*Спеў новых дзён* (с. 150)

Упершыню — зб. «Сонечнымі днямі», 1950.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Тэкст верша быў скарочаны пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957 і ў такой рэдакцыі друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

*Ківач* (с. 151)

Упершыню — Полымя, 1949, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

Мяркуецца, што вершы «Ківач», «Карэльскі шлях», «Петразаводск» напісаны пасля паездкі ў ліпені 1948 года ў Карэлію з нагоды 25-годдзя ўтварэння Карэла-Фінскай ССР.

Адзіная праўка была ўнесена паэтам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Сонечнымі днямі», 1950.

С. 151, радок 1:

Не маю я сіл захаплення стрымаць.

*Ківач* — вадаспад на рацэ Суна ў Карэльскай АССР.

*Карэльскі шлях* (с. 152)

Упершыню — Полымя, 1949, № 2.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

(Гл. камент. да верша «Ківач».)

Рыхтуючы Зб. тв., т. 1, 1957, П. Броўка зрабіў адзіную праўку:

С. 152, радок 15:

Чутны перамовы тапароў.

*Калінін Міхаіл Іванавіч* (1875—1946) — дзеяч Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы.

*Павянец* — пасёлак гарадскога тыпу ў Мядзвеж'ягорскім раёне Карэльскай АССР.

*Петразаводск* (с. 153)

Упершыню — Полымя, 1949, № 2.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам.

(Гл. камент. да верша «Ківач».)

Пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957 П. Броўка ўнёс адзіную праўку:

С. 153, радкі 23, 24:

Глядзіць карэльская бяроза
З вялізных вокнаў і дзвярэй.

*Кантэле* — карэла-фінскі струнны шчыпковы музычны інструмент.

*Расія* (с. 154)

Упершыню — Дружба народов, 1949, № 1 (пер. А. Пракоф'ева).

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Верш прысвечаны 30-годдзю ўтварэння БССР.

Пры жыцці паэта перакладзены на многія мовы народаў СССР (асецінскую, грузінскую, латышскую, таджыкскую, украінскую, фінскую).

*На Палессі гоман, гоман...* (с. 155)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1949, 14 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Напісаны напярэдадні XIX з'езда Камуністычнай партыі Беларусі, які праходзіў у Мінску з 15 па 18 лютага 1949 года.

У вершы адчуваюцца эпічныя традыцыі Я. Купалы, у прыватнасці, паэмы «Над ракой Арэсай». Паэт перадае ўзнёслы і радасны настрой савецкага народа ў перыяд пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі.

На словы верша, вытрыманага ў фальклорным стылі, напісана вядомая песня (муз. С. Палонскага).

*Сонца грэе...* (с. 157)

Упершыню — Звязда, 1949, 6 крас., пад тэкстам: красавік 1949 года.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

*Бандыты* (с. 158)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1949, 21 мая.

У рукапісе верша з подпісам аўтара і ў першадруку пад тэкстам: май, 1949 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957 П. Броўка зрабіў адзіную праўку:

С. 158, радок 29:

Ён стаў неслухмяны.

*Ку-клукс-клан* — расісцкая тэрарыстычная арганізацыя ў ЗША. Узнікла ў 1865 годзе ў Паўднёвых штатах, аб'яднала ўсе тэрарыстычныя арганізацыі плантатараў, якія вялі бязлітасную барацьбу супраць неграў і ўсіх тых, хто змагаўся за іх раўнапраўе.

*У вянок паэту* (с. 160)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1949, 4 чэрв.; Звязда, 1949, 5 чэрв.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Напісаны да 150-й гадавіны ■ дня нараджэння А. С. Пушкіна. Верш мае два варыянты апошняй страфы:

У першадруку:

Аб ім вялікім
Ясназорым
Складаюць песні песняры —
І там, дзе стэп,
І там, дзе горы,
І там, дзе пушчы і бары.

У газ. «Звязда»:

Прайшоў
Праз пушчы, стэпы, горы,
Святлом сабе праклаўшы
Шлях.
Ягоным словам, быццам
Зорам,
Гарэць нязгаслым у вяках!

*Новы шлях* (с. 161)

Упершыню — зб. «Сонечнымі днямі», 1950.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Верш напісаны да 10-годдзя з дня ўз'яднання беларускага народа ў адзіную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

*Цар-дуб* (с. 162)

Упершыню — зб. «Сонечнымі днямі», 1950.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Рыхтуючы да друку зб. «Маладым сябрам», 1961, П. Броўка ўнёс адзіную праўку:

С. 163, радкі 7, 8:

І знік прыгнёт.
Вакол заззялі зоры.

Ва ўсіх астатніх прыжыццёвых выданнях захоўваецца першапачатковы варыянт прыведзеных радкоў.

*Чырвоная зорка* (с. 164)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1950, 3 чэрв.

У рукапісе пад тэкстам подпіс аўтара і дата: май, 1950.

Аўтарскія праўкі, унесеныя ў рукапіс, улічаны ў першадрукаваным тэксце верша.

*Дэніс Юджын* (1904—1961) — дзеяч амерыканскага і міжнароднага рабочага руху.

*Назым Хікмет Ран* (1902—1963) — турэцкі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Прысяга байца за мір* (с. 166)

Упершыню — Звязда, 1950, 14 ліп.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам.

Верш з'явіўся водгукам паэта на Адозву Пастаяннага камітэта Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру аб забароне атамнай зброі (т. зв. Стакгольмская адозва, прынятая на сесіі Пастаяннага камітэта, якая праходзіла ў Стакгольме 15—19 сакавіка 1950 года).

Пры падрыхтоўцы да выдання Выбраных твораў, 1951 П. Броўка скараціў верш. Пасля радка «Я супроць падпальшчыкаў вайны» было:

Не дадзім сабрацца чорнай зграі,
Голас наш адчуюць і здалёк —
Кожны подпіс, знаю я, зрывае
Ад гарматы ворага замок.

У такой рэдакцыі друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

*Размова з папам Піем* (с. 167)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1950, 14 кастр.

У рукапісе верша з подпісам аўтара і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам.

Верш напісаны напярэдадні другой Усесаюзной канферэнцыі прыхільнікаў міру ў Маскве (16—18 кастрычніка 1949 г.), дэлегатам якой быў П. Броўка. У сваёй прамове на канферэнцыі ён сказаў: «Магутны рух прыхільнікаў міру вырве зброю з брудных рук падпальшчыкаў вайны і не дасць ім магчымасці распаліць полымя новай сусветнай бойні. Наш абавязак, абавязак прыхільнікаў міру, — яшчэ шчыльней згуртаваць свае рады і нястомна змагацца за мір ва ўсім свеце.

Беларускі народ, народ, які гераічна змагаўся супроць гітлерызму, як адзін чалавек, стаіць пад сцягам барацьбы за справу міру ва ўсім свеце».

*Папа Пій* — маецца на ўвазе папа Пій XII — галава каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкана з 1939 па 1958 гады.

*Стася* (с. 169)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1950, 28 кастр.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам, акрамя першадруку, дзе дата не пазначана.

Некалькі правак былі зроблены П. Броўкам пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957:

С. 169, радок 11:

Ужо шостая вясна

С. 170, радкі 3, 4:

Шкода,
Цяжка, дзяўчына.

У Зб. тв., т. 3, 1966 была ўнесена адзіная праўка:

С. 169, радок 4:

Заплятае вянок.

*Дарога жыцця* (с. 171)

Упершыню — Беларусь, 1950, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам.

Рыхтуючы да друку Зб. тв., т. 1, 1957, П. Броўка ўнёс некалькі правак.

С. 171, радкі 19, 25:

Не лёгка шляхі пракладаць
Са свету ўсё больш людзей.

*Наша марка* (с. 172)

Упершыню — Беларусь, 1950, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам.

Верш быў перапрацаваны паэтам пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957: апушчана адна страфа верша, напісаны дзве новыя.

С. 173, пасля радка «Самі гвалтам ідуць» было:

За рулямі ў гэткіх
Не жадаюць сядзець,
Бо дзе прыйдзе такая —
Там руіны і смерць.

Замест нанова напісаных дзвюх апошніх строф верша было:

Ходзяць трактары нашы
Па прасторах зямных...
Слава добрая чутна,
Што ўсе маркі славутай —
Сэрцаў добрых людскіх.

Ва ўсіх наступных выданнях верш друкаваўся з улікам прыведзеных перапрацовак.

*Ляснік* (с. 174)

Упершыню — Беларусь, 1950, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш датуецца 1950 годам. Адзіная праўка была ўнесена паэтам пры падрыхтоўцы да друку зборніка вершаў для дзяцей «Маладым сябрам», 1961.

С. 174, радок 19:

Яліны нават падалы

Рыхтуючы больш позняе выданне Зб. тв., т. 2, 1965, П. Броўка зноў вяртаецца да першапачатковага варыянта гэтага радка.

*Аб тым, што ў думках...* (с. 176)

Упершыню— Літ. і мастацтва, 1951, 20 студз.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку Зб. тв., т. 1, 1957 П. Броўка скараціў 16 строф верша і ўнёс у тэкст некалькі правак:

С. 178, радкі 11—13:

Дзе працай будуюць,
Узводзяць
Палацы, каналы, масты.

С. 179, радок 2:

У якіх бы краях.

Ва ўсіх наступных выданнях верш друкаваўся з улікам прыведзеных правак.

*Не трэба вайны!* (с. 180)

Упершыню — Звязда, 1951, 25 лістап. пад назвай «Мір нам патрэбен!».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верш друкаваўся з паметай: лістапад, 1951 г.

Напісаны напярэдадні трэцяй Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру ў Маскве (27—29 лістапада 1951 г.).

Рыхтуючы да выдання зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954, П. Броўка ўнёс некалькі правак:

С. 180, радок 17:

Гляджу на зямлю я за безліччу хваль.

С. 181, радкі 6, 7, 10:

Ён хоча для шчасця людзей працаваць,
Каб бегла тканіна бясконцай ракой.
Каб ткалі адно — на шынель і мундзір?

*Алабама* — штат на поўдні ЗША, дзе галоўнымі галінамі прамысловасці з'яўляюцца чорная металургія і звязаная з ёй металаапрацоўка.

*Шампань* — гістарычная вобласць на паўночным усходзе Францыі, у сельскай гаспадарцы якой пераважае вытворчасць зерня і вінаградарства.

*Ланкашыр* — старэйшы прамысловы раён Англіі, які атрымаў вядомасць у 18—19 стст. дзякуючы сваёй баваўняна-папяровай прамысловасці.

*Там, дзе хадзіў калісьці Ленін...* (с. 182)

Упершыню — Беларусь, 1952, № 1 пад назвай «Там, дзе хадзіў правадыр».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам.

Верш напісаны пад уражаннем паездкі П. Броўкі ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў у Чэхаславакію (май — чэрвень 1951 г.).

Адзіная праўка была ўнесена ў зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954:
С. 182, радкі 21—22:

Прыжмуру вочы...
І здаецца.

*Градчаны* — адзін з раёнаў Прагі.
*Влтава* — левы прыток ракі Лаба (Эльба) у Чэхаславакіі.

*Гара Славы* (с. 183)

Упершыню — Беларусь, 1952, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам.

Верш напісаны ў выніку паездкі П. Броўкі ў 1951 годзе ў Чэхаславакію (гл. камент. да верша «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін...»).

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 П. Броўка ўнёс у тэкст верша некалькі правак, перапрацаваў другую яго страфу.

С. 183, радкі 5—8, 27, 29:

Ля сонца блізка
Плывуць аблокі,
Ды больш за іх
Яна высока.
І сняцца ім
Дзе ўсе яны.

*Браціслава* — сталіца Славацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, адзін з найбуйнейшых гарадоў Чэхаславакіі.

*Сустрэча з земляком* (с. 184)

Упершыню — Беларусь, 1952, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам.

У аснову верша пакладзены ўражанні паэта ад паездкі ў 1951 годзе ў Чэхаславакію (гл. камент. да верша «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін...»).

Найбольш істотныя праўкі былі ўнесены П. Броўкам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954. Паэт скарачае верш і перапрацоўвае адну яго страфу.

С. 185, радкі 11—15:

І вось
Перада мной сягоння
Наш самазвал, як друг, узнік —
Стаіць на кірмашы дастойны
З маёй Радзімы прадстаўнік.

*Яра!.. Яра!..* (с. 186)

Упершыню — Беларусь, 1952, № 1 пад назвай «Яро!.. Яро!..».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам, акрамя зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954, дзе пад тэкстам, відаць, памылкова пазначана: 1952 г.

У вершы знайшлі адбітак уражанні, звязаныя з паездкай П. Броўкі ў 1951 годзе ў Чэхаславакію (гл. камент. да верша «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін...»).

Працуючы над падрыхтоўкай да выдання зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954, паэт унёс у тэкст шэраг правак.

С. 186, радкі 2, 6, 17, 18:

Мужных воінаў адвага...
Каштановых свеч пажары...
Як з ручайкоў мкнуцца рэкі,
Так зліліся мы навекі.

Канчатковы варыянт прыведзеных радкоў (17—18) з'явіўся ў Зб. тв., т. 1, 1957.

*Навагоднія пажаданні* (с. 187)

Упершыню — Звязда, 1952, 1 студз.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1951 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 П. Броўка напалову скараціў верш і ўнёс некаторыя праўкі ў тэкст:

С. 187, радкі 12, 15:

Царыў на ўсёй зямлі.
Каб дым пад неба плыў.

*Слава дружбе!* (с. 188)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1952, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

Прысвечаны будаўніцтву гідраэлектрастанцыі «Дружба народаў» каля возера Дрысвяты ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці (здадзена ў эксплуатацыю ў ліпені 1953 года).

У першадруку пад загалоўкам верша быў змешчаны наступны тэкст: «Члены беларускай сельскагаспадарчай арцелі імя В. М. Молатава Відзаўскага раёна, калгаснікі літоўскага калгаса імя А. Міцкевіча Дукштацкага раёна і латышскія калгаснікі калгаса імя Я. М. Свердлава Грыўскага раёна парашылі агульнымі сіламі пабудаваць на возеры Дрысвяты міжрэспубліканскую калгасную гідраэлектрастанцыю. Калгаснікі назвалі будаўніцтва «Дружба народаў» (З газет).

*Падарожжа* (с. 190)

Упершыню — Полымя, 1952, № 11 пад назвай «Аб падарожжах». Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

Рыхтуючы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954, аўтар перапрацаваў некалькі радкоў верша і замяніў назву.

С. 190, радкі 5, 10, 11, 23:

Ён мора не ўгледзіў ні разу
Жыццё ўсё наперад бяжыць,
Глядзіш — дзіцё йшчэ малое.
Дубкі аж з-пад пушчаў Палесся.

Апошняя перапрацоўка верша адносіцца да часу падрыхтоўкі паэтам да друку Зб. тв., т. 1, 1957. Пасля радка «І людзі, і збожжа, і лес» П. Броўка скарачае страфу:

Што з далі прыходзіць, што зблізу,
Гляджу я — на нашай зямлі
Расце вінаград, і чуміза
З Кітая прыйшла на палі.

Ва ўсіх наступных выданнях тэкст верша друкаваўся па выданню Зб. тв., т. 1, 1957.

*Калі пагляджу я на карту...* (с. 191)

Упершыню — Беларусь, 1952, № 10 пад назвай «Савецкая душа». Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам. Верш з'явіўся водгукам паэта на значную гістарычную падзею ў жыцці краіны — XIX з'езд КПСС, які праходзіў з 5 па 14 кастрычніка 1952 года ў Маскве.

Верш быў значна перапрацаваны пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954: занава напісана канцоўка верша, скарочана адна страфа, унесены шматлікія праўкі.

С. 191, радкі 12, 17:

Спыніцца ў сваіх сяброў.
Украіна! Стэп твой бяскрайні.

Пасля радка «Па моры пшаніцы плывуць» было:

Ташкентцы гудуць грамадою:
Наезнікі — дзіўны спрыт!
Здаецца, і я ў час тою
Таксама адменны джыгіт.

С. 192, радкі 5, 19, 21—23, 25:

З карэйцам, з кітайцам на фронце...
Я знаю, дзесь могуць скрывіцца,
— Чаго гэта вам не сядзіцца,

I што так хвалюе вас?

Я ім адкажу на напасці:
Хацелася б бачыць у шчасці,

Назва верша «Савецкая душа» была заменена на «Калі пагляджу я на карту» пры падрыхтоўцы да выдання Зб. тв., т. 1, 1957.

*Чырвоны сцяг* (с. 193)

Упершыню — Полымя, 1952, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

У рукапісе верша, напісаным фіялетавым чарнілам, пад тэкстам дата: 29.VIII.52 г., якая закрэслена, і простым алоўкам пастаўлена: 30.VIII.52 г. Правамернасць апошняй даты пацвярджаецца шматлікімі аўтарскімі праўкамі і скарачэннямі, зробленымі простым алоўкам. Так, першапачатковы рукапісны варыянт верша меў 11 строф, з якіх у першадрук увайшло 9.

Значнае скарачэнне верша (6 строф) зроблена аўтарам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 г. Пасля радка «Кастрычніцкай парой» было:

Ты нас сабраў і аб'яднаў
Ад гарадоў і сёл
І з барыкад наперад зваў,
Крылаты, як арол.

Ты, як вяшчун свабоды, плыў,
Заступнік беднаты,
Няволю знішчыў і разбіў
Блакады і франты.

Аўтар скараціў і чатыры апошнія страфы верша:

Гарыць нязгаслым ён агнём,
Ў ім гэткай сілы жар,
Дзе толькі не ўзмахне крылом —
Палае душ пажар.

Глядзіш — чырвоны сцяг вядзе
Прыгнечаных калісь...
І над калонамі людзей,
Як птах, ірвецца ўвысь.

Мкне да Крамля, дзе сцяг шуміць,
Праслаўлены ў гадах,—
Яму ж няма нідзе мяжы,
На ўвесь глядзіць прасцяг.

Ён ад усіх зямлі краёў,
З усіх бакоў, дарог —
Страчае веснікаў-братоў
Са славай перамог!

У такой рэдакцыі верш друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

*Восень... Восень...* (с. 194)

Упершыню — Полымя, 1952, № 11.

Машынапіс і ўсе прыжыццёвыя выданні верша датуюцца 1952 годам. Большасць правак была ўнесена паэтам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954.

С. 194, радкі 7, 20, 28, 30, 33:

Вецер ходзіць, па шляхах гуляе.
Будзе ўсё — яда, абнова ў хаце!

Галубоў у неба запускаюць.
І кладуць цагліну за цаглінай.
Усю зямлю прабіла, як цвікамі.

Усе наступныя выданні друкаваліся з улікам прыведзеных правак.

*Смела, таварышы, ў ногу!* (с. 195)

Упершыню — Полымя, 1952, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

Асобныя моўна-стылёвыя змены былі зроблены аўтарам у першадрукаваным тэксце. Ва ўсіх наступных выданнях верш перадрукоўваўся без змен.

*Веймар* — горад у ГДР, дзе ў 1775—1832 гг. жыў вялікі нямецкі паэт і мысліцель Іаган Вольфганг Гётэ (1749—1832).

*Прыехаўшы Гётэ ўслаўляць...* — Маецца на ўвазе паездка П. Броўкі ў ГДР, звязаная з 120-й гадавінай з дня смерці Іагана Вольфганга Гётэ.

*Рабочыя нас запрасілі...* — Гаворка ідзе аб рабочых сталеліцейнага завода ў г. Веймары.

*Завод той ля знанай Іены...* — Завод «Карл Цейс Іена» — адно з буйнейшых прадпрыемстваў свету, які вырабляе розныя аптычныя прылады, астранамічнае абсталяванне, светлавыя і электронныя мікраскопы і г. д. Заснаваны ў 1846 г.

*...дзе Маркс навучаўся...* — Маецца на ўвазе Іенскі універсітэт імя Фрыдрыха Шыллера, у якім у 1841 г. абараняў доктарскую дысертацыю К. Маркс.

*Усё члены Саюза* — Члены Саюза свабоднай нямецкай моладзі.

*Бы ў горах Цюрынгіі гром...* — Маецца на ўвазе Цюрынгінскі лес — горны хрыбет у ГДР і ФРГ. Даўжыня каля 100 км, вышыня да 982 м. Хвойныя лясы.

*Парк піянераў у Бухарэсце* (с. 197)

Упершыню — Піянер Беларусі, 1953, 10 верас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

*Прысады* (с. 199)

Упершыню — зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954; «Беларусь», 1955, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1952 годам.

У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца аўтарызаваны машынапіс верша з архіўнага фонду часопіса «Беларусь», 1955, № 1 (ф. 41, воп. 1, адз. зах. 285).

*А ты хоць дрэва пасадзіў?..* (с. 201)

Упершыню — Маладосць, 1953, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

*Пусці, маці!..* (с. 202)

Упершыню — Маладосць, 1953, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Некаторыя тэкставыя розначытанні наглядаюцца толькі паміж першадрукаваным тэкстам і наступнай публікацыяй верша (зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954). Ва ўсіх наступных выданнях верш перадрукоўваўся без змен.

*Рахункавод* (с. 203)

Упершыню — Маладосць, 1953, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Рыхтуючы верш да зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954, аўтар некалькі скараціў яго.

Так, у першадрукаваным варыянце пасля радка: «...аб значанні сваім» было:

Ён звык, што ў працы ў сваёй
Няма яму граніц:
На трылiён, на біліён
Ён можа падлічыць.

*** *Такая і мне ўжо часіна...* (с. 204)

Упершыню — Маладосць, 1953, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1954 годам. Мяркуючы па часе першай публікацыі, больш дакладнай датай напісання верша трэба лічыць 1953 г.

Пры падрыхтоўцы верша да зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 аўтар унёс у першадрукаваны тэкст асобныя моўна-стылёвыя змены.

*Вяселле* (с. 205)

Упершыню — Маладосць, 1953, № 7.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Пры падрыхтоўцы верша да зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 у тэкст аўтарам былі ўнесены моўна-стылёвыя змены і скарачэнні. Напрыклад, скарочана апошняя страфа верша:

Зайздрошчу шчыра маладым:
Ім свет — прастор,
А не сяло.
Які прасцяг, разгон усім!
Ну і вяселле ў нас было!

*Есць!* (с. 208)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1953, 5 верас.

Датуецца годам апублікавання.

У зб. «А дні ідуць...» (Мн.: Дзяржвыд БССР, 1962) верш памылкова датуецца 1958 г.

*Параходу «Украіна»* (с. 209)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1953, 12 верас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

У ЦДАМЛІМ захоўваецца аўтарызаваны машынапіс верша з архіўнага фонду часоп. Беларусь, 1955, № 1. (ф. 12, воп. 7, адз. зах. 52), тэкст якога ідэнтычны канчатковаму.

Верш прысвечаны 300-годдзю ўз'яднання Украіны з Расіяй.

Пры падрыхтоўцы верша да Зб. тв., 1957 аўтар скараціў адну страфу. Пасля радка «Дзе, чароўная, дзе ты?..» было:

Дзе бязмежныя стэпы,
Дзе твой кліч галубіны?
Як я рады, што маю
Немалую Айчыну.

*А я жыта жала...* (с. 211)

Упершыню — Беларусь, 1953, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Некаторыя тэкставыя розначытанні наглядаюцца толькі паміж першадрукаваным тэкстам і наступнай публікацыяй верша («Цвёрдымі крокамі», 1954). Ва ўсіх наступных выданнях верш передрукоўваўся без змен.

*На беразе Чорнага мора* (с. 212)

Упершыню — Беларусь, 1953, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Тэксталагічны аналіз верша сведчыць, што значная перапрацоўка верша наглядаецца пры падрыхтоўцы першапачатковага тэксту да зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954. Пры рэдагаванні верша для вышэй названага выдання аўтар скараціў яго на адну страфу.

У першадрукаваным (часопісным) варыянце пасля радка: «А мы быццам даўна знаёмы» было:

У горах, у пушчах, у стэпах-палях
Жывём мы адзінай сям'ёю —
Адна ў нас сёння маці-зямля
І сцяг палымяны над ёю.

Акрамя скарачэння тэксту, наглядаюцца стылёвыя змены, а апошняя страфа верша па сутнасці зусім новая. У першадруку было:

Глядзім мы на мора. Вятры загулі
І чорныя хмары ўздымаюць...
Мы ж грудзьмі сваімі, мацней ад скалы,
Радзіму сваю засланяем.

У далейшых публікацыях верша тэкставых розначытанняў не наглядаецца.

*Чаму я такая...* (с. 213)

Упершыню — Беларусь, 1953, № 10 пад назвай «Паэт і крыніца». У зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 верш мае загаловак «Крыніца».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Пры рэдагаванні верша да зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954 аўтар унёс некаторыя моўна-стылёвыя змены.

Далейшыя публікацыі верша не маюць тэкставых розначытанняў.

*Бондар* (с. 214)

Упершыню — Беларусь, 1953, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

*Згадаў я сягоння Дунай і Мараву...* (с. 215)

Упершыню — Беларусь, 1953, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

З 10 мая 1951 г. П. Броўка па запрашэнню Саюза пісьменнікаў і Міністэрства інфармацыі і культуры Чэхаславакіі ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў месяц знаходзіўся ў Чэхаславакіі.

Верш навеяны ўспамінамі аб дадзенай паездцы.

*Марава* — рака ў Чэхаславакіі, левы прыток Дуная.

*Мы славім яднанне* (с. 216)

Упершыню — Калгаснік Беларусі, 1953, № 12 пад назвай «Песня яднання».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1954 годам.

Мяркуючы па часе першай публікацыі, больш дакладнай датай напісання верша трэба лічыць 1953 г.

## II

## ПАЭМЫ

*Паэма пра Смалячкова* (с. 219)

Упершыню — зб. «Насустрач сонцу», 1943.

У прыжыццёвых выданнях да 1957 г. пад тэкстам: Масква, 1942 г., у Зб. тв., т. 2, 1957 і наступных выданнях памета «Масква» — адсутнічае.

Захоўваецца чарнавы рукапіс. На асобным лісце маецца запіс:

Паэма пра героя

1. Суровая зіма.
1. Магілёўшчына. Дняпро. Пейзаж.
2. Мары Федзі. Завод. Зямля.
    1. Суровая зіма. Смалячкоў сочыць за ворагам.
    2. За спіной Ленінград.
    3. Смалячкоў расказвае аб прыгажосцях Беларусі. Аб бацьках.
    4. Мары яго. Завод. Зямля.
    5. Злёт снайпераў. Выступленне.
    6. Пытанне генерал-маёра.
    7. Смалячкоў і вучні.
    8. Апошняя вылазка.
    9. Смерць.
    10. Клятва таварышаў.
    11. Мы [прыйшлі] з Беларусі, адстаім горад Леніна.

Захоўваецца таксама машынапіс пад назвай: «Якія дубровы спявалі ваяцкую песню яму». Тэкст машынапісу адпавядае тэксту паэмы ў зб. «Насустрач сонцу», 1943, які ў асноўным тэксце пачынаецца з раздзела — I.

Урывак з паэмы пад назвай «Пра Федзю Смалячкова» надрукаваны ў літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1943, № 2, чэрвень. Паміж тэкстам урыўка і адпаведным яму тэкстам у зб. «Насустрач сонцу», 1943 (пачатак паэмы: да паметы раздзела — I) маюцца істотныя розначытанні. Найбольш значнае: с. 219, пасля слоў «І ў родных палях Беларусі з бацькамі сустрэнем вясну» ва ўрыўку былі радкі —

Ты, смерць, паміж намі і храбрым ніколі
    не ляжаш мяжою,
Мы змоўчым ад болю і ў грудзях задушым
    пакутлівы стогн.
Не плакаць нам дадзены слёзы, жалобнаю
    чыстай слязою,
Мы клятву прыносім герою, што будзем
    змагацца, як ён.
А клятву такую, што знішчым, што набрыдзь
    чужынцаў раструшчым,
Трымаючы сцягі гвардзейцаў заўсёды высока
    ўгары.
Шумяць ленінградскія плошчы, гудзяць угары
    беларускія пушчы,
Упарта з баямі на Захад ідуць Смалячкова сябры.

Урыўкі паэмы друкаваліся ў зб. «Моладзь Беларусі ў баях за Радзіму», 1943. Да гадавіны з дня вызвалення Мінска IV раз-

дзел паэмы змешчаны на старонках газеты «Звязда», 1945, 23 чэрвеня.

Параўнальны аналіз усіх выяўленых крыніц тэксту паэмы сведчыць, што найбольш шматлікія праўкі ў тэкст твора ўнесены пры падрыхтоўцы яго для Зб. тв., т. 2, 1957.

С. Гарадзецкі ў рэцэнзіі на «Выбраныя творы», 1945 пісаў: «Если в «Беларуси» Петрусь Бровка еще остается во власти торжественной декламации, то в «Ясном куте» и «Про Смолячкова» он вплотную подходит к реалистическому изображению жизни. Эти поэмы целиком находятся в тех традициях белорусской эпической поэмы, какие были установлены ее классиками,— они нежны в своем лиризме и правдивы в деталях повествования... От этих поэм намечается верная тропа к дальнейшему подъему и расцвету творчества Петруся Бровки» (Лит. газ., 1946, 17 жн.).

Галоўным героем паэмы з'яўляецца рэальная асоба: Смалячкоў Фядос Арцёмавіч (1923—1942), Герой Савецкага Саюза (1942), загінуў у баі.

*Беларусь* (с. 237)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1943, 22 снеж.

У машынапісе, першадруку і выданнях да 1957 г. пад тэкстам: снежань, 1943 г., у Зб. тв., т. 2, 1957 і наступных выданнях памета «снежань» — адсутнічае.

Машынапісны тэкст падрыхтаваны, відаць, для Выбраных твораў, 1945. Пры падрыхтоўцы паэмы для Зб. тв., т. 2, 1957 у тэкст унесены істотныя праўкі.

У рэцэнзіі на зб. «Беларусь»: Стихи.— М.: Сов. писатель, 1945, дзе паэма змешчана ў перакладзе на рускую мову Б. Турганава, А. Маслоўскі адзначыў: «Спробай вялікага паэтычнага абагульнення з'явілася паэма «Беларусь». Гэта самы моцны твор, напісаны паэтам за гады Айчыннай вайны.

«Беларусь» паўстае перад намі ва ўсёй веліччы сваёй магутнасці і грозная ў нянавісці да яе ворагаў.

Паэма характэрна сваёй прастатой, лірычнасцю і народнай напеўнасцю... «Беларусь» сведчыць аб тым, што Пятрусь Броўка працягвае развіваць лепшыя традыцыі выдатных майстроў беларускай паэзіі» (Полымя, 1945, № 2—3).

Аб паэме «Беларусь» у рэцэнзіі на аднайменны зборнік 1945 года М. Зянкевіч сказаў: «...Это как бы краткий поэтический обзор, конспект истории Белоруссии» (Лит. газ., 1945, 10 сак.).

Эпіграф да твора — радкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля».

С. 238. *Пад Грунвальдам білі, на возеры Чудскім* — маецца на ўвазе Грунвальдская бітва (15 ліпеня 1410 г.) і Лядовае пабоішча (5 красавіка 1242 г.). Бітва адбылася ля сяла Грунвальда (зараз ПНР) паміж аб'яднанымі арміямі Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага, з аднаго боку, і войскамі Тэўтонскага ордэна (Нямецкага ордэна), з другога. Закончылася поўным разгромам тэўтонаў. (У склад войск Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі атрады і з беларускіх зямель.)

Лядовае пабоішча адбылося на Чудскім возеры паміж рускімі і нямецка-тэўтонскімі войскамі, дзе апошнія пацярпелі паражэнне. (Разам з рускімі змагаліся воіны Полацкага і Віцебскага княстваў.)

Вашчыла Васіль (гады нараджэння і смерці невядомы), кіраў-

нік антыфеадальнага паўстання сялян Крычаўскага староства ў 1743—1744 гг. Паўстанне было жорстка падаўлена, кіраўніку ўдалося ўцячы на Украіну. Далейшы яго лёс невядомы.

*Хвясько* (Хвеська) — адзін з кіраўнікоў казацкіх атрадаў Багдана Хмяльніцкага, якія ў 1648—1649 гг. сумесна з беларускім сялянствам вялі барацьбу супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнету. Больш падрабязных звестак пра асобу Хвясько ўстанавіць не ўдалося.

Каліноўскі Кастусь (Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч; 1838—1864), беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і Літве.

С. 239. Георгій Скарына (Скарына Францыск; каля 1490 — каля 1551), беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч, перакладчык і пісьменнік эпохі Адраджэння.

С. 240. *На дайняй Нямізе іх слалі снапамі* — маецца на ўвазе Нямігская бітва 1067 г., якая адбылася, магчыма, на рацэ Нямізе паміж войскамі паўднёва-рускіх князёў Ізяслава, Святаслава, Усевалада Яраславічаў і Полацкага князя Усяслава. Прычына — намер кіеўскага князя падпарадкаваць Полацкае княства, якое да гэтага часу стала фактычна незалежным. Жорсткае пабоішча гэтай бітвы апісана ў выдатным помніку літаратуры Кіеўскай Русі — «Слова аб палку Ігаравым» (1187).

*Скуголіць панурая цень Банапарта* — падразумяваецца Напалеон I (Напалеон Банапарт, 1769—1821), французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец. У імкненні да сусветнага панавання пачаў вайну супроць Расіі (Айчынная вайна 1812 г.), у якой «вялікая армія» Напалеона была разгромлена.

(Беларускія землі былі галоўнай арэнай ваенных дзеянняў. Разам з іншымі народамі Расіі беларускі народ актыўна ўдзельнічаў у разгроме напалеонаўскіх полчышчаў.)

*Але ўцякалі і кайзера бошы* — маюцца на ўвазе салдаты Германскай імперыі ў час першай сусветнай вайны 1914 г., развязванню якой актыўна садзейнічаў германскі імператар (кайзер) Вільгельм II (1859—1941).

С. 246. Багдановіч Максім Адамавіч (1891—1917), выдатны беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец, празаік.

*Цётка* (Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна, 1876—1916), беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка.

Бядуля Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941), беларускі савецкі пісьменнік.

*Мацей Бурачок* — адзін з псеўданімаў паэта-дэмакрата, пачынальніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры Францішка Казіміравіча Багушэвіча (1840—1900).

С. 247. *Тут шаблі крышылі французы, тэўтоны* — гл. дадзены камент. вышэй.

*І шведы...* — маецца на ўвазе Паўночная вайна (1700—1721), вайна Расіі са Швецыяй за выхад у Балтыйскае мора, якая закончылася перамогай рускай арміі. Беларускія землі некалькі год былі арэнай ваенных дзеянняў. Значная бітва адбылася 28 верасня 1708 г. ля вёскі Лясная (Магілёўская вобласць).

С. 249. Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1909—1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1943). Пад кіраўніцтвам К. Заслонава праводзілася вялікая дыверсійная работа на чыгунцы. Загінуў у баі.

Сільніцкі Міхаіл Фёдаравіч (1921—1942), Герой Савецкага Саюза (1942). Вызначыўся ў баі з карнікамі 28 сакавіка 1942 года ў раёне вёскі Платы і Курына Віцебскага раёна, дзе загінуў у няроўным баі.

Паўлоўскі Фёдар Іларыёнавіч (1908), першы з савецкіх партызан, якому прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (1941). Разам з Ц. П. Бумажковым (гл. камент. да верша «Партызан Бумажкоў») з'яўляецца арганізатарам партызанскага атрада «Чырвоны Кастрычнік», а пазней, пасля таго як Ц. П. Бумажкоў быў адкліканы ў распараджэнне ЦК КП(б)Б (1 жніўня 1941 г.),— камандзірам атрада.

Казлоў Васіль Іванавіч (1903—1967), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. У гады Вялікай Айчыннай вайны арганізатар камуністычнага падполля і партызанскага руху ў тыле ворага. Герой Савецкага Саюза (1942).

Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907—1985), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У гады вайны арганізатар камуністычнага падполля і партызанскага руху ў тыле ворага. Герой Савецкага Саюза (1943).

С. 250. *...бурштынныя зоры* — колерам падобныя на бурштын, скамянелую, жоўтую, празрыстую смалу хвойных дрэў, якая ўжываецца для вырабу розных аздоб.

*Ясны кут* (с. 253)

Упершыню — Звязда, 1944, 15 жн.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1944 годам.

Пры падрыхтоўцы паэмы для Выбраных твораў, 1947 на с. 257, пасля 18 радка быў скарочаны наступны тэкст:

Чуеш, маці мая,
Дзе ж паслана пасцелька твая?
Селі мы з Лукашом
Ды з мядункаў вянок заплялі;
На курган палажылі вянок,
Каб прарос ён на чорнай зямлі,
Каб наскрозь нашы думы прайшлі.
Сын мой, сын,
Васілёк!

Нязначныя праўкі тэксту паэмы зроблены пры падрыхтоўцы твора для Зб. тв., т. 2, 1957.

А. Маслоўскі ў рэцэнзіі на зборнік «Беларусь»: Стихи.— М.: Сов писатель, 1945 аб паэме, якая змешчана ў перакладзе М. Рыленкова, сказаў: «Вялікай заслугай і буйнай перамогай Броўкі трэба прызнаць тое, што ён першы ў беларускай паэзіі стварыў паэму аб аднаўленні разбуранай калгаснай гаспадаркі на руінах вызваленай беларускай зямлі... Гэта паэма каштоўна тым, што яна выхоўвае ў чалавека волю да творчай працы, натхняе людзей да працы ў імя перамогі» (Полымя, 1945, № 2—3).

*Паланянка* (с. 263)

Упершыню — Полымя, 1945, № 11—12; пад тэкстам, як і ў прыжыццёвых выданнях да 1957 г.: кастрычнік, 1945 г., у Зб. тв., т. 2, 1957 і наступных выданнях памета «кастрычнік» — адсутнічае.

Адзінкавыя розначытанні паэмы выяўлены паміж Выбранымі творамі, 1947 і зб. «У роднай хаце», 1946. Найбольш істотныя

праўкі тэксту зроблены пры падрыхтоўцы паэмы для Зб. тв., т. 2, 1957. Напрыклад:

С. 276, пасля 26 радка было —

Неслі людзі дзяўчыну,
Нізка хілячы галаў.
А прынеслі, на ўзгорку
Апусцілі дадолу.

*Хлеб* (с. 278)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1946, 28 жн.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях паэма датуецца 1946 годам, акрамя першадруку і зборнікаў «У роднай хаце», 1946, Выбраныя творы, 1947, «Выбраныя вершы і паэмы», 1948, дзе пад тэкстам пазначана: жнівень, 1946 года.

Захоўваецца рукапісны тэкст урыўка з першага раздзела паэмы, які ідэнтычны асноўнаму.

Прысвечана першым крокам аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі Беларусі.

У ліку іншых твораў Броўкі пасляваеннага часу была адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР II ступені (гл. камент. да верша «Спатканне»).

Паэма атрымала высокую ацэнку ў крытыцы тых гадоў. «Прынцыпам і сюжэтнай пабудовай,— пісаў у артыкуле «Некалькі заўваг» Я. Шарахоўскі,— яна нагадвае паэму Я. Купалы «Яна і я» (Літ. і мастацтва, 1946, 23 лістап.).

На думку А. Вялюгіна і Г. Шчарбатава, «па сваіх фармальных якасцях паэма «Хлеб» нагадвае «Адвечную песню» Янкі Купалы» (Звязда, 1947, 8 чэрв., арт. «Песні аб славе народа»).

Першы раздзел паэмы быў змешчаны ў газ. «Звязда» (1947, 8 чэрв.), дзе пад назвай «Хлеб» пазначана: урывак з паэмы.

Некаторыя праўкі былі зроблены паэтам пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947:

С. 281, радок 15:

На палоззях кляновых

С. 283, радок 18:

У новы дом запрашаюць.

Рыхтуючы да выдання Выбраныя творы, 1951, П. Броўка ўнёс адзіную праўку:

С. 284, радок 24:

Выйшлі людзі з сярпамі.

Пры падрыхтоўцы да друку прыжыццёвага Зб. тв., т. 2, 1976 паэт зноў вяртаецца да тэксту паэмы і робіць адзіную праўку:

С. 279, радкі 16, 17:

Кулі сеяў наш сейбіт
Ды вярнуўся дахаты.

*Бацькаў дом* (с. 287)

Упершыню — Звязда, 1947, 22 кастр. пад загалоўкам «Родны дом» з аўтарскім прысвячэннем: 30-годдзю Кастрычніка.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

Працуючы над Зб. тв., т. 2, 1957, П. Броўка перагледзеў ранейшыя выданні паэмы і скараціў тую яе частку, дзе апісваецца сон Арцёма, унёс шэраг правак:

С. 287, радок 6:

Па-над трубой

С. 288, радок 23:

*Курыца ўспырхне*

С. 293, радок 17:

А немцы ўзнялі вэрхал.

С. 294, радкі 30—32:

Адно, што маладзік узышоў,
Ды ходзіць варта між дубоў.

С. 295, радок 12:

З людзьмі ўзяўся за тапор.

С. 294. *Вятох* — месяц у апошняй квадры, на зыходзе.

*Родныя берагі* (с. 296)

Упершыню — Беларусь, 1948, № 6 пад рубрыкай «Новыя творы да 30-годдзя БССР».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1948 годам, акрамя першадруку, дзе пад тэкстам памечана: студзень — красавік 1948 г.

Паэма абмяркоўвалася на секцыі паэзіі СП СССР у Маскве пры правядзенні Дэкады беларускай савецкай літаратуры ў Маскве (25 студзеня — 3 лютага 1948 года). Мяркуецца, што пры абгаварэнні прысутнічаў А. Т. Твардоўскі.

Большасць правак зроблена паэтам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Сонечнымі днямі», 1950:

С. 304, радок 25:

На ўсё бярэ актавы.

С. 306, радкі 18—20:

Вядома маладая ўсім —
Атрошчанкава Поля.
Яна збярэ ў звяне сваім.

С. 309, радок 11, 12, 14, 30:

На ярыне,
Па-за гумном.
Парассыпалася звяно.
Кпіць Ганна — звеннявая.

Рыхтуючы да выдання Зб. тв., т. 2, 1957, П. Броўка скараціў адну страфу верша і значна перапрацаваў наступныя радкі:
С. 303. радкі 25, 26:

У Грэцыі паўстанцы
Даюць фашыстам жару

*Добры друг* (с. 312)

Упершыню — Полымя, 1949, № 11.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1949 годам.

Захоўваюцца чарнавыя накіды паэмы, напісаныя простым алоўкам у 3-х вучнёўскіх сшытках. Захоўваецца таксама аўтограф (56 с.), пад тэкстам якога подпіс: Пятрусь Броўка. У аўтографе ёсць стылёва-моўныя праўкі, скарачэнні, устаўкі, пераносы тэксту з аднаго раздзела ў другі.

Паэма друкавалася ў розных выданнях, але аўтар перапрацоўваў твор толькі пры двух перавыданнях. Найбольш значную перапрацоўку зведаў першапачатковы (часопісны) тэкст пры падрыхтоўцы яго да выдання ў зб. «Сонечнымі днямі», 1950. Аб кірунку і характары працы пісьменніка можна меркаваць, супаставіўшы першадрукаваны тэкст з тэкстам выдання «Сонечнымі днямі», 1950. Параўнальны аналіз сведчыць, што аўтарская праўка не ўнесла прыкметных змен з боку сюжэта, а закранула толькі

адну з сюжэтных ліній паэмы — пастушка Пілінка. У першадрукаваным тэксце паэмы любімец сяла пастушок Пілінок падарваўся на старой нямецкай міне, якая захавалася ў імшары з часу вайны. Выратаваць Пілінка можа толькі пераліванне крыві. Малады доктар сельскай бальніцы Лена Патапенка здолела знайсці неабходную хлопчыку кроў у суседнім раёне (патрэбнай групы крыві паблізу не было) і выратавала маленькага пастушка. Аўтар некалькі перабудаваў гэтую сюжэтную лінію: Лена аддае сваю ўласную кроў для выратавання пастушка, а прафесар (ён прыляцеў са сталіцы па выкліку Лены) робіць хлопчыку аперацыю. У перапрацаваным варыянце надаецца больш дакладная псіхалагічная характарыстыка галоўнага персанажа паэмы, глыбей раскрываецца чалавечы змест працы ўрача. Такія эпізоды, як паездка ў раён, сустрэча з Андрэем, вяртанне з раёна, дзе працуе Андрэй,— усё гэта адкінута пры перапрацоўцы больш ранняга тэксту. Да выдання «Сонечнымі днямі», 1950 пісьменнік напісаў таксама новы раздзел (№ 3) пра багаты ўраджай ільну ў калгасе, дбайную праполку яго, паход з поля грамадою ў адстаючы калгас «Усход», каб падзяліцца вопытам, як лепш вырошчваць лён. Часопісны тэкст паэмы мае шэсць раздзелаў, як і ў зб. «Сонечнымі днямі», 1950. Гэта тлумачыцца тым, што ў зб. «Сонечнымі днямі», 1950 аўтар з двух раздзелаў (шостага і сёмага) зрабіў адзін вялікі — шосты. Пачынаючы са зб. «Выбраныя творы», 1951, шосты і сёмы раздзелы раз'яднаны і паэма мае сем раздзелаў.

Пры рэдагаванні першапачатковага тэксту аўтар унёс у тэкст таксама мастацкія ўдакладненні, а месцамі зрабіў значныя ўстаўкі. У прыватнасці:

1) Дадзенае выданне, с. 325, радкі 6—10, тэкст: Прыскакалі. ~ дапамажы! — адсутнічае ў першадруку.

2) С. 326, радкі 16—20, тэкст: Ці здолее косць ~ Лена,— адсутнічае ў першадруку.

3) С. 333, радкі 22—35, тэкст: Што, дзе ~ у нас? — адсутнічае ў першадруку.

Апошняя перапрацоўка паэмы наглядаецца ў Зб. тв., 1957. На гэты раз аўтар зрабіў некаторыя скарачэнні асобных эпізодаў або дэталяў у паэме.

Напрыклад: Дадзенае выданне, с. 328, *пасля:* таварышаксяброў.//

— Як жа так?
Зямля ў суседзяў,
Як і ў нас,— зусім адна!
Лён расце чаму ў іх ледзьве,—
Дабівалася яна.
— І малы ён у іх, і ў смецці,
Тут — высокі, як сцяна!

С. 339, *пасля:* ён рад. //

А з больніцы
Шляхам прымчаў векавым
Сёмка Вірута стралою за ім.
Сёмка ўзмахнуў
Над буланым рукой —
Прафесар не ведаў
Язды шчэ такой.

С. 326, *пасля:* як на тое... // Той воз шкадавала я вельмі,

Да слёз —
Ён сенам, што мёдам, наліўся.
Трэснула костка.
Вялізарны воз
Увесь на мяне наваліўся.

Акрамя скарачэння тэксту, аўтар унёс праўкі стылёвага характару.

С. 316. *Даватар Леў Міхайлавіч* (1903—1941) — генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза. З 1939 г. начальнік штаба кавалерыйскага палка, потым кавалерыйскай брыгады і дывізіі.

С. 347. *Ангеліна Праскоўя Мікітаўна* (1913—1959) — знатная трактарыстка, арганізатар і брыгадзір першай у СССР жаночай трактарнай брыгады (1933). Двойчы Герой Сацыялістычнай Працы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

*Чуткіх Аляксандр Сцяпанавіч* (н. 1903) — наватар вытворчасці ў лёгкай прамысловасці. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

*Лазо Сяргей Георгіевіч* (1894—1920) — герой грамадзянскай вайны, савецкі военачальнік.

*Прад смяротным агнём...* — 4—5 красав. 1920 г. японскія інтэрвенты захапілі Уладзівасток. С. Г. Лазо і іншыя члены райваенсавета былі арыштаваны і пасля жорсткіх допытаў спалены ў паравознай топцы на ст. Мураўёва-Амурская (ст. Лазо).

*Гастэла Мікалай Францавіч* (1907—1941) — легендарны савецкі лётчык, Герой Савецкага Саюза.

*Гэта Гастэла ў палёце цяжкім...* — У час бамбардзіроўкі варожай танкавай калоны па дарозе Маладзечна — Радашковічы (1941 г.) зенітным снарадам быў пашкоджаны бензабак самалёта М. Гастэла. Адважны лётчык і члены экіпажа штурман А. А. Бурдзянюк, стралок Р. Н. Скарабагатаў і стралок-радыст А. А. Калінін накіравалі ахоплены полымем самалёт на скопішча варожых танкаў, аўтамашын, бензацыстэрнаў, якія ўзарваліся разам з самалётам. У Айчынную вайну подзвіг М. Гастэла паўтарылі 104 лётчыкі.

### *Чырвон-гарадок* (с. 354)

Упершыню — Полымя, 1950, № 10.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1950 годам.

Урыўкі з паэмы друкаваліся:

1) Газ.: Савецкі селянін, 1950, 26 жн.

2) Газ.: Звязда, 1950, 24 верас.

Тэксталагічны аналіз усіх прыжыццёвых публікацый паэмы сведчыць, што значныя змены пісьменнік унёс пры падрыхтоўцы паэмы да Зб. тв., 1957. Акрамя істотных правак моўна-стылёвага характару, П. Броўка зняў эпізод наведвання старшынёй райвыканкома Савета дэпутатаў Валатковічам і старшынёй калгаса «Чырвоны ўсход» Заграем аборы даяркі Дароты, значна скараціў расказ пастуха Апанаса пра сваё жыццё і працу ў калгасе, змяніў імя і прозвішча старшыні калгаса «Чырвоны ўсход» (быўшае — Янка Маставы; змена прозвішча Варавонька на Васілёнак была зроблена яшчэ ў першадрукаваным тэксце) [1].

---

[1] Пры падрыхтоўцы першадрукаванага (часопіснага) тэксту да перавыдання (Выбр. тв., 1951) 8-мы раздзел быў падзелены на два (8 і 9). У выніку гэтага, пачынаючы з выдання Выбр. тв., 1951, паэма мела XI раздзелаў.

Акрамя істотных змен аўтар уносіў і больш дробныя праўкі: здымаў або перарабляў той ці іншы радок, апускаў асобныя падрабязнасці і г. д.

Паміж далейшымі публікацыямі паэмы розначытанняў не назіраецца.

С. 356. *Радзівілы* — княжаскі род Вялікага княства Літоўскага (з 14 ст.), потым Рэчы Паспалітай, у 18—20 ст.— Расіі і Прусіі. Буйныя зямельныя магнаты займалі вышэйшыя дзяржаўна-адміністрацыйныя і ваенныя пасады.

*Пілсудскі Юзаф* (1867—1935) — польскі палітычны дзеяч, фактычны дыктатар у Польшчы.

У гады першай сусветнай вайны (1914—1918) камандаваў вайсковымі фарміраваннямі, якія дзейнічалі на баку імперыялістычнай Германіі. У 1918—1922 гг. стаяў на чале польскай дзяржавы. Злосны вораг саюзу расійскага і польскага пралетарыяту. У 1920 г. быў адным з арганізатараў вайны буржуазнай Польшчы супраць Савецкай дзяржавы. У маі 1926 г. зрабіў дзяржаўны пераварот, устанавіўшы дыктатарскі рэжым. У 1926—1928, 1930 — прэм'ер-міністр.

На землях Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, якія па Рыжскаму мірнаму дагавору (1921) адышлі ад Польшчы, праводзіў палітыку жорсткага нацыянальнага прыгнечання, гвалтоўнага апалячвання няпольскага насельніцтва. У 1934 г. заключыў саюз з гітлераўскай Германіяй.

С. 360. *Гміна* — адміністрацыйны цэнтр самай дробнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў Польшчы, дзе знаходзіцца яе кіруючы апарат.

*Войт* — старшыня сельскай абшчыны ў Польшчы да 1950 г.

*Пастарунак* — мясцовае аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі да 1939 г.

*Дэфензіва* — палітычная паліцыя ў буржуазна-памешчыцкай Польшчы (1918—1939), якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам.

*Картуз-Бяроза* — назва горада Бяроза, цэнтра Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці да 1940 г. У чэрвені 1934 г. польскі ўрад арганізаваў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, месца зняволення палітычных вязняў у буржуазнай Польшчы.

*Гіцаль* — тут — нягоднік, мучыцель.

С. 373. *Белавеж* — Белавежская пушча — адзін з найстарэйшых лясных запаведнікаў Еўропы.

С. 374. *Апорты* — раннезімовыя сарты яблыні ў паўднёвых раёнах пладаводства СССР.

*Лясы наддзвінскія* (с. 386)

Упершыню — Полымя, 1954, № 1.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1953 годам.

Захоўваецца чарнавы аўтограф паэмы пад назвай «Лясы наддзвінскія, лясы», які напісаны простым алоўкам у вучнёўскім сшытку.

Захоўваецца таксама машынапіс, дзе назва «Лясныя песні» закрэслена і надпісана «Лясы наддзвінскія». Пад тэкстам дата: 1953 г.

Варта адзначыць, што жанр твора «Лясы наддзвінскія» не адразу быў вызначан як паэма. У змесце час. «Полымя», дзе паэма друкавалася ўпершыню, пазначана: вершы. Крытык Р. Бярозкін

называе твор «вялікім вершам» (Бярозкін Рыгор. Паэзія праўды.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1958, с. 69).

Тэксталагічны аналіз прыжыццёвых перавыданняў паэмы сведчыць, што аўтар перапрацоўваў паэму для зб. «Цвёрдымі крокамі», 1954. Праўка носіць стылёва-моўны характар і закранула яна пры тым няшмат месц у паэме. Наглядаецца таксама і значнае скарачэнне тэксту. Прыводзім гэтыя скарачэнні, якія адсутнічаюць ва ўсіх наступных выданнях.

Дадзенае выданне, с. 387, *пасля: казцы той!* //

Скрозь сосны ў белых жупанах,
Нібы баяры ў сабалях.

С. 388, *пасля*: аджыла! //

Пасля завод — рабочы шлях,
Шмат год я жыў па гарадах,

Але напеў бароў і ніў
Са мною быў, дзе б я ні жыў.

Бары... палі! У гэты час
Вярнуўся зноўку я да вас!

С. 394, *пасля*: па лесвіцы ідуць... //

Я рады зноў тут працаваць,—
Палі араць, лясы сажаць,
Сады разводзіць ля азёр,
Будзіць камбайнамі прастор,
Заўжды на родны кут глядзець,
З ім жыць і сэрцам маладзець!

Што датычыцца перапрацоўкі паэмы для наступнага выдання паэмы (Зб. тв., 1957), то яна малаістотная: скарочаны два радкі і зроблены тры моўна-стылёвыя праўкі.

Паміж далейшымі публікацыямі паэмы розначытанняў не наглядаецца.

С. 390. *Рум* — месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты.

# III

# ВЕРШЫ

*Палявая пошта* (с. 397)

Друкуецца па Выбраных творах, 1951.

Упершыню — Правда, 1941, 31 жн. у перакладзе на рускую мову С. Леўмана.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Масква, 1941 г.

Машынапісны тэкст мае аўтарскія праўкі, якія ўлічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Захоўваецца рукапіс. Першапачатковы машынапісны тэкст супадае з рукапісным.

*Партызанка* (с. 399)

Друкуецца па Выбраных творах, 1951.

Упершыню — За Савецкую Беларусь, 1941, 30 верас.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях пад тэкстам: Бранск, 1941 г.

Праўкі аўтара на тэксце машынапісу ўлічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943. Першапачатковы машынапісны тэкст адпавядае першадруку. Пры падрыхтоўцы верша для «Выбраных твораў», 1951 у 14-м радку ўзноўлена слова: гадаў // немцаў. Пасля выхаду кнігі твор пры жыцці аўтара больш не друкаваўся.

*Кастрычнік заве змагацца!* (с. 400)

Друкуецца па газ.: За Савецкую Беларусь, 1941, 7 лістап., дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

Верш напісаны да XXIV гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

*Песня беларускіх партызан* (с. 401)

Друкуецца па газ.: За Савецкую Беларусь, 1941, 21 лістап., дзе апублікаваны ўпершыню.

Пад тэкстам машынапісу пазначана: Касторнае, 1941 г.

Машынапісны тэкст падрыхтаваны, відаць, для зб. «Насустрач сонцу», 1943, але не ўключаны ў яго. Слова «прыпеў» у машынапісе закрэслена, уверсе старонкі чыёйсьці рукой напісана: зняць. Першапачатковы машынапісны тэкст супадае з першадрукам [1].

На словы верша напісана музыка кампазітарам Я. Цікоцкім, а таксама кампазітарам І. Любанам.

*Уранку, толькі бойка адгула...* (с. 402)

Друкуецца па Выбраных творах, 1951.

Упершыню — Известия, 1942, 7 сак. у перакладзе М. Зянкевіча на рускую мову пад назвай «Как только бой затих».

У перабеленым рукапісе, машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, акрамя — Беларусь: Альманах першы.— Выд-ва «Савецкая Беларусь», 1943, пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Чарнавы рукапіс без загалоўка мае папярэдні запіс:

1. Дзяўчынка і баец
2. Партызан
3. Маці

Аўтарскія праўкі на тэксце машынапісу ўлічаны ў зб. «Насустрач сонцу», 1943.

На словы верша ў перакладзе М. Зянкевіча на рускую мову напісана музыка кампазітарам У. Іваннікавым. У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца нотны запіс, зроблены кампазітарам С. Палонскім.

*Слава!* (с. 403)

Друкуецца па машынапісе з праўкамі аўтара; пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Упершыню — Раздавім фашысцкую гадзіну, 1942, № 68, лістапад.

Машынапісны тэкст з праўкамі аўтара, відаць, падрыхтаваны для зб. «Насустрач сонцу», 1943, але не ўключаны ў яго. (Першапачатковы тэкст машынапісу адпавядае першадруку.) Уверсе старонкі чыёйсьці рукой напісана: зняць.

---

[1] Прымаючы пад увагу тое, што праўка на тэксце машынапісу магла быць зроблена не па волі аўтара, друкуецца першапачатковы тэкст. Тое ж тычыцца і верша «Мы ідзём, Беларусь».

*Машыніст* (с. 404)

Друкуецца па машынапісе з праўкамі аўтара; упершыню. Пад тэкстам пазначана: Масква, 1942 г.

Тэкст верша падрыхтаваны, відаць, для зб. «Насустрач сонцу», 1943, але не ўключаны ў яго.

Захоўваецца чарнавы рукапіс.

*Мы ідзём, Беларусь* (с. 405)

Друкуецца па машынапісе; упершыню.

У белавым рукапісе і машынапісе пад тэкстам: Масква, 1942 г.

Захоўваецца таксама чарнавы і перабелены рукапісны тэкст. На апошнім маюцца аўтарскія праўкі, якія ўлічаны ў белавым рукапісе.

Машынапісны тэкст з праўкай (знята слова «прыпеў») падрыхтаваны, відаць, для зб. «Насустрач сонцу», 1943, але не ўключаны ў яго (гл. камент. да верша «Песня беларускіх партызан). На словы верша напісана музыка кампазітарам А. Клумавым.

*Фанабэрысты фрыц* (с. 406)

Друкуецца па сатырычным лістку «Партызанская дубінка», 1943, № 3, сакавік, дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Гунд* — у перакладзе з нямецкай мовы (Hund) — сабака.

*Гомель* (с. 407)

Друкуецца па рукапісе.

Упершыню — Красная звезда, 1943, 27 лістап. у перакладзе Б. Бендзіка на рускую мову пад назвай «Радостный день».

Датуецца годам апублікавання.

Захоўваецца чарнавы рукапіс на рускай мове, а таксама машынапіс перакладу (Б. Бендзіка), над радкамі якога рукой аўтара зроблены пераклад на беларускую мову.

Верш напісаны да дня вызвалення горада Гомеля (26 лістапада 1943 г.) ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Тры правы* (с. 408)

Друкуецца па рукапісе; упершыню.

Датуецца прыблізна 1943 г.

*Брахун* (с. 409)

Друкуецца па рукапісе; упершыню.

Датуецца прыблізна 1943 г.

Захоўваецца чарнавы рукапіс.

*Беларускі фронт* (с. 410)

Друкуецца па час.: Бярозка, 1969, №7.

Упершыню — Беларусь, 1944, № 2.

У рукапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1944 годам.

Першадрук супадае з тэкстам рукапісу. Пры падрыхтоўцы тэксту верша для часопіса «Бярозка» зняты другая і апошняя страфы.

Ракасоўскі Канстанцін Канстанцінавіч (1896—1968), савецкі ваенны дзеяч, маршал Савецкага Саюза (1944), двойчы Герой Савецкага Саюза (1944, 1945). Прымаў удзел у многіх вайсковых апе-

рацыях, у тым ліку ў Беларускай аперацыі 1944 года (на тэрыторыі Беларусі ажыццяўлялася з 23 чэрвеня да канца жніўня), у выніку якой была вызвалена Беларусь (Ракасоўскі ў той час быў камандуючым Першага Беларускага фронту).

*Сталіцы Беларусі* (с. 411)

Друкуецца па газ.: Сав. Беларусь, 1944, 4 ліп., дзе апублікаваны ўпершыню. Змешчаны на старонцы: «Дзень добры, родны Мінск!»

Датуецца годам апублікавання.

Верш напісаны ў сувязі з вызваленнем горада Мінска 3 ліпеня ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Спатканне* (с. 412)

Друкуецца па «Альманаху 2», 1945, дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

Захоўваецца рукапісны тэкст верша, які мае паасобныя разначытанні з першадрукам.

*Чырвоныя сцягі* (с. 413)

Друкуецца па газ.: Сав. Беларусь, 1946, 1 мая, дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Сейце, сейце зярняты* (с. 414)

Друкуецца па час.: Работніца і сялянка, 1946, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Трактарагорад* (с. 415)

Друкуецца па Выбарных творах, 1951.

Упершыню — Звязда, 1947, 26 лістап.

У машынапісе і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1947 годам.

Верш прысвечаны будаўніцтву Мінскага трактарнага завода, які быў закладзены ў 1946 годзе.

*Чутна песня...* (с. 416)

Друкуецца па газ.: Звязда, 1948, 25 студз., дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Гром* (с. 417)

Друкуецца па зб. «Сонечнымі днямі», 1950, дзе датуецца 1949 г.

Упершыню — Звязда, 1949, 4 чэрв.

Верш прысвечаны народна-вызваленчай барацьбе кітайскага народа супраць гамiньданаўскай рэакцыі (1946—1949 гг.), якая скончылася перамогай народна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

1 студзеня 1949 года абвешчана ўтварэнне КНР.

*Чжу дэ* (1886—1976) — кітайскі ваенны, дзяржаўны і палітычны дзеяч.

*На Ленінскіх горах* (с. 418)

Друкуецца па час.: Беларусь, 1952, № 10, дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*А я мяркую, будзе так...* (с. 419)

Друкуецца па газ.: Літ. і мастацтва, 1953, 5 верас., дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Партыя* (с. 420)

Друкуецца па газ.: Звязда, 1953, 6 верас., дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

## ЗМЕСТ

### I

### ВЕРШЫ

## II

## ПАЭМЫ



## III

## ВЕРШЫ

**Броўка П.**

Б 88 Збор твораў: У 9 т. Т. 2. Вершы, паэмы, 1941—1953.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 478 с., 4 л. іл, 1 л. партр.

Другі том Збору твораў народнага паэта Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы Петруся Броўкі склалі вершы 1941—1953 гг. Сюды ўвайшлі паэмы: «Паэма пра Смалячкова», «Беларусь», «Ясны кут», «Паланянка», «Хлеб» і інш.

Б $\frac{4702120200-117}{М 302(03)-87}$ 89—87 ББК 84Бел7



**Петр Устинович (Петрусь) Бровка**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ДЕВЯТИ ТОМАХ

**Том 2**

*Стихи, поэмы 1941—1953*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы:*
*Пейзаж у раёне ракі Бярэзіна.*
*На другім форзацы:*
*Будынак сельсавета ў в. Малыя Дольцы Ушацкага раёна.*

Рэдактары Р. М. Яўсееў, Н. І. Семашкевіч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 2574

Здадзена ў набор 05.11.86. Падп. да друку 30.06.87. АТ 07633. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 28,25. Ул.-выд. арк. 22,79. Тыраж 8000 экз. Зак. 3073. Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.